# ДЗІЦЯЧАЯ БІБЛІЯ

ДЗЕЦІ – СПАДЧЫНА АД ГОСПАДА
(Пс. 126:3)

«Я І ДОМ МОЙ БУДЗЕМ СЛУЖЫЦЬ ГОСПАДУ»
(Іс. Нав. 24:15)

# ДЗІЦЯЧАЯ БІБЛІЯ

## БІБЛЕЙСКІЯ АПАВЯДАННІ З МАЛЮНКАМІ

Барыслаў Араповіч і Вера Маццёлмякі

Першае выданне, 1992
Пераклад з рускай мовы
Выдавецтва: Інстытут перакладу Біблії, Стакгольм

ISBN 91-88394-05-0

## ПРА БІБЛІЮ

Дарагі дружа!

Ці ведаеш ты, што гэта за кніга – Біблія? Біблія – Божае Слова. Яна раскрывае таямніцу паходжання свету, чалавека і сэнс самога жыцця. У Бібліі сабраны Святыя Пісанні. У іх складанні на працягу паўтара тысячагоддзя прымала ўдзел каля сарака аўтараў у натхненні Святога Духу.

Біблія падзяляецца на дзве часткі: Стары Запавет і Новы Запавет. Стары Запавет напісаны да нараджэння Хрыста, а Новы Запавет – на працягу першага стагоддзя Ісуса Хрыста.

Стары Запавет напісаны на старажытнаяўрэйскай, а Новы Запавет – на старажытнагрэчаскай мовах, гэта значыць, на мовах тагачасных культур.

У Старым Запавеце апавядаецца, як Бог стварыў сусвет, як адбылося падзенне чалавека. У ім апавядаецца таксама пра гісторыю Ізраіля, Божага народу, аб прароках і прароцтвах. На яго старонках надрукаваны Псалмы – старадаўнія песнаспевы і малітвы, Кніга Эклесіяста, Кніга Іова і іншыя.

Новы Запавет прысвечаны нашаму Збавіцелю, Госпаду Ісусу Хрысту. З яго старонак можна даведацца, як Ісус Хрыстос нарадзіўся, як жыў і як памёр за грахоўнае чалавецтва, і як на трэці дзень уваскрэс, а потым падняўся на неба. У Новым Запавеце падаецца і выкладаецца вучэнне нашага Госпада, змяшчаюцца пасланні апосталаў, апавядаецца пра дзейнасць саміх апосталаў. У самым канцы Новага Запавету надрукавана "Адкрыццё", або апісанне таго, што яшчэ мае адбыцца.

Вучэнне Ісуса Хрыста называецца па-грэчаску "Евангелле". Гэта слова прыжылося і ў нашай мове, хоць у

перакладзе гучыць даслоўна, як "Добрая вестка". Аб чым жа яна? Аб тым, што «так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае» (Іаан.3:16).Біблія апавядае не толькі аб грахоўным заняпадзе, адлучэнні чалавека ад Бога і аб яго асуджэнні на вечную гібель. Апавядае яна і аб тым, як Бог імкнецца выбавіць чалавецтва, як пасылаў на зямлю Свайго Сына Ісуса Хрыста. І як Ён стаў, як Сын Яго выратавальнай ахвярай, як прыняў смерць за людскія грахі і паказаў людзям сапраўдны шлях жыцця. Ісус Хрыстос – галоўная тэма Біблії.

Біблія – першая ў свеце друкаваная кніга "Гутэнбергава Біблія" (1452 – 1455 гг.). Біблія была і першай друкаванай кнігай ва ўсходніх славян. І надрукаваў яе, пачынаючы з 1517 года, асобнымі кнігамі наш суайчыннік, родам з горада Полацка, Францыск Скарына. У сувязі з павышэннем агульнай адукацыі і паўсюдным пашырэннем хрысціянства Біблія набывае ўсё больш і больш шматлікіх чытачоў. Яна становіцца першаю кнігай як для малапісьменных людзей, так і для інтэлігентаў. Асабліва ўзрастае пашырэнне Біблії на працягу XX стагоддзя.

Па перакладах на іншыя мовы Біблія знаходзіцца на першым месцы ў свеце. Каля пяцісот гадоў таму назад, яшчэ да кнігадрукавання, Біблія або яе асобныя кнігі (раздзелы) былі ўжо перакладзены на 33 народныя мовы. Да 1804 года, калі пачалі ўзнікаць біблейскія таварыствы, Біблія існавала на 67-мі мовах. Але на працягу X1X стагоддзя Біблія ці яе асобныя кнігі друкаваліся больш як на 400 мовах, а на працягу нашага XX стагоддзя яны былі перакладзены яшчэ на 1400 мовах. Дарэчы сказаць, што пад канец 1990 г. колькасць моваў, на якія перакладалася Біблія, дасягае 1946-мі. Сюды адносяцца пераклады поўнай Біблії на 318-ці мовах, Новага Запавету – на 726-ці мовах, пераклады адной ці некалькіх біблейскіх кніжак – на 902-ці мовах. На сённяшні дзень толькі каля 2% насельніцтва зямнога шара не мае ніводнай кнігі Біблії на сваёй роднай мове. У цяперашні час Біблія перакладаецца таксама на тысячы моваў малых народаў. Большая частка – гэта мовы, на якіх размаўляюць усяго некалькі тысяч, сотняў,

а можа, і дзесяткаў чалавек.

У дадатак маюцца яшчэ запісы Бібліі на пласцінках і касетах. Імі карыстаюцца людзі без адукацыі і сляпыя. Такім чынам, Біблія, апрача гэтага, выдаецца для сляпых са шрыфтам Брайля.

Як па перакладах, так і па тыражы, Біблія сярод іншых кніг займае першае месца. Вось лічбы для параўнання: Бібліяў і Новых Запаветаў было надрукавана ў 1900 годзе 5 і 7 млн., а ў 1980 годзе – 36 і 57 млн. Ды яшчэ, апроч гэтага, асобных кніжак Бібліі было надрукавана некалькі соцень мільёнаў.

На ўсёй зямлі нельга адшукаць кнігі, якая так друкавалася б, як Біблія.

# ПРАДМОВА

"Дзіцячая Біблія" – гэта кніга для самых маладых чытачоў. Працяглыя апавяданні скарочаны і спрошчаны. А біблейскі тэкст слова ў слова амаль заўсёды бярэцца ў двухкоссе «...». Кожнаму апавяданню адрасуецца карцінка, аднолькавая з ім па змесце.

У сувязі з тым, што многія бацькі і наогул дарослыя цікавяцца гэтай кнігай, мы ўводзілі ў гэтае выданне некаторыя тэксты, якія, больш чым дзяцей, зацікавяць дарослых.

"Дзіцячая Біблія" не без недахопаў: не ўваходзіць шмат важных слоў і здзіўляючых падзей. А нярэдка тое, што ўключана ў гэтую кнігу, магло быць напісана лепш. Біблія – гэта слова Божае, і ўсе спробы пераказаць яе, нават самымі лепшымі тлумачамі і пісьменнікамі, даюць толькі бледны цень гэтай Кнігі з кніг.

Будзьце зачараваны гэтаю кнігай. Чытайце яе з любоўю. А яе падзеі захоўвайце ў вашых маладых сэрцах, як самае дарагое, што ёсць у свеце. Пачынайце чытаць яе неадкладна. О, як хоча Гасподзь, каб вам можна было сказаць ад сэрца: «Божае слова – светач для маёй нагі і святло на маім шляху» (Псалом 118:105).

Са шчырым сяброўскім прывітаннем,

Інстытут перакладу Біблii, 1992

## СТВАРЭННЕ СВЕТУ. ПАЧАТАК

Хто не бачыў, як ноччу, калі патушаць усе агні, у эмроку тоне ўсё, што вакол нас. У такой самай цемры некалі быў увесь свет. Тады не было ні травы, ні дрэў, ні прыгожых кветак і птушак. Не было нават неба і зямлі. Увесь сусвет – адна цемра, адзін хаос. Але Бог не хацеў, каб усё так было і заставалася. І Ён стварыў гэты цудоўны і дзівосны свет. Нам вядома, што само сабой нічога не стваераецца і не ўзнікае. І як не можа нам не нагадаць гэты сусвет пра велічнага і мудрага Творцу, нашага Бога. Сусвет запоўнены да канца вялікай мудрасцю і дзівоснай гармоніяй.

У Бібліі, гэтай Свяшчэннай Кнізе, апісана стварэнне свету па Слове Божым:

«На пачатку стварыў Бог неба і зямлю. Зямля была нябачная і пустая, і цемра была над безданню; і Дух Божы насіўся над вадою.

І сказаў Бог: хай будзе святло. І стала святло.

І ўбачыў Бог святло, што яно добрае: і аддзяліў Бог святло ад цемры.

І назваў Бог святло днём, а цемру ноччу. І быў вечар, і была раніца: дзень адзін.

І сказаў Бог: хай будзе цвердзь пасярод вады, і няхай аддзяляе яна ваду ад вады.

І стварыў Бог цвердзь: і аддзяліў ваду пад цвердзю ад вады над цвердзю. І сталася так.

І назваў Бог цвердзь небам. І быў вечар, і была раніца: дзень другі.

І сказаў Бог: няхай збярэцца вада, якая пад небам, у адную мясціну, і хай паявіцца суша. І сталася так.

І назваў Бог сушу зямлёю, а вадазбор – морамі. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І сказаў Бог: няхай родзіць зямля зелень, траву, якая рассявае насенне, дрэва плоднае, якое прыносіць плод па сваім родзе, у якім насенне яго на зямлі. І сталася так.

І радзіла зямля зелень, траву, якая рассявае насенне па родзе яе, і дрэва, якое прыносіць плод, у якім насенне яго па родзе яго. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І быў вечар, і была раніца: дзень трэці».

1-я Кніга Майсея. БЫЦЦЁ 1:1-13

# СТВАРЭННЕ СВЕТУ. ПРАЦЯГ

«І сказаў Бог: няхай будуць свяцілы на цвердзі нябеснай для аддзялення дня ад ночы, і для азнакаў, і часоў, і дзён, і гадоў;

І хай будуць яны свяцільнікамі на цвердзі нябеснай, каб свяціць на зямлю. І сталася так.

І стварыў Бог два свяцілы вялікія: свяціла вялікае, каб кіраваць днём, і меншае, каб кіраваць ноччу, і зоркі.

І паставіў іх Бог на цвердзі нябеснай, каб свяціць на зямлю.

І кіраваць днём і ноччу, і аддзяляць святло ад цемры. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І быў вечар, і была раніца: дзень чацвёрты.

І сказаў Бог: хай народзіць вада паўзуноў, душу жывую; і птушкі хай паляцяць над зямлёю, па цвердзі нябеснай.

І стварыў Бог рыб вялікіх і ўсякую душу жывёл-паўзуноў, што нарадзіла вада, па родзе іх, і ўсякую птушку крылатую па родзе яе. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І благаславіў іх Бог, кажучы: пладзіцеся і памнажайцеся, і напаўняйце воды ў морах, і птушкі хай памнажаюцца на зямлі.

І быў вечар, і была раніца: дзень пяты.

І сказаў Бог: няхай народзіць зямля душу жывую па родзе яе, скаціну, і гадаў, і звяроў зямных па родзе іх. І сталася так.

І стварыў Бог звяроў зямных па родзе іх, і скаціну па родзе яе, і ўсіх гадаў зямных па родзе іх. І ўбачыў Бог, што гэта добра».

Уся зямля, створаная Словам усемагутнага Творцы, азораная ззяннем пяшчотнага сонца, дыхала спакоем і дзівосным хараством. Але гэта яшчэ не быў канец стварэння. Бог рашыў стварыць людзей, каб яны жылі ў гэтым цудоўным свеце і мелі даступнасць да свайго Творцы.

БЫЦЦЁ 1:14-25

## СТВАРЭННЕ ПЕРШЫХ ЛЮДЗЕЙ

«І сказаў Бог: створым* чалавека на вобраз Наш, на падабенства Нашае, і няхай пануе ён над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябеснымі, і над скацінай, і над усёю зямлёю, і над усімі гадамі, што поўзаюць па зямлі.

І стварыў Бог чалавека на вобраз Свой, на вобраз Божы стварыў яго; мужчыну і жанчыну стварыў іх.

І блаславіў іх Бог, і сказаў ім Бог: пладзіцеся і памнажайцеся, і напаўняйце зямлю, і валодайце ёю, і пануйце над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябеснымі, і над усякай жывёлай, што поўзае па зямлі. І сказаў Бог: вось, Я даў вам усякую траву, якая рассейвае насенне сваё, і якая ёсць на ўсёй зямлі, і ўсякае дрэва, у якога плод дрэўны, што рассейвае насенне: вам гэта будзе на ежу; а ўсім звярам зямным, і ўсім птушкам нябесным, і ўсякаму паўзуну на зямлі, у якім душа жывая, зяленіва травяное на ежу. І сталася так.

І ўбачыў Бог усё, што Ён стварыў, і вось, вельмі добра. І быў вечар, і была раніца: дзень шосты.

Так створаныя неба і зямля і ўсё іх воінства. І закончыў Бог да сёмага дня дзеі Свае, што Ён учыняў, і спачыў у сёмы дзень ад усіх справаў Сваіх, што Ён рабіў».

Імя мужчыны – Адам, імя жанчыны – Ева. Яны выйшлі з творчых рук Госпада прыгожымі і шчаслівымі. Яны вельмі любілі свайго Творцу і Творца любіў іх.

Гасподзь аддаў ім усе стварэнні, каб яны пра іх клапаціліся. Ён благаславіў Адама і Еву і даручыў ім сад, каб яны яго абраблялі і захоўвалі.

Яны падтрымлівалі сувязь з Богам. Кожная сустрэча з Ім прыносіла вялікую радасць.

Якое шчасце мець сувязь з Богам. І як не прысвячаць Яму самых лепшых пачуццяў свайго сэрца!

БЫЦЦЁ 1:26-31, 2:7-22

** Чаму Бог сказаў: «Створым?» Таму што Бог адзіны ў трох асобах: Бог Айцец, Бог Сын і Бог Дух Святы. Таму ў Першай кнізе Майсея пры стварэнні чалавека Бог гаворыць у множным ліку: «Створым».*

## ВЫГНАННЕ З РАЮ АДАМА І ЕВЫ

Але аднойчы Адам і Ева не паслухаліся Бога. І Ён выгнаў іх з раю. А было гэта так:

Гасподзь дазволіў ім есці садавіну з любога дрэва. А з дрэва, якое называлася дрэвам пазнання дабра і зла, наказаў не есці. Бог сказаў ім, што калі яны парушаць гэтую запаведзь, дык памруць.

Сатана, вораг Бога і ўсіх людзей, надумаўся пагубіць Адама і Еву. Аднаго разу ён у змяіным вобразе падышоў да Евы і хітра сказаў: «Ці Бог сапраўды сказаў: "Не ешце ні ад якога дрэва ў раі?"» Ева адказала: "З любых дрэваў мы можам есці плады, але з дрэва, якое пасярод раю, Бог не дазволіў нам есці, каб не памерці". Тады змей, каб пасеяць у Евіным сэрцы сумненне, пачаў нагаворваць няпраўду: «Не, не памрэце; але ведае Бог, што ў дзень, калі вы пакаштуеце пладоў, расплюшчацца вочы вашыя і вы будзеце як багі, што ведаюць дабро і зло».

Пасля гэтай сатанінскай намовы Ева зірнула на дрэва. І вочы яе загарэліся. Дрэва было і жаданае, і спажыўное, і з выгляду дужа прыемнае. Апрача таго яно давала яшчэ і пазнанне. Ева сарвала плады з дрэва, ела сама і падавала Адаму. І ён еў таксама. І Бог сказаў Адаму: «За тое, што ты паслухаўся голасу жонкі тваёй і еў з дрэва, пра якое Я наказаў табе: "Не еш з яго", дык праклінаю зямлю за цябе; са смуткам будзеш есці з яе ўсе дні жыцця твайго... З нялёгкай працы будзе твой хлеб, пакуль не настане час табе вярнуцца ў зямлю, з якое ты ўзяты; бо ты прах і ў прах вернешся». Потым Гасподзь выгнаў Адама і Еву з Эдэмскага саду, і больш яны туды не маглі ўжо вярнуцца.

Так саграшылі першыя людзі. Па слове Бога спачатку яны памерлі духоўнай смерцю, а потым фізічнай. Духоўная смерць азначае, што іх духоўная сувязь з Богам парвалася. Бог яшчэ перад грахоўным падзеннем меў план выратавання ўсяго чалавецтва ад грэху праз Свайго Сына Ісуса Хрыста. Пра гэта таксама расказана ў гэтай кнізе.

БЫЦЦЁ 3:1-23

## КАІН І АВЕЛЬ

Абодва юнакі – дзеці Адама і Евы. Каін быў земляробам, урабляў зямлю, Авель быў пастухом, пасвіў авечкі.

Аднаго разу Каін прынёс Богу ахвяру з пладоў палёў. Авель таксама прынёс Богу ахвяру з першароднага свайго статка. Дар Авеля Яму спадабаўся, а на дар Каіна нават не паглядзеў. Каін моцна засмуціўся, і спахмурнеў яго твар. Гасподзь сказаў Каіну: «Чаму ты засмуціўся і чаго так спахмурнеў твар твой? Калі робіш добра, хіба не падымаеш вачэй? А калі не робіш добрага, дык ля парога дома твайго грэх ляжыць; ён цягне цябе да сябе, але ты пануй над ім».

Каін зайздросціў Авелю і не заўважыў нават, як у сэрца закралася помста. Калі абодва браты працавалі ў полі, Каін паўстаў супраць Авеля і забіў яго. Зямля пабарвовела ад пралітай крыві першага забітага чалавека.

Гасподзь пакараў Каіна за грэх і зрабіў яго выгнанцам і бадзягам на зямлі.

Вось да якога жахлівага грэху даводзіць зайздрасць, калі яна паселіцца ў чалавечым сэрцы! Трэба быць пільным, каб не дапусціць грэху ў сваё сэрца. Хто моліцца, той пераможа грэх сілаю Госпада.

БЫЦЦЁ 4:2-12

## ПАТОП. НОЙ БУДУЕ КАЎЧЭГ

Мінулі стагоддзі. А людзі – нашчадкі Адама і Евы – памнажаліся і рассяляліся па ўсёй зямлі. Спачатку яны паважалі і шанавалі Бога, а потым забылі і адышлі ад Яго. А было і такое, калі выступалі супроць Ягонай волі. Адзін Ной захаваў вернасць і адданасць свайму Тварцу. Ён шчыра выконваў Яго волю. Апостал Пётр называе Ноя «праведнікам ісціны» (2 Пасланне Пятра 2:5). У сэрцы Ноя панаваў Божы Дух, і Ной моцна любіў Бога.

На зямлі было ўжо мноства людзей. Усе яны так разбэсціліся, што ў іхніх сэрцах панавала толькі зло. Навокал і па ўсёй зямлі была адна распуста. У той час Бог з вялікай крыўдай казаў: «Знішчу людзей на зямлі, людзей, што Я стварыў... Бо Я раскаяўся, што іх стварыў».

Праз усе часы Ной жыў у Гасподняй мілаце. І Бог сказаў: «Надышоў канец усякай плоці перад вачыма Маімі, бо зямля напоўнілася іх злачынствамі. І вось, Я знішчу іх на зямлі. Пабудуй сабе каўчэг з дрэва гофэр; адсекаў у ім нарабі і асмалі яго смалою ўсярэдзіне і звонку... І вось Я навяду на зямлю патоп водны, каб знішчыць усякую плоць пад нябёсамі, у якой жыве дух; усё, што ёсць на зямлі, пазбаўлю жыцця. Але з табою Я пастанаўлю запавет Мой, і ты ўвойдзеш у каўчэг, і сыны твае, і жонка твая, і жонкі сыноў тваіх з табою...»

Пачуўшы Божы загад, Ной пачаў будаваць карабель-каўчэг. Ён часта казаў людзям, якія яго акружалі, што скора наступіць патоп і знішчыць увесь свет, і заклікаў іх пакаяцца і звярнуцца да Бога. Але ніхто не хацеў яго слухаць.

БЫЦЦЁ 6:5-18

## ПАЧАТАК ПАТОПУ

Калі каўчэг быў пабудаваны, Гасподзь сказаў Ною: «Увайдзі ты і ўся сям'я твая ў каўчэг; бо цябе Я ўбачыў праведным перад Мною... і ўсякай скаціны чыстай вазьмі па сем мужчынскага роду і жаночага, са скаціны нячыстай па два мужчынскага роду і жаночага таксама, і з птушак нябесных вазьмі па сем мужчынскага роду і жаночага, каб захаваць племя для ўсёй зямлі».

Выконваючы патрабаванні Госпада, Ной са сваёй жонкай і яго сыны са сваімі жонкамі ўвайшлі ў каўчэг. Калі ж у яго ўвялі па пары ад усіх жывёлаў, Гасподзь зачыніў за імі дзверы.

Як і было сказана, праз сем дзён пачаўся лівень і не адступаў сорак дзён і сорак начэй. Пад вадой аказаліся самыя высокія горы. А каўчэг, які стаяў на зямлі, падняўся над вадою і плаваў на яе паверхні. І ўсякае жыццё на зямлі было знішчана. Як сказана ў Пісанні: «Знішчана ўсякая істота, якая была на паверхні зямлі; ад чалавека да скаціны, і гадаў, і птушак нябесных, усё знішчылася з зямлі: застаўся толькі Ной і ўсё, што было з ім у каўчэгу».

БЫЦЦЁ 7:1-23

## КАНЕЦ ПАТОПУ

Паводка працягвалася сто пяцьдзесят дзён. Вада пачала павольна сплываць, і ўзровень яе паніжацца. Ноеў каўчэг асеў на гары Арарат. Праз сорак дзён ад пачатку патопу, Ной выпусціў of гругана. Птушка вылецела і вярнулася на каўчэг. Вада яшчэ стаяла, і сушы нідзе не было.

Потым Ной выпусціў голуба, але голуб, як і груган, вярнуўся на каўчэг. Праз сем дзён Ной зноў выпусціў голуба, і пад вечар голуб вярнуўся на каўчэг з аліўкавай лісцінкай у дзюбе – вада ўжо недзе сплыла і зямля абсохла.

Мінула яшчэ сем дзён, і Ной выпусціў голуба зноў, але гэты голуб на каўчэг ужо не вярнуўся. Тады Ной падняў века каўчэга і ўбачыў, што вада сплыла і зямля абсохла. І тут Бог сказаў Ною: «Выйдзі з каўчэга ты, жонка твая, сыны і іх жонкі; выведзі з каўчэга ўсіх жывёл, якія з табою, і няхай разыдуцца яны па зямлі, няхай плодзяцца і памнажаюцца...»

БЫЦЦЁ 8:13-17

## ВЯСЁЛКА І ЗАПАВЕТ БОГА З ЧАЛАВЕКАМ

Ной і ўсе з ім выйшлі з каўчэга, выйшлі жывёлы і птушкі. Разышліся жывёлы па зямлі, разляцеліся птушкі.

Але не ўсіх жывёл, не ўсіх птушак Ной выпусціў на волю. Ён склаў з каменя ахвярнік і некалькі жывёл і птушак прынёс у ахвяру. Богу ахвяра спадабалася. Бог сказаў: «Не пракляну болей зямлю за віну чалавека, бо намыслы сэрца чалавечага – зло ад юнацтва яго; і не буду болей знішчаць нічога жывога, як зрабіў. Не спыняцца больш на зямлі сяўба і жніво, гарачыня і холад, лета і зіма, дзень і ноч».

Бог блаславіў Ноя, блаславіў яго сыноў і сказаў: «Устанаўляю Я запавет Мой з вамі і нашчадкамі вашымі пасля вас... што не будзе больш знішчана ніякая плоць водамі патопу. Я ўстанаўляю вясёлку Маю на воблаку, каб яна была азнакаю запавету паміж Мною і зямлёю... Калі навяду Я воблака на зямлю, дык паявіцца весялуха на воблаку... і ўспомню запавет вечны паміж Богам і паміж усякай душою жывою... Гэта ёсць азнака запавету, які Я ўстанавіў паміж Мною і паміж усякай плоццю на зямлі».

БЫЦЦЁ 8:18-22, 9:1-17

# ВАВІЛОНСКАЯ ВЕЖА

Шмат дзяцей было ў Ноевых сыноў. Дзеці выраслі, жаніліся. І зноў паяўляліся дзеці ў дзяцей. Людзей на зямлі ўсё большала і большала. Паводзілі яны сябе так, як і тыя, што жылі перад патопам. Карысталіся яны адной мовай, адною гаворкай, памнажалі распусту.

Аднойчы сабраліся ў гурт і пачалі развažаць і даваць парады адзін аднаму, кажучы: « Пакуль яшчэ па зямлі не рассяліліся, давайце пабудуем сабе горад і вежу, каб яна аж нябёсы кранала і праславім сябе як належыць». А колькі было пыхі і гордасці ў гэтым народзе. Як ім падабалася гэтая задума. Натхнёна і заўзята пачалі яны будаўніцтва. Бог паглядзеў на іх ганарыстыя твары і сказаў: «Вось, народ адзін і мова ва ўсіх адна; і не адмовяцца яны ад таго, што надумалі зрабіць. Сыдзем да іх і пераблытаем там мову так, каб яны не разумелі адзін аднаго».

Гасподзь пераблытаў мову, і будаўнікі не разумелі адзін аднаго. Работу спынілі. Ані вежы, ані горада яны не пабудавалі. А тое месца, на якім будавалася вежа, пачалі называць «Вавілон», што азначае «пераблытанне». І людзі, не разумеючы адзін аднаго, па ўсёй зямлі рассеяліся.

БЫЦЦЁ 11:1-9

## АЎРААМ

Бог Аўрама назваў Аўраамам, што ў перакладзе: «Бацька мноства народаў». Аўраам вельмі любіў Госпада. Ён быў паслухмяны і адданы Госпаду. Сам Гасподзь называў яго сябрам. У Пісанні Гасподзь кажа і нам: «Вы – сябры Мае, калі спраўджваеце ўсё, што Я запавядаю вам» (Евангелле паводле Іаана 15:14).

Аднаго разу Гасподзь сказаў Аўрааму: «Ідзі з зямлі тваёй, ад родзічаў тваіх, і з дома бацькі твайго ў зямлю, якую Я табе пакажу. Ад цябе Я нараджу вялікі народ, і бласлаўлю цябе, і імя тваё ўзвялічу; і будзеш ты жыць у блаславенні. Я бласлаўлю тых, хто бласлаўляе цябе, і пракляну тых, хто праклінае цябе; і блаславяцца праз цябе ўсе плямёны зямныя».

Аўраам зрабіў так, як сказаў яму Гасподзь. Ён разам са сваёй жонкай Сарай, разам з Лотам, сынам свайго брата, прыхапіўшы з сабой усю сваю маёмасць і ўсіх людзей, што яны мелі на радзіме ў Харане, пайшлі ў абяцаную Богам Ханаанскую зямлю. Сваё падарожжа яны закончылі ў месцы, якое называецца «дубрава Морэ». Там Гасподзь з'явіўся зноў Аўрааму і сказаў: «Тваім нашчадкам аддам Я зямлю гэтую».

БЫЦЦЁ 12:1-7

## АЎРААМ І ЛОТ

Аўраам і Лот разам са сваімі людзьмі і ўсім набыткам ішлі па Ханаанскай зямлі. Яны падышлі да ваколіцы Вефіля і там прыпыніліся.

У тыя часы Аўраам быў вельмі багаты. У яго было золата, срэбра і мноства быдла. У яго пляменніка Лота было не менш дробнай і буйной свойскай жывёлы. Маючы гэтулькі багацця і яшчэ больш багацеючы дзень у дзень, Аўрааму і Лоту стала жыць няўзмогу разам. Пачаліся непаразуменні і спрэчкі паміж іх пастухамі. Тады Аўраам сказаў Лоту: «Хай не будзе разладу паміж мною і табою, паміж пастухамі маімі і пастухамі тваімі, бо мы родзічы. Ці не ўся зямля перад табою? Аддзяліся ад мяне. Калі ты налева, дык я направа, а калі ты направа, дык я налева».

Лот пачаў аглядаць навокал зямлю. Акінуў вачыма ваколіцу Іярдана і заўважыў, што зямля там больш урадлівая і ў дадатак яшчэ дабротна арашаецца. Доўга не думаючы, ён выбраў сабе прывабную мясціну і паставіў на ёй свае палаткі недалёка ад Садома. А горад гэты быў поўным грахоў і распусты. Але Лот не паглядзеў на гэта. Яго прывабілі прыгожыя нівы, урадлівыя сенажаці. Тут быдла можна і накарміць і дагледзець. І Лот пасяліўся сярод садамянаў. Неўзабаве на яго галаву наваліліся бядоты і няшчасці. Ён не параіўся з Госпадам, не пагаварыў з Ім у малітве, дзе і ў якім месцы лепш пасяліцца. Ён зрабіў усё па сваёй волі.

Аўраам, калі пасяліўся ля дубровы Мамрэ, пабудаваў там ахвярнік Госпаду.

БЫЦЦЁ 13:1-18

## БОЖАЕ АБЯЦАННЕ АЎРААМУ

Госпадзь звярнуўся да Аўраама пасля таго, як Лот ад яго аддзяліўся. Ён, між іншым, сказаў яму: «...Паглядзі на поўнач і на поўдзень, паглядзі на ўсход і захад. Усю зямлю, якую ты бачыш, аддам табе і тваім нашчадкам навекі. І нараблю нашчадкаў тваіх як зямнога пяску, калі хто можа падлічыць зярняты яго, а нашчадкі твае будуць падлічаны».

Мінаваў некаторы час, і Бог з'явіўся зноў Аўрааму і сказаў яму зноў: «...Я твой шчыт і ўзнагарода твая даволі вялікая». Але Аўраам, засумаваўшы крыху, што ўжо стары, а дзяцей не мае, сказаў: «Уладар Госпадзе, што мне дасі? Я бяздзетны... Ты не даў мне нашчадкаў, мой дамачадзец і ёсць мой нашчадак». На гэта Госпадзь сказаў Аўрааму: "Не будзе ён тваім нашчадкам, але той, хто народзіцца ад цябе, будзе тваім нашчадкам". Потым, адвёўшы Аўраама ўбок, паведаміў яму: «Паглядзі на неба і падлічы зоры, калі ты зможаш іх падлічыць – столькі ж будзе і ў цябе нашчадкаў».

І сказаў Бог Аўрааму: «Сару, жонку тваю, не называй Сараю, бо імя ёй будзе: Сарра. Я благаслаўлю яе, і дам табе ад яе сына...»

Аўраам паверыў Госпаду. І веру Аўраама Госпадзь паставіў у доказ таго, што Аўраам стаў як праведнік.

БЫЦЦЁ 13:14-16; 15:1-6; 17:15-16

## БОЖЫЯ ВЕСТУНЫ Ў АЎРААМА

Стаяла гарачыня. Аўраам сядзеў каля палаткі. Раптам ён убачыў трох чалавек. Яны падыходзілі да яго збоку. Аўраам зразумеў, што гэта пасланцы Бога. Па звычаі свайго часу ён усім ім памыў ногі, а потым запрасіў абедаць. Пасля абеду адзін госць сказаў Аўрааму: «Калі Я зноў у такі час наведаю цябе (праз год), твая жонка Сарра народзіць табе сына». Сарра якраз стаяла за шырмай. Яна ўсё чула. Госцевы словы яе насмяшылі і, каб пачулі, спытала: «Няўжо гэта мне, такой старой, мець такую радасць?»

Але Гасподзь сказаў Аўрааму: «Чаго гэта засмяялася Сарра? Ці можа быць што немагчымае Богу? Праз год у такі час Я прыйду да цябе, і Сарра будзе мець сына».

А потым Бог сказаў: «Няўжо Мне ўтойваць ад Аўраама, што Я надумаў! Ад Аўраама сапраўды будзе паходзіць народ вялікі і моцны і блаславяцца ў ім усе народы зямлі, бо Я выбраў яго».

Гасподзь выканаў Сваё абяцанне. Ён верны Сваім словам. У Яго няма нічога немагчымага!

БЫЦЦЁ 18:1-19, 21:1-3

# ГІБЕЛЬ ГАРАДОЎ САДОМА І ГАМОРЫ

Прыблізна праз 400 гадоў пасля сусветнага патопу адбылася катастрофа чатырох гарадоў: Садом, Гамора, Адма і Севаім былі знішчаны з аблічча зямлі агнём з неба. Гнеў Господні быў выкліканы агіднымі грахамі насельнікаў гэтых гарадоў. Бог аб'явіў Аўрааму, што Садом будзе знішчаны. Аўраам маліўся за гэты грэшны горад, і Гасподзь абяцаў яму, што не знішчыць горада, калі там знойдзецца хаця б дзесяць праведнікаў. Аднак іх не знайшлося.

І вось што адбылося. У Садоме жыў Лот, праведны чалавек са сваёй жонкаю і дзвюма дочкамі. Бог паслаў у горад двух анёлаў у чалавечым вобразе. Гэта было вечарам. Лот прыняў іх у сваім доме гасцінна, хоць і не ведаў, што гэта анёлы.

«Яшчэ яны і спаць не леглі, як гарадскія жыхары, садамляне, ад маладога да старога, людзі з усіх канцоў горада, абступілі дом і паклікалі Лота, і сказалі яму: "Дзе людзі, што прыйшлі да цябе начаваць? Выведзі іх да нас; мы задаволім свае патрэбы"». Лот, выйшаўшы да іх, замкнуў за сабою дзверы і сказаў: «Братове мае, не рабіце ліха гэтым людзям, не рабіце нічога, бо яны прыйшлі пад дах дома майго». Але яны сказалі: «Вось прыхадзень, і хоча судзіць? Цяпер мы зробім з табою горш, чым з імі». І падышлі садамляне да Лота, каб выламаць дзверы. «Тады тыя мужы (г.зн. анёлы) працягнулі свае рукі, і ўвялі Лота ў дом, і дзверы замкнулі. А людзей, што былі каля ўваходу, паразілі слепатою, ад малога да вялікага... Сказалі тыя мужы Лоту: "...Мы знішчым гэтае месца, бо вялікая скарга легла на жыхароў яго да Госпада..." І ўзялі за руку яго, і жонку яго, і дзвюх дачок яго, і вывелі яго, і паставілі яго за горадам... Адзін з іх сказаў: "Не аглядвайся назад... ратуйся на гары, каб табе не загінуць"».

Сонца ўзышло над зямлёю, і Лот прыйшоў у Сігор. І праліў Гасподзь на Садом і Гамору серку, як дождж, і агонь ад Госпада з неба. І знішчыў гэтыя гарады, і ўсю гэтую ваколіцу, і ўсіх жыхароў гэтых гарадоў, і ўсё, што расло на гэтай зямлі. Жонка ж Лотава, якая ішла ззаду яго, азірнулася, і зрабілася саляным слупом».

Лічыцца, што знішчаныя гарады былі каля паўднёвага ўзбярэжжа Мёртвага мора. Выразы "садом і гамора" выкарыстоўваюцца сёння як вызначэнне распусты, якая ўключае і той мярзотны грэх, за які так моцна разгневаўся Бог, і які ўсё больш пашыраецца ў свеце.

БЫЦЦЁ раздзел 19; ДРУГАЗАКОННЕ 29:23

## АЎРААМ АХВЯРУЕ ІСААКА

Мінуў год, і, як сказалі пасланцы, усё збылося. Сара нарадзіла сына, Аўраам назваў яго Ісаакам. Калі Ісаак падрос, Гасподзь рашыў выпрабаваць веру і любоў Аўраама да Бога. І звярнуўся Ён да Аўраама са словамі: «Вазьмі сына твайго, адзінага твайго, якога ты любіш, Ісаака, ды ідзі ў зямлю Морыа, і там прынясі яго на ўсеспаленне на адной гары, пра якую табе Я скажу».

Нялёгка было зрабіць гэта Аўрааму. Але наказаў яму гэта Сам Бог. Аўраам ад усяго сэрца верыў Богу і любіў Бога. Таму ён накалоў дроў, паклаў іх на асла, узяў з сабою Ісаака і слуг і рушыў да таго месца, якое назначыў яму Бог.

Ісаак не ведаў, што і каго бацька павінен прынесці ў ахвяру і па дарозе спытаўся: «Ойча мой, вось і агонь, і дровы, а дзе ж тое ягня на спаленне?» Аўраам адказаў: «Сыне мой, Бог нагледзіць Сабе і ягня на спаленне».

Ля падножжа гары Аўраам пакінуў сваіх слуг, а сам разам з Ісаакам падняўся на яе вяршыню. Паставіў там з камення ахвярнік, расклаў на ім дровы і паклаў паверх дроў Ісаака, звязаўшы яго перад гэтым. І раптам прамовіў з неба да Аўраама Гасподні анёл: «Аўраам, Аўраам, не падымай рукі тваёй на падлетка і не рабі яму нічога благога. Цяпер Я ведаю, што ты ўбаяўся Мяне, бо ты не пашкадаваў Мне твайго адзінага сына... Бласлаўляючы, Я бласлаўляю цябе...»

Бог можа блаславіць любога. Адно трэба: любіць Яго ад усяго сэрца.

БЫЦЦЁ 22:1-18

# РАВЕКА

Час бяжыць хутка. Аўраам пастарэў, а яго сын Ісаак вырас. І Аўраам пасылае свайго слугу ў Месапатамію. Там на радзіме, у горадзе Нахора слуга павінен знайсці жонку Ісааку.

Пакорны і верны слуга прыйшоў у Месапатамію, памаліўся, папрасіў Бога, каб Ён паслаў яму насустрач дзяўчыну, якая стала б жонкай Ісааку: «Госпадзе, Божа майго пана Аўраама! – маліўся слуга, – прышлі яе мне і злітуйся з майго пана Аўраама. Я стаю вось ля самай крыніцы. Тут чэрпаюць ваду дзяўчаты з гэтага горада. І дзяўчына, якой скажу: ”Нахілі твой збан, я нап’юся”, і якая скажа: ”Пі, я і вярблюдаў тваіх напаю”, няхай і будзе тою, якую Ты назначыў рабу Твайму Ісааку. Тым самым даведаюцца ўсе, што Ты Бог літасцівы да майго пана».

Яшчэ ён нават не дасказаў усяго, як да крыніцы падбегла дзяўчына, маладая і прыгожая. Дзяўчыну звалі Равекай. Яна зачарпнула з крыніцы збан вады і ўжо мелася ісці, як слуга Аўраамаў апярэдзіў яе і ласкава папрасіў: «Дай мне выпіць крыху з твайго збана». Дзяўчына дазволіла: «Пі, пане мой», – сказала яна, нахіліўшы збан, каб слуга напіўся. А як паставіла збан на зямлю, дадала: «Зачарпну яшчэ вады і тваім вярблюдам і буду чэрпаць, пакуль яны не нап’юцца». Дзяўчына раз за разам чэрпала ваду. Слуга стаяў і глядзеў на яе ўражаны. Потым падышоў да яе зусім блізка і спытаўся: «А чыя ж ты будзеш? Скажы мне, ці ёсць у доме бацькі твайго дзе пераначаваць?» Равека расказала, што яна дачка Вафуіла, сына Нахора, брата Аўраама. Як толькі слуга пачуў гэта, ён пакланіўся Богу і праславіў Яго імя за тое, што Ён прывёў яго ў дом брата Аўраама.

У доме Вафуіла слуга расказаў, што ён Аўраамаў пасланец, што ён прыехаў сюды на радзіму свайго пана да родзічаў, каб знайсці жонку Ісааку.

Бацькі паклікалі Равеку і спыталі ў яе: «Ці пойдзеш ты з гэтым чалавекам?» Равека не пярэчыла, і ў доме ўсе да аднаго згадзіліся адпусціць яе. Бацькі благаславілі яе на дарогу, бо ведалі, што без волі Гасподняй тут не абышлося.

Вельмі важна прасіць у малітве да Госпада Яго рады і кіраўніцтва ў любой справе.

БЫЦЦЁ 24:1-60

## ІСААК І РАВЕКА

Каля дома слугу і Равеку чакаў Ісаак. Ён выходзіў на дарогу і глядзеў удалечыню. І вось аднойчы выйшаў ён у поле, каб паразважаць. Акінуў вачыма дарогу і бачыць караван – караван яго бацькі. Ідуць вярблюды, наўючаныя дабром, а на адным з іх сядзіць маладая дзяўчына. Ён ніколі яшчэ не бачыў Равекі, не бачыла і яна яго. Ісаак падбег да Равекі. І з першай сустрэчы пакахалі адно аднаго. Іхняму шчасцю не было канца, бо Сам Бог іх падводзіў, каб яны пабраліся.

Гасподзь падарыў ім двух сыноў. Аднога назвалі Ісавам, а другога – Якавам. Яны былі двайняты. Ісаў нарадзіўся крыху раней за Якава. Ісаў стаў добрым паляўнічым, Якаў быў спакойны і рахманы дамасед. Ад палатак ён нікуды не адлучаўся. Ісаак любіў Ісава за яго дзічыну, а Равека, наадварот, любіла Якава за яго лагоднасць, пакору і паслухмянасць.

БЫЦЦЁ 24:63-67; 25:24-28

## ІСААК БЛАСЛАЎЛЯЕ ЯКАВА

Над старасць Ісаак аслеп. Ісаак успомніў, што яго блаславіў Аўраам. І сам ён вырашыў, што надышоў час блаславіць Ісава, свайго першынца. Каб узвысіць цану свайго блаславення, Ісаак паклікаў Ісава і папрасіў яго згатаваць бацьку добры абед з дзічыны. Калі Ісаў справіцца з гэтым заданнем, то атрымае бацькоўскае блаславенне.

Гэтую размову бацькі з сынам пачула Равека, маці. Ёй вельмі хацелася, каб Ісаак блаславіў Якава. Да гэтага быў адзіны шлях – выкарыстаць слепату бацькі і падставіць яму на блаславенне Якава.

Калі Ісаў пайшоў у поле, каб упаляваць дзічыны, Якаў накіраваўся да статка. Ісаў не вярнуўся яшчэ з палявання, як Якаў ужо нёс дамоў двух казлянят на абед бацьку.

Равека хуценька абрабіла іх і самыя лепшыя кавалачкі мяса згатавала з рознай прыправай. Але ўсё гэта не было надзейна. Цела ў Ісава было вельмі валасатае. Стары, можа, захоча абняць ці абмацаць сына. І Равека абярнула казлінай скурай шыю і рукі Якава.

Якаў панёс абед сляпому бацьку. Тут былі і ежа і пітво. Ісаак папрасіў сына, каб ён наблізіўся да бацькі яшчэ да блаславення. Якаў падышоў зусім блізка. Ісаак абмацаў яго і сказаў: «Голас, голас Якаваў, а рукі, рукі Ісава». Ісаак так і не пазнаў Якава. Ён прымаў яго за Ісава. Абкладзеныя казлінай скурай, рукі Якава былі падобныя да рук Ісава. Бацька папрасіў падаць абед і пачаў есці. Пасля абеду Ісаак блаславіў Якава.

Калі Ісаў даведаўся, як падманулі бацьку і як ён блаславіў Якава, вельмі пакрыўдзіўся. Ён зненавідзеў Якава, пачаў яму пагражаць і помсціць.

БЫЦЦЁ 27:1-41

# СОН ЯКАВА

Равека пачала баяцца за Якава. Канец мог аказацца незвычайным.

Равека пачала рыхтаваць Якава ў дарогу. Ён павінен пакінуць палатку і знайсці прытулак у яе брата Лавана. Якаву надыходзіў час заводзіць сям'ю, і пра гэта Равека завяла гутарку з Ісаакам. Бацька параіў сыну не шукаць сабе жонку сярод разбэшчаных ханаанак, а ехаць у Месапатамію, на радзіму маці і дзеда. Перад самай дарогай Ісаак зноў блаславіў Якава словамі: «Хай Бог усемагутны цябе блаславіць. Няхай блаславіць цябе блаславеннем Аўраамавым, цябе і тваіх нашчадкаў з табою, каб успадчыніць табе абяцаную зямлю, якую Бог абяцаў Аўрааму». І выправіўся Якаў у Месапатамію.

Шлях Якава быў мнагадзённы. Па дарозе ў Месапатамію ён шмат чаго перадумаў і ў сэрца паступова ўсялялася цёплае пачуццё. Якаў яшчэ не ведаў, што яму яно прынясе, але быў упэўнены, што яно ад Бога. Сонца ўжо села, і настала ноч. Якаў спыніўся на начлег пад адкрытым небам. Ён знайшоў пляскаты камень і паклаў яго пад галаву. Якава змарыў сон, і ён заснуў. І бачыць ён у сне высокую лесвіцу ад зямлі аж да неба, а па ёй, гэтай лесвіцы, спускаюцца і падымаюцца Божыя анёлы. А потым Гасподзь звярнуўся да яго і сказаў: «Я Гасподзь, Бог Аўраама, бацькі твайго, і Бог Ісаака. Зямлю, на якой ты ляжыш, Я аддам табе і нашчадкам тваім... Я з табою і аберагу цябе ўсюды, куды ты ні пойдзеш».

Якаў прачнуўся і сказаў: «Бог сапраўды на месцы гэтым, а я вось не ведаў!» Потым узяў ён камень, што быў у яго пад галавой, паставіў яго помнікам і даў абяцанне Госпаду, сказаўшы: «Калі Бог будзе са мною і засцеражэ мяне ў гэтай дарозе, куды я іду, і дасць мне есці і ў што апранухца, я з мірам вярнуся ў дом бацькаў, і будзе Гасподзь маім Богам, дык гэты камень, які я паставіў помнікам, будзе домам Божым; і з усяго, што Ты, Божа, дарыш мне, я дам Табе дзесятую долю».

БЫЦЦЁ 27:41-46, 28:1-22

## СПАТКАННЕ ЯКАВА І РАХІЛІ

Падчас падарожжа ў Месапатамію Якаў выйшаў на цудоўныя пашы. Спыніўся ён каля калодзежа, накрытага пляскатым каменем. Сюды на вадапой прыйшлі авечкі, крыху ўбаку стаялі пастухі.

Якаў падышоў да пастухоў і спытаўся, ці ведаюць яны тут Лавана, сына Нахоравага. Яны адказалі: «Ведаем... і вось дачка яго з авечкамі, Рàхіль». Яна якраз са сваім статкам падышла да калодзежа.

Якаў хутка падбег да калодзежа, ссунуў з яго камень і напаіў авечак. Потым падышоў да Рахілі, назваўся яе дваюрадным братам. Якаў пацалаваў Рахіль і ад замілавання заплакаў.

Рахіль ад радасці кінула статак і пабегла дадому. Расказала бацьку, што да іх едзе госць. Лаван выйшаў насустрач Якаву. Абняўшы яго за плечы, пацалаваў і запрасіў у дом.

Якаў жыў у доме Лавана. Пасвіў авечкі, дапамагаў у гаспадарцы. «Ён стаў служыць Лавану, і служыў яму сем гадоў, каб той аддаў яму за жонку Рахіль, і гэтыя сем гадоў здаліся яму як некалькі дзён, бо ён любіў яе». Лаван выдаў за Якава замуж, апрача малодшай Рахілі, яшчэ і старэйшую дачку Лію.

У тыя старажытныя часы можна было ажаніцца са сваячкаю і мець не адну жонку. Тут у Месапатаміі ў Якава нарадзілася адзінаццаць сыноў і адна дачка, а крыху пазней, у Ханаане, яшчэ адзін сын. Якаў хутка разбагацеў. Са сваімі жонкамі і дзецьмі жыў у палатках. Меў многа рабоў і рабыняў, безліч авечак, многа аслоў і вярблюдаў.

БЫЦЦЁ 29:1-28

## ЯКАЎ «ДУЖАЕЦЦА» З БОГАМ

Аднога разу Гасподзь сказаў Якаву, каб ён вярнуўся дамоў на радзіму. Якаў сабраў сваю маёмасць, рабоў і рабынь і разам з жонкамі і дзецьмі выправіўся ў Ханаан.

Па дарозе караван Якава падышоў да патоку. Усіх родных і ўсю чэлядзь Якаў пераправіў на другі бераг бродам, а сам на адну ноч застаўся ў адзіноце. І раптам Нехта сустрэўся Якаву. Змагаўся з Ім Якаў цэлую ноч да самай раніцы. Гэты «Нехта» пашкодзіў Якаву сустаў сцягна, а пад раніцу папрасіўся: «Адпусці Мяне, бо ўжо, як бачыш, узышла зара!» Якаў адказаў: «Пакуль не благаславіш, не адпушчу». «Нехта» спытаўся: «Як тваё імя?» Якаў назваў сваё імя. Незнаёмы «Нехта» сказаў: «З гэтага часу імя тваё будзе не Якаў, а Ізраіль, бо ты «дужаўся» з Богам, і чалавекаў адольваць будзеш».

Якаву хацелася ведаць Яго імя, але Гасподзь сказаў: «Навошта пытаешся пра імя Маё?» Ён благаславіў Якава.

Калі Якаў застаўся адзін, дык зразумеў, што ён дужаўся з Самім Богам. Гасподзь шчодра благаславіў Якава. Госпаду спадабаўся Якаў, бо ён неадступна і прагна прасіў у Яго благаслаўлення.

БЫЦЦЁ 32:13-30

## ІСАЎ МІРЫЦЦА З ЯКАВАМ

Якаў адчуваў, што па дарозе ў Ханаан яму давядзецца сустрэцца з Ісавам. Каб папярэдзіць любое няшчасце, Якаў сабраў Ісаву шмат падарункаў. Раптам стала вядома, што брат выйшаў яму насустрач. Потым ён даведаўся, што разам з Ісавам ідуць чатырыста воінаў. Калі Ісаў падышоў блізка, Якаў таксама выйшаў яму насустрач. Ад страху Якаў аж сем разоў пакланіўся Ісаву. Потым браты абняліся і ад вельмі цёплай сустрэчы абодва заплакалі. Па чарзе падыходзілі жонкі Якава, яго дзеці, слугі, служанкі і ўсе пакланіліся Ісаву.

Ісаў спытаўся Якава: "Навошта такое мноства дароў, якія ты мне паслаў?" Якаў адказаў: "Для таго, каб мець тваю ласку". Ісаў дружалюбна сказаў: «Браце мой, усяго так у мяне многа. Няхай тваё будзе табе». Якаў запярэчыў: «Калі ты такі прыязны да мяне, прымі гэты дар ад мяне... Прымі маё блаславенне, якое табе я прынёс, таму што Бог падарыў мне і ёсць у мяне ўсё...» І ён упрасіў Ісава не адмаўляцца ад падарункаў.

Браты разышліся, як і сышліся. Цёпла, сардэчна. Ісаў вярнуўся да сваіх уладанняў, Якаў пасяліўся ў Ханаане недалёка горада Сіхема.

Якаў купіў дзялянку зямлі і паставіў на ёй палаткі. Там ён узвёў Богу ахвярнік. Так спраўдзіўся цудоўны сон, што прысніўся Якаву падчас яго адзіноты і вандравання.

Гасподзь заўсёды верны Сваім абяцанням. Ён шмат чаго надарыў Якаву, а Якаў не забываў Яму дзякаваць і праслаўляць Яго.

БЫЦЦЁ 33:1-20

## ІОСІФ – ЛЮБЫ СЫН ЯКАВА

Якаў зноў пасяліўся і жыў у зямлі Ханаанскай. Тут яму Рахіль нарадзіла яшчэ аднаго сына Веніяміна. У Якава было дванаццаць сыноў і адна дачка: Рувім, Сімяон, Левій, Іуда, Дан, Нефалім, Гад, Асір, Ісахар, Завулон, Дзіна, Іосіф, і самы малодшы Веніямін. Але найбольш за ўсіх Якаў любіў Іосіфа, бо «гэта быў сын старасці яго».

«Іосіф, маючы семнаццаць гадоў, пасвіў быдла разам з братамі сваімі... І даносіў Іосіф благія чуткі пра іх бацьку іх». Аднога разу Якаў падарыў Іосіфу прыгожую каляровую вопратку. «І ўбачылі браты яго, што бацька іх любіць яго больш за ўсіх братоў яго; і ўзненавідзелі яго, і не маглі з ім гаварыць прыязна».

Іосіф яшчэ не ведаў, да якіх вынікаў можа давесці нянавісць і зайздрасць яго братоў. Іосіф любіў Бога і трымаўся запаведзяў Яго. Таму ўвесь смутак, які давялося яму перажыць, стаў блаславеннем яму і яго сям'і.

БЫЦЦЁ 37:1-4

## СНЫ ІОСІФА

«Ўбачыў Іосіф сон і расказаў яго сваім братам. Яны ўзненавідзелі яго яшчэ больш.

Ён сказаў ім: ”Паслухайце сон, які мне прысніўся.

Нібыта ўсе мы вяжам снапы ў полі; і вакол майго снапа, што стаяў пасярэдзіне, пасталі вашыя снапы, і майму снапу яны пакланіліся”.

І сказалі яму браты: ”Няўжо ты будзеш панаваць над намі? Няўжо ты будзеш валадарыць намі?” За сон і за словы ягоныя браты яшчэ больш узненавідзелі Іосіфа.

І прысніўся яму яшчэ другі сон. І ён зноў расказаў яго сваім братам: ”Мне прысніўся яшчэ і такі сон: нібыта сонца, поўня і адзінаццаць зорак пакланяюцца мне”.

Гэты сон Іосіф расказаў і бацьку свайму; і бацька, палаяўшы сына, сказаў яму: ”Што гэта ў цябе за такі сон? Няўжо я, і твая маці, і твае браты прыйдзем табе да зямлі пакланіцца?” Браты злаваліся на Іосіфа, а бацька заўважыў гэта».

Аднойчы, калі браты пасвілі быдла далёка ад дома, Якаў паслаў Іосіфа адведаць іх і вярнуцца. Сын з радасцю згадзіўся і рушыў у дарогу.

Доўга блукаў ён па палях, пакуль знайшоў братоў. Тым часам браты, калі ўбачылі Іосіфа, сказалі адзін аднаму: «Гляньце, ідзе наш снавед...»

І калі Іосіф падыходзіў да іх, браты надумалі яго забіць і сказалі: «Давайце яго заб’ём і ўкінем у які-небудзь роў, і скажам, што драпежны звер яго з’еў». А потым зларадна дадалі: «І паглядзім, што будзе з яго сноў».

БЫЦЦЁ 37:5-20

## БРАТЫ ПРАДАЮЦЬ ІОСІФА

Не ўсе браты былі зларадныя. Сярод іх быў Рувім. Праўда, ён быў самы старэйшы. І за брата ён нёс большую адказнасць. Адразу ён вырашае ахаладзіць намер сваіх братоў, але забараніць ім забіваць Іосіфа ён не мог. Ён толькі ўгаворваў братоў не рабіць такога злачынства. Браты згадзіліся з Рувімам. Іосіфа раздзелі, знялі з яго каляровую вопратку, а самога звязалі і кінулі ў сухі роў.

Паглядзелі на дарогу і ўбачылі караван. Гэта былі купцы з Галаада. Яны везлі свой тавар у Егіпет. Тады адзін брат, Іуда, запыніў купцоў і прапанаваў ім купіць брата. Купцы заплацілі за Іосіфа дваццаць срэбранікаў.

Іосіф з купцамі накіраваўся ў Егіпет, а браты, зарэзаўшы казлянё, каляровую вопратку Іосіфа заплямілі крывёю, каб потым яе паслаць бацьку. «Мы знайшлі вось гэта, – сказалі яны бацьку, – паглядзі, гэта вопратка твайго сына, ці не». Якаў пазнаў яе і ад гора ўскрыкнуў: «Гэта вопратка сына майго; драпежны звер з'еў яго; сапраўды, разарваў Іосіфа звер». Якаў горка і няўцешна аплакваў страту свайго любага сына, і не ведаў, што ліхія сыны ашукалі яго.

Але ўсё бачыў Бог. Ад Яго нельга нічога ні ўтоіць, ні схаваць. Ён бачыў, што зайздрасць усяліла нянавісць у сэрцы братоў, бачыў падман і злачынства.

Нам трэба не дапускаць у сэрца нянавісць. А калі яна ўжо ў ім пасялілася, трэба выкарчоўваць да канца. Бо і ад малога кораня можа вырасці вялікая шкода.

БЫЦЦЁ 37:21-35

## ІОСІФ – КІРАЎНІК У ДОМЕ ЦАРАДВОРЦА

Купцы прыйшлі ў Егіпет і прадалі Іосіфа царадворцу, начальніку аховы фараона. Гасподзь дапамагаў Іосіфу, які пастаянна звяртаўся да Яго. Таму Іосіф хутка і акуратна выконваў усё, што яму даручалі.

Ягоны пан, імя якому Патыфар, заўважыў, што Іосіфавы поспехі залежаць ад Госпада. Ён палюбіў Іосіфа і паставіў яго кіраўніком у сваім доме. Пад наглядам Іосіфа быў Патыфараў дом і ўсё дабро ў яго доме. Дзеля Іосіфа Бог блаславіў дом царадворца. Іосіф мудра кіраваў усім домам, і яго пан не меў ніякіх клопатаў.

Іосіф быў прыгожы юнак. Сталася так, што Патыфарава жонка яго пакахала. Але яна была язычніца і не ведала Госпада і Яго запаведзяў, і таму пачала спакушаць Іосіфа і штурхаць яго на распусту. Але Іосіф, палюбіўшы Бога, адмовіўся ад яе прапановы і сказаў: «Як жа я зраблю гэта вялікае зло і саграшу перад Богам!»

Патыфарава жонка рашыла адпомсціць яму. Яна падманула мужа і абвінавасціла Іосіфа: «"Раб яўрэй, якога да нас ты прывёў, лез да мяне нахабна. А калі я закрычала, ён пакінуў у мяне адзенне і ўцёк". Калі Патыфар пачуў словы сваёй жонкі, якія яна сказала яму: "Так насмяяўся з мяне раб твой", дык загарэўся гневам; і ўзяў Іосіфа і пасадзіў яго ў цямніцу, дзе адбывалі сваю няволю вязні цара. І быў ён там у цямніцы».

БЫЦЦЁ 39:1-20

## ІОСІФ У ТУРМЕ

Але ж і ў цямніцы Гасподзь быў з Іосіфам і памагаў яму. Бог раздобрыў сэрца начальніка турмы і назначыў яго наглядчыкам над усімі вязнямі.

Хто любіць Бога, з тым Бог. Ад нуды і смутку Ён выбавіць і праславіць. Іосіф ва ўсім спадзяваўся на Бога і чакаў ад Яго дапамогі.

Разам з Іосіфам у турме адбывалі няволю слугі фараона. Адзін падаваў фараону хлеб, а другі наліваў яму ў чашу віно.

Аднойчы аднаму і другому прысніліся сны, але ніводзін з іх сноў не тлумачыў. Іосіф сказаў ім: "Ці ж не ад Бога тлумачэнне? Раскажыце мне вашыя сны". І віначэрп першы расказаў свой сон. Прыснілася яму вінаградная лаза, у якое было тры галінкі. Спачатку яна зацвіла, потым з кветачак выраслі і даспелі ягады. Ён сабраў ягады, выціснуў з іх сок у чашу і падаў яе фараону.

Іосіф гэты сон вытлумачыў адразу: "Тры галінкі – гэта тры дні. Праз тры дні цябе выпусцяць з гэтай цямніцы, уладкуюць на тую самую службу, будзеш наліваць і падаваць фараону віно".

Захацеў расказаць свой сон і падавальшчык хлеба. Яму прыснілася, што ў яго на галаве стаялі адзін на адным тры кашы. У самым верхнім было ўсё, што пяклі фараону, а птушкі наляталі і ўсё гэта дзяўблі.

Іосіф тлумачыў так: "Тры кашы – тры дні. Праз тры дні фараон пакліча і павесіць цябе на дрэве, і птушкі будуць дзяўбці тваё цела".

Праз тры дні з імі адбылося ўсё так да драбніцы, як і прадказаў Іосіф.

БЫЦЦЁ 39:21-23, 40:1-22

## ІОСІФ ТЛУМАЧЫЦЬ ФАРАОНАВЫ СНЫ

Прыснілася фараону, што ён стаіць каля ракі. Раптам з ракі выйшлі сем сытых кароў і пачалі яны пасвіцца ў трыснягу. Потым з той самай ракі выйшлі сем худых кароў. Худыя каровы паелі сытых, і фараон прачнуўся. Заснуў зноў, і прысніўся яму другі сон. З адной сцябліны выраслі сем каласоў поўных і дабротных. І каля іх выраслі сем пустых каласоў, якія паглынулі сем поўных, і фараон прачнуўся.

Фараон здзівіўся, як маглі яму прысніцца такія сны: як падобныя, так і розныя. Трэба было яму растлумачыць адзін і другі. Але не знайшлося ніводнага тлумача, які здолеў бы справіцца з гэтым.

Віначэрп успомніў Іосіфа, які яшчэ таміўся ў царскай вязніцы. Ён расказаў фараону, як гэты малады яўрэй тлумачыў сны яму і хлебадаўцу і як усё збылося.

Неўзабаве Іосіф стаяў перад фараонам. Фараон дапытліва паглядзеў на Іосіфа і прамовіў: «Я чуў, што ты ўмееш тлумачыць сны?» Але Іосіф адказаў: «Не я, а Бог маімі вуснамі тлумачыць сны на дабро фараону». Фараон расказаў абодва сны. Іосіф сказаў: ”Бог паказаў фараону тое, што ён зробіць. Сем сытых кароў і сем поўных каласоў – гэта сем ураджайных гадоў у Егіпце, а сем худых кароў і сем пустых каласоў – гэта сем галодных гадоў пасля ўраджайных сямі. Сон фараона паўтарыўся два разы, бо гэта словы ад Бога, і хутка Бог спраўдзіць гэта”.

Іосіф падказаў фараону, каб ён пашукаў мудрага кіраўніка. Гэты кіраўнік павінен за сем ураджайных гадоў у Егіпце назапасіць збожжа на сем галодных.

БЫЦЦЁ 41:1-36

## ІОСІФ – КІРАЎНІК УСЯГО ЕГІПТА

Фараон быў задаволены. Сны растлумачаны і разгаданы. Ён сказаў сваім слугам: «Ці знойдзем мы такога другога чалавека, як Іосіф, у якім жыў бы Дух Божы?» Потым ён звярнуўся да Іосіфа са словамі: ”Калі Бог адкрыў табе ўсё гэта, дык дзе нам знайсці такога разумнага і мудрага, як ты. Ты будзеш кіраваць у маім доме, і тваё слова будзе словам для ўсяго Егіпта. Я пастаўлю цябе кіраваць усёй Егіпецкай зямлёю, толькі прастолам я буду вышэй за цябе”.

Потым зняў фараон са сваёй рукі пярсцёнак і надзеў яго на руку Іосіфу. На шыю яму ён павесіў залаты ланцужок і апрануў яго ў адзенне з вісону. Фараон загадаў пакатаць Іосіфа на сваёй другой калясніцы па ўсім Егіпце і абвясціць перад усім народам: «Яму пакланяйцеся!»

Ушанаваны Іосіф прыступіў да сваіх абавязкаў. Сем ураджайных гадоў Іосіф назапашваў збожжа на сем галодных. Калі настала суша і на полі ўсё гарэла, у Егіпце было многа дабра.

БЫЦЦЁ 41:37-48

# СЕМ ГАЛОДНЫХ ГАДОЎ

Мінула сем гадоў, і на ўсёй зямлі настаў голад. У Егіпет адусюль прыходзілі людзі, каб купіць збожжа, якога назапасіў Іосіф ва ўсіх егіпецкіх гарадах.

Калі Якаў дачуўся, што ў Егіпце ёсць хлеб, то ён паслаў туды дзесяць сваіх сыноў, каб яны купілі хлеба. Сам ён застаўся дома з самым малодшым сынам Веніямінам.

Іосіф быў начальнікам у Егіпце, і ён сам прадаваў хлеб усяму народу. Прыйшлі да Іосіфа і яго браты. Усе дзесяць упалі перад ім на калені і прасілі Іосіфа прадаць ім хлеба. Сваіх братоў Іосіф пазнаў адразу, а яны не пазналі яго. З таго часу, як прадалі Іосіфа, яны не чулі пра яго і не ведалі, як іхні брат быў узвышаны самім фараонам.

Іосіф рабіў выгляд, што бачыць іх упершыню. Каб адвесці ад сябе ўвагу, ён абвінавачваў братоў у шпіянажы: нібыта яны ў Егіпет прыйшлі, як у разведку. Браты гаварылі, што яны – сумленныя людзі, дзеці аднаго бацькі і дома пры бацьку яшчэ ёсць малодшы брат. Іосіф абышоўся з імі сурова. Загадаў нават узяць іх пад варту. На трэці дзень ён ім сказаў: "Калі вы сапраўды сумленныя людзі, дык хай адзін з вас тут застанецца, а астатнія хай завязуць хлеб дамоў, накормяць свае сем'і. І яшчэ да мяне прывядзіце вашага малодшага брата, каб пацвердзіць вам свае словы і каб я пераканаўся, што вы без злое задумы наведалі гэты край".

Браты выслухалі Іосіфа і сказалі адзін аднаму: «...На самай справе нас караюць нашыя грахі супроць нашага брата; мы бачылі пакуты душы яго, калі ён упрошваў нас, але мы не паслухаліся; за тое і навалілася на нас гора гэтае».

Іосіф усё чуў, але таіўся. Ён меў пры сабе тлумача і браты думалі, што без перакладу іх гаворкі тут ніхто не разумее. Словы братоў яго расхвалявалі. Ён выйшаў у другі пакой і заплакаў. Калі ж ён вярнуўся, загадаў звязаць аднаго з іх, Сімяона, а астатнім напоўніць мяхі збожжам і адпусціць дамоў.

БЫЦЦЁ 41:54-57, 42:1-25

## ІОСІФ АДКРЫВАЕЦЦА СВАІМ БРАТАМ

Калі браты Іосіфа, прыйшоўшы дамоў, расказалі бацьку аб тым, што з імі сталася, Якаў запярэчыў і сказаў, што не адпусціць у Егіпет малодшага сына Веніяміна – апошнюю ўцеху старасці.

Хутка скончыўся хлеб. Якаў зноў пасылае сыноў у Егіпет. Ён сказаў: «Ідзіце зноў і купіце нам крыху ежы». А сыны адказваюць, што без брата Веніяміна егіпецкі начальнік загадаў не паяўляцца. Але голад мацнеў яшчэ больш, і выхад быў адзін: адпусціць з братамі і малодшага. Якаў згадзіўся, блаславіў іх на дарогу і пажадаў: "Усемагутны Бог, хай дапаможа вам здабыць літасць у таго чалавека, каб ён з Веніямінам адпусціў і другога вашага брата".

Браты зноў прыйшлі ў Егіпет. Калі Іосіф убачыў Веніяміна, ён выйшаў у другі пакой і заплакаў. Потым, умыўшы твар, загадаў слугам падаваць на стол пачастунак. Браты аж збянтэжыліся і думалі, чаму і з якой прычыны ім такая павага і гонар.

Іосіф ужо не мог стрымацца. Ён заплакаў уголас і сказаў братам: «Я – Іосіф. Ці жывы яшчэ мой бацька?» Браты засаромеліся і маўчалі. Тады Іосіф сказаў ім: «Падыдзіце да мяне». Яны падышлі. «Я – Іосіф, ваш брат, якога вы прадалі ў Егіпет. Але цяпер не тужыце і не шкадуйце, што вы мяне сюды прадалі, таму што Бог прыслаў мяне перад вамі, каб захаваць вам жыццё... Дык вось, не з вашай волі я тут, а з волі Бога, Які паставіў мяне айцом фараону і панам ва ўсім яго доме і ўладыкам ва ўсім Егіпце. Ідзіце хутчэй да бацькі майго і скажыце яму: "Так кажа твой сын Іосіф: Бог паставіў мяне панаваць над усім Егіптам, прыходзь да мяне безадкладна... і я забяспечу цябе тут, бо голад будзе яшчэ пяць гадоў, каб не збяднеў ты і ўвесь дом твой"».

Пасля гэтых слоў Іосіф прыпаў да Веніяміна і плакаў. Потым ён абдымаў і цалаваў усіх братоў. Ён любіў іх і ад усяго сэрца дараваў ім усё зло, якое яны яму ўчынілі.

БЫЦЦЁ 42:36-38, 43:1-34, 45:1-15

# СУСТРЭЧА ІОСІФА З БАЦЬКАМ

Фараон, пачуўшы, што Іосіфа наведалі браты, і што яны хочуць перасяліцца ў Егіпет, загадаў выдаць ім усё, што трэба на працяглае падарожжа: калясніцы, у запас ежу, вопратку ім, іхняму бацьку, дзецям.

Калі Якаў даведаўся, што яго любімы сын Іосіф жывы і можа яго пабачыць, развесяліўся душою і ад радасці аж усклікнуў: «Жывы яшчэ сын мой Іосіф! Пайду і ўбачу яго...» Потым Сам Бог у сне сказаў Якаву: «Якаў!.. Я – Бог, Бог айца твайго; не бойся ісці ў Егіпет; бо там Я ад цябе размножу народ вялікі. Я пайду з табою ў Егіпет; Я і выведу цябе адтуль назад».

Са сваімі дзецьмі, унукамі і са сваім набыткам Якаў накіраваўся ў Егіпет. Насустрач яму выехаў сын яго Іосіф у калясніцы. Убачыўшы свайго дарагога бацьку, ён прыпаў да яго і доўга плакаў.

Калі фараон дачуўся, што родзічы Іосіфа ўжо ў Егіпце, паклікаў Іосіфа і сказаў яму: "Вось і твой бацька і твае браты прыбылі. Перад табой увесь Егіпет. Выберы самую лепшую зямлю і там іх пасялі".

Іосіф аддаў ім ва ўладанне самую лепшую Егіпецкую зямлю, пастаянна іх забяспечваў хлебам і ўсім неабходным.

Якаў не вярнуўся ў зямлю Ханаанскую, а застаўся ў Егіпце. Перад смерцю ён блаславіў абодвух сыноў Іосіфа: Манасію і Яфрэма, а потым усіх сваіх дванаццаць сыноў. Калі Якаў памёр, сыны выканалі бацькаву просьбу і пахавалі цела яго ў Ханаанскай зямлі – у пячоры на полі Махпела, дзе ўжо былі пахаваны і спачывалі Аўраам і Сарра, Ісаак і Равека.

БЫЦЦЁ 45-50

## ІЗРАІЛЬЦЯНЕ ЯК РАБЫ Ў ЕГІПЦЕ

Мінулі часы. Не стала ні Якава, ні яго сыноў. Усе памерлі. Калі Якаў «дужаўся» з Богам, ён атрымаў ад Бога новае імя – Ізраіль, што ў перакладзе азначае: «Дужанне з Богам». Таму ўсе яго нашчадкі аж да гэтай пары называюцца ізраільцянамі. Іх называюць таксама яўрэйскім народам.

Ужо даўным-даўно, як памёр Іосіф, у Егіпце змяняліся фараоны. Не ўсе яны памяталі і зналі мудраца Іосіфа і тым больш яго добрыя справы. Адзін з апошніх фараонаў убачыў, што ізраільцяне робяцца шматлікім і моцным народам. Ён звярнуўся да егіпцян і сказаў: ”Давайце перахітрым ізраільцян, каб яны не памнажаліся. Іначай у час вайны аб'яднаюцца з нашымі ворагамі, ўзброяцца супроць нас і пакінуць нашую зямлю”.

Народ ізраільскі прыгняталі, знясільвалі, мардавалі. Самыя цяжкія работы даручалі ізраільцянам, а над імі стаялі азвярэлыя егіпцяне – наглядчыкі. Усё гэта рабілі дзеля таго, каб паменшыць ізраільскі народ і егіпцянам забяспечыць перавагу над ім.

Але Бог убачыў цярпенні і пакуты ізраільцянаў. А як усе яны спадзяваліся на Бога, дык Ён паслаў ім збавіцеля.

2-я Кніга Майсея. ВЫХАД 1:6-14

## НЕМАЎЛЯТКА МАЙСЕЙ У КАШЫ

Фараон убачыў, што цяжкая праца не знясіліць, не змардуе, не аслабіць ізраільцян, а наадварот, яны памнажаюцца і яшчэ больш мацнеюць. І ён загадвае свайму народу, каб кожнае немаўля, якое народзіцца ў ізраільцянкі, кідалі ў рэчку.

І вось у адной ізраільцянкі нарадзіўся сын. Яго маці добра ведала, што Бог можа выратаваць немаўля, калі яго даручыць Яму з малітвай. Тры месяцы яна хавала свайго сына, але калі ўжо стала хаваць немагчыма, яна прыдумала такое рызыкоўнае выйсце. У асмолены кош паклала дзіцятка і занесла яго ў трыснёг каля берага Ніла. Імя дзіцяці – Майсей.

Сам Бог выбраў Майсея, каб дапамагчы Свайму народу. А ў сэрцы яго маці Гасподзь усяліў цвёрдае перакананне, што Ён паклапоціцца пра яе дзіця. Яна паслала сваю дачку паназіраць, што будзе з яе сыночкам.

ВЫХАД 2:1-4

# ДАЧКА ФАРАОНА ЗНАХОДЗІЦЬ МАЙСЕЯ

Фараонава дачка разам са сваімі служанкамі гуляла каля ракі. У трыснягу плакала дзіця. Калі яна прыслухалася і прыглядзелася, дык убачыла кошык. Прынцэса здагадалася – у кашы дзіця. Служанка вылавіла кошык з дзіцём. Прынцэсе дзіця спадабалася. Яно было прыгожае, і прынцэса ўзяла яго на выхаванне.

Непадалёк стаяла дзяўчынка. Яна была сястрычка дзіцяці і дапамагла прынцэсе пашукаць знайдзёнку прыёмную маму. Калі дзяўчынка прывяла сваю маму, прынцэса сказала ёй: ”Вазьмі гэтае немаўля, выхавай мне яго; я табе заплачу за гэта”. Маці з радасцю ўзяла на выхаванне свайго сына. Удзячная была Госпаду, што пачуў яе малітвы. Калі Майсей падрос, яна прывяла яго да фараонавай дачкі. З таго часу Майсей жыў у палацы як яе сын.

Хаця Майсей выхоўваўся ў палацы фараона, усё-такі ведаў, што ён яўрэй. Калі Майсей вырас, надумаўся ён паглядзець, як жыве яго родны народ. Ён убачыў, як сурова яго народ прыгнятаецца. Аднаго разу Майсей заўважыў, як егіпцянін біў аднаго яўрэя. Майсей хацеў абараніць свайго супляменніка. Ён забіў егіпцяніна, а цела яго схаваў у пяску.

На другі дзень Майсей убачыў, як сварыліся два яўрэі. Ён спытаў аднаго: «Чаму ты б’еш блізкага твайго?» А той адказаў: «Хто паставіў цябе судзіць нас. Ці не думаеш ты забіць і мяне, як забіў егіпцяніна?» Тады Майсей спалохаўся і падумаў: «Напэўна, пра гэтую справу даведаліся». Калі фараон дазнаўся аб здарэнні, ён хацеў забіць Майсея.

Майсей уцёк ад фараона ў зямлю Мадзіямскую. Там ён пазнаёміўся са свяшчэннікам Іафорам і яго сям’ёй і застаўся жыць у іх. Майсей ажаніўся з ягонай дачкой Сепфорай.

ВЫХАД, раздзел 2 і 3

# ПАЛЫМНЕЮЧЫ ЦЯРНОВЫ КУСТ

Жыццё Майсея рэзка змянілася. Першыя сорак гадоў ён пражыў у Егіпце, дзе выхоўваўся як сын дачкі фараона. А потым сорак наступных гадоў Майсей служыў пастухом у цесця свайго Іафора.

Аднаго разу, калі ён быў пры сваім статку, убачыў, як гарыць цярновы куст. Гарыць і не згарае, хоць полымя ахапіла яго цалкам. Майсей зацікавіўся і вырашыў падысці зусім блізка. З палымнеўшага куста раптам пачуўся голас: «Майсей! Майсей! Не падыходзь сюды; раззуйся, бо месца, на якім ты стаіш, ёсць зямля святая... Я – Бог айца твайго, Бог Аўраама, Бог Ісаака і Бог Якава». Майсей засланіў рукою твар. Ён баяўся глянуць на Бога.

Гасподзь паведаміў яму з куста: «Я нагледзеўся на пакуты Майго народа ў Егіпце, пачуў, як жахаецца ён наглядчыкаў... Знаю, як сумуе народ, іду выбавіць яго зпад рукі егіпцян, вывесці яго з іх зямлі ў добрую і прасторную зямлю, дзе малако і мёд цякуць... Жах народа Майго да Мяне данёсся. Бачу прыгнёт егіпцян. Дык вось, пайдзі: Я пасылаю цябе да фараона, і вывядзі Ізраілевых сыноў з Егіпта».

Аднак Майсей сумняваўся. Ён лічыў сябе нявартым такой вялікай справы. Ён сказаў Богу: «Хто я, каб мне ісці да фараона і сыноў Ізраілевых вывесці з Егіпта?» На гэта Бог яму адказаў: «Я буду з табою».

ВЫХАД 3:1-12

## МАЙСЕЙ І ААРОН У ФАРАОНА

Гасподзь паслаў Майсея да фараона. Майсей павінен сказаць фараону, каб ён адпусціў на волю Божы народ. Але Майсей адказвае Госпаду: «О Госпадзе!.. Я гавару дрэнна, язык мой гаркавы... пашлі іншага, каго можаш паслаць».

Бог паказаў Майсею і на брата яго Аарона: «Няўжо няма ў цябе Аарона брата, левіцяніна? Я ведаю, што ён умее гаварыць... а Я буду пры вуснах тваіх і пры вуснах яго, і буду вучыць вас, што вам рабіць. І будзе ён гаварыць з народам замест цябе. Дык вось, ён будзе тваім языком; а ты яму будзеш замест Бога».

Пасля гэтага Майсей і Аарон прыйшлі да фараона і сказалі яму: «Так гаворыць Гасподзь, Бог Ізраілеў: "Адпусці народ Мой на свята Маё ў пустыні"». Але фараон пачаў пярэчыць: «Хто такі Гасподзь, каб я паслухаў голасу Яго і адпусціў Ізраіля. Госпада я не ведаю і Ізраіля не адпушчу... навошта вы, Майсей і Аарон, перашкаджаеце народу працаваць? Бярыцеся за сваю работу». Пасля гэтай гутаркі фараон пасуровеў. Ён паклікаў наглядчыкаў і загадаў ім, каб яны ізраільцян больш і больш абкладалі працай.

Нямала азнакаў і цудаў Гасподзь паказаў фараону. Але сэрца фараонава збязлітасцівела. Ён не адпускаў Божы народ. Усе кары, а іх было дзевяць, адна за адной пасыпаліся на фараона і егіпцян: вада ў рацэ ператварылася ў кроў, жабы пакрылі ўвесь Егіпет. Зямля пакрылася спачатку мушкамі, а потым сабачымі мухамі, па краіне пранеслася пошасць, на людзях і на хатніх жывёлах паўспухалі нарывы, насылаліся град, саранча і цемень па ўсёй зямлі Егіпецкай... Фараон яшчэ больш лютаваў, хоць і сам цярпеў ад гэтых караў, але ізраільцян не адпускаў. Майсей і Аарон пачалі яму пагражаць апошняй, дзесятай карай.

ВЫХАД раздзелы 4-10

# КРОЎ ПАСХАЛЬНАГА ЯГНЯЦІ

Фараон быў сведкам цудаў і караў. Сэрца ў яго было цвёрдае, як камень. Майсей сказаў фараону: «Так кажа Гасподзь: "Апоўначы прайду Я пасярод Егіпта, і памрэ кожны першынец у зямлі Егіпецкай *(самы старэйшы сын у сям'і)* ад першынца фараона, які сядзіць на троне сваім, да першынца рабыні, якая меле ў жорнах, і ўсё першароднае з быдла"».

Ізраільцяне не падпадалі пад гэтую кару. Бог быў з імі. І ён перадаў Майсею, што павінны зрабіць ізраільцяне ноччу. Кожная сям'я павінна зарэзаць ягня. Самое ягня павінна быць здаровае – не мець заганаў і недахопаў. Ягня пяклі на агні, і кожны член сям'і еў, а сабранай крывёю мазалі вушакі і перакладзіны дзвярэй. Гасподзь сказаў: «І будзе ў вас кроў азнакаю на дамах, дзе вы жывяце, убачу кроў, і абміну вас, і засцерагу вас ад згубнае пошасці, калі буду караць зямлю Егіпецкую».

Божы наказ ізраільцяне выканалі, а егіпцяне, як заўсёды, палеглі спаць, не падазраваючы, што будзе ноччу. Апоўначы памерлі ўсе першынцы: «І ўстаў фараон ноччу сам і ўсе рабы яго, і ўвесь Егіпет; і ўзышоўся вялікі лямант у зямлі Егіпецкай; бо не было дома без нябожчыка».

З гэтага часу ізраільцяне пачалі святкаваць Пасху. Слова «Пасха» азначае «мімаходзь», «пераход»*. На гэтае свята ізраільцяне ядуць ягня з праснакамі. Так яны на Пасху прыгадваюць сваё вызваленне.

ВЫХАД 11, 12:1-17, 30

** Ёсць два сэнсы:*
*1) Гасподзь прайшоў міма дамоў ізраільцян і пашкадаваў іх першынцаў.*
*2) Ізраіль, кіруемы Богам, пераходзіць Чэрмнае мора, а хрысціяне (народ Божы) на Вялікдзень пры ўваскрэсенні Хрыста пераходзяць са смерці ў жыццё.*

## ГАСПОДЗЬ ВЫВОДЗІЦЬ ІЗРАІЛЬЦЯН З ЕГІПТА

«Я шчэ ноччу фараон, паклікаўшы Майсея і Аарона, сказаў: ”Уставайце і выходзьце з асяроддзя майго народа, як вы, так і сыны Ізраілевы, ідзіце і адслужыце Госпаду, як вы казалі. Захапіце з сабой хатніх жывёл, дробных і буйных, як вы казалі; – ідзіце і мяне блаславіце”.

Егіпцяне хацелі, каб народ ізраільскі як найхутчэй пакінуў Егіпет. Прасілі не заставацца, а выбірацца ў дарогу. Бо як казалі яны: ”Мы ўсе памром”.

Апрача дзяцей, з Раамсеса ў Сакхоф рушыла каля шасцісот тысяч пешых мужчын і мноства іншапляменцаў разам з імі. Перад сабою гналі хатніх жывёл – статак даволі вялікі. З цеста, якое вынеслі з Егіпта, напяклі яны прэсных пышак, бо цеста яшчэ не закісла. З Егіпта выганялі так хутка, што нават не паспелі нагатаваць сабе ў дарогу ежы. А пражылі ізраільцяне ў Егіпце чатырыста трыццаць гадоў».

Бог вёў ізраільцян па пустэльнай дарозе. Яна вяла да Чэрмнага (Чырвонага) мора. Аднаму Богу вядома, куды весці Свой народ. Таму Ён ішоў наперадзе ўсіх у выглядзе воблачнага слупа. Ноччу гэты слуп палымнеў і асвятляў ім дарогу. Пакуль рухаўся воблачны слуп, рухаліся ізраільцяне, слуп спыняўся – ізраільцяне спыняліся таксама. Ніколі, ні днём ні ноччу, воблачны слуп не пакідаў народа.

Таксама і мы, калі даверымся Госпаду, дык ніколі не заблудзімся і будзем мець патрэбны напрамак. Воблака Божага міласэрнасці будзе заўсёды з намі. Як у светлыя дні, так і ў цёмныя ночы нашых трывог і выпрабаванняў нам чуваць Божы голас. Ён ніколі нас не пакіне, калі мы з Ім падтрымліваем сувязь у пастаянных малітвах.

ВЫХАД 12:31-40, 13:20-22

## ПЕРАХОД ЧЭРМНАГА МОРА ІЗРАІЛЬЦЯНАМІ

Ізраільцяне выйшлі з Егіпта, каб назад ужо ніколі не вярнуцца. Фараон зразумеў, што яго падманулі. Ён рашыў выправіць сваю памылку і любою цаной вярнуць ізраільцян назад у Егіпет. За ўцекачамі пагналіся коннікі, калясніцы і пешае войска.

Ізраільцяне ўжо падыходзілі да Чэрмнага (Чырвонага) мора, калі паказалася пагоня. Божы народ, убачыўшы наперадзе мора, а егіпцян ззаду, разгубіўся і пачаў наракаць на Майсея за тое, што ён вывеў іх з Егіпта, каб памерці ім у голай пустыні. Але Майсей сказаў ім: «Не бойцеся! Спыніцеся і ўбачыце паратунак Гасподні, які Ён сёння падрыхтаваў вам; бо егіпцян, якіх вы бачыце сёння, больш ніколі не ўбачыце. Гасподзь будзе змагацца за вас, а вы будзьце спакойныя».

Бог загадаў Майсею працягнуць руку ў бок мора. Калі ён гэта зрабіў, Гасподзь пагнаў марскія воды моцным усходнім ветрам. Частка мора за ноч зрабілася сушай. Воды расступіліся, ізральцяне пайшлі па марскім дне, як па сушы. Абапал воды стаялі сцяною, утварыўшы калідор, па якім спешна перабіраліся людзі на другі бераг.

ВЫХАД 14:5-22

## ГІБЕЛЬ ЕГІПЕЦКАГА ВОЙСКА Ў ЧЭРМНЫМ МОРЫ

Егіпцяне ішлі следам за ізраільцянамі па сухім калідоры. Раніцою нечакана для егіпцян з калясніц пачалі злятаць колы. Егіпцяне зразумелі, што Гасподзь дапамагае ізраільцянам. Сярод егіпцян пачалася паніка. Калі ізраільцяне перабраліся на другі бераг, Гасподзь сказаў Майсею: «Працягні руку сваю ў бок мора, і хай воды нахлынуць на егіпцян, на калясніцы іх і на коннікаў іх». Майсей выканаў наказ Гасподні. Воды вярнуліся на сваё месца і патапілі ўсіх егіпцян.

Так у той дзень Гасподзь выратаваў Свой народ. Ізраільцяне ўбачылі вялікую моц, якую Бог явіў ім. Яны самі напалохаліся. Паверылі Госпаду і рабу Яго Майсею. З вуснаў народа і іх павадыра Майсея палілася ўрачыстая песня: «Гасподзь – цвярдыня мая і слава мая, Ён быў мне збаўеннем маім. Ён – Бог мой, і я ўслаўляю Яго... Правіца Твая, Госпадзе, слаўная сілаю; правіца Твая, Госпадзе, ворагаў паваліла. Вялікасцю славы Тваёй Ты скінуў усіх, хто супроць Цябе паўстаў... Хто такі, як Ты, Госпадзе, паміж багамі? Хто, як Ты, велічны святасцю, ушанаваны хвалою, Творца цудоўнага?.. Гасподзь зацаруе на вечную вечнасць».

ВЫХАД 14:23-31, 15:1-18

## МАННА З НЕБА

Ізраільцяне ішлі далей, і Гасподзь вёў іх. Урэшце, прыйшлі ў пустыню Сін. Не было чаго есці. І зноў наракалі на Майсея. Прыгадвалі, як добра ім жылося ў Егіпце.

Майсей сказаў народу: «Гасподзь пачуў нараканні вашы супроць Яго. А мы што? Нараканні вашы не супроць нас, а супроць Госпада». Потым Гасподзь сказаў Майсею: «Я пачуў нараканні сыноў Ізраілевых; скажы ім: "Увечары вы будзеце есці мяса, а раніцой наясцеся хлеба і даведаецеся, што Я – Гасподзь, Бог ваш"».

Увечары аднекуль наляцелі перапёлкі і пакрылі ўвесь стан. Народ пачаў лавіць перапёлак і гатаваць сабе ежу з іх мяса. А раніцой навокал стана ўбачылі расу. Калі раса ўзнялася парай, засталіся крупы. Яны былі падобны на іней. Гэта быў хлеб нябесны ад Госпада. Ізраільцяне называлі яго "маннай". Смак манны падобны да смаку ляпёшкі з мёдам. Гасподзь загадаў народу збіраць манну, але вельмі не захапляцца ёю, збіраць яе столькі, колькі трэба было на адзін дзень. Лішак назбіранай манны за ноч псаваўся. У пятніцу збіралі манну на цэлыя два дні. Суботу прысвячалі Госпаду, і не рабіў ніхто нічога. Манна, сабраная на два дні, не прападала.

ВЫХАД 16:1-31

## МАЙСЕЙ ЗДАБЫВАЕ ВАДУ СА СКАЛЫ

Ізраільцяне прыйшлі ў Рэфідым. Там не было пітное вады. Народ зноў папракаў Майсея, кажучы: «Дай нам вады піць». Майсей адказаў ім так: «Што вы папракаеце мяне? Што выпрабоўваеце Госпада?» І пачаў Майсей маліцца Госпаду, каб Ён дапамог вадою. І Гасподзь сказаў Майсею, каб ён ударыў па скале. Майсей зрабіў так, як сказаў яму Гасподзь, і вада пацякла са скалы. Народ спатоліў смагу.

Майсей тое месца, дзе яны атрымалі ваду, назваў «Маса і Мерыва», што ў перакладзе азначае «спакушэнне і нараканне». Тут яны спакушалі і папракалі Госпада. Ізраільцяне казалі адзін аднаму: «Ці ёсць Гасподзь сярод нас, ці Яго няма?»

Падчас падарожжа ў пустыні ўжо колькі разоў яны наракалі на Госпада і спакушалі Яго. Цяжкасці доўга не працягваліся, бадай толькі для выпрабавання іх веры. У ізраільцян не было моцнай цярплівасці, хоць і належалі яны да народа Божага. Невялікая перашкода, і адразу пачыналі сумнявацца ў прысутнасці Бога. Нараканне – гэта грэх. Гасподзь ніколі не дапускае такога выпрабавання, якое нельга было б перажыць. Услед за выпрабаваннем наступае палёгка. Ён заўсёды падбадзёрвае нас, радуе нас і дапамагае нашай веры, каб яна расла і мацавалася.

ВЫХАД 17:1-7

## ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕДЗЯЎ

Майсей быў чалавек лагодны і ціхі. Як выбраны Божы сасуд, ён верыў Богу, ён слухаў Бога, ён выконваў усё, што Бог яму загадваў. Таму Бог і гаварыў з народам толькі праз Майсея.

Калі ізраільцяне прыпыніліся каля гары Сінай і раскінулі свае палаткі, Майсей узышоў на гару. На гары Сінай Гасподзь перадаў Майсею каменныя скрыжалі, а на скрыжалях былі запісаны дзесяць запаведзяў. Яны былі такія:

«Я – Гасподзь, Бог твой, што вывеў цябе з зямлі Егіпецкай, – з дома няволі. Няхай не будзе ў цябе іншых багоў перад абліччам Маім.

Не рабі сабе куміра і не ствараі ніякага вобраза таго, што на небе ўверсе, што на зямлі ўнізе і што ў вадзе ніжэй зямлі, – не пакланяйся ім і не служы ім...

Не вымаўляй імя Госпада, Бога твайго марна; бо Гасподзь не пакіне без пакарання таго, хто вымаўляе імя Яго марна.

Памятай дзень суботні, каб свяціць яго. Шэсць дзён працуй і рабі ўсякія справы твае, а дзень сёмы – суботу – Госпаду Богу твайму...

Паважай бацьку твайго і маці тваю, каб твае дні мелі працяг на зямлі, якую Гасподзь, Бог твой, дае табе.

Не забівай.

Не распуснічай.

Не крадзь.

Не кажы няпраўды пра блізкага твайго.

Не жадай дома блізкага твайго; не жадай жонкі блізкага твайго, ні яго нявольніцы, ні раба яго, ні рабыні яго, ні вала яго, ні асла яго – нічога, што ёсць у блізкага твайго».

**ВЫХАД** раздзел 20

## ЗАЛАТЫ ЦЯЛЕЦ

Гасподзь доўга гаварыў з Майсеем на гары. І там Майсей затрымаўся. Народ убачыў, што Майсея доўга няма, абступіў Аарона і сказаў: "Зрабі нам бога, бо не ведаем, што сталася з Майсеем, які вывеў нас з Егіпта". Тады Аарон сказаў: "Дастаньце з вашых вушэй залатыя завушніцы і прынясіце іх мне". Яны прынеслі Аарону завушніцы, і ён вырабіў з іх літога цяльца, апрацаваў яго разцом. Ізраільцяне ўбачылі цяльца і закрычалі: "Вось бог твой, Ізраіль, ён вывеў цябе з Егіпта!" На другі дзень яны ўсталі рана і прынеслі ахвяру залатому цяльцу, назваўшы яго сваім госпадам. Потым расселіся – пачалі піць і есці. Трапеза закончылася ігрой і песнямі.

А Гасподзь сказаў Майсею: «Спешна спускайся з гары, народ твой надурыўся, народ, які ты вывеў з зямлі Егіпецкай; скора ўхіліліся яны ад шляху, што Я наказаў ім...» Бог надумаў знішчыць гэты наравісты і суровы народ, але Майсей пачаў умаляць Яго, кажучы: «Хай не ўспалымнее, Госпадзе, гнеў Твой супраць народа Твайго, які Ты вывеў з зямлі Егіпецкай вялікаю сілай і моцнай рукою, каб егіпцяне не казалі: "Ён вывеў іх на згубу, каб пабіць іх у гарах, каб знішчыць іх па ўсёй зямлі". Адвядзі палымяны гнеў Твой і адмяні згубу народу Твайго...»

Гасподзь пачуў просьбу і адмяніў яго гібель.

Майсей, разгневаўшыся, разбіў аб зямлю каменныя скрыжалі. Яны рассыпаліся на кавалачкі. Потым спаліў у агні залатога цяльца, скрышыў яго на парашок і развеяў над вадою.

Гэтая гісторыя нам падказвае, як мы павінны сябе паводзіць. Ніколі не забываць Бога, усемагутнага і жывога. Не забываць Яго шматлікіх цудаў і літасці.

ВЫХАД 32:1-20

## «СКІНІЯ ЗБОРУ»

Неўзабаве Майсей непадалёк ад ізраільскага стану паставіў палатку і назваў яе скініяй збору. Скінію акружалі людзі, якія ад шчырага сэрца шукалі сувязі з Богам.

І калі Майсей выходзіў да скініі, увесь народ уставаў, і кожны станавіўся каля ўваходу ў сваю палатку і глядзеў услед Майсею, пакуль ён не ўваходзіў у скінію. Калі ж Майсей уваходзіў у скінію, воблачны слуп апускаўся і станавіўся каля ўваходу ў скінію, і Гасподзь гаварыў з Майсеем. І ўвесь народ бачыў воблачны слуп, што стаяў каля ўваходу ў скінію; і ўвесь народ уставаў, і кожны пакланяўся каля ўваходу ў палатку сваю.

І гаварыў Гасподзь з Майсеем твар у твар, як бы гаварыў хто з сябрам сваім; і ён вяртаўся ў стан; а служыцель яго Ісус, сын Навінаў, юнак, не адыходзіў ад скініі.

ВЫХАД 33:7-11

## АХВЯРАВАННЕ НА ПАБУДОВУ СВЯЦІЛІШЧА

Аднога разу Гасподзь загадаў Майсею пабудаваць другую скінію, дзе адбывалася б ахвярапрынашэнне, дзе была б Яго прысутнасць.

«І сказаў Майсей усяму грамадству сыноў Ізраілевых: "Вось што запавядаў Гасподзь: Прынясіце ад сябе прынашэнне Госпаду; кожны няхай прынясе, як пастараецца, золата, срэбра, медзь, воўну блакітнага, пурпуровага, барвовага колераў, і вісон, і казліную поўсць, чырвоныя скуры з бараноў, і сінія скуры, і дрэва сітым. Для свяцільніка алей і пахошчы для алею памазання і алей для духмяных каджэнняў. Камень анікс і камяні, што ўстаўляюць у наплечнік і нагруднік. Няхай кожны, хто мудры сэрцам прыходзіць і робіць усё, што загадаў Гасподзь..."»

І разышліся сыны Ізраілевыя па сваіх палатках. А калі прыходзілі, дык прыходзілі тыя, каго вяло сэрца, і тыя, каго дух накіроўваў на добрую справу. Прыносілі хто што мог на пабудову скініі збору і на яе патрэбы і на асвячонае адзенне. Прыходзілі мужы са сваімі жонкамі. Яны прыносілі па дабраце сваіх сэрцаў пярсцёнкі, завушніцы, прычэпкі, розныя залатыя рэчы. Хто толькі не прыносіў золата Госпаду. Прыносіў таксама, хто меў, воўну блакітнага, пурпуровага і чорнага колераў, вісон і казліную поўсць, чырвоныя скуры з бараноў і скуры сінія. І кожны, хто ахвяроўваў золата, срэбра або медзь, прыносіў як дар Госпаду. На ўпарадкаванне скініі, хто меў, прыносіў дрэва сітым.

Гасподзь любіць і бласлаўляе таго, хто ахвяруе на Яго справы па добрай волі, ад шчырага сэрца.

ВЫХАД 35:4-29

## АСВЯЧЭННЕ НОВАЙ СКІНІІ

Навокал скініі быў двор. Даўжыня яго прыблізна 50 м, а шырыня – 25 м. Акружалі двор заслоны, якія віселі на абабітых меддзю слупах. Сама скінія мела выгляд прастакутніка. Яго даўжыня 15 м, шырыня 5 м і вышыня 5 м. Уваход у яе быў ад усходу.

У скініі былі два памяшканні. Пярэдняе было большае за ўнутранае і называлася «Свяцілішча». У гэтым памяшканні стаяў залаты ахвярнік, а каля ахвярніка – залаты стол. На стале ляжалі дванаццаць хлябоў. Яны называліся ахвярнымі або свяшчэннымі хлябамі. У гэтым самым памяшканні быў яшчэ і залаты свяцільнік. На ім было сем лампад. Другое ўнутранае памяшканне ад знешняга аддзялялася заслонай. У гэтым памяшканні была пастаўлена залатая «скрынка» – «каўчэг запавету» з выявамі двух залатых анёлаў. У скрынцы захоўваліся скрыжалі запавету. А на скарыжалях запавету запісаны дзесяць запаведзяў. Таму яго называлі «Святое святых».

У «Свяцілішча» дазвалялася заходзіць толькі свяшчэннікам, а ў «Святое святых» толькі першасвяшчэнніку адзін раз у год.

Калі пабудавалі новую скінію збору, Майсей асвяціў яе і свяшчэннікаў, якія павінны былі ў ёй служыць. Услед за гэтым воблака пакрыла ўсю скінію збору і слава Божая напоўніла яе. Часам воблака ўзнімалася высока над скініяй. Гэта была азнака ад Бога. І па гэтай азнацы народ выбіраўся ў дарогу ў тую прыгожую зямлю Ханаанскую, куды з Егіпта вёў іх Гасподзь.

У Бібліі скінія носіць назву «скініі збору» або «скініі адкрыцця». Вакол скініі ў час богаслужэння збіраўся народ.

ВЫХАД 40:17-38

# ВЫВЕДНІКІ Ў ХАНААНЕ

Ізраільцяне зусім блізка падышлі да зямлі Ханаанскайю Аселі яны ў пустыні Фаран. Адгэтуль Майсей выслаў са стану ў Ханаанскую зямлю дванаццаць ушанаваных мужчын. І наказаў ім: «Ідзіце на поўдзень краіны і абследуйце зямлю, якая ўжо яна, і што за народ жыве там – слабы ён ці моцны... і якая зямля, на якой жыве ён... і якія гарады... Будзьце смелыя і набярыце пладоў з тое зямлі».

Дванаццаць выведнікаў выправіліся ў дарогу. Сорак дзён яны аглядалі зямлю Ханаанскую. Перад іх вачыма раскінуліся дзівосныя сады, лугі, палі. Пабылі і ў буйных умацаваных гарадах. «Нельга нам ісці супроць народа гэтага, бо ён мацнейшы за нас», – казалі яны.

Вярнуўшыся назад, яны прыхапілі з сабою гранаты, смоквы, шмат іншай садавіны. Сярод яе вінаградная гронка была такая вялікая, што яе падвесілі на палку і так прынеслі ў стан. Выведнікі расказалі пра цудоўную краіну, дзе "цячэ малако і мёд", пра ўмацаваныя гарады, да якіх не падступіцца, і пра людзей, рослых і дужых, якіх ізраільцянам ніяк не адолець.

Яны распускалі нядобрыя чуткі і ўсякі страх. Яны забыліся, што Гасподзь абяцаў ім дапамогу. Толькі два выведнікі, Ісус Навін і Халеў, былі верныя Богу. Яны не хацелі палохаць народ, а Халеў нават упэўнена сказаў: «Пойдзем і авалодаем гэтай зямлёй, бо мы можам яе адолець». Але народ не слухаў. Ад страху пачалі плакаць і наракаць на Майсея, кажучы адзін аднаму: «Паставім сабе за начальніка іншага і вернемся ў Егіпет».

А Ісус Навін і Халеў, разадраўшы вопратку на сабе, сказалі: «Калі Гасподзь літасцівы да нас, Ён увядзе нас у зямлю гэтую і аддасць нам яе – гэтую поўную малаком і мёдам зямлю. Толькі супроць Госпада не паўставайце, і не бойцеся народу зямлі гэтай, бо ён нам застанецца на з'ядзенне: не стала ў іх абароны; а з намі Бог, не бойцеся іх».

Пачуўшы мяцежныя словы, Майсей і Аарон засмуціліся. Яны ўпалі на калені перад Госпадам. Пакуль яны маліліся, народ упарціўся, не давяраў. І Гасподзь прамовіў да Майсея: «Да якога часу гэты народ будзе раздражняць Мяне? І да якога часу ён не будзе Мне верыць, нягледзячы на Мае азнакі?» Потым Гасподзь сказаў, што Ён можа знішчыць усіх і ад Майсея развядзе і памножыць новы народ. Але Майсей упрасіў Госпада, каб Ён дараваў народу гэты грэх. Бог дзеля Майсея аблегчыў пакаранне народу. Гасподзь сказаў, што толькі іх нашчадкі ўвойдуць у абяцаную зямлю Ханаанскую. Увойдуць у яе таксама Ісус Навін і Халеў за іх непарушную веру Госпаду.

4-я Кніга Майсея. ЛІКІ 13:1-34; 14:1-30

## ПАКАРАННЕ КАРЭЯ, ДАФАНА І АВІРОНА

Гасподзь загадвае ізраільскаму народу ва ўсім слухацца Майсея. Сам Бог выбраў яго і паставіў мудра кіраваць народам. Нягледзячы на гэта, у ізраільскім стане адбылося паўстанне. Пад кіраўніцтвам Карэя, Дафана і Аўрона дзвесце пяцьдзесят чалавек падняліся супроць Майсея. Яны не хацелі болей слухаць Майсея і злосна яго папракалі за тое, што ён паставіў сябе над усімі. Калі Майсей дачуўся, ён пачаў склікаць ізраільцян, якія не былі звязаныя з паўстанцамі. Ён загадаў адысціся ад палатак Карэя, Дафана і Аўрона і не дакранацца да іх рэчаў. А потым Майсей сказаў: «З гэтага ўведаеце, што Гасподзь паслаў мяне рабіць усе справы гэтыя, а не самавольна раблю я гэта: калі яны памруць, як паміраюць людзі, і не спадзе на іх кара такая, якая спадае на ўсіх людзей, дык не Гасподзь паслаў мяне; а калі Гасподзь створыць незвычайнае, і зямля разамкне вусны свае і праглыне іх і ўсё, што ў іх ёсць, і яны жывыя сыдуць у апраметную, – дык ведайце, што гэтыя людзі пагардзілі Госпадам».

«Як толькі ён сказаў словы гэтыя, расступілася зямля пад імі. І разамкнула зямля вусны свае, і праглынула іх і дамы іх, і ўсіх людзей Карэевых і ўвесь іх набытак. І сышлі яны з усім, што ім належала, жывымі ў апраметную, і накрыла іх зямля, і зьвяліся яны з грамадства. І ўсе ізраільцяне, якія стаялі вакол іх, пабеглі ад іх ляманту, каб, казалі яны, і нас не праглынула зямля». А астатнія дзвесце пяцьдзесят чалавек паўстанцаў апаліў агонь з неба, і ўсе яны памерлі.

Так Бог паказаў усім, як страшна паўставаць супроць Яго волі.

ЛІКІ 16:1-3, 23-35

## МЕДНЫ ЗМЕЙ

Hадакучыла народу бадзяцца па пустыні. Народ зноў пачаў маладушнічаць і гаварыць супроць Бога, супроць Майсея: «Навошта нас вывелі вы з Егіпта, каб памерці нам у пустыні? Тут няма ні хлеба, ні вады, і абрыдла нашай душы гэтая нягодная ежа». За нараканні народу Гасподзь пасылае на яго ядавітых змеяў. Яны джалілі людзей, і людзі паміралі. Тады многія прыйшлі да Майсея і сказалі яму: «Саграшылі мы, калі гаварылі супроць Госпада і супроць цябе. Памаліся Госпаду, каб Ён змеяў ад нас адвёў».

Майсей пачаў маліцца Госпаду за народ. І Гасподзь яму параіў: «Зрабі сабе змея і выставі яго напаказ, і ўджалены, калі пагляне на яго, не памрэ». Майсей зрабіў вялікага меднага змея і выставіў яго перад усімі. І ўсякі ўджалены, калі глядзеў на меднага змея, не паміраў.

Як важна верыць таму, што гаворыць Гасподзь. Нам здаецца, што вылечыць штучны змей не можа, калі на яго глянуць. Але Сам Гасподзь гаворыць пра гэта. І нам Ён прапануе такі шлях як адзіны да выратавання.

Грэх падобны змяінаму ўкусу. Каб збавіцца ад грэху, трэба глянуць на распятага Ісуса Хрыста так, як глядзелі ў свой час ізраільцяне на меднага змея.

ЛІКІ 21:4-9

# ПРАРОК ВАЛААМ І АНЁЛ

Маавіцяне былі ворагамі ізраільскага народа. Яны ва ўсім зычылі ім толькі зла. Аднойчы папрасілі яны Божага прарока Валаама, каб ён прыйшоў да іх і пракляў ізраільцянаў. Але Гасподзь сказаў Валааму: «Не хадзі да іх і не праклінай гэты народ, бо ён блаславёны». Але Валаам не паслухаўся Госпада і пайшоў да маавіцян. Божы гнеў успалымнеў на прарока. Божы анёл спыніўся насупроць Валаама і заступіў яму дарогу.

Валаам ехаў на сваёй асліцы. Разам з ім былі два слугі. Раптам асліца ўбачыла на дарозе анёла з аголеным мячом. Асліца крута звярнула з дарогі ў поле. Валаам пачаў біць асліцу, каб вывесці яе на дарогу. Калі прарок працягваў яе біць, яна пачала класціся, хоць на ёй верхам і сядзеў прарок.

Тады Гасподзь учыніў цуд. Асліца загаварыла чалавечым голасам: «Што я табе зрабіла, што ты б'еш мяне ўжо трэці раз?» Гасподзь разамкнуў Валааму вочы, і ён убачыў анёла з паднятым мячом. Валаам укленчыў, нахіліўся да самай зямлі. Анёл прамовіў да Валаама: «За што ты біў сваю асліцу вось ужо тры разы? Я выйшаў табе перашкодзіць, бо твой шлях ёсць неправедны перада Мною». Валаам адказаў анёлу: «Саграшыў я, бо не ведаў, што Ты стаіш супроць мяне на дарозе. І вось, калі Табе гэта так непрыемна, дык я вярнуся». Анёл сказаў яму: «Ідзі з гэтымі людзьмі, адно гавары тое, што Я табе буду казаць».

Маавіцяне, убачыўшы Валаама, сказалі яму: «Пракляні і вымаві зло на Ізраіля». Але Валаам запярэчыў, кажучы: «Як пракляну я? Бог яго не праклінае. Як вымаўлю зло? Бог на яго зла не вымаўляе». І Валаам, замест праклёнцця, два разы блаславіў Ізраіль.

ЛІКІ 22:3-35; 23:7-20

## ІСУС НАВІН – ПЕРАЕМНІК МАЙСЕЯ

Майсей вельмі пастарэў. Бог сказаў яму, што ён скора памрэ. Перад смерцю Майсей памаліўся Богу, каб Гасподзь замест яго паставіў пераемніка, які змог бы кіраваць народам Божым, бо людзі нібы авечкі без пастуха.

Тады Гасподзь сказаў Майсею: «Вазьмі Ісуса – сына Навіна, – чалавека, у якім ёсць Дух *(Божы)*, і ўскладзі на яго руку тваю, пастаў яго перад свяшчэннікам Еліазарам і перад усім грамадствам, і дай яму настаўленне перад вачыма іх, і дай яму ад славы тваёй, каб слухала яго ўсё грамадства сыноў Ізраілевых. І будзе ён звяртацца да свяшчэнніка Елеазара, і пытацца ў яго пра рашэнне паводле ўрыма перад Госпадам і па яго слове павінны ўваходзіць ён і ўсе сыны Ізраілевы з ім, і ўсё грамадства». Майсей зрабіў так, як загадаў яму Гасподзь.

Вы напэўна памятаеце расказ «Выведнікі ў Ханаане». Адзін з двух і быў Ісус Навін. Абодва выведнікі верылі, што Бог дапаможа ізраільцянам увайсці ў Ханаан. Яны падбадзёрвалі народ, кажучы: «З намі Гасподзь, не бойцеся іх!» Пасля гэтай падзеі сорак гадоў ізраільцяне блукалі ў пустыні. Праз гэты час усе дарослыя, якія выйшлі з Егіпта памерлі, не ўбачыўшы абяцанай зямлі Ханаан. Усё адбылося так, як сказаў Гасподзь: «У гэтай пустыні і целы вашы палягуць, і ўсе вы... ад дваццаці гадоў і вышэй, усе, якія наракалі на Мяне, не ўвойдзеце ў зямлю, на якой, падняўшы руку, Я прысягаў пасяліць вас, апрача Халева, сына Іефаніна, і Ісуса, сына Навіна. Дзяцей вашых, пра якіх вы казалі, што яны з дабычай дастануцца ворагу, Я ўвяду туды, і яны зведаюць зямлю, якой вы пагарджалі... Паводле ліку сарака дзён, у якія вы аглядалі зямлю, вы прымеце пакаранне за грахі вашы сорак гадоў, год за дзень, каб вы ўведалі, што значыць быць Мною пакінутымі.

ЛІКІ 14:29-31, 34-35; 27:18-23

## НАВУКА ДЗЕЦЯМ – НЕ ЗАБЫВАЦЬ ГОСПАДА

Праз Майсея Бог наказаў народу: «Глядзіце, рабіце так, як загадаў вам Гасподзь, Бог ваш; не ўхіляйцеся ні направа, ні налева. Хадзіце па той дарозе, па якой наказаў вам Гасподзь, Бог ваш, каб жывыя былі вы, і добра было вам, і каб жылі вы доўга на зямлі той, што атрымалі ва ўладанне... Слухай, Ізраіль: Гасподзь, Бог наш, Гасподзь адзіны. І любі Госпада, Бога твайго, усім сэрцам тваім, і ўсёй душою сваёю, і ўсімі сіламі тваімі».

Майсей патрабаваў ад бацькоў, каб яны не забываліся расказаць дзецям пра цуды і азнакі ў Егіпце і падчас бадзяння ў пустыні. Ён наказваў бацькам таксама, каб іхнія дзеці не выпрабоўвалі Госпада, як гэта было з іх продкамі ў пустыні. Майсей наказваў народу: «Асцерагайцеся і не забывайце Госпада, Які вывеў вас з зямлі Егіпецкай, з дома рабства. Госпада Бога твайго бойся і Яму аднаму служы... Не ідзіце за іншымі багамі, багамі тых народаў, што будуць вакол вас; бо Гасподзь Бог твой і ёсць апякун; каб не ўспалымнеў на цябе гнеў Госпада, Бога вашага і каб Ён не пагубіў цябе на гэтай зямлі... Цвёрда пільнуйцеся запаведзяў Госпада, Бога вашага, і захоўвайце законы Яго і пастановы, якія Ён запаведаў табе. І рабі справядлівае і добрае перад вачыма Госпада...»

5-я Кніга Майсея. ДРУГАЗАКОННЕ 5:32-33; 6:4-25

# АХВЯРАПРЫНАШЭННЕ

Гасподзь вуснамі Майсея перадаў кожнаму ізраільцяніну такі наказ: «Калі ты прыйдзеш у зямлю, якую Гасподзь, Бог твой, дае табе ў надзел, ...і паселішся ў ёй: дык вазьмі пачаткаў усіх пладоў зямлі, якія ты атрымаеш ад зямлі тваёй ...і пакладзі іх у кош і ідзі на тое месца, якое Гасподзь, Бог твой, выбера, каб там прабывала Яго імя; і прыйдзі да свяшчэнніка, які будзе там у тыя дні, і скажы яму: "Сёння вызнаю перад Госпадам, Богам тваім, што я ўвайшоў у тую зямлю, якую Гасподзь дае нам, пакляўшыся аб гэтым яшчэ нашым бацькам... Дык вось, я прынёс пачаткі пладоў ад зямлі, якую Ты, Госпадзе, даў мне". І пастаў гэта перад Госпадам, Богам тваім, і пакланіся Госпаду, Богу твайму...

І радуйся, за ўсе даброты, якія Гасподзь, Бог твой, даў табе і дому твайму, ты і левіт* і прышэлец, які будзе ў цябе. Калі ты на трэці год аддзеліш усе дзесяціны ад пладоў з тваёй зямлі і аддасі левіту, прышэльцу, сіроце і ўдаве, каб яны елі ў дамах тваіх і наядаліся...

У гэты дзень Гасподзь, Бог твой, наказвае табе выконваць гэтыя пастановы і законы: захоўвай і выконвай іх ад усяго сэрца твайго і ад усёй душы тваёй. Сёння ты сказаў Госпаду, што Ён будзе тваім Богам, і што ты будзеш хадзіць шляхамі Яго і захоўваць пастановы Яго і запаведзі Яго і законы Яго, і слухацца голасу Яго. І Гасподзь абяцаў табе сёння, што ты будзеш Яго ўласным народам, як Ён казаў табе, калі ты будзеш захоўваць усе запаведзі Яго. І што Ён паставіць цябе вышэй за ўсе народы, якія Ён стварыў, у гонары, славе і пышнасці, і што ты будзеш святым народам у Госпада, Бога твайго, як Ён казаў...»

ДРУГАЗАКОННЕ 26:1-19

** Левіты былі нашчадкамі Левія, аднаго з дванаццаці сыноў Якава. Яны былі выбраны Богам на служэнне пры Яго Свяцілішчы.*

## СМЕРЦЬ МАЙСЕЯ

«Узышоў Майсей з раўнінаў Маавіцкіх на гору Нева, на вяршыню Фасгі, што насупраць Іерыхона, і паказаў яму Гасподзь усю зямлю Галаад аж да самага Дана, і ўсю зямлю Нефалімаву, і ўсю зямлю Яфрэмаву і Манасіеву, і ўсю зямлю Іудаву, аж да самага заходняга мора, і паўднёвы край, і раўніну даліны Іерыхона, горад Пальм, аж да Сігора. І сказаў яму Гасподзь: вось зямля, што з клятваў абяцаў Я Аўрааму, Ісааку і Якаву, кажучы: ”Семю твайму дам яе”. Я даў табе ўбачыць яе вачыма тваімі, але ў яе ты не ўвойдзеш. І памёр там Майсей, раб Гасподні, у зямлі Маавіцкай, па слове Гасподнім. І пахаваны ў даліне ў зямлі Маавіцкай насупроць Вефегора, і ніхто не ведае месца: дзе ён пахаваны, аж да сягоння. Майсею было сто дваццаць гадоў, калі ён памер; але зрок яго не прытупіўся, і моц у ім не вычарпалася. І аплаквалі Майсея на раўнінах Маавіцкіх сыны Ізраілевы трыццаць дзён. І мінуліся дні плачу і бедавання па Майсеі.

І не было больш у Ізраіля прарока такога, як Майсей, якога Гасподзь меў блізка пры Сабе, па ўсіх азнаках і цудах, якія паслаў яго Гасподзь учыніць на зямлі Егіпецкай над фараонам і над усімі рабамі яго і над усёю зямлёю яго, і па руцэ дужай і па вялікіх дзівосах, якія Майсей учыніў перад вачыма ўсяго Ізраіля.

І Ісус, сын Навінаў, напоўніўся духам мудрасці, бо Майсей усклаў на яго свае рукі, і слухаліся яго сыны Ізраілевы, і рабілі так, як загадаў Гасподзь Майсею».

ДРУГАЗАКОННЕ 34:1-12

# РААЎ РАТУЕ ВЫВЕДНІКАЎ

Не стала Майсея. Гасподзь з'явіўся Ісусу Навіну і сказаў: «Майсей, раб Мой, памёр; і вось, ты ўстань, перайдзі цераз Іярдан гэты, ты і ўвесь народ гэты, у зямлю, якую Я даю ім, сынам Ізраілевым. Любую мясціну, на якую ступіць нага вашая, Я даю вам, як Я сказаў Майсею... Ніхто не ўстаіць перад табою праз усе дні жыцця твайго; і як быў Я з Майсеем, так буду і з табою; не адступлю ад цябе і не пакіну цябе... Толькі будзь цвёрды і вельмі мужны і старанна захоўвай і выконвай увесь закон, які табе запаведаў Майсей, раб Мой: не адхіляйся ад яго ні направа, ні налева, каб рабіць разумна ва ўсіх пачынаннях тваіх».

Ізраільцяне падышлі да Ханаанскай зямлі. Хутка яны ўступяць у барацьбу з яе бязбожнымі жыхарамі. Ужо відны былі муры вялікага ўмацавання горада Іерыхона. Ісус Навін у гэты горад пасылае на вывед двух ізраільцян. Абодва разведчыкі спыніліся ў доме жанчыны, якую называлі Рааў. Неўзабаве нехта данёс на Рааў іерыхонскаму цару, што ў яе дом забеглі ізраільцяне. Цар загадаў знайсці іх. І слугі цара пайшлі ў дом Рааў.

Іерыхонка Рааў чула пра цуды, якія стварыў Бог ізраільцянам, і верыла, што Бог аддасць ім таксама Іерыхон, які адносіўся да абяцанай зямлі. Таму з верaю ў Бога яна прыхавала ізраільцян-выведнікаў, а слугам цара сказала, што вечарам выведнікі ад яе пайшлі. Слугі паверылі ёй і паспяшаліся на дарогу, што вяла з Іерыхона да Іярдана. Калі сцямнела, Рааў дала ізраільцянам доўгую вяроўку, і яны адзін за адным на вяроўцы і праз акно яе дома, які быў у гарадскім муры, спусціліся на зямлю. Рааў падказала ім ісці на гару і хавацца там тры дні, каб не сустрэцца з царскімі слугамі, якія за імі пагналіся.

ІСУС НАВІН 1:1-7; 2:1-16

## ПЕРАХОД ПРАЗ ІЯРДАН

На дарозе ізраільцянам трэба было перайсці раку Іярдан. Ісус Навін сказаў людзям, што Бог абяцае ім бяспечны пераход Іярдана і перамогу над сямю ханаанскімі народамі.

«Тады Гасподзь сказаў Ісусу: у гэты дзень Я пачну ўслаўляць цябе перад вачыма ўсіх сыноў Ізраілевых, каб яны даведаліся пра тое, як Я быў з Майсеем, так буду і з табою; а ты загадай свяшчэннікам, што нясуць каўчэг запавету, і скажы: як толькі ўвойдзеце ў воды Іярдана, спыніцеся ў Іярдане. І сказаў Ісус: з гэтага даведаецеся, што сярод вас ёсць Бог жывы, Які прагоніць ад вас хананеяў, і хацеяў, і явеяў, і феразеяў, і гергесеяў, і амарэяў, і іевусеяў: вось каўчэг запавету Госпада ўсёй зямлі пойдзе перад вамі праз Іярдан... І як толькі ногі свяшчэннікаў, што неслі каўчэг, пачалі апускацца ў ваду Іярдана (Іярдан жа ў дні жніва пшаніцы выходзіць з берагоў), вада, што цячэ зверху, спынілася і стала сцяною на адлегласці вялікай аж да горада Адама, што каля Цартана; а тая, што цячэ ў мора раўніны, у мора Салёнае, сышла і прапала».

Неўзабаве ўвесь ізраільскі народ пачаў пераходзіць Іярдан па сухім дне. У час іх пераходу свяшчэннікі, трымаючы ў руках каўчэг запавету, стаялі сярод высахлай рэчкі. З таго месца, дзе яны стаялі, Ісус Навін загадаў узяць дванаццаць камянёў у знак памяці пра гэты цуд. Калі ўвесь народ перайшоў Іярдан, Гасподзь сказаў Ісусу Навіну: «Загадай свяшчэннікам, што нясуць каўчэг запавета, хай выходзяць з Іярдана». Свяшчэннікі выйшлі з ракі, і вада пацякла па сваім рэчышчы. Дванаццаць камянёў, узятых з Іярдана, Ісус Навін паставіў на месцы, што называецца Галгал.

ІСУС НАВІН 3:7-17; 4:1-24

# ЗАХОП ІЕРЫХОНА

Калі ізраільцяне падышлі да Іерыхона, цар Іерыхонскі загадаў замкнуць усе вароты. Але Гасподзь сказаў Ісусу Навіну: «...Вось, Я перадаю ў рукі твае Іерыхон і цара яго і ўсіх моцных людзей, што ў ім. Абыдзіце вакол горада ўсе, здольныя да вайны, і абыходзьце горад адзін раз на дзень, і так рабі шэсць дзён. І сем сьвяшчэннікаў перад каўчэгам няхай нясуць сем труб юбілейных; а на сёмы дзень абыдзіце горад сем разоў, і сьвяшчэннікі няхай трубяць у трубы. Калі затрубіць юбілейны рог, калі пачуеце гук трубы, тады ўвесь народ хай ускрыкне гучным голасам; і сцяна горада абваліцца аж да сваёй асновы, і ўвесь народ увойдзе ў горад...

Узброеныя ішлі наперадзе сьвяшчэннікаў, якія трубілі ў трубы; а наступныя ішлі за каўчэгам, трубячы ў трубы. Ісус загадаў народу: не ўскрыквайце і не давайце чуць голасу вашага, каб ніводнае слова не выходзіла з вуснаў вашых да таго дня, пакуль я не скажу вам: "Ускрыкніце!" і тады ўскрыкнеце. Такім чынам каўчэг запавету Гасподняга пайшоў вакол горада, і абышоў адзін раз; і прыйшлі ў стан, і начавалі ў стане... І рабілі гэтак шэсць дзён... Калі сёмы раз сьвяшчэннікі трубілі ў трубы, Ісус сказаў народу: "Ускрыкніце, бо Гасподзь аддаў вам горад!.." Як толькі народ пачуў голас трубы, ускрыкнуў народ гучным голасам; і абвалілася сцяна горада аж да сваёй асновы, і народ пайшоў у горад, кожны са свайго боку, і захапілі горад».

Абодва выведнікі, што прыходзілі раней на выведы, абяцалі выратаваць Рааў і яе сваякоў. Пры штурме Іерыхона яна, як было ўмоўлена, прывязала да акна чырвоную вяроўку. Гэта быў знак. Разам са сваімі сваякамі Рааў была выратавана. Горад Іерыхон быў спалены.

ІСУС НАВІН 6:1-24

## БІТВА З АМАРЭЯМІ

Аднойчы адбылася вялікая бітва ізраільцян з амарэямі. Гэта былі заклятыя ворагі ўсяго ізраільскага народа. «І сказаў Гасподзь Ісусу: не бойся іх, бо Я аддаў іх у рукі твае: ніхто з іх не ўстаіць перад абліччам тваім. І прыйшоў на іх Ісус нечакана, таму што ішоў ён усю ноч з Гал-гала. Гасподзь навёў на амарэяў перапалох, калі яны ўбачылі ізраільцян, і нанеслі ім ізраільцяне моцнае паражэнне ў Гаваоне і праследавалі іх па дарозе да ўзвышша Вефарона, і білі іх да Азека і да Македа».

Аднак сталася так, што бітва зацягнулася. Ісус Навін памаліўся Богу, каб сонца не заходзіла і каб дзень яшчэ прадоўжыўся. Ён сказаў перад ізраільцянамі: «Стой, сонца, над Гаваонам, і поўня, – над далінаю Аіялонскаю!» Бог пачуў яго просьбу. «І спынілася сонца, і поўня стаяла, пакуль помсціў народ ворагам сваім... Стаяла сонца сярод неба, і не спяшалася заходзіць амаль цэлы дзень!»

Не было такога дня ні раней, ні пазней, бо ў той дзень Сам Бог змагаўся супроць амарэяў на баку Свайго народа. Ізраільцяне перамаглі амарэяў. Войска Ісуса Навіна вярнулася ў свой стан.

Бог сказаў Ісусу Навіну словы, якія Ён кажа кожнаму, хто ў Яго верыць: «Вось Я загадваю табе: будзь цвёрды і мужны, не страшыся і не жахайся; бо з табою Гасподзь, Бог твой, усюды, куды ні пойдзеш».

ІСУС НАВІН 10:6-15; 1:9

# ІЗРАІЛЬСКІЯ СУДДЗІ

Яшчэ да прыходу ізраільцян у Ханаане жылі розныя язычніцкія народы: хеты, гергесеі, амарэі, ферэзеі, явеі і іевусеі. Часам мы называем іх усіх хананеянамі. І за шматлікасць іхніх грахоў Гасподзь надумаў знішчыць хананеянаў. Галоўнымі багамі гэтых народаў былі Ваал і яго жонка Аштарэт. Пакланенне Ваалу суправаджалася бессаромнымі оргіямі. На так названых "вышынях" адбываліся ахвярапрынашэнні, там прыносілі ў ахвяру нават людзей.

Ізраільцяне пасяліліся на тэрыторыі Ханаана. Граніца Ханаана праходзіла, прыблізна, на поўначы ад сярэдзіны сучаснага Лівана да паўвострава Сіная на поўдні, а таксама на ўсход ад ракі Іярдан. Майсей падзяліў зямлю паміж адзінаццацю з дванаццаці родаў Ізраілевых – нашчадкаў дванаццаці сыноў Якава: Рувіма, Сімеона, Левія, Іуды, Дана, Нафаліма, Гада, Асіра, Ісахара, Завулона, Іосіфа (род Іосіфа падзяляецца на два калены двух ягоных сыноў Яфрэма і Манасіі) і Веніяміна. Род Левія не атрымаў зямлі. Лявіты былі выбраны Богам на служэнне пры Яго Свяцілішчы; а жылі яны ў гарадах, што належалі іншым родам.

На працягу 300-400 гадоў пасля прыходу ў Ханаан ізраільцяне не мелі цэнтральнай управы. Іх лучыла галоўным чынам вера ў адзінага Бога, Творцу неба і зямлі. І тым не менш яны ўпалі ў ідалапаклонства, ваявалі паміж сабою і з суседнімі народамі, якія хацелі іх знішчыць. За іх злачынства і ідалапаклонства Гасподзь гневаўся і караў ізраільцян, дапускаючы, каб іхнія ворагі – маавіцяне, аманіцяне, амалікіцяне, філістымляне, хананеяне, мадзіяніцяне, і сіданяне прыгняталі іх.

Пад ярмом гэтых народаў ізраільцяне часта былі ў стоме і апатыі. Аднак, каб дапамагчы народу, Гасподзь літасціва вылучаў з іх "суддзяў", якія ратавалі іх ад варожых рук. Пасля смерці суддзяў народ зноў упадаў у ідалапаклонства і паводзіў сябе нават горш за бацькоў наклікаючы на сябе гнеў Гасподні. Ізраільскімі суддзямі былі: Гафанііл, Аод,. Самегар, Дзевора з Варакам, Гедэон, Авімелек, Фола, Іаір, Іяфай, Есявон, Ялон, Аўдон, Самсон, першасвяшчэннікі – Ілія і Самуіл. У гэтай кнізе мы раскажам толькі пра некаторых з іх.

«У тыя дні не было цара ў Ізраіля; кожны рабіў тое, што яму здавалася справядлівым».

КНІГА СУДДЗЯЎ

## ГЕДЭОН

Пасля смерці Ісуса Навіна ізраільскі народ пачаў зневажаць Бога. Ён служыў ідалам. І Бог за гэта пакараў свой народ. На ізраільцян Ён навёў мадыяніцян, і сем год яны іх прыгняталі.

На восьмы год ізраільцяне зноў звярнуліся да свайго Госпада і паклікалі Яго на дапамогу. Бог пачуў іх галашэнне і назначыў ім новага правадыра Гедэона.

Гедэон лічыў сябе слабым, але Бог сказаў яму: «Я буду з табою, і ты разаб'еш мадыяніцян, як аднаго чалавека».

Напярэдадні паражэння мадыяніцян Гасподзь загадаў Гедэону, каб ён разбурыў ідальскія ахвярнікі, якія былі ў ягонага бацькі. Гедэон і яго дзесяць рабоў разбурылі ахвярнік Ваалу і ссеклі «свяшчэннае дрэва», якое стаяла пры ім.

Потым Дух Гасподні натхніў Гедэона, і ён пачаў збіраць супроць ворагаў Ізраіля шматлікае войска. Гедэон, папрасіў у Бога, каб Ён даў яму азнаку, што гэта ён, Гедэон, выбраны Богам для вызвалення Ізраіля. І Гасподзь даў яму азнаку: воўна, якую Гедэон паслаў у гумне, за адну ноч стала мокрай, а зямля вакол была сухая, а ў другую ноч, наадварот, зямля вакол воўны была мокрая, а воўна – сухая.

Наступнага дня Гедэон падышоў са сваім войскам да стану мадыяніцян. Але Гасподзь папярэдзіў яго: «Народу з табою вельмі многа, не магу Я аддаць мадыяніцян у рукі іх, каб не заганарыўся перада мною Ізраіль і не сказаў: "Сваёю рукой сам сябе выбавіў". Дык вось, аб'яві ўголас народу: "Хто баіцца і страшыцца, той няхай павернецца і пойдзе назад..."». Гедэон так сказаў, і дваццаць дзве тысячы вярнуліся дамоў, а дзесяць тысяч чалавек засталіся. Але Гасподзь сказаў, што народу ўсё яшчэ многа. Ён загадаў Гедэону, каб ён прывёў іх да вады і паназіраў за імі, хто і як будзе піць. Большасць з іх станавіліся на калені і пілі ваду проста з ракі. Толькі трыста чалавек хлябталі ваду з прыгаршчаў. Бог сказаў Гедэону: «Даволі трохсот чалавек, што хлябталі, Я выбаўлю вас і перадам мадыяніцян у рукі вашыя». Так яно і сталася. Гасподзь стварыў вялікі цуд. Трыста ізраільцян гналі перад сабою цэлыя полчышчы мадыяніцян і амалікіцян. А іх было так многа, «як саранчы».

КНІГА СУДДЗЯЎ раздзел 6 і 7

## АСІЛАК САМСОН

Хоць Гасподзь яўляў ізраільцянам шмат цудаў і шмат літасці, ізраільцяне ўсё роўна адыходзілі ад Госпада і нават не слухаліся Яго волі. За свае нягодныя справы яны зноў пападалі ў няласку да Госпада. А потым сорак гадоў былі пад уладай філістымлянаў. У тыя часы Гасподзь выбраў ім суддзю ў асобе Самсона. Гэта быў чалавек незвычайнай сілы, якая была ў яго валасах. Калі Самсон яшчэ не нарадзіўся, Бог паведаміў яго бацькам, каб яны не стрыглі яго нагола, бо ён будзе называцца назарэем* Божым і пачне выбаўляць Ізраіль з-пад уціску філістымлянаў.

Сіла Самсона была такая вялікая, што ён, аднойчы спаткаўшы на дарозе льва, разадраў яго, як казляня. Другога ж разу аслінай сківіцай ён забіў тысячу філістымлянаў. Ён свабодна мог разрываць самыя моцныя вяроўкі і кайданы.

Аднойчы Самсон наведаў горад Газу і там заначаваў. Філістымляне вырашылі яго там забіць. Яны зачынілі гарадскія вароты і пачалі яго падпільноўваць. Самсон прачнуўся апоўначы і надумаў уцячы з горада. Падышоў да варотаў. Але яны на замку. Не ведаючы, што зрабіць, ён вырваў гарадскія вароты разам з вушакамі і засовамі, паклаў іх на плечы і занёс на гару.

КНІГА СУДДЗЯЎ 13:1-5;14:5,6; 15:14,15; 16:3

**Назарэй, яўр. назір, «аддзелены або пасвячоны».*

## ГІБЕЛЬ САМСОНА

Дваццаць гадоў Самсон судзіў у Ізраілі. Ён не даваў спакою філістымлянам – ворагам свайго народа. Яны хацелі забіць яго. Не ведаючы, у чым яго сіла, філістымляне не маглі з ім справіцца, не маглі нічога яму зрабіць. І вось вырашылі яны выкарыстаць жанчыну, якую палюбіў Самсон. Яе звалі Даліда. Яна павінна была выведаць у Самсона сакрэт яго сілы. Даліда распытвала няраз, але Самсон не гаварыў ёй праўды. Яна неадступна кожны дзень яго ўмольвала і надакучала яму сваёй просьбай. Цяжка было ў Самсона на душы, і ён урэшце адкрыў ёй тайну, сказаўшы: ”Калі астрыгчы на галаве маёй валасы, сіла пакіне мяне і я зраблюся такі самы, як усе людзі”.

Даліда пачала дзейнічаць гвалтоўна. Яна ўсыпіла Самсона, паклікала філістымлян. Яны прыйшлі і астрыглі яму валасы. Самсон нечакана для сябе пачаў слабець. Гасподзь ад яго адступіўся.

Філістымляне звязалі Самсона двума меднымі ланцугамі, выкалалі яму вочы, прымусілі малоць у доме вязняў. Але праходзілі дні, адрасталі валасы на галаве ў Самсона, а разам з валасамі вярталася яго ранейшая сіла.

Неяк сабраліся філістымляне разам, каб прынесці ахвяру свайму богу-ідалу. Яны яго славілі і прыгаворвалі: ”Бог (г.зн. іх ідал) наш прадаў у нашыя рукі ворага і спусташальніка нашай зямлі, Самсона, які шмат каго з нашых забіў”. У той час, калі яны радаваліся і весяліліся, успомнілі пра Самсона, і захацелася ім яго паглядзець. Яны загадалі: «Паклічце нам Самсона! Няхай ён нас пазабаўляе». Самсона прывялі і паставілі яго паміж двумя слупамі, на якіх трымаўся ўвесь дом. У той момант Самсон з вялікай шчырасцю звярнуўся да Бога: «Госпадзе Божа! Успомні пра мяне і толькі цяпер умацуй мяне, о, Божа, каб мне ўраз адпомсціць філістымлянам за вочы мае». Абапёршыся на слупы, ён сказаў: «Памры, душа мая, з філістымлянамі». І абваліўся ўвесь дом, і ўсе, хто там быў, загінулі.

КНІГА СУДДЗЯЎ 16:15-30

## РУФ І НАЕМІНЬ

У далёкія часы, калі Ізраілем кіравалі суддзі, пачаўся вялікі голад на зямлі Іудзейскай. Таму адзін чалавек пакінуў са сваёй жонкай і абодвума сынамі Віфлеем, дзе ён жыў, і пасяліўся далёка ў маавіцкай зямлі на ўсход ад Мёртвага мора; «Імя таго чалавека Елімелех, імя яго жонкі Наемінь, а імёны двух сыноў яго Махлон і Хілеон... І памёр Елімелех, муж Наеміні, і засталася яна з двума сынамі сваімі. Ажаніліся яны з маавіцянкамі; імя адной Орфа, а імя другой Руф; і жылі там каля дзесяці гадоў. Але пасля і абодва яе сыны, Махлон і Хілеон, памерлі; і засталася тая жанчына пасля смерці абодвух сыноў сваіх і пасля смерці мужа свайго».

Наемінь надумала вярнуцца ў родную іудзейскую зямлю, бо дачулася, што голаду больш там няма і што Бог паслаў народу ўраджай вельмі багаты.

«І выйшла яна з таго месца, у якім жыла, і абедзве нявесткі разам з ёю. Калі яны, вяртаючыся ў Іудзейскую зямлю, былі яшчэ ў дарозе, Наемінь сказала нявесткам сваім: ”Ідзіце, вяртайцеся кожная ў дом маці сваёй. Няхай Гасподзь пашле вам ласку Сваю, як вы жылі з памерлымі і са мною! Няхай вам Гасподзь дапаможа, каб вы знайшлі прыстанак, кожная ў доме свайго мужа!” І пацалавала іх. Але яны ўзнялі лямант, і плакалі, і сказалі: ”Не, мы з табою вернемся да народу твайго”». Але Наемінь настойвала і сказала: ”Не, дачушкі мае, за вас і маё засмучэнне, бо рука Госпадняя мяне напаткала”. «Яны паднялі лямант і зноў пачалі плакаць. І Орфа развіталася са сваёю свякроўю, а Руф засталася з ёю... Але Руф сказала: ”Не прымушай мяне пакідаць цябе; я цябе не пакіну і да сваіх не вярнуся; а куды ты пойдзеш, туды і я пайду, і дзе ты жыць будзеш, там я буду жыць; народ твой будзе маім народам, і твой Бог маім Богам; і дзе ты памрэш, там і я памру... адна смерць можа разлучыць мяне з табою”. Наемінь, бачачы, што яна цвёрда надумала ісці з ёю, не стала больш угаворваць яе». Руф вельмі любіла сваю свякроў. Яна не хацела пакідаць яе адзінокаю.

Няхай жа яе ўчынак будзе нам прыкладам.

РУФ 1:1-17

## РУФ У ПОЛІ ВАОЗА

Наемінь і Руф ішлі, пакуль не прыйшлі ў Віфлеем. «Калі прыйшлі яны ў Віфлеем, увесь горад загаманіў аб іх прыходзе. Усе казалі: ”Гэта Наемінь?” Яна сказала ім: ”Не называйце мяне Наемінь, а называйце мяне Мараю, бо Усявышні наслаў на мяне вялікае гора. Я выйшла адгэтуль з набыткам, а вярнуў мяне Бог з пустымі рукамі”».

Аднаго разу Руф была ў полі сваяка Наеміні, Ваоза. Руф надумала там збіраць каласы, якія заставаліся за жнеямі.

Гаспадар дачуўся, што на яго полі збірае каласы нявестка Наеміні, якая пакінула сваіх родных і прыйшла сюды ў чужую зямлю, каб клапаціцца пра сваю свякроў. Тады паклікаў ён Руф і дазволіў ёй кожны дзень прыходзіць на яго поле. А сваім слугам ён наказаў не крыўдзіць жанчыну і пабольш пакідаць за сабой каласоў.

Аднаго дня Ваоз сказаў Руфі: «Няхай табе Гасподзь ні ў чым не адмовіць за гэты твой учынак, няхай табе будзе вялікая ўзнагарода ад Госпада, Бога Ізраілева. Ты з’явілася сюды да Яго, каб супакоіцца пад Яго крыламі!»

Добрая і ціхая Руф адказала яму так: «Хай буду я ў тваёй ласцы, пане мой! Ты парадаваў мяне і мовіў ад сэрца тваёй рабе, між тым, як я не вартая ніводнай рабыні тваёй».

Хутка Ваоз ажаніўся з Руф’ю, і яна нарадзіла яму сына. «І жанчыны казалі Наеміні: ”Блаславёны Гасподзь, што Ён вось цяпер не пакінуў цябе без нашчадка! Хай будзе імя Яго слаўнае ва ўсім Ізраіле! Ён будзе табе ўцехай і падмогай у старасці тваёй, бо яго нарадзіла нявестка твая, якая цябе любіць і якая лепшая табе за сем сыноў”. І ўзяла Наемінь дзіця гэтае і насіла яго ў абдымках сваіх, і была яму нянькаю. Суседзі далі яму імя і сказалі: ”У Наеміні нарадзіўся сын”, і далі яму імя Авід. Ён бацька Іесея, бацькі Давідавага». Давід быў вялікі ізраільскі цар, пра што яшчэ будзем чытаць.

РУФ 1:19-21; 2:1-16; 4:13-17

# МАЛІТВА АННЫ

Сярод народа ізраільскага, у горадзе Раме, жыў чалавек, якога звалі Елкана. Імя яго жонкі Анна. У яе доўга не было дзяцей. Гэта засмучала яе. Яна хадзіла заўсёды ў журбе і смутку. Кожны год у адпаведныя дні яны выбіраліся ў Сілом: там пакланяліся Госпаду і прыносілі Яму ахвяру. У Сіломе быў невялікі Гасподні храм. Калі яны прыходзілі на малітву ў храм, Анна заўсёды плакала і пасцілася. Елкана любіў сваю жонку, і яму было яе вельмі шкада.

Аднога разу, калі яны зноў наведалі ў Сіломе храм Гасподні і Анна плакала, Елкана сказаў ёй: «Анна! чаго ты плачаш, і чаму не ясі, і чаму ў журбе тваё сэрца? Ці я табе не лепшы за дзесяць сыноў?»

І ўвайшла Анна ў храм, дом Гасподні, і малілася Госпаду і горка плакала. «І дала зарок, кажучы: "Госпадзе Саваофе, калі Ты ўважыш смутак рабы Тваёй, і падарыш рабе Тваёй дзіця мужчынскага роду, то я аддам яго Госпаду на ўсе дні жыцця яго, і брытва не дакранецца галавы яго".

Тым часам, як доўга яна малілася Госпаду, Ілій глядзеў на яе вусны. І паколькі Анна гаварыла сэрцам сваім, а вусны яе не выдавалі голасу, Ілій палічыў яе за п'яную. І сказаў ёй Ілій: "Дакуль ты будзеш п'яная? Ацверазіся ад віна твайго". І адказала яму Анна: "Не, пане мой; я – ў сардэчнай журбе, віна і сікеру я не піла, але я раскрываю душу маю перад Госпадам, не палічы нягоднаю рабу тваю, бо дасюль я гаварыла ад вялікай скрухі і вялікага смутку". Тады свяшчэннік сказаў ёй: "Ідзі з мірам, і Бог Ізраілеў спраўдзіць прашэнне тваё, чаго ты прасіла ў Яго". Яна ж сказала: "Хай знойдзе раба твая ласку ў вачах тваіх!" І пайшла яна сваёй дарогай, і ела і не было ўжо ў яе на твары смутку, як раней».

Гасподзь пачуў малітву Анны, і яна нарадзіла сына.

1 ЦАРСТВАЎ 1:1-18

## АННА ПРЫСВЯЧАЕ САМУІЛА БОГУ

Свайму сыну Анна дала імя Самуіл. Калі хлопчык падрос, яна прывяла яго ў храм. І сказала свяшчэнніку Іліі: «Я – тая самая жанчына, якая тут стаяла і малілася пры табе Госпаду. Малілася я за гэтае дзіця. І Гасподзь адклікнуўся на маю просьбу. І я аддаю сына Госпаду, каб ён служыў Яму праз усе дні свайго жыцця».

Сказаўшы гэта, Анна пачала кланяцца міласэрнаму Богу. Яна дзякавала Яму і славіла Яго ў малітве, кажучы: «Узрадавалася сэрца маё ў Госпадзе!.. Я радуюся аб выбаўленні Тваім. Няма свяцейшага за Госпада; бо няма іншага, апроч Цябе. І няма цвярдыні, як Бог наш. Не памнажайце слоў ганарлівых; дзёрзкія словы няхай не ідуць з вуснаў вашых, бо Гасподзь ёсць Бог ведання, і справы Яго ўсе ўзважаны... Сляды святых Сваіх Ён захоўвае, а беззаконнікі ў цемры знікаюць, бо не сілай моцны чалавек. Гасподзь сатрэ любога, хто супроць Яго паставіцца...»

Анна пакінула маленькага Самуіла ў свяшчэнніка Іліі. Хлопчык падрастаў і ўзбагачаўся Божаю ласкай. Мама прыносіла яму новую вопратку. У гэтай вопратцы ён і служыў Госпаду.

1 ЦАРСТВАЎ 1:25-28; 2:1-10, 18, 19, 26

## ГОЛАС, ЯКІ ПАКЛІКАЎ САМУІЛА

Калі хлопчык Самуіл жыў у храме, Слова Божае ў народзе чулася рэдка і было вельмі мала прароцтваў.

«Аднойчы Ілій ляжаў у храме на сваёй пасцелі. Вочы ў яго ўжо змяжаліся, і ён амаль нічога не бачыў, хоць Божы свяцільнік яшчэ не патух. Гасподзь паклікаў Самуіла, і Самуіл адклікнуўся: "Вось я". Падбег да Іліі і сказаў: "Вось я! Ты мяне клікаў". Але той сказаў: "Я не клікаў цябе, ідзі назад і кладзіся". Ён пайшоў і лёг.

Паклікаў Гасподзь Самуіла другі раз. Ён падняўся, і зноў падбег да Іліі, і сказаў: "Вось я! Ты мяне клікаў". Але той зноў сказаў яму: "Не клікаў я цябе, сыне мой; ідзі назад і кладзіся". Самуіл не ведаў тады голасу Божага і Яму яшчэ не адкрывалася слова Гасподняе.

І паклікаў Гасподзь трэці раз Самуіла. Ён падняўся і прыйшоў да Іліі, і сказаў: "Вось я! Ты клікаў мяне". Ілій тады зразумеў, што хлопца няіначай кліча Гасподзь. І сказаў Ілій Самуілу: "Ідзі назад і кладзіся. Калі цябе зноў паклічуць, ты скажы: "Кажы, Госпадзе, бо чуе раб Твой". І пайшоў Самуіл і лёг на сваё месца. І прыйшоў Гасподзь, і стаў, і паклікаў, як у той і ў іншы раз: "Самуіл, Самуіл!" І сказаў Самуіл: "Кажы, Госпадзе, бо чуе раб Твой"».

Тады Гасподзь пачаў гаварыць яму, што Ён зробіць з домам Іліі. Яго сыны бязбожна паводзяць сябе ў храме. А Ілій бацька, закрывае на гэта вочы ў той час, як трэба яго сыноў выкрываць.

1 ЦАРСТВАЎ 3:1-14

## СМЕРЦЬ СВЯШЧЭННІКА ІЛІІ

За грахі і беззаконні Гасподзь зноў пакараў ізраільскі народ. Ён зноў аддаў яго філістымлянам.

«І выстраіліся філістымляне супроць ізраільцянаў, і адбылася бітва, і былі пераможаны ізраільцяне філістымлянамі, і было забіта на полі бою каля чатырох тысяч чалавек. І прыйшоў народ у стан; і сказалі старэйшыны ізраільскія: ”За што паразіў нас сягоння Гасподзь перад філістымлянамі? Возьмем сабе з Сілома каўчэг запавету Госпадняга, і пойдзе ён сярод нас, і выбавіць нас ад рукі ворагаў нашых”. І паслаў народ у Сілом, і прынеслі адтуль каўчэг запавету Госпада Саваофа, а пры каўчэзе запавета Божага былі і два сыны Ілii, Офні і Фінеес... І атакавалі філістымляне, і разбілі ізральцянаў, і кожны пабег у сваю палатку, і паражэнне было надта ж вялікае, і загінула ізраільцянаў каля трыццаці тысяч пешых. І каўчэг Божы быў захоплены, і два сыны Ілii, Офні і Фінеес, памерлі».

З поля бітвы ў самы горад Сілом, дзе жыў Ілій, прыскакаў вястун. Ён паведаміў аб страшным паражэнні ізраільскага войска. Гараджане, пачуўшы такую вестку, пачалі плакаць і лямантаваць. У гэты час свяшчэннік Ілій сядзеў каля гарадскіх варот пры самай дарозе. З горада далятаалі да яго крык і галашэнне. Ілій спытаў вестуна, што там такое. Вястун адказаў: ”Вялікае паражэнне ізраільцян у бітве з філістымлянамі. Захоплен Божы каўчэг, і абодва твае сыны памерлі”.

Як толькі Ілій пачуў пра Божы каўчэг, што з ім адбылося, ён упаў на зямлю ніцма і больш не падымаўся. Сорак год Ілій быў суддзёю ў Ізраілі. Памёр ён ужо знямоглым старым.

З домам Ілii адбылося так, як і сказаў Гасподзь Самуілу той ноччу, калі Ён клікаў яго. Так Ізраіль даведаўся, што Самуіл абраны быць пракам Гасподнім.

1 ЦАРСТВАЎ 4:1-18

# САУЛ – ЦАР ІЗРАІЛЯ

Самуіл стаў вялікім пракрокам сярод народу Божага. Ён заклікаў ізраільцян пакінуць чужых багоў-ідалаў і бліжэй прыступіць да адзінага жывога Бога. Мінулі гады. Самуіл састарыўся. Яго абодва сыны станавіліся на месца бацькі. І яны ўжо судзяць Ізраіль. А як судзяць? Бяруць хабар, адхіляюцца ад праўды.

Тады старэйшыны Ізраіля прыйшлі да Самуіла і сказалі яму: «Вось, ты састарыўся, а сыны твае не ходзяць па шляхах тваіх. Такім чынам знайдзі нам цара, каб ён так судзіў нас, як судзяць цары ў іншых народаў». Самуіл добра ведаў, што просьба іх не ўзгаднялася з Госпадам, і ён памаліўся Яму. Гасподзь сказаў Самуілу: «Слухай голасу народу ва ўсім, што яны гавораць табе; бо не цябе яны адхілілі, яны адхілілі Мяне, каб я не цараваў над імі. Як рабілі яны з таго дня, калі Я вывеў іх з Егіпта, і да сённяшняга дня пакідалі Мяне і служылі іншым багам, – так яны робяць і з табою. Дык вось, прыслухайся ты да голасу іх; толькі прад'яві і аб'яві ім правы цара, які будзе цараваць над імі».

Самуіл перадаў народу словы Госпада і сказаў, што калі яны выбяруць сабе цара, дык ён заняволіць іх. Яны ад яго наплачуцца, але Гасподзь не стане іх слухаць. Аднак народ не слухаў, што гаварыў Самуіл... Ён толькі патрабаваў цара.

Аднойчы да Самуіла завітаў юнак, зграбны і дужы. Звалі яго Саулам. Калі ўбачыў яго Самуіл, дык Гасподзь сказаў прароку: «Вось чалавек, пра якога Я табе казаў; ён будзе кіраваць народам Маім». Самуіл узяў сасуд з алеем і выліў алей на галаву Саула. Потым ён пацалаваў яго і сказаў: «Вось, Гасподзь памазаў цябе кіраўніком Сваіх нашчадкаў». Пасля гэтага Саул стаў царом у Ізраілі.

1 ЦАРСТВАЎ 8:1-22; 9:17; 10:1

## ПАСТУШОК ДАВІД – БУДУЧЫ ЦАР

Саула памазалі царом, а сэрца яго аказалася несправядлівым. Будучы царом, ён не заўсёды выконваў наказы Госпада. Таму аднойчы Самуіл сказаў яму: «Дрэнна ты зрабіў, што не выконваў наказаў Госпада, Бога твайго, якія былі табе дадзены; бо сягоння Гасподзь назаўсёды ўмацаваў бы цараванне тваё ў Ізраілі. А цяпер не пратрымацца царававанню твайму; Гасподзь знойдзе Сабе мужа па сэрцы Сваім, і абавяжа яго Гасподзь быць правадыром народа Свайго, бо ты не спраўдзіў таго, што табе было загадана Госпадам».

Неўзабаве Гасподзь паказаў Самуілу прыгожага і вельмі дужага юнака. Звалі яго Давід. Ён пасвіў авечкі свайго бацькі. Ён быў добры пастух і калі надаралася, што леў у статку хапаў авечку, то ён даганяў яго і вырываў яе з ільвінае пашчы.

Па Гасподнім загадзе Самуіл памазаў Давіда царом Ізраільскага народу. З таго часу Дух Божы быў пастаянна з Давідам. А потым Дух Божы адышоў ад Саула. Замест Яго ў сэрцы Саула пасяліўся дух зла і падбухторваў яго да зла. Каб хоць крыху супакоіцца, Саул загадаў слугам знайсці яму музыканта, які няблага іграў бы на гуслях. Слугі прывялі да яго Давіда, і ён пачаў служыць у палацы. Саул упадабаў Давіда і нават назначыў яго сваім збраяносцам. Калі злы дух абураў Саула, Давід браў у рукі гуслі, іграў яму. У гэты момант радасна і лёгка было Саулу на сэрцы і злы дух адыходзіў ад яго.

1 ЦАРСТВАЎ 13:13-14; 16:11-23

## ДАВІД І ГАЛІЯФ

Аднойчы філістымляне выступілі супроць Ізраіля. Ізраільцянамі камандаваў Саул. Ізраільскае войска захапіла пазіцыі на гары насупроць філістымлян.

Трое старэйшых братоў Давіда служылі ў войску Саула. Бацька паслаў Давіда ў ізраільскі стан занесці хлеб братам і даведацца аб іх здароўі і ў чым яны маюць патрэбу.

Калі Давід прыйшоў у стан ізраільскага войска, ён убачыў там вельмі рослага філістымляніна. Звалі яго Галіяфам. Ён быў увесь у меднай брані, на галаве шалом, а ў руках кап'ё са шчытом. Ён насміхаўся з Божага народу і абражаў жывога Бога. Ён ганарыста заявіў, што калі хто з ізраільцян яго пераможа, дык філістымляне будуць іхнімі рабамі. Ніхто з ізраільскага стану не асмельваўся памерацца сілай з Галіяфам. Адзін яго выгляд наводзіў страхоцце.

Давід пачуў, як ганьбіць Галіяф жывога Бога і ўсё ізраільскае войска. Ён падышоў да Саула і папрасіў цара, каб дазволіў яму выступіць супроць Галіяфа. Аднак Саул яму запярэчыў, сказаўшы: «Ты яшчэ юнак, а ён воін ад юнацтва свайго». Але Давід расказаў Саулу, як дапамагаў яму Бог перамагаць львоў і мядзведзяў, калі ён пасвіў авечкі. І Саул дазволіў яму падужацца з Галіяфам. Апрануў яго ў кальчугу, а на галаву даў медны шалом. Але не прывык Давід да такога. Усё гэта ён скінуў з сябе на зямлю, а ўзяў палку ў руку, знайшоў у ручаі пяць гладкіх камянёў, паклаў іх у пастуховую торбу і выступіў супроць філістымляніна.

Галіяф з яго насміхаўся, кажучы: «Хіба я сабака, што ты ідзеш на мяне з палкай?» Давід адказаў яму: «Ты ідзеш супроць мяне з мячом, кап'ём і шчытом, а я іду супроць цябе ў імя Госпада Саваофа, Бога войска ізраільскага, якое зневажаеш». Давід апусціў руку ў пастуховую сумку, дастаў з яе камень і кінуў яго з прашчы ў Галіяфа. Ад удара ў лоб каменем Галіяф упаў на зямлю ніцма.

Філістымляне, убачыўшы, што іх асілак забіты, пачалі хто куды разбягацца. Ізраільцяне перамаглі іх.

1 ЦАРСТВАЎ 17:1-53

## ІАНАФАН

Калі Давід прынёс паказаць Саулу галаву Галіяфа, Саул спытаўся: «Чый ты сын?» Давід адказаў: "Я – сын Іесея, што жыве ў Віфлееме". Пры гэтай гутарцы прысутнічаў Саулаў сын Іанафан. Ён ужо быў дарослы і мужны юнак. Іанафан усёй душой палюбіў Давіда і заключыў з ім сяброўскі саюз. У знак гэтага саюзу ён падарыў Давіду сваю вопратку, пас, меч, лук. Давід палюбіў Іанафана таксама.

Аднак Саулу не падабалася гэтая дружба. Калі Давід забіў Галіяфа, народ услаўляў яго. Вокліч народа: «Саул перамог тысячы, а Давід – дзесяткі тысяч» вельмі засмуціў Саула, бо ён дамагаўся толькі сваёй славы. Ад зайздрасці да Давіда Саул падбіраў момант, каб забіць Давіда. Аднойчы, калі злы дух раздражняў Саула і Давід іграў на гуслях, Саул кінуў кап'ё ў яго. Але Давід паспеў нахіліць галаву, і кап'ё засела ў сцяне.

Іанафан не любіў бацьку за яго злосны нораў. Аднойчы ён не стрымаўся і папракнуў яго: «Хай цар не саграшае супроць раба свайго Давіда; бо ён нічым не саграшыў супроць цябе, і справы яго табе вельмі карысныя. Каб паразіць філістымляніна, ён аддаваў душу сваю небяспецы, і Гасподзь даў вялікае збавенне Ізраілю. Ты бачыў гэта і радаваўся. Навошта ж ты хочаш саграшыць супроць нявіннай крыві і без прычыны пагубіць Давіда?» Спачатку Саул прыслухоўваўся да слоў свайго сына. Але так было толькі спачатку.

1 ЦАРСТВАЎ 17:57-58; 18:1-11; 19:1-6

## ДАВІД КАЛЯ ЗАСНУЎШАГА САУЛА

Саул ненавідзеў Давіда. І ў сэрцы ў Саула нянавісць гэтая з кожным днём узрастала. Неўзабаве ён задумаў расправіцца з Давідам. Іанафан даведаўся пра гэта і перадаў Давіду, свайму любімаму другу. Тады Давід уцёк ад Саула. Ён сабраў сабе воінаў, адданых яму людзей, і схаваўся з імі ў гарах. Саул са сваім войскам праследаваў Давіда пастаянна, але Бог быў на баку Давіда. Таму Давід ніяк не пападаўся ў рукі Саулу. Давіду Саул, наадварот, не раз пападаўся. Як лёгка было Давіду прыкончыць Саула, але ён баяўся Бога.

Аднойчы Саул сабраў атрад, каля трох тысяч адборных ізраільцян і рашыў знайсці Давіда. На адным узвышшы Саула прыхапіла ноч. Ён загадаў воінам спыніцца і дачакацца раніцы. Давід і яго друг Авеса, калі ўсе спалі, прабраліся ноччу праз ахову цара. Ва ўзгалоўя цара, што спаў, уваткнутае ў зямлю кап'ё. Авеса сказаў Давіду: «Дазволь мне ўзяць кап'ё і забіць ім Саула». Але Давід забараніў падымаць руку на цара. Гэта ж памазанец Божы. Настане дзень, і Гасподзь Сам яго пакарае. Яны ўзялі кап'ё Саула, яго збан з вадою і адышлі.

Раніцай Давід узышоў на вяршыню гары, насупроць таго ўзвышша, дзе быў цар. Звонкім голасам Давід паклікаў Саула. У дадатак ён паказаў яму рэчы, якія мінулай ноччу былі ў яго ўкрадзены. Саул зразумеў, што ў Давіда быў зручны момант адпомсціць яму, Саулу, але Давід ім не пакарыстаўся. Тады ён прызнаўся: «Саграшыў я; вярніся, сыне мой Давід, я не буду болей рабіць табе зла, бо душа мая была табе дарагая; глупства я ўчыніў і вельмі шмат награшыў». Саул абяцаў Давіду, што ён не будзе больш яго праследаваць, але нянавісць Саула да Давіда так і засталася нянавісцю. Саул не прасіў Бога, каб ён дапамог выправіць сэрца.

1 ЦАРСТВАЎ 20:1-43; 26:2-21

## ДАВІД – ЦАР УСЯГО ІЗРАІЛЯ

Аднога разу з царскага войска прыйшоў да Давіда чалавек і паведаў яму, што ў бітве з філістымлянамі загінулі Саул і ягоны сын Іанафан. Чалавек думаў, што Давід узрадуецца, бо Саул яго вораг. Ён прынесіў Давіду нямала бяды і гора. Але Давід усё як бы адразу забыў. З вялікім засмучэннем ён праспяваў песню жальбы па Сауле і Іанафане: «Саул і Іанафан, улюбёныя і пагаднёныя ў сваім жыцці, не разлучыліся і ў сваёй смерці. Хутчэйшыя за арлоў, дужэйшыя за ільвоў. Ізраільцянкі! Аплаквайце Саула. Ён вас адзяваў у пурпуры з аздобамі, дастаўляў на адзенне вам залатыя акрасы. Як моцныя ўпалі яны на поле бітвы. Смутак мой па табе, мой браце Іанафане. Які ж быў ты мне дарагі; а любоў твая была мне вышэй за любоў да жанчыны...»

Так аплакваў Давід іх смерць... Потым ён па загадзе Госпада перабраўся ў горад Хеўрон і там пасяліўся. Неўзабаве яго наведалі там некалькі іудзеяў. Яны памазалі яго царом у Іудзеі – паўднёвай частцы Ізраіля. Мінула сем гадоў з палавінай, і Давід ужо цар над усім Ізраілем. Бог здзейсніў усё, што Ён абяцаў яму праз прарока Самуіла.

2 ЦАРСТВАЎ 1:1-4, 23-27; 2:1-4

## КАЎЧЭГ ЗАПАВЕТУ БОЖАГА Ў ІЕРУСАЛІМЕ

Калі Давід стаў царом над усім Ізраілем, ён асталяваўся ў Іерусаліме. Бог бласлявіў Давіда як цара, даў яму мудрасць і сілу, каб перамагаць усіх ворагаў Ізраіля.

Давід любіў Госпада і хацеў мець святы каўчэг запавету Божага ў сталіцы свайго царства. Сабраўшы мноства народу, ён накіраваўся ў Кірыят-Іарым. Там у чалавека, якога звалі Амінадаў, быў каўчэг пасля таго, як філістымляне вярнулі яго Ізраілю. Калі каўчэг унеслі ў Іерусалім, дык радасці і шчасцю Давіда не было канца. Славячы Бога, ён іграў на арфе і танцаваў. Народ, гледзячы на свайго цара, таксама славіў Бога воклічамі, трубіў у трубы. Каўчэг устанавілі пасярод скініі, якую пабудаваў Давід. Пачалося ахвяраванне і ўсеспаленне Госпаду. Імем Госпада Саваофа Давід бласлявіў народ, раздаваў яму хлеб, аладкі і смажанае мяса.

Бог абяцаў Давіду замацаваць за Давідам яго царскі дом, сказаўшы: «Я буду яму Айцом, а ён будзе Мне сынам; і калі ён саграшыць, Я пакараю яго жазлом мужоў і ўдарамі сыноў чалавечых, але ласкі Маёй не адбяру ў яго, як Я адабраў у Саула, якога Я адверг перад аблíччам тваім. І будзе твой дом непераможны і царства тваё навекі перад аблíччам Маім, і прастол твой праз вякі ўстоіць». Гэтыя словы Божыя перадаў Давіду прарок Нафан. Пачуўшы гэта, Давід стаў перад Госпадам і пачаў маліцца: «Хто я, Госпадзе, Госпадзе, і што такое дом мой, што Ты мяне так узнёс!.. Ты ва ўсім вялікі, Госпадзе мой, Госпадзе. Бо няма Табе падобнага і няма Бога, акрамя Цябе... І цяпер, Госпадзе Божа, сцвярдзі навечна слова, якое Ты вымавіў пра раба Твайго і пра дом яго і спраўдзі тое, што Ты сказаў...»

2 ЦАРСТВАЎ 6:2-19; 7:14-16, 18-29

## ПСАЛМЫ ДАВІДА

Давід яшчэ пастухом палюбіў іграць на арфе і спяваць псалмы. Ён складаў іх сам. Будучы вялікім царом, ён стварыў песні, якія выконвалі спевакі і народ дзеля славы Госпаду.

У Свяшчэннай кнізе Бібліі ёсць нямала псалмаў Давіда. Яны натхняюць любіць Госпада і ўслаўляць Яго імя.

Давід добра ведаў, як патрэбен авечкам добры пастух – пастыр, бо сам ён клапаціўся пра авечак. Таму ў адным з сваіх псалмаў ён спявае:

«Гасподзь – Пастыр мой;
я ніякай нястачы не мецьму.
Ён пасвіць мяне на пашах зяленых,
на ціхія воды водзіць мяне.
Ён душу маю ўмацоўвае
кіруе мяне на шляхі праўды
дзеля імя Свайго.
Калі я пайду далінаю смяротнага ценю,
не ўбаюся злога,
бо Ты са мною; жазло Тваё і посах Твой – супакояць
мяне.
Ты перада мною паставіў трапезу
на вачах у маіх ворагаў.
Намасціў алеем галаву маю;
чаша мая перапоўнена.
Так, ласка і літасць хай будзе са мною
ва ўсе дні жыцця майго,
і я буду ў доме Гасподнім многія дні».

ПСАЛОМ 22

# ПРАРОК НАФАН ПЕРАД ДАВІДАМ

Давід любіў Госпада. Ва ўсім Яго слухаўся. Але сатана сачыў за Давідам, як сочыць ён за кожным чалавекам. Сатана падбухторыў Давіда на зло. Давід саграшыў вялікім грахом.

Неяк вечарам ён узышоў на дах свайго дома, каб крыху прагуляцца. Адтуль ён убачыў жанчыну. Яе звалі Вірсавія. Ён пакахаў яе. Але ажаніцца з ёю не мог. Яна ўжо была замужам. Сатана навязаў Давіду нядобрыя думкі. Давід выслухаў яго параду, і паслаў мужа Вірсавіі на вайну, ды ў такое небяспечнае месца, з якога дамоў ён ужо не вярнуўся. Неўзабаве Давід ажаніўся з Вірсавіяй.

Гасподзь усё гэта бачыў і паслаў Нафана, прарока, да Давіда. Нафан пачаў з такой гісторыі: «У адным горадзе жылі два чалавекі: адзін багаты, а другі – бедны. У багатага было шмат дробнай і буйнай хатняй жывёлы, а ў беднага не было нічога, акрамя адной авечкі, якую ён купіў яшчэ ягнём і выкарміў яе, і яна ўзгадавалася разам з ягонымі дзецьмі, ела хлеб ягоны і піла з чашы ягонай, і на грудзях у яго спала і была ў яго за дачку. Багатага наведаў вандроўнік, і ён не пажадаў узяць на абед госцю са сваіх авечак ці валоў, а ўзяў адзіную авечку бедняка».

Давід, выслухаўшы гэты расказ, гнеўна ўскрыкнуў: «Смерці варты чалавек, які зрабіў такое. І за авечку ў чатыры разы больш няхай заплаціць, і за тое, што ён зрабіў гэтак, і за тое, што не меў спачування».

Тады Нафан сказаў Давіду: «Ты – той чалавек...» Прарок паказаў злую справу Давіда. І Давід зразумеў яго і сказаў: «Саграшыў я перад Госпадам». Давід раскаяўся, і Нафан сказаў яму: «Гасподзь дараваў табе грэх; ты не памрэш. Але як ты гэтай справай даў падставу ворагам Госпада ганьбіць, таму памрэ твой сын, што ад цябе народзіцца». Такім чынам, грэх Давіда быў дараваны, але кары за яго Давід не пазбег.

У сувязі з гэтым Давідам быў створаны псалом пакаяння, у якім ёсць такія словы: «...Абмый мяне, і болей за снег адбялюся... чыстае сэрца ўцвердзі ўва мне, Божа, і дух справядлівы ўзнаві ўва мне».

2 ЦАРСТВАЎ 11:2-17; 12:1-14; ПСАЛОМ 50:9,12

# ГІБЕЛЬ АВЕСАЛОМА

Авесалом – адзін з сыноў Давіда. Ганарлівы малады чалавек, прыгажун: меў густыя доўгія валасы. Але ў яго было ліслівае, злое і пыхлівае сэрца. Ён не баяўся Бога. Ён не любіў свайго бацькі. Надумаўся авалодаць яго царскім прастолам. Сярод ізраільцян Авесалом быў у пашане. Ашуканец, крывадушны, няшчыры, з фальшываю дабрынёю і клопатам – вось такі і быў Авесалом. Заманьваў да сябе наіўных, нявопытных і ўсіх, хто хацеў ля яго пажывіцца. Давід сабраў войска, пакінуў палац, Іерусалім і схаваўся ў пустэльным месцы. І ўсё гэта праз свайго роднага сына.

Авесалом даведаўся, дзе бацька. Ён, сабраўшы сваё войска, пайшоў у той горад. Давід пасылае супроць Авесалома свой атрад. Загадвае ён не рабіць нічога злога Авесалому і жыццё захаваць яму. Давід любіў Авесалома, хоць ён нарабіў бацьку нямала бяды і няшчасця.

Войскі Авесалома і Давіда сутыкнуліся ў лесе. Бог дапамог войску Давіда, і яно перамагло войска Авесалома. Хто куды ўцякалі і разбягаліся. На муле ўцякаў і сам Авесалом. Ехаў ён міма вялікага дуба і зачапіўся за яго галіны валасамі. Калі мул пабег, Авесалом павіс на дрэве. Ногі яго зямлі не даставалі. Убачыўшы гэта, правадыр Давідавага войска прастрэліў царскаму сыну сэрца і забіў яго.

Давід даведаўся, што і як адбылося. Агарнуў яго жаль. Ён плакаў і прыгаворваў: «Сыне мой, Авесалом, сыне мой, сыне мой Авесалом! О, хто мне даў бы памерці замест цябе, Авесалом, сыне мой, сыне мой!» Давід сам хацеў бы памерці, каб толькі сына ўбачыць жывым.

Бог пакараў Авесалома. У Бібліі сказана так: «Хто ліхасловіць свайго бацьку і сваю маці, свяцільня таго патухне сярод вялікай цемры».

2 ЦАРСТВАЎ 14:25, 26; 15:1-6; 18:2-14, 32, 33
КНІГА ПРЫТЧАЎ 20:20

## МУДРЫ ЦАР САЛАМОН

Гасподзь прызначыў царом Ізраіля пасля смерці Давіда яго сына Саламона. Аднога разу ў сне з'явіўся Бог Саламону і сказаў, што Ён пашле яму ўсё, чаго ён толькі папросіць. І Саламон, ведаючы, як цяжка быць харошым і справядлівым царом, папрасіў у Госпада мудрасці. І Гасподзь яму сказаў: «За тое, што ты прасіў мудрасці, а не прасіў сабе доўгага жыцця, не прасіў сабе багацця, не прасіў сабе душаў ворагаў тваіх, а прасіў сабе розуму, каб умець судзіць, Я даю табе ўсё гэта. Даю табе Я сэрца мудрае і разумнае... І чаго ты не прасіў, Я таксама даю табе: і багацце, і славу і не будзе падобнага табе паміж царамі праз усе твае дні. А калі ты будзеш хадзіць Маімі шляхамі і захоўваць Мае пастановы і запаведзі Мае так, як твой бацька Давід, Я прадоўжу і дні жыцця твайго».

Аднойчы Саламона наведалі дзве жанчыны. Яны спрачаліся за малое дзіця. Адна і другая казалі, што гэтае дзіця яе. Каб знайсці сапраўдную маці, Саламон загадаў дзіця рассячы на дзве палавіны. Вядома, ён і не думаў забіваць дзіцяці, але сказаў усё гэта для выпрабавання. Тады адна жанчына сказала: ”Сячыце дзіця, няхай не будзе ні мне, ні табе”. Другая ж, пачуўшы такі загад, ускрыкнула: ”Аддайце лепей дзіця другой, толькі не забівайце яго”.

Так Саламон даведаўся, хто ўсё-такі сапраўдная маці. Сваё дзіця родная маці на смерць не аддасць. І нам Гасподзь, калі мы ў Яго просім, дае мудрасць. Хіба не Ён сказаў: «Прасіце, і вам дадуць».

3 ЦАРСТВАЎ 3:5-28

# ХРАМ БОЖЫ

Бог сказаў Давіду, што яго сын пабудуе Гасподні дом. Ён будзе называцца храмам Божым. І слава і прысутнасць Божая завітаюць у яго і будуць у ім жыць.

Саламон здзейсніў усё, што Гасподзь гаварыў яго бацьку. Ён пабудаваў Госпаду раскошны храм. Сцены храма былі пазалочаныя. Калі свяцілі лампады, пазалота пералівалася і зіхацела. Вакол храма – вялікі двор, а вакол двара – каменная сцяна. На двары стаялі дзесяць медных умывальнікаў. Яны служылі для абмывання ахвярнай жывёлы. Сярод іх асабліва выдзяляўся адзін самы вялікі ўмывальнік, уладкаваны на дванаццаці медных у выглядзе валоў скульптурах. Вадою, запоўненай да яго краёў, абмываліся свяшчэннікі. На двары стаяў яшчэ вялікі медны ахвярнік.

У храме было месца з назвай «давір» (свяцілішча). Яно было абкладзена чыстым золатам і прызначалася для каўчэга запавету. Перад давірам стаяў залаты ахвярнік, на ім курылі фіміям. Пазалочаныя і выраблены з аліўкавага дрэва два анёлы-херувімы былі пастаўлены ў давіры. Херувімы былі такой велічыні, што крыло аднаго з іх дакраналася адной, а крыло другога – другой сцяны храма. Астатнія крылы херувімаў злучаліся пасярэдзіне храма.

На сценах храма – выявы херувімаў, пальмы і кветкі. Падлога ў храме таксама была пазалочаная.

3 ЦАРСТВАЎ 6:14-36

## САЛАМОН МОЛІЦЦА Ў ХРАМЕ

Калі храм быў пабудаваны, свяшчэннікі прынеслі каўчэг запавету Божага і ўстанавілі яго ў давіры – месцы, якое называецца Святое святых. І сюды ўжо ніхто не мог уваходзіць апрача свяшчэнніка, які ўваходзіў раз у год і прыносіў ахвяру як за свае, так і за грахі народа. Уваход у Святое святых закрывала вялікая заслона.

Як толькі каўчэг запавету ўносілі ў храм, свяшчэннік і спевакі праслаўлялі Творцу, і Сам Гасподзь паяўляўся ў воблаку. Увесь храм напаўняўся Яго славай. Тады Саламон, стаўшы перад ахвярнікам наперадзе народа, падняў у неба свае рукі і сказаў:

«Госпадзе, Божа Ізраілеў! Няма падобнага Табе Бога на нябёсах угары і на зямлі ўнізе; Ты захоўваеш запавет і літасць да рабоў Тваіх, якія Табе адданыя ад усяго сэрца... Няўжо Богу на самай справе жыць на зямлі? Неба і неба нябёсаў не ўмяшчаюць Цябе, тым меней гэты храм, які я пабудаваў. Але прыслухайся да малітвы раба Твайго і ягонае просьбы, Госпадзе, Божа мой. Пачуй вокліч і малітву раба Твайго, якою раб Твой моліць Цябе сягоння. Наглядай за гэтым храмам днём і ноччу, за месцам, пра якое Ты сказаў: "Імя Маё будзе там". Пачуй малітву, якою будзе маліцца раб Твой на месцы гэтым... Наглядай за малітвай раба Твайго і за малітвай Твайго народу Ізраіля, каб чуць іх заўсёды, калі яны будуць Цябе заклікаць».

3 ЦАРСТВАЎ 8:3-11, 22-52

# САЛАМОН І ЦАРЫЦА САЎСКАЯ

Біблейскі тэкст апавядае таксама пра царыцу Саўскую. Мяркуецца, што царства яе было ў паўднёва-заходнай Аравіі, прыблізна на тэрыторыі сучаснага Йемена.

«Царыца Саўская, дачуўшыся пра славу Саламона ад імя Госпада, прыйшла і выпрабоўвала яго загадкамі. І ўехала яна ў Іерусалім з вельмі вялікім багаццем: вярблюды былі наўючаны пахошчамі і вялікім мноствам золата і дарагімі камянямі; і прыйшла да Саламона і гутарыла з ім пра ўсё, што было ў яе на сэрцы. І растлумачыў ёй Саламон усе яе словы, і не было нічога незнаёмага і невядомага цару, чаго ён не растлумачыў бы ёй. Упэўнілася царыца Саўская, што Саламон мудры, і ўбачыла яна дом, які ён збудаваў, і страву на стале яго, і жыллё рабоў яго, і статнасць праслугі яго, і адзенне іх, і віначэрпаў яго, і ўсеспаленні яго, якія ён у храме Гасподнім прыносіў. І не магла яна больш утрымацца, каб не сказаць цару: "Слушна тое, што я чула ў сваёй зямлі пра твае справы і тваю мудрасць; але я словам не верыла, пакуль не прыйшла і не ўбачыла на свае вочы: а мне вось і паловы не сказана. Мудрасці і багацця ў цябе болей, чым я чула. Шчаслівыя людзі твае і шчаслівыя гэтыя слугі твае, якія стаяць заўсёды перад табою і адчуваюць мудрасць тваю! Хай будзе блаславены Гасподзь, Бог твой, Які багаславіў цябе на прастоле Ізраіля! З вечнай любові Сваёй да Ізраіля Гасподзь паставіў цябе царом, каб суд і праўду чыніць".

І яна падарыла цару сто дваццаць талантаў золата і вялікае мноства пахошчаў, і каштоўных камянёў; ніколі яшчэ не прывозілі столькі пахошчаў, колькі падарыла царыца Саўская цару Саламону...

І карабель... прывёз... вялікае мноства чырвонага дрэва і каштоўных камянёў. І зрабіў цар з гэтага чырвонага дрэва парэнчы ў храме Гасподнім і ў доме царскім, і гуслі і псалтыры спевакам. Да гэтага дня было невядома, каб завозілі калі-небудзь столькі чырвонага дрэва. І цар Саламон адарыў царыцу Саўскую. Атрымала яна ўсё, што хацела і чаго прасіла, апрача таго, што падарыў ёй цар Саламон сваімі рукамі. І вярнулася яна назад у зямлю сваю, яна і ўсе слугі яе».

3 ЦАРСТВАЎ 10:1-13

## САЛАМОН АДПАДАЕ АД БОГА

Калі яшчэ будаваўся храм, Бог сказаў Саламону: «Калі ты будзеш жыць па Маіх законах, выконваць Мае пастановы і захоўваць усе Мае запаведзі, жывучы паводле іх, праз цябе будзе спраўджана слова Маё, што Я сказаў Давіду, бацьку твайму, і буду жыць сярод сыноў Ізраілевых і не пакіну народу Майго Ізраіля». У пачатку Саламон ад усяго сэрца выконваў Божыя запаведзі.

Але мінулі гады, і Саламон, калі пастарэў, пачаў шукаць не Божай, а чалавечай славы. А пражыў ён працяглае жыццё. Ажаніўся са многімі жанчынамі-язычніцамі. Усе яны пакланяліся ідалам. І не ведалі яны жывога Бога. Многія жонкі зрабілі Саламона прыхільнікам язычніцкага ідалапаклонства. Саламон пабудаваў нават ахвярнік іхнім ідалам. Страшна нават падумаць, што гэта зрабіў Саламон, які ведаў ісціну і жывога Бога.

Сэрца Саламона аддалілася ад Госпада Бога. Саламон папаў пад гнеў Божы, нягледзячы на папярэджанні Госпада. Два разы Гасподзь папярэджваў Саламона, і ўсё без ніякага выніку. Саламон ва ўсім патураў сваім жонкам. І Гасподзь сказаў Саламону: «За тое, што так у цябе робіцца і ты не захаваў ні Майго запавету, ні Маіх законаў, якія табе Я запавядаў, Я адбяру ў цябе царства і аддам рабу твайму. Але пры тваім жыцці Я не зраблю гэтага, не зраблю дзеля Давіда, твайго бацькі; з рук сына твайго вырву яго. І не ўсё царства вырву; адно калена Я аддам сыну твайму дзеля Давіда, раба Майго, і дзеля Іерусаліма, які Я абраў».

Так і здарылася. З-за грахоўнасці цара краіна раздзялілася на дзве часткі, і пачаліся міжусобныя войны.

3 ЦАРСТВАЎ 6:12-13; 11:1-13

# ПАДЗЕЛ ЦАРСТВА

Слаўнае Ізраільскае царства існавала толькі 120 гадоў. У гэтым царстве былі царамі Саул, Давід і Саламон па сорак год кожны. Пасля смерці Саламона царства падзялілася на Ізраільскае і Іудзейскае. Адбылося гэта так: у Сіхеме сабраліся ізраільцяне на сход, каб узвесці на прастол Раавама, сына памерлага цара Саламона. У сувязі з гэтым увесь народ ізраільскі на чале з Іераваамам прыйшлі да Раваама і сказалі яму: «Бацька твой усклаў на нас цяжкае ярмо, ты ж палегчы нам цяжкую працу бацькі твайго, палегчы і ўскладзенае на нас ярмо цяжэрнае, і тады мы будзем служыць табе».

Цар Раваам пачаў раіцца са старымі, што пры двары служылі і пры жыцці бацькі яго Саламона, і яны параілі яму: «Калі ты ў гэты дзень станеш прыслужваць гэтаму народу, і ўслужыш яму і задаволіш яго, і будзеш гутарыць з ім ласкава, дык яны будуць рабамі тваімі праз усе дні». Але Раваам парадай старых пагардзіў і параіўся з маладымі, якія разам з ім узраслі і якія яму патуралі. Яму далі яны вельмі благую параду: «Так скажы гэтаму народу: ”Мой мезенец таўсцейшы за сцягно бацькі майго. Дык вось, калі бацька мой вас абцяжарваў цяжкім ярмом, дык я пабольшу ярмо вашае, бацька мой вас караў бічамі, а я буду вас караць скарпіёнамі” ...І стала вядома ўсім ізраільцянам, што цар не паслухаўся іх».

Ізраіль, як нам вядома, складаўся з дванаццаці родаў у адпаведнасці з дванаццаццю сынамі прабацькі Якава. Выслухаўшы новага цара Раваама, дзесяць родаў паўсталі супроць яго, аддзяліліся і выбралі сабе за цара Іераваама. У Свяшчэнным Пісанні царства яго носіць назву Ізраільскага. Яго называюць яшчэ і Паўночным царствам, бо землі, якія ўваходзяць у царства, складаюць паўночную частку былога Ізраіля. Сталіцай гэтага царства быў спачатку Сіхем, пасля Фірца, а пад канец Самарыя. Ізраільскае царства існавала прыблізна 200 гадоў і знішчана было ў 721 годзе да нараджэння Хрыста асірыйскім царом Саламанасарам.

Раваацу, сыну Саламона, засталіся вернымі толькі род Іуды і частка роду Веніяміна. Утварылі яны Іудзейскае царства альбо проста Іуду. Гэта была паўднёвая частка былога Ізраільскага царства ў часы Саламона, таму яго называлі яшчэ Паўднёвым царствам. Сталіцай яго быў Іерусалім. Іудзейскае царства існавала каля 300 год і было за 586 гадоў да нараджэння Хрыста разбурана Вавілонам.

3 ЦАРСТВАЎ раздзел 12

## ІУДА – ПАЎДНЁВАЕ ЦАРСТВА

Іуда альбо Паўднёвае царства існавала, прыкладна, тры стагоддзі з паловай, на 135 гадоў больш за царства Паўночнае.

У Паўночным царстве змянілася дваццаць цароў: Равам, Авія, Аса*, Іасафат*, Іарам, Ахозія, царыца Гафолія, Іаас*, Амасія*, Азія (Азарыя)*, Іафам*, Ахаз, Езекія*, Манасія, Амон, Іосія*, Іахаз, Іаакім*, Іехонія і Седэкія.

Хоць большасць паўднёвых цароў адступіліся ад Гоепада Бога, пакланяліся ідалам і выбралі грахоўныя шляхі, аднак некаторыя не адыходзілі ад жывога Бога. У часы панавання асобных цароў, напрыклад, Езекіі і Іосіі, у Паўднёвым царстве адбываліся вялікія абуджэнні, калі самі цары разбуралі храмы ідалаў, загадвалі народу чытаць Слова Божае, ухіляцца ад усяго ліхога, шанаваць усе законы, запаведзі, наказы і абрады, якія Гасподзь Бог ім запаведаў.

Насельніцтва Іудзейскага царства меншае за Ізраільскае ў шэсць разоў. У параўнанні з іншымі народамі адно і другое царствы былі невялікія. І хоць ваявалі яны між сабою, але галоўнымі ворагамі іх былі язычніцкія народы: на поўначы Сірыя (Арам), на ўсходзе – магутныя дзяржавы Асірыя і Вавілон, на паўднёвым заходзе – філістымляне і на паўднёвым усходзе – Мааў.

Іудзея і Ізраіль перамагалі ў баях, пакуль яны былі верныя Госпаду Богу. Калі народ і цары жылі ў беззаконні, Гасподзь насылаў кару, перадаючы іх у рукі ворагаў. Аднак Гасподзь за гэтым народам сачыў пастаянна аж па сённяшні дзень: «Ён знайшоў яго ў пустыні, у стэпах маркотных і дзікіх; даглядаў яго, ахоўваў яго, як зрэнку вока Свайго». (Другазаконне 32:10)

** Імёны набожных цароў адзначаны зорачкай.*

# ІЗРАІЛЬ – ПАЎНОЧНАЕ ЦАРСТВА

Гэтае царства існавала болей двухсот гадоў. На прастоле перабыло дзевятнаццаць цароў: Іераваам, Нават, Вааса, Іла, Замврый, Амврый, Ахаў, Ахозія, Іарам, Іiуй, Іаахаз, Іаас, Іераваам II, Захарыя, Селум, Менаім, Факій, Факей і Осія. Гісторыя гэтага царства надта крывавая. Яно пастаянна ваявала з Іудзейскім царствам і іншымі народамі. Цароў забівалі іхнія ж сыны і блізкія, каб захапіць уладу ў свае рукі. У сувязі з гэтым на прастоле Паўночнага царства змянілася дзевяць дынастый, г.зн. сямейных адгалінаванняў. Затое ў Паўднёвым царстве была толькі адна дынастыя – дынастыя цара Давіда.

Ізраільскі народ нямала цярпеў матэрыяльна і духоўна. Цары Паўночнага царства рабілі «нядобрае перад вачыма Гасподнімі». Яны адступілі ад шляхоў Божых, учынялі распусту, былі бязбожныя, у іх царстве расквітнела амаральнасць і ідалапаклонства. Бязбожныя цары Паўночнага царства ўцягнулі за сабой у грэх і ўвесь народ. Ужо пры першым цары Іераваame народ пачаў пакланяцца ідалам. Вось як гэта было: «І мовіў Іераваам у сэрцы сваім: ”Царства можа зноў перайсці да дома Давідавага; калі народ гэты будзе хадзіць у Іерусалім і там у доме Гасподнім будзе прыносіць ахвяры, дык сэрца народа гэтага звернецца да ўладара свайго, Раваама, цара Іудзейскага; і заб’юць яны мяне, і вернуцца да Раваама, цара Іудзейскага”. І, параіўшыся, цар зрабіў двух залатых цяльцоў і сказаў народу: ”Не трэба вам хадзіць у Іерусалім; вось багі твае, Ізраіль, якія вывелі цябе з зямлі Егіпецкай”. І паставіў аднаго ў Вефіле, а другога ў Дане. І прывяло гэта да граху». Апрача залатога цяльца, народ яшчэ пачаў пакланяцца ідалу Ваалу.

У тыя часы ў гэтым царстве жыў і прарок Божы, Ахія. Ён прарочыў супроць Іеравaама і яго царства: «Так кажа Гасподзь, Бог Ізраілеў: ...Ты рабіў горш за ўсіх, што былі раней за цябе, і пайшоў, і зрабіў сабе іншых багоў і балванаў, каб раздражніць Мяне; Мяне ж адкінуў назад; за гэта Я нашлю беды на дом Іераваамаў...» Так яно і адбылося.

3 ЦАРСТВАЎ раздзелы 12 і 14

# ПРАРОК ІЛІЯ

Міналі гады, і змяняліся цары. Аднойчы ў Ізраілі на прастол узышоў Ахаў – самы бязбожны цар. Да яго ў Ізраілі не было падобнага. У Ахава была жонка-язычніца. Называлі яе Іезавель. Яна пераканала мужа пакланяцца Ваалу, пабудаваць яму храм і знішчыць тых, што пакланяліся праўдзіваму Богу.

У той час у Ізраілі жыў Ілія – верны Божы прарок. Ён заклікаў усіх вярнуцца да жывога Бога.

Ахаў і Іезавель узненавідзелі Ілію. Яны замахнуліся на яго жыццё. Ілія абуджаў чалавечае пакаянне ў сэрцах. Ён быў сведкам таго, як ізраільцяне пакінулі жывога Бога, як пачалі яны пакланяцца мёртвым ідалам. За гэта Бог насылаў кары. Па слове Іліі па ўсёй Ізраільскай зямлі не выпала ніводнай кроплі дажджу. Так працягвалася тры гады з паловай. Стала вялікая суша. Ахаў шукаў Ілію і хацеў яго пакараць. Гасподзь сказаў Іліі асцерагацца Ахава. Гасподзь падказаў яму і месца, дзе ён павінен схавацца. Гэта была пустыня каля патоку. Бог загадаў груганам прыносіць прароку хлеб і мяса штодня раніцай і вечарам. Смагу ён спатольваў вадою з патоку.

Гасподзь літуе кожнага, хто любіць Яго і ў любых умовах спадзяецца на Яго дапамогу.

3 ЦАРСТВАЎ 17:1-6

# УВАСКРЭСЕННЕ ЎДОВІНАГА СЫНА

Праз некаторы час вада ў ручаі, з якога піў Ілія, высахла. Тады Бог наказаў ісці яму ў горад Сарэпту Сідонскую і спыніцца там ва ўдовіным доме. Ілія, як толькі пераступіў парог, папрасіў ва ўдавы крыху вады і хлеба. Удава жыла з сынам і была вельмі бедная. У яе нічагуткі не было, апроч жменькі мукі і крыху алею. Пра свае запасы яна шчыра сказала Іліі. На гэта прарок ёй сказаў: «Не бойся... Мука ў кадушцы не разыдзецца, і алею ў збанку не ўбавіцца аж да таго дня, калі Гасподзь зямлю прамочыць дажджом».

Пасля таго, як прарок пасяліўся ў доме ўдавы, Гасподзь не пераставаў тварыць цуды: яны пяклі хлеб і елі алей штодня, але ні мукі, ні алею не ўбаўлялася.

Удовін сын неўзабаве захварэў і нечакана памёр. Маці, вядома, падумала, што Бог пакараў яе за ранейшыя грахі. Яна ўзяла на рукі цельца хлопчыка і прынесла яго да прарока. Ілія паклаў яго на сваю пасцель у сваім пакоі, дзе ён сам жыў, і пачаў маліцца Госпаду: «Госпадзе, Божа мой! Няўжо Ты ўдаве, у якой я спыніўся, зробіш такое зло, як смерць яе сына?» А потым ён, нагнуўшыся над хлопчыкам тройчы, зноў папрасіў у Бога: «Госпадзе, Божа мой! Хай душа гэтага хлопчыка вернецца зноў у яго!» Гасподзь прыслухаўся да малітвы прарока і ажывіў хлопчыка. Ілія перадаў яго маці, сказаўшы: «Глядзі, сын твой жывы». Радасная ўдава сказала прароку: «Цяпер вось я ўведала, што ты – чалавек Божы і што слова Гасподняе на вуснах тваіх праўдзівае».

3 ЦАРСТВАЎ 17:7-24

# ІЛІЯ І ПРАРОКІ ВААЛА

Гасподзь загадаў Іліі схадзіць да цара Ахава, каб цар паклікаў усіх прарокаў Ваала і заадно ўсіх прарокаў дуброўных, і таксама ўвесь ізраільскі народ на гару Карміл.

Калі сабраліся ўсе на гары, Ілія звярнуўся да іх са словамі: «Ці доўга кульгаць вам на абодва калены? Калі Гасподзь ёсць Бог, дык ідзіце ўслед за Госпадам, а калі Ваал, – дык услед за Ваалам». Усе маўчалі. Тады Ілія звярнуўся да народу і сказаў:

«Я адзін застаўся прарокам Гасподнім, а прарокаў Ваалавых чатырыста пяцьдзесят чалавек. Няхай дадуць нам двух цяльцоў, і няхай выберуць яны сабе аднаго цяльца, рассякуць і пакладуць яго на дровы, але агонь хай не падкладаюць; і я падрыхтую другога цяльца і, гэтаксама паклаўшы яго на дровы, агонь не падкладу. І паклічце вы бога вашага, а я паклічу імя Госпада Бога майго. Той Бог, Які прамовіць да нас непасрэдна агнём, ёсць сапраўдны Бог». Увесь народ згадзіўся і ў адзін голас прамовіў: «Добра».

Пракрокі Ваала паклалі цяльца на дровы і пачалі крычаць: «Ваал! Пачуй нас!» Так яны амаль цэлы дзень крычалі. Вар'яцелі ад крыку, а дачакацца нічога не дачакаліся. Тады Ілія звярнуўся да народу і сказаў: «Падыходзьце да мяне». І ўсе падышлі. Ён узяў дванаццаць камянёў і пабудаваў з іх ахвярнік. Расклаў на ім дровы. Рассек цяльца. Паклаў яго на дровы. Потым ён загадаў паліць ахвярнік вадою. Тройчы палівалі яго вадой і кожны раз па чатыры вядры. Нават роў навокал ахвярніка напоўніўся вадою. Пасля гэтага Ілія пачаў маліцца Богу:

«Госпадзе, Божа Аўраамаў, Ісаака і Ізраіля! У гэты дзень хай даведаюцца, што Ты адзіны Бог у Ізраілі і што я – раб Твой і зрабіў усё па слове Тваім. Пачуй мяне, Госпадзе, пачуй мяне! Хай дазнаецца гэты народ, што Ты, Госпадзе, Бог, І Ты навернеш сэрцы іх да Цябе». Гасподзь пачуў малітву Свайго прарока, і нябесны агонь, зляцеўшы на ахвярнік, спапяліў ахвяру, дровы і нават камяні навакол. Убачыўшы гэта, усе ўпалі на калені і аднадушна прамовілі: «Гасподзь ёсць Бог, Гасподзь ёсць Бог!»

Так Гасподзь паказаў усім, што Ён – адзіны жывы Бог, а прарокі ідала Ваала аказаліся ашуканцамі.

3 ЦАРСТВАЎ 18:18-39

## ЦУД З ВАДОЮ І ЦУД З АЛЕЕМ

Бог зрабіў Елісея вялікім прарокам. Аднога разу, калі Елісей быў у горадзе Іерыхоне, прыйшлі да яго гараджане і сказалі: «Становішча нашага горада добрае, аднак вада ў ім нядобрая і зямля неўрадлівая». Елісей папрасіў, каб яны падалі яму новую чашу і насыпалі ў яе крыху солі. Елісей узяў чашу з соллю, падышоў да крыніцы і высыпаў у яе соль. Ён паведаміў, што па слове Госпада вада стане здаровая. Пасля гэтых слоў яго вада ў крыніцы стала добрая.

Другім разам да Елісея прыйшла ўдава. Яна са слязьмі расказала Елісею пра сваё гора. Пасля смерці мужа яна ніяк не магла расплаціцца з даўгамі, і таму чалавек, якому яна была вінаватая, прыйшоў забраць у яе абодвух сыноў. Елісей, пажадаў дапамагчы такому няшчасцю і спытаў у яе: «Скажы мне, што ёсць у цябе дома?» Жанчына адказала: "У мяне нічагуткі няма, апрача сасуда з алеем". Прарок сказаў ёй: «Абыдзі суседзяў і напазычай у іх пустых сасудаў, налівай алей ва ўсе гэтыя сасуды, налівай іх поўна, замкнуўшы дзверы за сабою і сынамі тваімі».

Няўжо невялікая колькасць алею з аднаго сасуда можа напоўніць многа збаноў і чаш? Але ўдава ведала, што праз прарока Бог можа стварыць цуд. Яна пайшла і зрабіла так, як сказаў ёй Елісей. Яна пазычыла ў суседзяў розных збаноў і чаш, зачыніла за сабой дзверы свайго дома. Разам са сваімі сынамі пачала наліваць у посуд алей з таго сасуда, у якім ён быў. Запоўніўшы збаны, яна заўважыла, што алей не канчаецца ў яе невялікім сасудзе, з якога яна налівала. Яна сказала сыну: «Падай сасуд мне яшчэ». Але ён адказаў: «Больш сасудаў няма». Тады ўдава заўважыла, што і алей у тым сасудзе закончыўся.

Калі ўсе сасуды былі напоўнены, жанчына прыйшла да Елісея і расказала яму пра цуд з алеем. Тады Елісей ёй параіў: «Ідзі, прадай гэты алей і заплаці даўгі твае, а на тое, што застанецца, жыві сама з тваімі сынамі».

4 ЦАРСТВАЎ 2:19-22; 4:1-7

## СІРЫЙСКІ ВОЕНАЧАЛЬНІК НЕЕМАН

У Сірыйскага цара быў выдатны военачальнік. Яго называлі Нееманам. Будучы славутым, вельмі паважаным чалавекам, ён хварэў на праказу.

У той час у адным баі сірыяне захапілі ў палон маленькую дзяўчынку-ізраільцянку, якая стала служанкаю ў Нееманавай жонкі. Гэтая дзяўчынка верыла ў жывога Бога. Будучы яшчэ дома, яна шмат наслухалася пра цуды, якія Гасподзь Бог тварыў праз прарока Елісея. Аднойчы яна сказала сваёй гаспадыні: «О, калі б мой пан пабываў у прарока, які жыве ў Самарыі, ён вылечыў бы яго ад праказы». Нееман, пачуўшы гэта, прыйшоў да свайго цара і паведаміў яму пра тое, што казала паланянка-ізраільцянка. Сірыйскі цар сказаў тады Нееману: «Схадзі туды сам, а я вышлю пісьмо ізраільскаму цару».

Нееман, развітаўшыся са сваёй жонкай, выправіўся ў Ізраіль. Прыйшоў да цара, уручыў яму пісьмо, у якім гаварылася: «Разам з гэтым пісьмом я пасылаю да цябе майго слугу, Неемана, каб ты вылечыў яго ад праказы. Цар ізраільскі прачытаў пісьмо і разгубіўся. Ён разадраў на сабе вопратку і сказаў: «Няўжо я Бог, каб умярцвіць і ажывіць, што ён да мяне пасылае, каб я ўратаваў ад праказы? Вось цяпер знайце, што сірыйскі цар шукае зачэпкі, каб са мной паваявацць».

Дачуўся пра гэта Елісей. Ён пасылае да цара свайго слугу, каб той сказаў яму: «Навошта разадраў ты адзенне сваё? Няхай чалавек той прыходзіць да мяне і няхай даведаецца, што ёсць прарок у Ізраілі».

4 ЦАРСТВАЎ 5:1-8

# НЕЕМАН ВЫЛЕЧАНЫ

Як сказала дзяўчынка-паланянка, так Нееман і зрабіў. Пад'ехаў на калясніцы да самога дома Елісея. Каля ўваходу ён спыніўся. Елісей выслаў яму насустрач свайго слугу, каб той сказаў: «Ідзі абмыйся сем разоў у Іярдане, і абновіцца цела тваё, ты будзеш тады чысты». Нееман, пачуўшы гэта, разгневаўся і сказаў: «Я вось думаў, што ён выйдзе з дому, спыніцца каля мяне, пакліча імя Госпада, Бога свайго, ускладзе руку сваю на мяне і здыме праказу. Няўжо Авана і Фарфар, дамаскія рэкі, горшыя за ізраільскія? Няўжо я не мог бы абмыцца і ачысціцца». І пайшоў ён, разгневаўшыся, ад дома Елісея.

Але тут падышлі да яго рабы і пачалі гаварыць: «Бацька мой, калі б што важнае сказаў прарок, хіба ты не зрабіў бы? А тым болей, калі ён сказаў табе адно: абмыйся і будзеш чысты». Ён вырашыў выканаць усё, што сказаў прарок. Ён пайшоў да Іярдана, акунуўся ў яго водах сем разоў. І раптам ачысцілася яго цела і стала падобным на цела малога дзіцяці.

Тады ён вярнуўся да прарока і сказаў: «Цяпер я вось пераканаўся. На ўсёй зямлі не знайсці такога Бога, як Бог Ізраіля: дык вось прымі дар ад раба твайго». Але Елісей адмовіўся ад яго дароў, хоць Нееман угаворваў яго не адмаўляцца. На развітанне Нееман сказаў Елісею, што ён не будзе болей прыносіць ахвяраў іншым багам, апрача Бога Ізраіля.

Так сведчанне маленькай дзяўчынкі прывяло Неемана да праўдзівага жывога Бога. З таго часу ён больш не пакланяўся ідалам.

4 ЦАРСТВАЎ 5:9-17

## АСЛЯПЁНЫЯ ЗАВАЁЎНІКІ

У часы вайны Сірыі з Ізраілем Елісей паведамляў цару ізраільскаму, дзе і ў якім месцы было сірыйскае войска. Усё гэта яму адкрываў Бог. Таму Ізраіль меў перамогу за перамогай.

Сірыйскага цара ахапіла трывога. Ён думаў, што сярод яго воінаў быў здраднік, які і даносіў ізраільцянам усе ваенныя тайны. Але адзін ягоны слуга сказаў яму: «Ніхто не здраджвае, пане мой цар, а Елісей-прарок, што жыве ў Ізраілі, пераказвае цару ізраільскаму тыя словы, якія ты вымаўляеш у спальні тваёй».

Цар загадаў даведацца, у якім горадзе жыве прарок Елісей. Ён надумаў захапіць яго ў палон. Калі яму паведамілі, дзе знаходзіцца Елісей, ён выслаў у тое месца вялікае войска. Ноччу яно падышло і акружыла горад. «Калі сірыяне пайшлі да Елісея, ён, памаліўшыся Госпаду, сказаў: ”Паразі іх слепатою”. І Бог паразіў іх слепатою, па слове Елісея...»

Прарок Елісей асляпёных сірыйцаў вывеў са свайго горада і адвёў іх у Самарыю, якая ў той час была сталіцай Паўночнага ізраільскага царства. «Калі яны прыйшлі ў Самарыю, Елісей сказаў: ”Госпадзе! Разамкні ім вочы, каб яны бачылі”. І разамкнуў Гасподзь ім вочы, і ўбачылі яны, што яны ў самой Самарыі. І цар ізраільскі, убачыўшы іх, сказаў Елісею: ”Не забівай. Няўжо мячом сваім і лукам сваім ты іх паланіў, каб забіваць іх? Прапануй ім хлеба і вады; няхай ядуць і п’юць, і хай ідуць да ўладара свайго. І прыгатаваў ім вялікі абед, і яны елі і пілі. І адпусціў іх, і пайшлі яны да ўладара свайго. І не хадзілі больш полчышчы сірыйскія на зямлю Ізраілеву”».

Слова Божае навучае нас не помсціць, а рабіць дабро, любіць ворагаў: «Калі галодны вораг твой, падай яму хлеба; а калі ён прагне – падай вады». «Любіце ворагаў вашых, багаслаўляйце тых, што вас праклінаюць, будзьце дабрачынныя да тых, што вас ненавідзяць, і маліцеся за тых, што крыўдзяць вас, і за тых, што вас выганяюць». «Зло перамагай дабром».

4 ЦАРСТВАЎ 6:8-23; КНІГА ПРЫТЧАЎ 25:21; МАЦВЕЙ 5:44; ПАСЛАННЕ ДА РЫМЛЯН 12:21

# ІААС СТАНОВІЦЦА ЦАРОМ

Ахозія быў адным з іудзейскіх цароў. У яго была злая і грэшная маці, якую называлі Гафоліяй. Калі яе сын Ахозія памёр, яна выврашыла прабіць сабе дарогу на прастол. Яна пачала вынішчаць усіх з царскага роду. Але Іасавефа, сястра Ахозіі, узяла сабе Іааса, сына Ахозіі, і тайна хавала яго ад Гафоліі. Хлопчык пазбег згубнай рукі Гафоліі. Ён застаўся жыць. Шэсць гадоў Іасавефа хавала Іааса ў доме Гасподнім. Увесь гэты час царавала ў Ізраіле Гафолія.

Калі Іаасу споўнілася сем гадоў, святар Іодай паклікаў у Гасподні дом воінаў, сотнікаў. Сабраў і царскіх ахоўнікаў. Ён паказаў ім царскага сына. Дамовіўся з імі ўзвесці яго на прастол. Воіны акружылі храм з усіх бакоў. Яны ахоўвалі яго ў той час, калі свяшчэннік Іодай вывеў Іааса і ўсклаў на яго царскі вянок і царскія аздобы. Як толькі Іаас узышоў на прастол, усе запляскалі ў далоні і закрычалі: «Няхай жыве цар!» Даведаліся пра гэта ізраільцяне. Ад усяго сэрца яны радаваліся і весяліліся. Гафолія была забіта.

Іаас любіў Бога. Выконваў Яго запаведзі. І ўсё ён рабіў добра да таго часу, пакуль яму даваў настаўленні свяшчэннік Іодай.

Іаас падрос і хацеў адрамантаваць Божы храм. Якраз у гэты час храм быў вельмі запушчаны.

Пасля смерці Іодая памяняў свае думкі і сам цар. Ён прыслухоўваўся да нядобрых парад і пакрыху забываў Бога. Захапіўся ідалапаклонствам. Выступаў супроць волі Гасподняй. Аднойчы сын Іодая, яго выбавіцеля, Захарый пачаў дакараць народ і Іааса за грэшныя паводзіны. Іаас загадаў забіць Захарыю ў двары храма. На Ізраіль наваліліся няшчасці. Напалі сірыйцы, спустошылі ўвесь край. З храма павыносілі дарагія скарбы. Іаас у гэты час быў хворы. Двое слуг залезлі ў спальню і там забілі яго.

4 ЦАРСТВАЎ раздзелы 11 і 12
2 ПАРАЛІПАМЕНОН 24:1-25

# НАПЫШЛІВАСЦЬ І ПАКАРАННЕ ЦАРА ОЗІІ

Озія* быў дзесятым царом у Ізраільскім царстве. Ён стаў царом, калі яшчэ быў юнаком – было яму ўсяго 16 год, калі ён узышоў на прастол, і цараваў ён 52 гады ў Ерусаліме. «І рабіў ён дагоднае перад вачыма Гасподнімі... І прыходзіў ён да Бога ў дні Захарыі, які навучаў страху Божаму; і ў тыя дні, калі ён праходзіў да Госпада, дык спрыяў яму Бог. І памагаў яму Бог... і пранеслася імя яго да егіпецкіх граніц, бо ён быў надта моцны... І пабудаваў Озія ў Ерусаліме вежы... і ў пустыні вежы, і выкапаў многа вадаёмаў, бо меў нямала быдла, і ў далінах і на раўнінах, і земляробаў і садоўнікаў на гарах і на Карміле; бо ён меў любоў да земляробства. У Озіі было і войска... вайсковыя сілы трыста сем тысяч пяцьсот... І нарыхтаваў Озія для ўсяго войска шчыты, і коп'і, і шлемы, і латы, і лукі, і камянёў для прашчы. І зрабіў ён у Ерусаліме мудра прыдуманыя машыны. Іх ставілі на вежах і на вуглах, каб запускаць стрэлы і вялікія камяні. І праславілася імя яго далёка, бо ён вынаходліва абгарадзіў сябе і ўзмацніўся.

І калі ён стаў моцны, узганарылася ягонае сэрца на яго ж пагібель, і ён стаў злачынцам перад Госпадам, Богам сваім; бо ўвайшоў ён у храм Гасподні, каб спаліць фіміям на алтары кадзільным. І пайшоў за ім свяшчэннік Азарыя, і з ім восемдзесят свяшчэннікаў Гасподніх, людзей выдатных. І ўспраціві̆ўшыся цару, сказалі яму: "Не табе, Озія, кадзіць Госпаду; гэта справа свяшчэннікаў, сыноў Ааронавых, якія пасвячаліся на каджэнне; са свяцілішча выйдзі, бо ты зрабіў беззаконна, і не будзе табе гэта за гонар у Госпада Бога". І разгневаўся Озія – а ў руцэ ў яго кадзільніца для каджэння; і калі разгневаўся ён на свяшчэннікаў, праказа аб'явілася на лобе яго, перад абліччам свяшчэннікаў, у доме Гасподнім, каля алтара кадзільнага. І глянуў на яго Азарыя, першасвяшчэннік, і ўсе свяшчэннікі; і вось у яго праказа на лобе яго. І прымушалі яго выйсці адтуль, ды і сам ён спяшаўся сысці, бо паразіў яго Гасподзь. І быў цар Озія пракажоны да дня смерці сваёй, і жыў у асобным доме, і адлучылі яго ад дома Гасподняга. А Іаафам, сын яго, начальнічаў над домам царскім і кіраваў народам зямлі».

Слова Божае навучае нас не пышыцца: «Зямное праходзіць і пахацінства яго, а той, хто выконвае волю Божую, навек застаецца».

2 ПАРАЛІПАМЕНОН 26; 1 ІААНА 2:17

* *Яго другое імя – Азарыя.*

## ІЗРАІЛЬ АДСТУПАЕ АД БОГА

«Сыны Ізраіля перад Госпадам, Богам сваім, пачалі грашыць, хоць вывеў Ён іх з зямлі егіпецкай з-пад рукі фараона, цара егіпецкага, і пачалі ўшаноўваць іншых багоў і рабіць па звычаях цароў ізраільскіх, пачалі рабіць непажаданае Богу, і пабудавалі сабе ўзвышшы для маленння ва ўсіх гарадах сваіх, пачынаючы з вартаўнічай вежы да ўмацаванага горада, і паставілі ў сябе статуі і выявы Астарт на кожным высокім пагорку і пад кожным цяністым дрэвам, і пачалі курэнні на ўсіх вяршынях, прыпадобніўшыся народам, якіх Гасподзь прагнаў ад іх, і рабілі благія справы, якія ўгнявілі Госпада, і служылі ідалам, пра якіх ім казаў Гасподзь: ”Не рабіце гэтага”.

Праз усіх прарокаў і праз усіх празарліўцаў перасцерагаў Гасподзь Ізраіля і Іуду, кажучы: «Вярніцеся з вашых ліхіх шляхоў і выконвайце запаведзі Мае, пастановы Мае, па ўсёй навуцы, якую Я перадаў вам праз рабоў Маіх, прарокаў. Але не паслухаліся яны і зрабіліся такімі жорсткімі, як бацькі іх, якія не верылі ў Госпада, Бога свайго, і пагарджалі пастановамі і запаветамі Яго, які Ён заключыў з бацькамі іх, і адкрыццямі Яго, якімі Ён перасцерагаў іх, і пайшлі следам за марнасцю і змарнаваліся, і следам за суседнімі народамі, пра якіх Гасподзь запаведаваў ім, каб не рабілі так, як яны; і пакінулі ўсе запаведзі Госпада, Бога свайго, і зрабілі сабе вобразы двух літых цяльцоў, і ўладкавалі дуброву, і пакланяліся ўсяму нябеснаму воінству, і служылі Ваалу; і праводзілі сыноў сваіх і дачок сваіх праз агонь, і гадалі, і чаравалі, і ішлі на тое, каб нягоднае рабіць перад вачыма Госпада і гнявіць Яго.

І моцна ўгневаўся Гасподзь на ізраільцян, і адкінуў іх ад аблічча Свайго. Не засталося нічога, апроч аднаго калена Іуды».

4 ЦАРСТВАЎ 17:7-18

## АСІРЫЯ ЗАВАЁЎВАЕ ІЗРАІЛЬ

Осія быў апошнім царом Паўночнага ізраільскага царства ў 730-721 гг. да нараджэння Хрыста. Ён цараваў дзевяць гадоў. На паўночным усходзе было ў той час велізарнае асірыйскае царства са сталіцай Ніневіяй. Усе народы ў тыя часы былі рабаўнікамі. У 724 г. да нараджэння Хрыста магутнае асірыйскае войска пад кіраўніцтвам цара Салманасара ўварвалася ў Ізраіль. Осія, цар ізраільскі, падпаў пад уладу Салманасара і плаціў яму даніну.

«І заўважыў цар асірыйскі, што Осія здраджваў, таму што Осія пасылаў паслоў да Сігора, цара егіпецкага, і не дастаўляў даніны цару асірыйскаму кожны год; і ўзяў яго цар асірыйскі пад варту і ўвязніў яго ў цямніцу. І пайшоў цар асірыйскі на ўсю зямлю, і падступіўся да Самарыі, і трымаў яе ў аблозе тры гады. У дзевяты год Осіі Самарыя здалася цару асірыйскаму, і перасяліў ізраільцян у Асірыю і пасяліў іх у Халаху і ў Хаворы, каля ракі Газан, і ў гарадах Мідзійскіх». Гэта быў канец Паўночнага ізраільскага царства.

Так Госпадзь пакараў свой народ за яго беззаконне. Гэта здарылася ў 721 г. да нараджэння Хрыста. Мінула 200 гадоў і нямногія ізраільцяне з Паўночнага царства вярнуліся з Асірыі ў Ізраіль, разам з вяртаннем палонных іудзеяў, г.зн. яўрэяў з Паўночнага царства.

4 ЦАРСТВАЎ 17:2-6

## САМАРАНЕ

Ізраільцяне Паўночнага царства былі заваяваны асірыйцамі ў 721 г. да нараджэння Хрыста, а потым выгнаны ў палон і рассеяны сярод іншых народаў. У Паўночным царстве замест іх былі паселены каланісты. І яны з тымі, што заставаліся на месцах і пазбеглі палону, уступалі ў шлюб і ў выніку ўтварыўся народ, які ад назвы горада Самарыі ў Паўночным царстве называўся «самаранамі». Вось што расказвае пра гэта Біблія.

«І перавёў цар асірыйскі людзей з Вавілона, і з Куты, і з Авы, і з Емафа, і з Сепарваіма, і пасяліў іх у гарадах самарыйскіх замест сыноў Ізраілевых. І яны авалодалі Самарыяй, і пачалі жыць у яе гарадах. І як у пачатку пасялення свайго яны там не шанавалі Госпада, дык Гасподзь пасылаў на іх ільвоў, якія забівалі іх... І загадаў цар асірыйскі і сказаў: ”Адпраўце туды аднаго з свяшчэннікаў, якіх выселілі адтуль; няхай ідзе і жыве там, і ён навучыць іх закону Божаму той зямлі”.

І прыйшоў адзін з свяшчэннікаў, якіх выселілі з Самарыі, і жыў у Вефіле, і вучыў іх, як шанаваць Госпада. Прытым кожны народ зрабіў і сваіх багоў, і паставіў у капішчах, якія ўладкавалі самаране, – кожны народ у сваіх гарадах, дзе яны жывуць... Госпада яны шанавалі, і сваім багам служылі яны па звычаі народаў, з якіх выселілі іх».

Праўда, пазней яны адмовіліся ад іншых ”багоў” і шанавалі толькі Госпада. Аднак ізраільцянамі ніколі не сталі. У іх былі свае абрады і свяшчэннікі (яны пабудавалі сабе на гары Гірызім нават храм, які пазней разбурылі яўрэі). Яўрэі ненавідзелі самаран.

4 ЦАРСТВАЎ 17:24-33

# МАЛІТВА ЕЗЕКІІ

Пасля таго, як у 721 годзе асірыйцы захапілі Паўночнае царства і перасялілі ізраільцян у Асірыю, з Божай дапамогай працягвала існаваць маленькае паўднёвае царства «Іуда», яшчэ 130 год.

Езекія быў адзін з іудзейскіх цароў. Яго памазалі на прастол у Іерусаліме. З усіх іудзейскіх цароў самы харошы быў цар Езекія. Ён любіў Госпада. Захоўваў усе запаведзі, атрыманыя Майсеем ад Госпада на гары Сінай. Езекія павёў рашучую барацьбу з ідалапаклонствам. Ён разбурыў усе ідальскія капішчы і заклікаў народ трымацца аднога жывога Бога. Выкарыстоўваючы цяжкасці Асірыйскай імперыі, ён вызваляецца з-пад яе ярма.

Пасля гэтага асірыйскі цар Сінахірым яму пагражаў пастаянна. Ад Езекіі патрабаваў аднога – здацца. Гэта відаць з яго пісьма, якое ён напісаў Езекіі. У пісьме Сінахірым фанабэрыста высмейваў спадзяванні іудзейскага цара на жывога Бога. Увесь час патрабаваў, каб Езекія падпарадкаваўся яму. Выхваляўся перад Езекіяй, які ён магутны. Ён гаварыў: «Усе цары пад маёй уладай. І ніякія багі не дапамаглі ім утрымацца перада мною».

Езекія, атрымаўшы пісьмо ад Сінахірыма, увайшоў у Божы храм. Там разгарнуў пісьмо перад Госпадам і пачаў маліцца: «Госпадзе, Божа Ізраілеў, што сядзіць на херувімах! Ты адзіны Бог усіх царстваў на зямлі. Ты стварыў неба і зямлю. Нахілі, Госпадзе, вуха Тваё і пачуй; расплюшчы, Госпадзе, вочы Твае, і паглядзі і прыслухайся да словаў Сінахірыма, як ён у сваім пісьме лае жывога Бога! Праўда, о Госпадзе, што асірыйскія цары спустошылі народы і землі іхнія, пакідалі іх багоў у агонь; але гэта былі не багі, а вырабы рук чалавечых, дрэва ды камень, таму і знішчылі іх. Цяпер, Госпадзе, Божа наш, выратуй нас ад рукі яго, няхай даведаюцца ўсе царствы на зямлі, што Ты, Госпадзе, Бог адзін».

Пасля такой малітвы цара іудзейскага Гасподзь пакараў асірыйцаў. Ён пабіў іх мячом за дзёрзкасць і грубасць супроць Госпада і Яго Святога імя.

4 ЦАРСТВАЎ 18:1-7, 19:9-19

## ЗАПАВЕТ ЦАРА ІОСІІ

Іосія быў адзін з іудзейскіх цароў. Васьмігадовым хлопчыкам ён узышоў на прастол і цараваў у Іерусаліме трыццаць адзін год. У сваім жыцці ён дагаджаў Госпаду, слухаўся Яго, ні направа, ні налева не адхіляўся.

Шаснаццацігадовым хлопцам Іосія даверыў сваё сэрца Госпаду. На дванаццатым годзе царавання пачаў ачышчаць Іудзею і Іерусалім ад усякіх ідалаў і іх ахвярнікаў. Па ўсёй Іудзейскай зямлі ён разбураў ідальскія статуі і разбіваў усе куміры без астатку. На васемнаццаты год царавання Іосія загадаў узяцца за аднаўленне Гасподняга дома. На яго рамонт народ ахвяраваў нямала срэбра.

Калі срэбра выкарыстоўвалі для найму рабочых, дык у тым месцы, дзе яно ляжала ў храме, свяшчэннік Хелкія знайшоў кнігу Божага закона, якая ішла ад самога Майсея. Свяшчэннік перадаў кнігу перапісчыку Шафану, які потым аднёс яе цару. Калі Шафан прачытаў словы, што былі запісаны ў кнізе, цар жахнуўся ад страху. Гэта былі словы Божага закона, ад якога ўхіляўся народ.

У сваім сэрцы Іосія смуткаваў, плакаў і маліўся, каб Гасподзь яму дараваў. Потым ён, наведаўшы храм, паклікаў увесь народ. Прачытаў уголас словы са знойдзенай кнігі. Там жа ён заключыў запавет з Госпадам – следаваць Яму і шчыра выконваць Яго запаведзі і ўставы. Іосія загадаў народу ўмацоўваць гэты запавет з Госпадам.

Пасля гэтага Іосія разбурыў усякую брыдоту, што засталася ад ідалаў. Так ізраільцяне сталі вернымі свайму абяцанню, служылі Госпаду і Яго не цураліся.

2 ПАРАЛІПАМЕНОН 34:1-8, 14-19, 29-33

# ПРАРОК ІЯРЭМІЯ

Прарок Іярэмія ўвесь час сведчыў пра Бога. Ён шмат адпакутаваў з няшчасным ізраільскім народам.

Ён асуджаў жыхароў Тафета і Іерусаліма. Усе яны пакланяліся чужым багам-ідалам, і нават прыносілі ім ахвяры. Іярэмія навучаў у горадзе Тафеце. Потым ён прыйшоў у Іерусалім, спыніўся на двары ля Божага дома і сказаў народу: «Так гаворыць Гасподзь Саваоф, Бог Ізраілеў: "Вось Я навяду на горад гэты і на ўсе гарады яго ўсе ліхія бядоты, што выказаў Я на яго, бо яны сталі бязлітасныя і не слухаюць слоў Маіх"».

Свяшчэннік, пачуўшы гэтае прароцтва ў храме, раззлаваўся. Ён ударыў Іярэмію, звязаў яго, закаваў у калодкі. Назаўтра Іярэмія быў зноў на волі і зноў тое ж прарочыў, што стане з ізраільскімі гарадамі. Ён прарочыў аб долі ўсяго народа і аб долі свяшчэнніка, што не слухае Бога. Потым Іярэмія гаварыў Самому Госпаду: «Вабіў мяне Ты, Госпадзе, – і завабіў. Кожны дзень з мяне насміхаюцца і кожны здзекуецца. Як толькі пачну гаварыць – крычу пра нахабства, плачу па спусташэнні, бо слова Гасподняе абярнулася мне зняважай і штодзённай насмешкай. І падумаў я: "Не буду прыгадваць Яго і казаць у імя Яго". Але ў сэрцы маім быў палымяны агонь, як бы ў касцях маіх, і я аж стаміўся, стрымліваючы яго, і – не змог».

У праведнага прарока было шмат ганіцеляў, але Бог падтрымліваў яго заўсёды. Таму Іярэмія ўпэўнена казаў: «Але са мною Гасподзь, як моцны ратаборац, таму ганіцелі мае спатыкнуцца, не адолеюць, дужа пасаромеюцца, бо рабілі неразумна... Моцны Божа! Ты выпрабоўваеш праведніка, Ты бачыш ягонае нутро і сэрца... Спявайце Госпаду, хваліце Госпада, бо Ён выбаўляе душу бедняка з рук зладзеяў».

ІЯРЭМІЯ 19:13-15, 20:1-13

## ВАРУХ ЗАПІСВАЕ ПРАРОЦТВА ІЯРЭМІІ

Аднойчы Гасподзь сказаў Іярэміі: «Вазьмі сабе кніжны світак і напішы ў ім усе словы, што Я казаў табе пра Ізраіль і пра ўсе народы... Быць можа, дом Іудаў пачуе пра ўсе бядоты, якія надумаў наслаць на іх, каб яны адвярнуліся, кожны ад ліхое дарогі сваёй, каб Я дараваў грэх і няпраўду іх» (Іуда – адно з дванаццаці плямён ізраільскіх; сталіцай племені Іуды быў Іерусалім.)

Іярэмія паклікаў Варуха і прасіў яго запісаць усе словы, якія Гасподзь будзе казаць. Варух акуратна запісваў у кніжны світак. Потым Іярэмія, пасылаючы Варуха ў Божы дом, сказаў: «"Я ўвязнены і не магу ісці ў дом Гасподні; дык вось, ты, што напісаў з вуснаў маіх у світку, нясі ў Гасподні дом і там у дзень поста прачытай народу ўголас, а таксама і ўсім іудзеям, што сабраліся са сваіх гарадоў, прачытай ім. Можа, яны памоляцца Госпаду з пакорай і кожны ад свайго ліхога шляху адвернецца, бо вялікі гнеў і абурэнне Гасподзь аб'явіў народу гэтаму".

Варух, сын Нірыі, зрабіў усё, што загадаў яму прарок Іярэмія, каб словы Гасподнія, запісаныя ў світку, прачытаць у доме Гасподнім. У пяты год Іаакіма, сына Іосіі, цара іудзейскага, у дзевяты месяц аб'явілі пост перад Госпадам усяму народу ў Іерусаліме і ўсяму народу, які прыйшоў у Іерусалім з гарадоў Іудзеі. І словы Іярэміі, якія напісаны ў світку, Варух прачытаў у доме Гасподнім...»

ІЯРЭМІЯ 36:1-10

## ЦАР ІААКІМ СПАЛЬВАЕ СВІТАК З ПРАРОЦТВАМ

Калі Варух у Гасподнім доме прачытаў словы прарока Ірэміі, іудзейскіх князёў ахапіў страх. Яны тут жа пра гэта абвясцілі свайму цару Іаакіму. Цар загадаў даставіць яму гэты світак. У той час ён жыў у зімнім палацы. Перад ім гарэла жароўня. Цар хутка азнаёміўся са зместам світка. Ён адрываў ад світка ўрыўкі тэксту і кідаў іх у жароўню. Так быў спалены ўвесь світак.

Цар і яго слугі не пабаяліся засцярогі прарока. Яны не паверылі, што непакорнасць Богу прывядзе іх у вавілонскі палон. Іаакім загадаў схапіць абодвух, прарока і яго пісара. Але Гасподзь аберагаў іх ад ганіцеляў.

Неўзабаве Гасподзь звярнуўся да Ірэміі, кажучы: «Вазьмі другі світак і напішы ў ім усе папярэднія словы, што былі ў першым світку, які спаліў Іаакім, цар іудзейскі. А цару іудзейскаму Іаакіму скажы: ”Так гаворыць Гасподзь: ты спаліў світак гэты, сказаўшы, навошта напісаў ты ўсім: абавязкова прыйдзе цар вавілонскі і спустошыць зямлю гэтую, і знішчыць на ёй людзей і быдла? – За гэта, так кажа Гасподзь пра Іаакіма, цара іудзейскага: не будзе ад яго нашчадка на прастоле Давідавым, і труп яго выкінуць на дзённую спёку, і на холад начны. І наведаю яго і племя яго, і слуг яго за няпраўду іх, і наклічу на іх, і на жыхароў Ерусаліма, і на мужоў Іуды ўсё зло, якое Я прамовіў на іх, а яны не слухалі”.

І ўзяў Ірэмія світак другі, і аддаў яго Варуху, перапісчыку, сыну Нірыі, і ён з вуснаў Ірэміі напісаў у ім усе словы таго світку, што спаліў у агні Іаакім, цар іудзейскі; і яшчэ дададзена да іх многа падобных слоў».

ІЯРЭМІЯ 36:14-32

# ЗАХОП ІУДЗЕІ ВАВІЛОНАМ

Як прадказаў Гасподзь праз прарока Іярэмію, так і здарылася. Іудзеі былі захоплены ў палон вавілонскімі войскамі. Гэтае пакаранне мела пад сабой аснову. Нягледзячы на перасцярогу, народ перад Богам не пакаяўся і не адвярнуўся ад ідалапаклонства, зла і граху. У першую чаргу Гасподнюю кару адчула на сабе Паўночнае царства. І хоць Паўднёвае царства было сведкам яго разбурэння, але ніякіх урокаў з гэтага не атрымала. Жыхары яго і далей жылі ў беззаконні. Тады Гасподзь вырашыў разбурыць і гэтае царства, як Ён разбурыў за 130 гадоў да таго Паўночнае царства, наслаўшы на яго вавілонян. Іехонію было васемнаццаць гадоў, калі ён пачаў цараваць, і тры месяцы цараваў у Іерусаліме... І рабіў ён ва ўсім добрае перад вачыма Госпада, як рабіў яго бацька. У той час рабы Навухаданосара, цара вавілонскага, падышлі да Іерусаліма і акружылі горад. І прыйшоў Навухаданосар, цар вавілонскі, да горада, калі рабы яго акружалі горад. І выйшаў Іехонія, цар іудзейскі «да цара вавілонскага, ён і маці яго, і слугі яго, і князі яго, і ўнукі яго – і забраў яго цар вавілонскі на восьмым годзе свайго каравання. І вывез ён адтуль усе скарбы дома Гасподняга і скарбы царскага дома; і паламаў, як сказаў Гасподзь, усе залатыя сасуды, якія Саламон, цар ізраільскі, зрабіў для Гасподняга храма: і выселіў увесь Іерусалім, і ўсіх князёў, і ўсё адважнае войска, – дзесяць тысяч было на выселках, – і ўсіх цесляроў і кавалёў; нікога не засталося, апроч беднага люду зямлі». Заваёўнікі перасялілі іх у Вавілон.

«І ўзвёў цар вавілонскі на прастол Матфанію, дзядзьку Іехоніі, замест яго, і даў яму імя Седэкія. Было яму тады 21 год і адзінаццаць гадоў ён цараваў у Іерусаліме. І рабіў ён непажаданае перад вачыма Госпада, як і рабіў Іаакім. Гнеў Гасподні быў над Іерусалімам і Іудаю да таго часу, пакуль не адштурхнуў іх ад аблічча Свайго».

4 ЦАРСТВАЎ 24:8-20

## РАЗБУРЭННЕ ІЕРУСАЛІМА І ХРАМА

Нам вядома, што ізраільскі цар Саламон па наказе Госпада збудаваў у Іерусаліме цудоўны храм Гасподні. Аднак пазней праз адзінаццаць гадоў, калі войска заваявала Іерусалім другі раз, дык разам з горадам быў знішчаны і той дзівосны храм. Вось як пра гэта напісана ў Бібліі:

«Навухаданосар, цар вавілонскі, прыйшоў са ўсім сваім войскам да Іерусаліма, і аблажыў яго, і насыпаў вал вакол яго. І быў горад два гады ў аблозе... ...і ўзмацніўся ў горадзе голад, і не было хлеба ў народа зямлі. І ўзяты быў горад, і пабеглі ўсе вайскоўцы ноччу па дарозе да варотаў, што паміж сценамі каля царскага саду; а халдзеі стаялі вакол горада, і цар пайшоў па дарозе да раўніны. І пагналася халдзейскае войска за царом, і дагналі яго на раўнінах Іерыхонскіх, і ўсё войска яго разбеглася ад яго. І схапілі цара, і завялі яго ў Рывалу, да цара вавілонскага; і судзілі яго там. І сыноў Седэкіі закалолі перад вачыма яго; а самаго Седэкію асляпілі, і закавалі ў кайданы, і завялі яго ў Вавілон.

...Навузардан, начальнік целаахоўнікаў, слуга цара вавілонскага, прыйшоў у Іерусалім. І спаліў дом Гасподні і дом цара; і ўсе дамы ў Іерусаліме, і спаліў агнём усе вялікія будынкі; і сцены вакол Іерусаліма разбурыла халдзейскае войска, якое было ў начальніка целаахоўнікаў. А іншы народ, што застаўся ў горадзе, і перабежчыкаў, якія перакінуліся да цара вавілонскага, і іншы просты народ выселіў Навузардан, начальнік целаахоўнікаў. Толькі некалькі чалавек беднага люду зямлі начальнік целаахоўнікаў назначыў работнікамі ў вінаградніках і земляробамі. І слупы медныя, якія былі каля дома Госпадняга і падстаўкі, і мора меднае, якое ў доме Гасподнім, халдзеі паламалі, і медзь іх занеслі ў Вавілон; і тазы, і лапаткі, і нажы, і лыжкі, і ўсе сасуды медныя, якія выкарыстоўваліся пры служэнні, узялі; і кадзільніцы, і чашы, і ўсё, што было залатое і срэбранае...» Гэта адбылося ў 587-586 гг. да нараджэння Хрыста. Храм Саламона існаваў каля 400 гадоў. Яўрэі адбудоўвалі пазней храм у Іерусаліме не раз, але ніколі не маглі збудаваць такога прыгожага храма, якім быў храм Саламона.

4 ЦАРСТВАЎ 25:1-15

# ДАНІІЛ І ТРОЕ ЯГО СЯБРОЎ

Вавілонскі цар Навухаданосар загадаў з палонных ізраільцян выбраць юнакоў. Яны павінны быць прыгожыя, здаровыя і здольныя да навукі. У дадатак яны павінны паходзіць з царскага або княжага роду. Калі начальнік еўнухаў, служкаў пры царскім двары, выканаў гэты загад, цар назначыў юнакам штодзённую ежу з царскага стала. Загадаў ён вучыць іх навукам і мове. Пасля трох гадоў навучання юнакі павінны наведаць цара, каб ён пабачыў, як адукаваныя яго выхаванцы і якія маюць здольнасці. Сам цар даваў ім пасады і назначаў пры двары на службу.

Сярод ізраільскіх юнакоў былі Даніл, Ананія, Місаіл і Азарыя. У вавілонскім палацы іх пачалі называць: Даніла Валтасарам, Ананію Седрахам, Місаіла Місахам і Азарыю Аўдэнагам. Яны любілі свайго Госпада і верылі Яму ад усяго сэрца. Даніл захоўваў сябе ў чысціні. Ён баяўся апаганіцца і царскай ежай і царскім віном. (Напэўна, таму што стравы гэтыя былі таксама прыгатаваныя з мяса жывёлаў і птушак, якія нельга было есці ізраільцянам паводле закону Майсея і якія былі таксама прапанаваны як ахвяры вавілонскіх бостваў). Ён просіць начальніка еўнухаў, каб яму і яго тром сябрам, падавалі на стол агародніну і звычайную ваду. Начальнік не адразу згадзіўся. Ён баяўся, што юнакі схуднеюць. Але Даніл упрасіў яго, каб ён на працягу першых дзесяці дзён выпрабаваў іх, калі яны будуць атрымліваць адну агародніну і ваду. Праз дзесяць дзён чатыры юнакі, якія верылі Богу, аказаліся і прыгажэйшымі і сыцейшымі, чым юнакі, якія харчаваліся з царскага стала і пілі царскае віно.

Бог даў Данілу, Ананіі, Місаілу і Азарыі веды і мудрасць, а Данілу яшчэ разуменне ва ўсякіх прывідах і снах.

Пасля трохгадовага выхавання цар загадаў прывесці да яго ўсіх выбраных ізраільскіх юнакоў. Пагутарыўшы з кожным асобна, цар упадабаў маладых ізраільцян. Усе чатыры юнакі былі пакінуты служыць непасрэдна цару. Пра што б цар у іх ні пытаўся, яны заўсёды знаходзілі правільны і вычарпальны адказ. Усе яны ў дзесяць разоў разумнейшыя за ўсіх тайназнаўцаў і вешчуноў, якіх нямала было ў яго царстве.

ДАНІІЛ 1:3-20

## ЗАЛАТЫ БАЛВАН І ТРОЕ СМЕЛЫХ МУЖОЎ

Вавілонскаму цару па яго загадзе выплавілі балвана і паставілі яго на полі Дэіра. Вышыня балвана дасягала 60-ці, а шырыня 6-ці локцяў. Цар загадаў усім народам Вавілонскага царства пакланяцца балвану як боству. А калі хто парушыць гэты загад, будзе гарэць у печы, распаленай да белага.

«Не паслухаліся твайго загаду, цар, – пісалі даносчыкі самому цару, – іудзейскія мужы: Седрах, Місах і Аўдэнага. Яны адмовіліся служыць тваім багам. Не пакланяліся і залатому балвану». Навуханоносар разгневаўся і загадаў прывесці парушальнікаў у царскі палац. Цар сказаў тром юнакам: «...Калі вы не паклоніцеся балвану, дык адразу будзеце ўкінуты ў печ, напаленую агнём, і тады які Бог выбавіць вас ад маёй рукі?» Яны адказалі цару: «Бог наш, Якому мы служым, мае моц выбавіць нас з печы, распаленай агнём, і з рукі тваёй, цар, выбавіць. Калі так ужо не спраўдзіцца, дык няхай табе, цар, будзе вядома, што мы тваім багам служыць не будзем і залатому балвану, узнесенаму табой, не паклонімся».

Разлютаваўся Навуханоносар, пачуўшы гэтыя словы. Ён загадаў Седраха, Місаха і Аўдэнага, непакорлівых іудзеяў, кінуць у распаленую печ. Усе трое ўпалі ў яе звязаныя. Навуханоносар зазірнуў у печ і здзівіўся. Ніводзін не звязаны. І ходзяць у агні не трое, а чацвёра. «Няўжо не трох мужоў кінулі ў агонь, – спытаўся цар у сваіх вяльможаў. – Вось бачу я там чатырох мужоў, і ходзяць нязвязаныя пасярод агню, і агонь ім не шкодзіць, а выгляд чацвёртага падобны да Божага сына».

Цар падышоў да печы і паклікаў: «Седрах, Місах і Аўдэнага, рабы Усявышняга Бога! Выйдзіце і падыдзіце!» І яны выйшлі з языкоў полымя. Агонь быў бяссільны пашкодзіць іхняму целу. Валасы на галовах не былі апалены, не каробілася вопратка, і нават паху гарэлага не было чуваць». Навуханоносар быў упэўнены, што адбыўся цуд. І ён сказаў: «Хай будзе бласлаўлёны Бог Седраха, Місаха і Аўдэнага... Якія велічныя азнакі Яго і якія ўсемагутныя цуды Яго! Царства Яго – царства вечнае, а ўладарніцтва Яго – з роду ў роды». І ўзвысіў цар Седраха, Місаха і Аўдэнага па ўсёй Вавілонскай краіне.

ДАНІІЛ раздзел 3

# ДАНІІЛ ТЛУМАЧЫЦЬ ЗНАЧЭННЕ НЕЗРАЗУМЕЛЫХ СЛОЎ

Пасля Навуходаносара вавілонскім царом быў Валтасар. Аднойчы ён банкетаваў. Каля тысячы вяльможаў сабралася ў яго палацы. Валтасар загадаў слугам прынесці залаты і сярэбраны посуд, які быў украдзены ў Іерусалімскім храме яшчэ яго папярэднікам. Яны налівалі ў свяшчэнныя сасуды віно, пілі і ўслаўлялі сваіх багоў: залатых, сярэбраных, медных, жалезных, драўляных, каменных.

Неўзабаве ў царскім палацы, дзе банкетавалі блізкія цару, паявілася кісць чалавечай рукі. Яна пачала пісаць на сцяне насупроць лампады. Цар, убачыўшы гэта, пабялеў ад страху. Ён зусім аслабеў, калені яго задрыжалі. Усе прысутныя таксама разгубіліся. Калі цар сабраўся з сіламі, ён загадаў знайсці мудрацоў, каб яны растлумачылі гэты таемны надпіс. Гэта было так важна, што цар абяцаў назначыць трэцім уладаром у ягоным царстве таго, хто вытлумачыць значэнне незразумелых слоў.

Царыца, даведаўшыся пра клопат цара, прыйшла яму на дапамогу. Яна расказала яму пра Данііла. Цар загадаў знайсці Данііла і паклікаць яго. Данііл меў у сэрцы Духа Святога Бога. Таму ён мог тлумачыць сны і бачыць тайны. Неўзабаве Данііл стаяў у царскім пакоі.

Данііл сказаў Валтасару, што ён зняважыў сасуды з іерусалімскага храма. У сваёй гордасці Валтасар праслаўляе злачынства і сваіх ідалаў. Потым Данііл пачаў тлумачыць таемны надпіс: «І вось, што было накрэслена: МЕНЕ, МЕНЕ, ТЭКЕЛ, УПАРСІН. Вось значэнне слоў: МЕНЕ – падлічыў Бог царства тваё і канец паклаў яму; ТЭКЕЛ – ты ўзважаны на вагах і аказаўся вельмі лёгкім; ПЕРЭС – раздзелена царства тваё і аддадзена мідзянам і персам. Тады, згодна з загадам Валтасара, адзелі Данііла ў пурпуру і павесілі яму на шыю залаты ланцужок і абвясцілі яго трэцім уладаром у царстве».

У гэтую ж ноч спраўдзілася ўсё да драбніцы. Валтасара забілі, а яго царствам авалодаў Дарый, мідыйскі цар.

ДАНІІЛ 5:1-31

# ДАНІІЛ МОЛІЦЦА

Міда-Персідскі цар Дарый быў ганарлівы ідалапаклоннік, хоць ён і любіў Данііла, які шанаваў толькі аднаго Бога. Данііл падабаўся цару. Яго высокі дух і мудрасць не мелі роўных.

Захацелася Дарыю паставіць над царствам сто дваццаць сатрапаў, каб яны былі ва ўсім царстве, а над імі трох князёў; адзін з князёў быў Данііл, каб сатрапы давалі князям справаздачу, і каб цару не было ніякай турботы. Данііл меў перавагу над іншымі князямі і сатрапамі, таму што ў ім быў вялікі дух, і цар ужо падумваў, каб паставіць яго над усім царствам. Тады князі і сатрапы пачалі шукаць прычыны, каб абвінаваціць Данііла ў кіраўніцтве царствам; але ніякай зачэпкі і пахібы знайсці не маглі, «бо ён быў дакладны, і ніякай пахібы або віны не аказалася ў ім».

Аднойчы яны прыдумалі хітры план і ўпрасілі цара выдаць закон, які забараняў бы трыццаць дзён звяртацца ні да якога там бога ці чалавека, апроч цара Дарыя. Парушальнікаў гэтага закона кідалі ў львіны роў, дзе былі галодныя звяры.

Залучыць у пастку Данііла было вельмі проста. Ён адчыняў акно свайго пакоя і тры разы на дзень маліўся свайму Богу. Калі данеслі пра гэта цару, то ён здагадаўся пра сапраўдную прычыну новага закона і сам сабе пакаяўся, што падпісаў такі закон.

Данііл ведаў пра гэты закон, але ніхто не мог яго разлучыць з Богам. Ён, як і раней, не пераставаў маліцца свайму Госпаду. Праз малітвы Данііл напаўняўся духоўнай сілай, меў радасць, блаславенне.

Злыя людзі ненавідзелі Данііла. Падгледзелі, як ён моліцца, і данеслі цару.

ДАНІІЛ 6:1-11

## ДАНІІЛ У ЛЬВІНЫМ РОВЕ

Тры разы на дзень Данііл маліўся свайму Богу. Дарый, цар персідскі, даведаўся пра гэта і вельмі засумаваў. Ён любіў Данііла, а той пападаў пад царскі ўказ. Па законе ніякі царскі закон не адмяняецца. І каб не быць парушальнікам сваіх законаў, Дарый згадзіўся, каб Данііла кінулі ў львіны роў. У цара была надзея, што Бог Данііла – вялікі Бог, і нешта будзе не так, як надумаў сам чалавек: «Бог твой, Якому ты пастаянна служыш, уратуе цябе!» Так гаварыў сам цар.

Дарый вярнуўся ў свой палац. Адмовіўся вячэраць. Доўга ляжаў у ложку. Не мог заснуць. Усё думаў пра Данііла.

Як толькі пачынала днець, цар падняўся з ложка, апрануўся і хуценька пайшоў да львінага рова. Падышоў зусім блізка. Насцярожыўся і жаласным голасам ціха паклікаў: «Данііл, раб Бога жывога! Бог твой, Якому ты служыш пастаянна, няўжо не змог бы выратаваць цябе ад ільвоў». Данііл, седзячы ў рове, адказаў цару так: «Бог мой паслаў Анёла Свайго, каб за мяне заступіўся і каб львы не разявілі пашчы сваёй. Яны зусім не пашкодзілі мне, таму што я чысты перад Госпадам, як і перад табою, цар. Я не зрабіў ніякага беззаконня».

Дарый узрадаваўся. Голас Данііла сведчыў, што ён жывы. Цар загадаў выпусціць Данііла з рова. І калі Данііл выйшаў з рова, усе ўбачылі, што львы яму ніякай шкоды не ўчынілі. «І загадаў цар, і прывялі тых людзей, што абвінавачвалі Данііла, і кінуты былі ў львіны роў... і не даляцелі яны яшчэ на дно рова, як ільвы авалодалі імі і скрышылі ўсе косці іх».

Дарый, бачачы цуд, напісаў пісьмо, загадаў размножыць яго і распаўсюдзіць ва ўсім сваім царстве. У пісьме Дарый даводзіў сваім падданым, каб яны паважалі Даніілавага Бога. Усім ён загадаў пакланяцца Яму, бо Ён – Бог жывы, вечны і ўлада Яго не мае граніц: «Ён выбаўляе і ратуе, творыць цуды і азнакі, як на небе, так і на зямлі, Ён выбавіў Данііла ад львінай пашчы!»

ДАНІІЛ 6:12-28

# ВЯРТАННЕ ІУДЗЕЯЎ З ПАЛОНУ

Як было сказана, асірыйскія войскі захапілі Паўночнае царства, Ізраільскае, і народ узялі ў палон (гэта адбылося за семсот гадоў да нараджэння Хрыста). Пазней аб'яднаная армія мідыйцаў і вавіланян знішчылі Ніневію пасля яе двухгадовай аблогі. Вавілон, будучы магутнай дзяржавай, рабаваў суседнія народы, сярод якіх было і Паўночнае царства Іудзейскае, разам з Іерусалімам, і забраў іудзеяў у вавілонскі палон.

Аднак і магутнай Вавілонскай імперыі прыйшоў канец. Яе пакарылі мідыйцы і персы. Пазней Кір, персідскі цар, дазволіў іудзеям вярнуцца на радзіму. Так кажа Кір, цар персідскі: «Усе царствы зямлі аддаў мне Гасподзь, Бог нябесны, і Ён наказаў мне, каб я пабудаваў Яму дом у Іерусаліме, што ў Іудзеі». На радзіму вярнуліся каля сарака тысяч яўрэяў, галоўным чынам іудзеяў, г. зн. яўрэяў з роду Іуды, а таксама нямногія з іншых адзінаццаці ізраільскіх родаў. Аднак шмат яўрэяў усё яшчэ засталося ў персідскіх краінах.

На другі год пасля вяртання на радзіму ізраільцяне сышліся ў Іерусалім і вырашылі зноў пабудаваць разбураны храм Гасподні, і клалі падмурак пад новы храм. «Многія свяшчэннікі і лявіты і старэйшыны ў пакаленнях, старыя, што бачылі ранейшы храм, калі закладалі падмурак храма перад іх вачыма, уголас плакалі; але многія гучна крычалі ад радасці. І не мог народ адрозніць крыкі радасці ад ляманту плачу народнага; бо народ крычаў гучна, і голас быў чуцен далёка». Унук іудзейскага цара Іехоніі, Зарававель, кіраваў будоўляй гэтага храма. Але народы, якія за гэты час пасяліліся там, дзе раней жылі ізраільцяне, ненавідзелі іх і рабілі перашкоды пры пабудове храма. Яны запалохвалі і вінавацілі яўрэяў перад персідскім царом Артаксерксам. Ім удалося спыніць пабудову храма на пятнаццаць гадоў – да царавання новага персідскага цара Дарыя. (Гэта другі Дарый у адрозненне ад таго, пра якога чыталі раней, і які раней заваяваў Вавілон.)

Цар Дарый пацвердзіў ранейшы загад Кіра і паслаў у Іерусалім пісьмо з указам пра заканчэнне будаўніцтва. «І закончаны гэты дом да першага дня месяца адара, на шостым годзе царавання цара Дарыя». Гэты храм быў значна меншы за той прыгожы храм, што быў пабудаваны Саламонам больш за чатырыста пяцьдзесят гадоў да таго.

ЕЗДРА раздзелы 1-6

# ЦАРЫЦА ЭСФІР

Персідскі цар Артаксеркс вырашыў ажаніцца. Каб знайсці сабе самую прыгожую жонку ў Персідскім царстве, Артаксеркс разаслаў ганцоў ва ўсе вобласці свайго царства і наказаў ім сабраць усіх прыгожых дзяўчат у прастольны горад Сузы. Там дванаццаць месяцаў іх рыхтавалі на прыём да цара. У гэты час у Персіі было шмат нашчадкаў з яўрэйскага народу, узятых у палон яшчэ асірыйскімі і вавілонскімі войскамі. «Быў у Сузах, прастольным горадзе, адзін іудзеянін (г. зн. яўрэй з роду Іуды); імя яго Мардахей... і быў ён выхавальнікам Гадасы – яна ж і Эсфір, – дачкі ягонага дзядзькі, таму што ў яе не было ні бацькі, ні маці. Дзяўчына прыгожая станам і прыгожая з твару. І пасля смерці бацькі яе і маці яе Мардахей узяў яе да сябе замест дачкі. Калі абвешчаны быў загад цара і яго ўказ, і калі сабраны былі многія дзяўчаты ў прастольны горад Сузы, тады была ўзята ў царскі дом і Эсфір... І палюбіў цар Эсфір больш за ўсіх жонак... і ён усклаў на яе галаву царскі вянок, і зрабіў яе царыцаю... І зрабіў цар вялікі банкет для ўсіх князёў сваіх і для ўсіх служыцеляў, што былі пры ім – банкет дзеля Эсфіры, і даў ільготы абласцям, і раздаў дары з царскаю шчодрасцю... Эсфір усё яшчэ не расказвала пра род свой і пра народ свой, як і загадаў ёй Мардахей, а слова Мардахея Эсфір выконвала і цяпер гэтаксама, як і тады, калі была ў яго на выхаванні».

Пасля гэтага ўзвялічыў цар Артаксеркс аднаго свайго князя, Амана, узнёс яго вышэй за ўсіх князёў персідскіх. «І ўсе, хто служыў пры цары... кланяліся і падалі ніцма перад Аманам, бо так загадаў цар. А Мардахей не кланяўся і не падаў ніцма... І напоўніўся гневам Аман... і надумаў Аман вынішчыць усіх іудзеяў, якія былі ва ўсім царстве Артаксеркса...»

«І сказаў Аман цару Артаксерксу: "Ёсць адзін народ, раскіданы і рассеяны па ўсіх абласцях царства твайго і законы іх адрозніваюцца ад законаў усіх народаў, і законаў цара яны не спраўджваюць"... І сказаў цар Аману: "...Зрабі з ім, як табе хочацца"... І пасланы былі пісьмы праз ганцоў ва ўсе вобласці цара, каб забіць, загубіць і знішчыць усіх іудзеяў, малога і старога, дзяцей і жанчын у адзін дзень, на трынаццаты дзень дванаццатага месяца, гэта значыць месяца Адара, і маёнткі іх разрабаваць... У кожнай вобласці і месцы, куды толькі даходзіў загад цара і яго ўказ, было вялікае нараканне іудзеяў, і пасціліся, і плакалі, і лямантавалі...»

# ЦАРЫЦА ЭСФІР
## (працяг)

Калі Мардахей даведаўся пра тое, што адбылося, ён паведаміў царыцы Эсфір пра царскі ўказ і... «наказваў ёй, каб яна схадзіла да цара і маліла яго за памілаванне і прасіла яго за народ свой». Эсфір праз Гафаху паведаміла Мардахею: «Хто ўвойдзе да цара ва ўнутраны двор, не будучы пакліканы, – смерць; толькі той, каму працягне цар свой залаты скіпетр, застанецца жыць. А я да цара не клікана вось ужо трыццаць дзён... І сказаў Мардахей у адказ Эсфіры: ”Не думай, што ты адна з усіх іудзеяў уратуешся ў царскім доме... І хто ведае, ці не на такі час ты і дасягнула годнасці царскай?” І сказала Эсфір у адказ Мардахею: ”Ідзі, збяры ўсіх іудзеяў, што знаходзяцца ў Сузах, і пасціцеся дзеля мяне і не ешце і не піце тры дні, ні днём, ні ноччу, і я са служанкамі маімі буду таксама пасціцца, і потым пайду да цара, хоць гэта супроць закона, і калі загінуць, дык загіну”». Між іншым злосны Аман падрыхтаваў «дрэва вышынёю да пяцідзесяці локцяў,.. каб павесіць на ім Мардахея».

На трэці дзень Эсфір апранулася па-царску і пайшла да дзвярэй царскага дома. «І працягнуў цар да Эсфіры залаты скіпетр... Эсфір дакранулася да канца скіпетра» і запрасіла цара з Аманам у той жа дзень на банкет. Цар з Аманам прыйшлі на банкет. І на другі дзень запрасіла царыца цара і Амана на банкет. «І сказаў цар: ”... Якое жаданне ў цябе, царыца Эсфір?” І адказала царыца Эсфір: ”...Хай будзе даравана мне жыццё маё, па жаданні маім, і народу майму па просьбе маёй! Бо прададзены мы, я і народ мой, на знішчэнне, забіванне і пагібель”». Так даведаўся цар, што яго жонка – яўрэйка, і зразумеў вераломную задуму Амана. Па загадзе цара Амана павесілі на дрэве, якое той падрыхтаваў Мардахею.

Аднак нельга было адмяніць або замяніць указы аб знішчэнні іудзеяў у персідскім царстве, бо напісаны яны былі ад імя цара і змацаваны царскай пячаткай. Аднак па загадзе цара напісалі новыя пісьмы «...аб тым, што цар дазваляе іудзеям у кожным горадзе збірацца і стаць на абарону свайго жыцця... Ганцы, якія ехалі вярхом на царскіх конях, гналіся хутка і спешна з царскім наказам», каб перадаць гэтыя пісьмы правіцелям ста дваццаці сямі царскіх правінцый ад Індыі да Эфіопіі».

У знак памяці пра выратаванне яўрэяў Мардахей устанавіў штогадовае свята, Пурым, якое да цяперашняга часу святкуецца яўрэямі 14 і 15 яўрэйскага месяца Адара (прыблізна ў сакавіку).

ЭСФІР раздзелы 1-10

# НЕЕМІЯ БУДУЕ СЦЕНЫ ІЕРУСАЛІМА

Неемія быў уплывовы прыдворны ў прастольным горадзе Сузах пры двары цара Артаксеркса*.

Адзін ізраільцянін вярнуўся з Іерусаліма ў Персію і расказаў Нееміі: «Тыя, што засталіся ад палону, жывуць там, у сваёй краіне, у вялікім бедстве і прыніжэнні, і сцены Іерусаліма разбураны, і вароты яго спалены агнём». Пачуўшы гэтыя словы, Неемія сеў «...і заплакаў, і некалькі дзён быў маркотны і пасціўся, і маліўся перад Богам нябесным». І дазволіў цар Артаксеркс Нееміі пайсці ў Іерусалім і перадаць пісьмо ахоўніку царскіх лясоў, каб Неемія атрымаў будаўнічы матэрыял на пабудову крапасной брамы і на абнаўленне гарадскіх сцен у Іерусаліме.

Вярнуўшыся ў Іерусалім, Неемія і ізраільцяне пачалі аднаўляць у Іерусаліме разбураныя сцены і браму. Калі дазналіся пра гэта ворагі, яны стараліся пагрозамі перашкодзіць будаваць у Іерусаліме сцены. Аднак Неемія ўзброіў сваіх людзей. «Тыя, што будавалі сцены, і тыя, што насілі цяжар, што клалі на іх, адной рукою выконвалі працу, а другой трымалі кап'ё. Кожны будаўнік быў падперазаны мячом па паясніцы сваёй, і так яны будавалі. Праца не спынялася ні днём, ні ноччу. Рука Божая гэтую справу абараняла і «...сцяна на дваццаць пяты дзень месяца Елуа была завершана, за пяцьдзесят два дні» – сто сорак гадоў пасля таго, як вавілонскае войска разбурыла і спаліла Іерусалім.

Калі настаў сёмы месяц, і сыны Ізраілевы жылі па сваіх гарадах, тады, як адзін чалавек, увесь народ сышоўся на плошчу... і сказалі кніжніку Ездру, калі ён прынёс кнігу закона Майсеевага, якую запаведаваў Гасподзь Ізраілю. І прынёс свяшчэннік Ездра закон перад сходам мужчын і жанчын і ўсімі тымі, што маглі разумець...і чытаў... ад світання да полудня... і вушы ўсяго народа былі нахілены да кнігі закона. І калі ён разгарнуў яе, увесь народ устаў. І багаславіў Ездра Госпада, Бога вялікага. І ўвесь народ адказваў: «Амінь, амінь», падымаючы ўверх свае рукі – і пакляліся і ўпалі перад аблічам Госпада... І кожны дзень чыталі кнігу закона Божага, ад першага да апошняга дня. І свяшчэннікі сем дзён, і святкавалі ўрачыста на восьмы дзень.

НЕЕМІЯ раздзелы 1-8

* *Артаксеркс кіраваў Персіяй у 465-425 гг. да нараджэння Хрыста. І быў ён не тым царом Артаксерксам, які шмат гадоў да гэтага ўзяў Эсфір за жонку.*

# НАРОД ЗВЯРТАЕЦЦА ДА БОГА

«На дваццаць чацвёрты дзень гэтага месяца сабраліся ўсе сыны Ізраілевы, якія посцяцца і ходзяць у дзяругах і з попелам на галавах сваіх. І аддзялілася семя Ізраілева ад усіх іншародных, і ўсталі і пакаяліся ў грахах сваіх і злачынствах бацькоў сваіх. І стаялі на сваім месцы, і чвэрць дня чыталі з кнігі закона Госпада, Бога свайго, і чвэрць дня каяліся і пакланяліся Госпаду, Богу свайму. І сталі на ўзвышанае месца лявітаў: Ісус, Кадмііл, Шэванія, Вуній, Шэрэвія, Ванія, Хенані, і гучна клікалі Госпада Бога свайго. І сказалі лявіты: "...Устаньце, слаўце Госпада Бога вашага, ад веку да веку. Хай славяць словам вартае славы і вышэйшае за ўсё вартае ўслаўлення і хвалы імя Тваё! Ты, Госпадзе, адзін, Ты стварыў неба, нябёсы нябёсаў і ўсё воінства іх, зямлю і ўсё, што на ёй, моры і ўсё, што ў іх, і Ты жывіш усё гэта, і нябесныя воінствы Табе пакланяюцца"».

Народ вельмі каяўся за свае грахі і адступніцтва ад Госпада, і маліўся: «І цяпер, Божа наш, Божа вялікі, моцны і страшны, што захоўвае запавет і літасць! Хай не будзе малой перад абліччам Тваім уся пакута, якая спасцігла нас, цароў нашых, князёў нашых, і святароў нашых, і прарокаў нашых, і бацькоў нашых, і ўвесь народ Твой, ад дзён цароў асірыйскіх аж па сягоння. Ва ўсім, што спасцігла нас, Ты справядлівы, бо Ты рабіў па праўдзе, а мы вінаватыя... І па ўсім гэтым мы даём цвёрдае абяцанне і падпісваем, і на подпісе пячатка нашых князёў, лявітаў нашых і святароў нашых». І падпісалі гэты закон знатныя людзі і прыкладвалі свае пячаткі. «А іншы народ, святары, лявіты, брамнікі, спевакі, нефінеі і ўсе, што аддзяліліся ад іншаземных народаў і далучыліся да закона Божага, жонкі іх, сыны іх і дочкі іх, і ўсе, якія маглі разумець, прысталі да братоў сваіх, да самых знакамітых з іх, і ўступілі ў абавязацельства з клятваю і праклёнам рабіць паводле закона Божага, які дадзены рукою Майсея, раба Божага, і захоўваць і выконваць усе запаведзі... і прадпісанні Яго».

Так чытанне Слова Божага і малітва да Госпада Бога правялі і могуць правесці пераўтварэнне ў жыцці народа.

НЕЕМІЯ 9:1-6, 9:32-10:29

## ЦЯРПЕННІ ІОВА

У краіне Уц жыў набожны і вельмі багаты чалавек. Звалі яго Іоў. Ён не меў ніякай заганы, быў справядлівы і богабаязны. Усякага зла пазбягаў. Меў сем сыноў і тры дачкі.

Іоў любіў Госпада. Уславуляў Яго ў сваіх малітвах. Сатана ж хацеў, каб Іоў ліхасловіў Госпада.

Аднойчы сатана наведаўся да Бога. І Гасподзь спытаўся ў яго: «Адкуль ты з'явіўся?» Сатана адказаў: «Я хадзіў па зямлі і абышоў яе ўсю». Гасподзь сказаў яму: «Ці звярнуў ты ўвагу на раба Майго Іова? Таму што няма такога, як ён, на зямлі: чалавек богабаязны, справядлівы, бездакорны і пазбягае зла». Тады сатана адказаў Госпаду: «Хіба дарма Іоў богабаязны? Ці не Ты апякаеш яго ўсюды: і дом яго, і ўсё, што ён мае? Усе яго справы блаславіў, а на зямлі яго статкі паўсюдна. Але працягні Тваю руку і дакраніся да ўсяго, што ён мае – ці блаславіць ён Цябе?» І Гасподзь надумаў даказаць ворагу ўсяго чалавецтва, што сэрца Іова аддадзена Яму і што Іоў пастаянна будзе Яго любіць, хоць бы ён і страціў усё, што мае. Таму Бог сказаў сатане: «Усё, што ён мае, усё ў тваіх руках...»

Сатана, патураючы злу, як мог, так і шкодзіў Іову. Ён загубіў усіх ягоных дзяцей, разбурыў усю гаспадарку. Але Іоў не зганьбіў Бога, толькі казаў: «Гасподзь даў, Гасподзь і забраў. Няхай імя Яго будзе блаславенна!» А жонцы сваёй сказаў так: «Няўжо тое, што добрае, прымаць ад Бога будзем, а што злое, не будзем?» Сваімі словамі Іоў не саграшыў перад Богам. Тады сатана паразіў яго страшнай хваробай. Гэта была праказа. Іоў так нацярпеўся, што потым адчаяўся.

Сябры Іова пачулі пра яго няшчасце. Наведалі яго. І спачувалі яму не так, як маглі. Свайго друга яны асуджалі. Казалі яму, што ён саграшыў. Інакш Бог не пакараў бы яго. Іоў спадзяваўся на ўсемагутнага Бога і чакаў ад Яго дапамогі.

ІОЎ раздзелы 1, 2, 4, 5

# ІОЎ ПАСЛЯ ВЫПРАБАВАННЯ

Ніхто не пашкадаваў Іова, апрача Госпада. Ён з любоўюназіраў за ім. Іоў спадзяваўся на Госпада. Нездарма ён сказаў: «Я ведаю, што Збавіцель мой жывы, і Ён у апошні дзень адновіць з праху скуру маю, якая так распадаецца, і я ў плоці маёй убачу Бога».

Калі яго наведалі трое ягоных сяброў і разгаварыліся з ім, раптам пачуўся шум моцнай буры, і з буры – голас Самога Бога. Гасподзь пачаў пытацца ў Іова і яго сяброў, але на Яго пытанні цяжка было знайсці адпаведныя адказы. Дзякуючы гэтаму, Іоў яшчэ больш ясна зразумеў Творцу, Яго веліч і ўсемагутнасць.

Калі Гасподзь замоўк, Іоў сказаў Яму: «Ведаю, што Ты ўсё можаш і што Твая задума не можа быць спынена нікім».

Пасля выпрабавання Іоў атрымаў ад Госпада ўсё, што ён страціў, і яшчэ удвая больш таго, што меў. А яго сябры, вартыя жалю суцешнікі, атрымалі спагнанне ад Госпада. Не так слушна, як Іоў, гаварылі яны пра Госпада. Таму Бог загадаў ім кожнаму за сябе прынесці ахвяры. У дадатак Іоў павінен быў за іх памаліцца, таму што толькі малітву ў гэтым выпадку можа прыняць Гасподзь. Як сказаў Гасподзь, так сябры і зрабілі. Прынеслі ахвяры. Пасля малітвы Іова атрымалі і дараванне ад Бога.

Пасля выпрабаванняў Іова наведалі яго браты, сёстры, знаёмыя. Яны прынеслі яму падарункі. Гасподзь жа благаславіў Іова. Яго апошнія дні жыцця блаславёныя больш за папярэднія. Іоў доўга яшчэ жыў. Нарадзілася ў яго яшчэ сем сыноў і тры дачкі. Прыгажэйшых за яго дачок не было ў свеце.

ІОЎ, раздзелы 19:25-26 і 37-42

# ПСАЛТЫР

Псалтыр – кніга, якая найбольш чытаецца. Яна складаецца з 150 псалмоў, г. зн. паэм або песнапенняў, якія пакладзены на музыку. Псалмы выяўляюць перад Богам усё, што толькі хвалюе верных: смутак у сувязі з беззаконнем на зямлі, надзею на перамогу святла над цемрай, пакаянне ў асабістых грахах і прагу пра збавенне... Найбольш натхнёныя псалмы ўзвышаюцца да прарочага сузірання Месіі, Хрыста. Ёсць псалмы, у якіх душа Ізраіля, будучы ў прыгнёце, моліць Бога за помсту ворагам, не можа не мець водгуку ў хрысціянскай душы, адухоўленай Духам Хрыстовым.

Хоць звычайна кажуць пра "Псалмы Давіда", вядома, што яны, апроч Давіда, былі таксама напісаны і іншымі аўтарамі ў Божым натхненні.

Тут, напрыклад, прыводзяцца два псалмы. Па іх перакладах можна сабе ўявіць, як гучалі яны. Псалмы былі напісаны так хораша, што многія хрысціянскія малітвы потым складаліся на іх аснове.

Псалом 120

«Песня ўзыходжання.

Падымаю вочы мае ўгору, адкуль прыйдзе дапамога мая. Дапамога мая ад Госпада, Які стварыў неба і зямлю. Не дасць Ён пахіснуцца назе тваёй, не задрэмле той, хто асланяе цябе. Не дрэмле і не спіць, хто асланяе Ізраіль. Гасподзь – ахавальнік твой; Гасподзь – шата твая з правай рукі тваёй. Удзень сонца не заб'е цябе, ані месяц уночы. Гасподзь аслоніць цябе ад усякага ліха; ахавае душу тваю Гасподзь. Гасподзь будзе ахоўваць твой выхад і ўваход ад сёння і вечна».

Псалом 150

«Слаўце Бога ў святыні Яго; слаўце Яго на цвердзі сілы Яго. Слаўце Яго паводле магутнасці Яго, слаўце Яго паводле мноства велічы Яго. Слаўце Яго гукам трубным, слаўце Яго на псалтыры і арфе. Слаўце Яго тымпанам і танцам, слаўце яго струнамі і арганам. Слаўце Яго гучнымі кімваламі, слаўце яго кімваламі гучнагалосымі. Кожнае дыханне хай славіць Госпада! Алілуя».

# ЗАПАМЯТАЕМ ВЕРШЫ З ПСАЛТЫРЫ

*Шчасны той муж, што на раду бязбожных не ходзіць, і не стаіць на дарозе грэшных, і не сядзіць на сходні зласлівых (1:1)*

*І пакладуць на Цябе надзею тыя, што ведаюць імя Тваё, бо не пакідаеш Ты анікога, хто шукае Цябе, Госпадзе (9:11)*

*Нябёсы прапаведуюць Славу Божыю, і пра дзеі рук Ягоных звяшчае цвердзь (18:2)*

*Хай баіцца Госпада ўся зямля; хай трымцяць перад Ім усе жыхары свету (32:8)*

*Пакаштуйце і ўбачыце, які добры Гасподзь! Шчасны той чалавек, што на Яго спадзяецца! (33:9)*

*Госпаду перадай дарогу тваю і на Яго спадзявайся, і Ён зробіць (36:5)*

*І пакліч Мяне ў дзень смутку; Я ўратую цябе, і ты ўславіш Мяне (49:15)*

*Чыстае сэрца ўцвярдзі ўва мне, Божа, і дух справядлівы ўзнаві ўва мне (50:12)*

*Каб мы спазналі на зямлі дарогу Тваю, ва ўсіх народах збавенне Тваё (66:3)*

*Перш чым нарадзіліся горы, і Ты стварыў зямлю і сусвет, і ад веку да веку Ты – Бог (89:3)*

*Але Гасподзь – абарона мая, і Бог мой – цвярдыня прытулку майго (93:22)*

*Багаславі, душа мая, Госпада, і не забывай усіх добрых дзеяў Ягоных (102:2)*

*Пачатак мудрасці – страх Гасподні... (110:10)*

*Гасподзь за мяне, не збаюся: што зробіць мне чалавек? (117:6)*

*Я Твой, уратуй мяне... (118:94)*

*Хто са слязьмі сеяў – пажынацьме з радасцю (125:5)*

*Блізкі Гасподзь да ўсіх, хто кліча Яго, да ўсіх, хто кліча Яго ў праўдзе (144:18)*

*Народзе! На Яго спадзявайся ўвесь час; сэрца сваё перад Ім вылівайце: Бог – нам прыстанішча (61:9)*

*Чым юнак утрымае свой шлях у чысціні? – Калі будзе трымацца слоў Тваіх (118:9)*

*Слова Тваё – светач нагам маім і святло сцежцы маёй (118:105)*

Слова тваё —
светач
для маёй нагі
і святло
на маім шляху

пс. 118:105

# КНІГА ПРЫТЧАЎ

Адна кніга ў Бібліі называецца "Кнігай Прытчаў Саламонавых". Пераважная частка прытчаў напісана мудрым царом Саламонам. Прытчы складаюцца са сціслых і кароткіх павучанняў, якія галоўным чынам прызначаны маладым. Тэматыка прытчаў – мудрасць, праведнасць, страх Божы, веды, мараль, стрыманасць, стараннасць, самавалоданне, спадзяванне на Бога, спагада бедным, міласэрнасць да ворагаў, выхаванне дзяцей, сумленнасць, справядлівасць, цвярозая развага і т.д. Вось некаторыя прытчы:

«Пачатак мудрасці – страх Гасподні; неразумныя пагарджаюць і мудрасцю і настаўленнем.

Сыне мой, калі цябе будуць угаворваць грэшнікі, не згаджайся.

Спадзявайся на Госпада ўсім сэрцам тваім і не спадзявайся на розум твой.

Гасподніх пакаранняў, сыне мой, не ўхіляйся і не імкніся выракацца Яго, бо каго любіць Гасподзь, таго і карае, і таму ж спрыяе, як бацька свайму сыну.

Пайдзі да мурашкі, гультаю, пагляндзі на яе ўчынкі, і мудрацом станавіся.

Люблю таго, хто Мяне любіць, і той знойдзе Мяне, хто шукае Мяне.

Іншы абдорвае шчодра, і яму яшчэ прыбаўляецца; а іншы звыш меры беражлівы, і аднак жа бяднее.

Хто ўціскае беднага, той знеслаўляе яго ж Творцу, хто шануе Яго, той чыніць дабро таму, хто жыве ў нястачы.

Праведнасць узвышае, а беззаконнасць – прыніжае народы.

Сэрца чалавека шлях свой абдумае, аднак Гасподзь кіруе шчасцем яго.

Імя Гасподняе – вежа моцная, у яе забяжыць праведнік, і бяспечны.

Навучы юнака ў пачатку шляху яго, і не ўхіліцца ён ад яго, калі састарыцца.

Не будзь сярод тых, што віном упіваюцца, і сярод тых, што мясам аб'ядаюцца.

Сыне мой! Сэрца тваё Мне аддавай, а вочы твае хай за шляхамі тваімі прасочаць.

Калі галодны вораг твой, накармі яго хлебам, і калі ён прагне, яго напаі і вадою, бо, робячы такое, ты збярэш вуголле гарачае на галаву яго, і Гасподзь заплаціць табе».

КНІГА ПРЫТЧАЎ

## КНІГА ПРАПАВЕДНІКА

Адразу пасля "Кнігі Прытчаў Саламонавых" у Бібліі змешчана "Кніга Эклесіяста або Прапаведніка". Яна складаецца з 12 раздзелаў і ўключае ў сябе прыгожыя, мудрыя выслоўі, якія вельмі нагадваюць настаўленні з кнігі прытчаў Саламонавых. Вось некалькі вершаў:

«Пустая марнасць, сказаў Эклесіяст, пустая марнасць – усё марнота!»

«Нараканне лепей за смех; бо са смуткам на твары сэрца робіцца лепшым...»

«Мудрасць лепей за воінскую зброю; але адзін грэшнік шмат добрага загубіць».

«Хто яму капае, той упадзе ў яе; і хто разбурае агароджу, таго ўджаліць змяя...»

«Пускай хлеб свой па водах, бо пасля многіх дзён зноў яго знойдзеш...»

«Весяліся, юнак, у юнацтве тваім, і хай зазнае сэрца тваё радасць ва ўсе дні юнацтва твайго і хадзі па шляхах сэрца твайго і па бачанні вачэй тваіх; толькі ведай, што за ўсё гэта Бог на суд пакліча цябе...»

«І памятай Творцу твайго ў дні юнацтва твайго, пакуль не прыйшлі цяжкія дні і не наступілі гады, пра якія ты будзеш казаць: "Няма мне асалоды ў іх!" Пакуль не пагасла сонца, і святло, і месяц, і зоры, і не наплылі новыя хмары ўслед за дажджом. У той дзень, калі здрыгануцца тыя, што ахоўваюць дом, і мужы сілы сагнуцца; і млынары перастануць малоць, бо няшмнога іх засталося; і запамрочацца тыя, што ў акно глядзяць; і зачыняцца будуць дзверы на вуліцу, калі замоўкне гук жорнаў, і будзе ўставаць чалавек па крыку пеўня, і замоўкнуць дочкі спеваў, і вышыні ім будуць страшныя, і на дарозе жахі, і зацвіце міндаль; і ацяжэе конік, і рассыплецца каперс. Бо адыходзіць чалавек у вечны дом свой, і гатовыя акружыць яго на вуліцы плакальшчыцы; – пакуль не парваўся срэбны ланцужок, і не разарвалася залатая павязка, і не разбіўся збан каля крыніцы, і не абвалілася кола над калодзежам. І вернецца прах у зямлю, чым ён і быў, а дух вернецца да Бога, Які яго даў».

# ПРАРОКІ

Гасподзь нярэдка гутарыў з ізраільскім народам праз асоба пакліканых людзей-прарокаў. Яны былі не толькі прадказальнікамі будучыні. Бог нярэдка пасылаў прарокаў, якіх Ён выбіраў сярод ізраільскага народу як у Паўночным, так і ў Паўднёвым царствах, каб яны абвяшчалі паводле Яго адкрыцця народу Ягоную волю і папярэджанні, перасцерагалі перад грахом і ідалапаклонствам, і прыгадвалі магутныя справы Божыя, што адбываліся і яшчэ адбудуцца. Прарокі часта падавалі свой голас і тады, калі цары, святары і народ памыляліся і ўхіляліся ад шляхоў Гасподніх, калі царствам пагражалі войны, голад і іншыя бедствы. Сведчачы пра мінулыя справы Госпада, яны ў людскіх сэрцах сеялі сумленне для неабходнага і дасканалага паслушэнства Богу – і не толькі ўчынялі абрады; яны звеставалі і будучыя кары; напад язычніцкіх народаў на непакорлівы Ізраіль, звеставалі таксама пра тое, што Гасподзь пакарае народы, якія прынеслі Ізраілю шмат ліха, пра рассеянне ізраільскага народу па ўсім свеце і пра яго вяртанне ў зямлю абяцаную. Яны прадказвалі прышэсце Месіі, г. зн. Памазанніка, Яго смерць дзеля выратавання Ізраіля і ўсяго свету, і Яго ўваскрэсенне; казалі пра часы светлай будучыні, калі Месія, «Князь свету» прыйдзе другі раз і будзе цараваць...

Многія прарокі пісалі прарочыя кнігі. У Бібліі ёсць 17 прарочых кніг. Зыходзячы з колькасці старонак, – гэта амаль пятая частка Бібліі. Іх напісалі 16 прарокаў (Кнігі Іярэміі – дзве). Імёны прарокаў, якія напісалі прарочыя кнігі, прыводзяцца прыблізна ў такім храналагічным парадку: Іаіль, Іона, Амос, Осія, Ісаія, Міхей, Сафонія, Навум, Іярэмія, Авакум, Аўдзія, Данііл, Іезекііль, Агей, Захарыя і Малахія. У Бібліі храналагічны парадак прарочых кніг не падтрымліваецца. Карысна прыгадаць імёны ўсіх прарокаў, каб лягчэй у Бібліі знаходзіць іх кнігі.

# ПРАРОК ІСАІЯ

Прарок Ісаія жыў у Ізраілі за колькі сотняў гадоў да нашай эры, г. зн. да нараджэння Хрыста. Ён горача любіў Бога Ізраіля і абараняў Яго славу. Ісаія выкрываў крывадушную набажнасць тых ізраільцян, што адпадалі ад Госпада і заклікаў грэшнікаў да пакаяння. Ён прадказаў лёс многіх гарадоў, і прадказанні яго збыліся з вялікай дакладнасцю.

Ісаія пастаянна заклікаў народ мець надзею на Госпада. Вось адзін яго заклік: «Няўжо ты не ведаеш? Няўжо ты не чуў, што вечны Гасподзь Бог, Які стварыў канцы зямлі, не стамляецца і не знемагае? Розум Яго недаследны. Ён дае стомленаму сілу, і знямогламу дорыць моц. Стамляюцца юнакі і слабеюць, і маладыя людзі падаюць, а тыя, што спадзяюцца на Госпада, абновяцца ў сіле; уздымуць крылы, як арлы, пацякуць і не зморацца, пойдуць і не стомяцца!»

Ісаія прароча прадказаў нараджэнне Месіі – Збавіцеля чалавецтва, Ісуса Хрыста. У сваёй кнізе ён даволі дакладна паказаў месца нараджэння Ісуса Хрыста, Яго жыццё, пакуты, смерць і ўваскрэсенне. Гэта наводзіць на думку, што ён ужо тады бачыў усё, што адбудзецца праз сотні гадоў пазней, і пра што запісана ў кнігах Новага Запавету. Гэта лішні раз кажа нам пра боганатхнёнасць Біблії, у якой сабраны кнігі, што пісаліся рознымі людзьмі ў розныя эпохі.

«...Ён узяў на Сябе нашыя немачы, і панёс нашыя хваробы, а мы думалі, што Ён быў паражоны, пакараны і ўніжаны Богам. Але караны Ён быў за грахі нашыя і мучаны за беззаконні нашыя; пакаранне свету нашага было на Ім, і ранамі Яго мы ацаліліся. Усе мы блукалі, як авечкі, збіваліся кожны на сваю дарогу; і Гасподзь усклаў грахі ўсіх нас на Яго. Яго катавалі, аднак мучыўся Ён па добрай волі, і не адкрываў вуснаў Сваіх; як авечку, вялі Яго на пагубу, і як ягня перад тымі, хто стрыжэ, безгалоснае, так Ён не адкрываў вуснаў Сваіх».

ІСАІЯ 40:28-31; 53:4-7

## «ПЕРАКУЮЦЬ МЯЧЫ СВАЕ НА АРАЛЫ...»

Сярод шматлікіх прароцтваў у кнізе Ісаіі мы чытаем пра апошнія часы і пра царства Месіі, Якога чакаем, Які і Богам абяцаны нам Збавіцель і Ўладар сусвету:

«І будзе ў апошнія дні,
гара дома Гасподняга будзе пастаўлена на чале гор,
і ўзвысіцца над узгоркамі,
і пацякуць да яе ўсе народы.
І пойдуць многія народы, і скажуць:
прыйдзіце, і ўзыдзем на гару Гасподнюю,
у дом Бога Якаўлева,
і навучыць Ён нас Сваім шляхам;
і будзем хадзіць па сцежках Яго.
Бо ад Сіёна выйдзе закон,
і слова Гасподняе – з Іерусаліма.
І будзе Ён судзіць народы,
і выкрываць многія плямёны;
і перакуюць мячы свае на аралы,
і дзіды свае – на сярпы;
не падыме народ на народ мяча,
і не будуць больш вучыцца ваяваць...»

ІСАІЯ 2:2-4

## І ЗЛА НЕ БУДЗЕ НА ЗЯМЛІ...

Госпадзь адкрыў Ісаіі, што надыдуць часы – пад кіраўніцтвам Месіі, г. зн. Ісуса Хрыста, Сына Божага, – калі больш не будзе ні гора, ні зла.

«Ён будзе судзіць па праўдзе,
і справы пакутнікаў зямлі вырашаць па ісціне;
і жазлом вуснаў Сваіх паразіць зямлю,
і духам вуснаў Сваіх заб'е бязбожніка.
І падперазанне паясніцы Яго будзе праўда,
і падперазанне сцёгнаў Яго – ісціна.
Тады воўк будзе жыць разам з ягняткам,
і барс будзе ляжаць разам з казляняткам;
і цяля, і малады леў, і вол будуць разам,
і малое дзіця будзе вадзіць іх.
І карова будзе пасвіцца з мядзведзіцаю,
і дзеці іх будуць ляжаць разам;
і леў, як вол, будзе есці салому.
І дзіця будзе гуляць каля нары аспіда,
і дзіця працягне руку сваю на гняздо змяі.
Не будуць шкодзіць і рабіць зла на ўсёй святой гары Маёй:
бо зямля напоўніцца пазнаннем Госпада,
як воды напаўняюць мора».

ІСАІЯ 11:4-9

# ПРАРОК ОСІЯ

Як нам вядома, у Паўночным яўрэйскім царстве, у Ізраілі, адступіліся ад Бога, было і беззаконне і ідалапаклонства. Каб накіраваць народ Ізраільскі і яго цароў на шлях ісціны, Гасподзь пасылае Сваіх пракокаў і насылае кару за карай, але – дарэмна. Цары і народ і далей жывуць у беззаконні і вызнаюць ідалаў. Вырашыў Гасподзь гэтае царства разбурыць і народ перадаць у рукі разбойнікам. Перад заняпадам царства выступалі сярод народу прарокі Осія*, Ісаія і Міхей. Адносіны Бога да Ізраіля ў кнізе прарока Осіі падаюцца як шлюбны саюз, а вераломства народу як фальшывыя адносіны жонкі да мужа. Вось як прарок Осія кажа пра вераломства народу:

«Слухайце Слова Госпадняе, сыны Ізраілевы; бо суд у Госпада з жыхарамі зямлі гэтай, таму што няма ні ісціны, ні міласэрнасці, ні Богаспазнання на зямлі. Клятва і мана, забойства і зладзейства і распуста аж крайне пашыраны, і кровапраліццё за кровапраліццём... Знішчаны будзе народ Мой за недахоп ведання: таму што ты адкінуў веданне, дык і Я адкіну цябе ад свяшчэннадзейства перада Мною; і як ты забыў закон Бога твайго, так і Я забуду дзяцей тваіх... Не радуйся, Ізраіль, да захаплення, як іншыя народы, бо ты разводзіш распусту, аддаліўшыся ад Бога твайго...»

Але прарок гаворыць і пра тое, што Бог багаславіць народ Свой, калі ён вернецца да Яго і пакаецца: «Навярніся, Ізраіль, да Госпада Бога твайго; бо ты ўпаў ад бязбожжа твайго. Вазьміце словы малітвы з сабою і звярніцеся да Госпада... Аздараўлю тых, што адпалі, і пяшчотна іх палюблю, бо гнеў Мой ад іх адступіў. Я буду расою Ізраілю; ён, як лілія, расквітнее, і пусціць карэнні свае, як Ліван».

Пра далёкую будучыню Ізраіля Осія кажа так: «Але ж лік сыноў Ізраілевых будзе, як пясок марскі, якога нельга ні памерыць, ні падлічыць; і там, дзе казалі ім: "Вы не мой народ", будуць казаць ім: "Вы сыны Бога жывога"».

ОСІЯ 4:1-2; 3:6; 9:1; 14:2-6; 1:10

** Апошні цар Паўночнага царства называўся таксама Осія.*

# ПРАРОК ІАІЛЬ

Невядома, калі жыў прарок Іаіль, хоць лічыцца, што ён быў адным з ранніх пракаў Іудзеі. Ён прарочыў пра далёкую будучыню, пра дзень Гасподні:

«Ах, які дзень! бо дзень Гасподні блізка: як спусташэнне ад Усемагутнага прыйдзе ён... На трубе трубіце на Сіёне і ўзніміце трывогу на святой гары Маёй; хай дрыжаць ад страху жыхары ўсёй зямлі, бо наступае дзень Гасподні, бо ён блізка... І будзе пасля таго, калі напоўню ад Духа Майго кожную плоць, сыны вашыя і дочкі вашыя будуць прарочыць; і будуць сны старым вашым сніцца і будуць бачыць прывіды юнакі вашыя. І таксама на рабоў і рабынь у тыя дні выллію ад Духа Майго. І пакажу азнакі на небе і на зямлі: кроў і агонь і слупы дыму. Сонца ператворыцца ў цемрадзь і поўня – у кроў, яшчэ да прыходу Господняга дня, вялікага і страшнага. І будзе, кожны, хто пакліча імя Гасподняе, уратуецца; бо збавенне адбудзецца на гары Сіёне і ў Іерусаліме, як сказаў, і астатнім, якіх пакліча Гасподзь».

Многа стагоддзяў пазней некаторыя з гэтых слоў выкарыстаў апостал Пётр, калі ён сведчыў народу пра Госпада Ісуса Хрыста.

Іаіль таксама прарочыў пра адраджэнне Ізраіля: «Таму вось у тыя дні і ў той самы час, калі Я вызвалю з палону Іуду і Іерусалім, Я збяру ўсе народы і прывяду іх у даліну Іасафата і там учыню над імі суд за народ Мой і за спадчыну Маю, Ізраіля, які яны рассеялі паміж народамі, і зямлю Маю раздзялілі. І аб народзе Маім кідалі жэрабя». «І прагрыміць Гасподзь з Сіёна і падасць голас Свой у Іерусаліме, неба і зямля здрыгануцца; але Гасподзь будзе абаронцам народу Свайго і абаронцам сыноў Ізраілевых. Тады ж уведаеце, што Я – Гасподзь Бог ваш, што жыве на Сіёне, на святой гары Маёй; і будзе Іерусалім святыняю...»

КНІГА ПРАРОКА ІАІЛЯ

# ПРАРОК ІОНА

Гасподзь аднога разу сказаў прароку Іону: «Устань, ідзі да Ніневіі, вялікага горада, і прапаведуй у ім, бо зладзействы яго дайшлі да Мяне». Дзе вы бачылі, каб Іона паслухаўся Бога. Ён надумаў уцячы ад Яго ў Фарсіс. І там, калі ўсё добра будзе, схавацца. Спачатку ён дабраўся да Іопіі. Там знайшоў карабель да Фарсіса, заплаціў за праезд і неўзабаве быў на караблі.

На моры паднялася бура. Раскалыхала карабель так, што, здавалася, ён перакуліцца. Карабельшчыкі напалохаліся. Выкідвалі з карабля ў мора паклажу, маліліся кожны свайму богу, але бура не аціхала. Раптам даведаліся, што на караблі ёсць чалавек, які ўцякае ад Бога. Іона, апусціўшыся ў трум, моцна задрамаў, але, як даведаўся, што яго шукаюць, падняўся наверх і прызнаўся, хто ён такі. «Вазьміце мяне і выкіньце ў мора, – сказаў ён, – і мора супакоіцца. Я знаю, – казаў ён далей, – што гэтая бура разышлася і захапіла вас толькі праз мяне». Іону выкінулі з карабля ў мора. Адразу сціхла бура, і мора супакоілася. А Бог загадаў вялікай рыбіне праглынуць Іону. Тры дні і тры ночы Іона ў чэраве ў рыбы маліўся Богу. І тады Гасподзь загадаў выкінуць Іону на сухі бераг.

Гасподзь яшчэ раз прыгадаў Іону: «Уставай, ідзі да Ніневіі, горада вялікага, і прапаведуй у ім, што я табе загадаю». На гэты раз Іона пакарыўся Госпаду. Пайшоўшы ў Ніневію, ён прапаведаваў на вуліцах горада: «Яшчэ сорак дзён, – казаў ён, – і Ніневія будзе разбурана!» Пра гэта дачуўся ніневійскі цар. Ён пакінуў царскі прастол. Замест царскага ўбранства накінуў на сябе жалобны балахон. На яго прыклад усе ніневіцяне пакрыліся радном. Пасціліся і маліліся Богу. Усе яны шчыра паверылі Богу і Яго прароку.

Ніневіцяне пакаяліся. Гасподзь злітаваўся. Міласэрны Бог не жадае нікому пагібелі. Ён хоча, каб усе мелі выратаванне.

ІОНА 1-4

# ПРАРОК МІХЕЙ

Прарок Міхей паходзіў з горада Марасфіта, што за 50 кіламетраў на паўднёвы захад ад Іерусаліма. Ён прарочыў у дні іудзейскіх цароў Іаяфама, Ахаза і Езекіі, і ізраільскіх цароў Менаіма, Факіі, Факея і Осіі ў 740-700 гг. да нараджэння Хрыста. Міхей прарочыў пра тое, што народ адступіўся ад Бога, што надыходзіць суд над правадырамі народу, што прыйдзе разбурэнне Самарыі і Іерусаліма... Ён прарочыў таксама пра тое, што настане прышэсце Цара Сіёна і Яго сусветнага Царства: пра Месію – Ісуса Хрыста.

«І будзе ў апошнія дні: гара Гасподняга Дома стане пагалавою і будзе ўзвышацца над узгоркамі, і народы пацякуць да яе. І, сабраўшыся, многія народы скажуць: ”Прыйдзіце і ўзыдзіце на гару Гасподнюю, і ўвойдзем у дом Бога Якава, – і Ён паставіць нас на шляхі Свае, і будзем хадзіць па шляхах Яго; бо з Сіёна выйдзе і закон і слова Гасподняе – з Іерусаліма. І ён будзе судзіць народы многія і выкрые плямёны многія ў краях далёкіх; і перакуюць яны мячы на аралы і дзіды свае – на сярпы; не падыме мяча народ на народ, і не будуць болей вучыцца ваяваць, але кожны сядзе пад сваёй вінаградной лазою і пад сваёй смакоўніцаю, і ніхто не будзе палохаць іх, бо ўсё гэта сказана праз вусны Госпада Саваофа: бо ўсе народы жывуць, кожны – ад імя свайго бога, а мы будзем жыць ва векі вякоў у імя Госпада Бога нашага”. У той дзень, кажа Гасподзь, збяру тых, што кульгаюць, і аб'ядналю разагнаных, і тых, на каго навёў Я бядоты. І кульгавых зраблю астаткам і рассеяных – моцным народам, і Гасподзь будзе цараваць над імі на гары Сіёне ад сёння і да веку. А ты, вежа статку, пагорак дачкі Сіёна! Да цябе прыйдзе і вернецца ранейшае ўладарства, царства – да дочак Іерусаліма...

І будзе астатак Якава сярод многіх народаў, як раса ад Госпада, як лівень на траве...»

МІХЕЙ 4:1-8; 5-7

# ПРАРОЦТВЫ АБ ПЕРШЫМ ПРЫХОДЗЕ МЕСІІ

Калі Бог стварыў чалавека, Ён стварыў яго паводле Свайго вобраза і падабенства. Бог хацеў, каб чалавек быў такі, як і Ён Сам: шчодралюбны, справядлівы, бязгрэшны. Але было не так. Ужо першыя людзі, Адам і Ева, саграшылі. А Каін, іх першы сын, дакаціўся да забойства. І забіў ён не каго чужога, а свайго роднага брата Авеля. Вядома, ад такіх паводзінаў ужо першых пакаленняў, зямля напоўнілася грахом. Нездарма Гасподзь пра людзей казаў так: «Усе адвярнуліся, зрабіліся непатрэбнымі; і нікога няма, хто рабіў бы дабро, няма аніводнага». А ўсякі недараваны грэх абернецца вечнай згубай.

Сярод многіх народаў Гасподзь выбраў сабе ізраільцян. Яны верылі ў адзінага праўдзівага Бога, захоўвалі Яго запаведзі. Бог вуснамі сваіх прарокаў казаў, што настане час, калі прыйдзе на зямлю Месія (Памазанік), што на грэчаскай мове азначае «Хрыстос». Прарок Ісаія, за сем стагоддзяў да нараджэння Хрыста прадбачыў такое: «Бо дзіця нарадзілася нам; Сын дадзены нам; і панясе ўладу на плячах Сваіх, і назавуць імя Яму: Цудоўны, Дарадчык, Бог Моцны, Айцец Вечнасці, Князь Свету».

А прарок Міхей прадбачыў нават і месца, дзе Месія павінен нарадзіцца: «І ты, Віфлеем-Ефрафа. Няўжо ты малы сярод тысяч іудзінаў. З цябе мае выйсці Той, Які павінен быць Уладаром у Ізраілі і Якога паходжанне здаўна, ад вечных дзён».

Галоўная мэта месіянства – адвесці чалавецтва ад грахоў, павярнуць яго да Бога і выратаваць ад вечнай смерці. Апошняе ад Месіі патрабавала пакутнай смерці Яго Самога. Пра гэта ясна сказана ў 53-м раздзеле кнігі прарока Ісаіі: «Але Ён узяў на Сябе немачы нашыя і панёс хваробы нашыя; а мы думалі, што Ён быў паражоны, пакараны і прыніжаны Богам. Але Ён быў паранены за грахі нашыя, пакутаваў за беззаконні нашыя; пакаранне свету нашага было на Ім, і ранамі Яго мы аздаравіліся. Усе мы блукалі, як авечкі, збіліся кожны на сваю дарогу; і Гасподзь грахі ўсіх нас усклаў на Яго. Ён быў катаваны, але пакутаваў добраахвотна і не вымавіў аніводнага слова; як авечку, падводзілі да смерці, і як ягня перад тымі, хто Яго стрыг, маўчала, так Ён не абмовіўся аніводным словам».

Слова Божае непагрэшымае. Што было запісана ў прарочых кнігах, усё збылося. А спраўдзіліся прароцтвы праз прышэсце Ісуса Хрыста на зямлю.

Працяг нашай кнігі раскажа пра нараджэнне Ісуса, пра Яго жыццё і вучэнне, пра Яго смерць і ўваскрэсенне.

ПСАЛОМ 13:3; ІСАІЯ 9:6-7, 53; МІХЕЙ 5:2

# НОВЫ ЗАПАВЕТ

Як мы ўжо сказалі ў прадмове, Біблія падзяляецца на Стары Запавет і Новы Запавет. Стары Запавет складае прыкладна тры чвэрці Бібліі. Ён напісаны да нараджэння Ісуса Хрыста. Новы Запавет – гэта астатняя чвэрць Бібліі. Ён жа напісаны пасля нараджэння Ісуса Хрыста. У Новым Запавеце ідзе гаворка пра жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста, Збавіцеля свету.

# НОВЫ ЗАПАВЕТ

Новы Запавет складаецца з 27 кніг... Усе яны ўключаюць каля 300 старонак дробнага або каля 600 старонак звычайнага тэксту. Кнігі або часткі Новага Запавету дзеляцца на чатыры Евангеллі (паводле Мацвея, Марка, Лукі і Іаана), Дзеі Апосталаў, 21 пасланне і Адкрыццё Іаана.

Евангелле (грэчаскае слова ”Евангелле” перакладаецца як ”Дабравесце”) падае адно і тое ж вучэнне, хоць і напісана яно чатырма рознымі аўтарамі пад уплывам Святога Духа. У іх расказваецца аб жыцці і вучэнні Збавіцеля свету, Ісуса Хрыста. Чатыры Евангеллі складаюць амаль палову Новага Запавету.

У ”Дзеях Апосталаў” апісаны падзеі, якія адбыліся пасля ўзнясення Ісуса Хрыста. Гэтая кніга, як і Евангелле паводле Лукі, напісана ўрачом Лукою.

Усе пасланні, г. зн. пісьмы, напісаны вучнямі Ісуса Хрыста. Якаў і Іуда напісалі па адным пасланні, Пётр – два, Іаан – тры і Павел – трынаццаць. Хто быў аўтарам ”Паслання да Яўрэяў”, упэўнена сказаць нельга, хоць некаторыя дапускаюць, што яно было напісана Паўлам. У пасланнях апосталамі прапануюцца павучанні, як жыць па-хрысціянску, тлумачыцца евангельскае вучэнне і часткова апісваюцца падзеі, звязаныя з жыццём першых хрысціян.

”Адкрыццё Іаана” было напісана апосталам Іаанам, тым самым аўтарам, які напісаў і Евангелле паводле Іаана. Гэта кніга, у якой даецца адкрыццё будучыні, кніга пра тое, што Гасподзь адкрыў «Свайму рабу Іаану» і «што павінна адбыцца скора».

## ЗАХАРЫЯ І АНЁЛ У ХРАМЕ

Падзеі Новага Запавету не такія ўжо даўнія, хоць праляцелі амаль два тысячагоддзі. Яўрэйскі народ у той час быў у цяжкім становішчы. Ужо сотні гадоў ён жыў без свайго цара. Асірыйцы, вавілоняне, грэкі... і, пад канец, рымскія заваёўнікі валодалі імі. Бог больш не гаварыў праз пракракаў, як гэта было ў даўнія часы. Апошні прарок Малахія жыў у пятым стагоддзі да нараджэння Ісуса. Такім чынам, народ у сваім цяжкім становішчы чакаў, што скора прыйдзе абяцаны Месія. Ён выбавіць ад іншаземнага прыгнёту і паверне сэрцы людзей да Бога. Яшчэ Месія, Ісус Хрыстос, не паявіўся, а ўжо напярэдадні Яго прышэсця вялася актыўная падрыхтоўка. Дзеля гэтага Бог выкарыстаў яшчэ маладога Іаана.

Нараджэнне Іаана было незвычайнае. Яго бацька, Захарыя, быў свяшчэннік. Ён жыў са сваёй жонкай, Елізаветай, у іудзейскіх гарах. Яны былі праведныя. Выконвалі запаведзі і законы Божыя. У іх за плячыма былі ўжо гады, а дзяцей не было. Аднойчы, калі Захарыя служыў Госпаду ў іерусалімскім храме, а мноства народу малілася звонку храма, Анёл Гаўрыіл явіўся яму пад час каджэння. Пры такім незвычайным спатканні Захарыя вельмі напалохаўся. Анёл яму сказаў: «Не бойся, Захарыя, бо твая малітва пачута, і жонка твая Елізавета народзіць табе сына, і дасі яму імя Іаан, і табе будзе радасць, уцеха, і шмат хто будзе радавацца з яго нараджэння. Ён будзе вялікі перад вачыма Божымі, не будзе піць ні віна, ні напітку з алкаголем, і Дух Святы будзе з ім ад чэрава маці сваёй. І шмат каго з дзяцей Ізраіля ён прывядзе да іхняга ж Госпада Бога». Але Захарый не паверыў, што сказаў яму Анёл, і пачаў у яго дапытвацца: «А як мне гэта будзе вядома, бо я стары і жонка мая ўжо ў гадах». Гэты недавер Анёлу не спадабаўся. Папракнуўшы Захарыю, ён сказаў: «Вось ты анямееш і не зможаш гаварыць да таго дня, калі гэта спраўдзіцца, за тое, што ты не паверыў маім словам, якія ў свой час будуць спраўджаны». Між тым народ чакаў, калі Захарыя пакажацца ў храме, і здзіўляўся, чаго ён там доўга так затрымаўся.

ЛУКА 1:5-25

# НАРАДЖЭННЕ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ

Усё спраўдзілася так, як прадказаў Анёл Гаўрыіл. Не прайшло і года, як у Захарыі і Елізаветы нарадзіўся сын. Яны вельмі ўсцешыліся. Разам з імі радаваліся іх сваякі. У тыя далёкія часы былі мнагадзетныя сем'і. А калі па якой-небудзь прычыне дзяцей не было, як у Захарыі і Елізаветы, то гэта ўсе лічылі вялікім няшчасцем. Дзецям давалі імя бацькоў і сваякоў.

«Калі на восьмы дзень прыйшлі абрэзаць дзіця па закону Бога Ізраіля, дык хацелі даць імя Захарыя – па яго бацьку. Але маці яго пачала пярэчыць, сказаўшы: "Не, трэба назваць яго Іаанам". І сказалі ёй: "Нікога няма сярод тваіх родзічаў... хто называўся б гэтым імем". Звярнуліся да Захарыі і пыталіся ў яго, як ён хацеў бы назваць сына. Захарыя папрасіў дошчачку і напісаў на ёй: Іаан імя яму. І ўсе здзівіліся. І адразу яго нямота пакінула, і ён загаварыў і ўславіў Бога. І ўсе вакол напалохаліся, і расказвалі пра гэта ўсім па ўсім Іудзейскім узгор'і. Усё гэта прымалі блізка да сэрца і казалі: "Што гэта за дзіця будзе!" І рука Гасподняя была з ім. Захарыя, ягоны бацька, натхнёны Святым Духам, прарочыў, сказаўшы: "Блаславёны Гасподзь Бог Ізраілеў, што Ён наведаў народ Свой, і прынёс яму збавенне, і ўзнёс жазло выратавання нам у доме Давіда, пасланца Свайго, як абвясціў праз прарокаў Сваіх святых, што былі адвеку... І ты, дзіця, будзеш называцца прарокам Усявышняга, бо сваім прышэсцем папярэдзіш прышэсце Госпада – падрыхтуеш Яму шляхі, дапаможаш зразумець народу Яго ратунак праз дараванне ягоных грахоў па добрасардэчнай міласэрнасці нашага Госпада, які наведаў наш Усход зверху, каб прасвятліць тых, што сядзяць у цемры і смяротным цяні, каб накіраваць ногі нашыя на шлях міру"».

Пра маладыя гады Іаана напісана вельмі мала. У Евангеллі паводле Лукі можна толькі прачытаць: «Дзіця падрастала і мужнела духам, і было ў пустыні да таго дня з'яўлення свайго Ізраілю».

ЛУКА 1:57-80

## ДАБРАВЕСЦЕ ПРА НАРАДЖЭННЕ ІСУСА

Бог паслаў у гэты грахоўны разбэшчаны свет Свайго Сына Ісуса Хрыста. Ён павінен выратаваць чалавецтва ад грахоў і вечнай гібелі. З дня Яго нараджэння на зямлі наступіла новая эра. І нашае летапісанне пачынаецца ад нараджэння Ісуса Хрыста.

Гісторыя нараджэння Ісуса Хрыста дзівосная. Адно падумайце, Яму, Ісусу, Сыну Творцы свету і сусвету, давялося нарадзіцца ў хляве. Цар той зямлі вырашыў Яго забіць.

Але пачнем спачатку. У маленькім горадзе Назарэце, на поўначы Ізраіля, жыла сціплая дзяўчына. Звалі яе Марыяй. Яна любіла Госпада. У яе было чыстае сэрца. Аднойчы ёй з'явіўся Анёл Гаўрыіл, пасланец Божы, і сказаў: «Радуйся, ласкаю абдараваная! Гасподзь з табою; Благаславёная ты паміж жанчынамі». Марыя, убачыўшы Яго, засаромелася. Але Анёл ёй сказаў: «Не бойся, Марыя, бо ты атрымала мілату ад Бога. І вось ты зачнеш ва ўлонні і народзіш Сына, і дасі Яму імя: Ісус. Ён будзе вялікі і назавецца Сынам Усявышняга; і дасць Яму Гасподзь Бог прастол Давіда, бацькі Яго. І будзе Ён цараваць над домам Якава вечна, і Царству Яго не будзе канца».

Марыя тады яшчэ не была замужам, але была заручана з пабожным чалавекам. Звалі яго Іосіф. Яна спыталася ў Анёла: «Як гэта будзе, калі я мужа не знаю?» Анёл адказаў так: «Дух Святы сыдзе на цябе і сіла Ўсявышняга асяніць цябе, таму народзіцца Святое і назавецца Сынам Божым».

Даведаўшыся, што Марыя чакае дзіця, Іосіф хацеў пакінуць яе, але Гасподні Анёл явіўся яму ў сне і сказаў: «Іосіф, Давідаў сын! Не бойся, і прымі Марыю, жонку тваю, бо тое, што нараджаецца ў ёй, ёсць ад Духа Святога. Народзіш жа Сына, і дасі Яму імя: Ісус, бо Ён выбавіць Сваіх людзей ад грахоў іх».

У Госпада ніякае слова не застаецца бяссільным. Марыя хутка нарадзіла Дзіця. І назвалі Яго Ісусам.

ЛУКА 1:26-35

## НАРАДЖЭННЕ ІСУСА ХРЫСТА

Калі Марыя была ўжо цяжарная, выйшаў загад рымскага кесара Аўгуста. Дзе хто ні жыў, дзеля перапісу людзей павінен пайсці ў тое месца, дзе некалі жылі яго продкі. Іосіф і Марыя паходзілі з дома і роду цара Давіда. А родным горадам Давіда, як вядома, быў Віфлеем. Некалі Давід цараваў над усім Ізраілем.

Іосіф з Марыяй накіраваліся ў Віфлеем – у далёкую дарогу. Марыя ў той час была ўжо заручаная з Іосіфам. Ад Назарэта да Віфлеема добры кавалак дарогі, болей двухсот кіламетраў. У той час яшчэ не было ні цягнікоў, ні аўтамабіляў. Такое падарожжа патрабавала некалькіх дзён. Назарэт на поўначы Ізраіля ў Галілеі, а Віфлеем – на поўдні ў Іудзеі. З Галілеі ў Іудзею трэба было ісці цераз Самарыю. А Самарыя, як і Іудзея, краіна гарыстая.

Іосіф і Марыя прыйшлі ў Віфлеем з некаторым спазненнем. У гасцініцах не было месца. Усе месцы былі ўжо заняты такімі ж, як і яны. Іосіф і Марыя пасяліліся ў хляве для быдла.

Наступіў час нараджаць Марыі. Не ў бальніцы, як нараджаюць цяпер, а ў самым звычайным хляве: «Нарадзіла Сына Свайго першынца, і спавіла Яго, і паклала Яго ў яслі».

Усё гэта вядома з Евангелля. Наш Гасподзь ляжаў у яслях, куды закладалі корм жывёле. Па старадаўнім паданні, хлеў з яслямі будаваўся ў пячоры. У тых жа краях аж па цяперашні час пастухі ў такія пячоры заганяюць авечкі.

ЛУКА 2:1-7

## АНЁЛЫ АБВЯШЧАЮЦЬ ПАСТУХАМ ПРА НАРАДЖЭННЕ ІСУСА ХРЫСТА

Прасторныя пашы раскінуліся вакол Віфлеема. У час нараджэння Ісуса Хрыста не ўсе пастухі спалі. Некаторыя вартавалі статкі, назіралі за імі, каб які звер не ўбіўся ў статак і не нарабіў шкоды. «Раптам з'явіўся ім анёл Гасподні, і слава Гасподняя іх азарыла, і напалохаліся ад вялікага страху. І сказаў ім анёл: ”Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе ўсім людзям, бо сёння нарадзіўся вам Збавіцель у горадзе Давідавым, Ён і ёсць Хрыстос Гасподзь. І вось вам якая азнака: вы знойдзеце ў пялёнках Дзіця, якое ляжыць у яслях”. Нечакана з'явілася з анёлам шматлікае нябеснае воінства, якое, славячы Бога, усклiквала: ”Слава Богу ў вышніх, і на зямлі мір, а ў чалавеках прыхільнасць і добрая воля”».

Мы бачылі, што Бог знайшоў не палац, дзе трэба было нарадзіцца Ісусу Хрысту, Збавіцелю ўсяго свету, а самае простае месца. І ўпершыню самым простым людзям-пастухам было абвешчана аб нараджэнні Збавіцеля ўсяго чалавецтва, і яны першымі прыйшлі Яму пакланіцца.

ЛУКА 2:9-14

## ПАСТУХІ Ў ІСУСА

Нам нельга сабе нават уявіць, як напалохаліся пастухі, калі ўбачылі анёлаў. І як яны здзівіліся, калі пачулі словы анёлаў аб нараджэнні Збавіцеля Госпада Хрыста. Таму і не дзіўна, што яны, пакінуўшы свой статак, пабеглі ў Віфлеем, як пра гэта напісана ў Евангеллі: «Калі анёлы адляцелі на неба, пастухі сказалі адзін аднаму: ”Хадзем у Віфлеем і паглядзім, што там адбылося, пра што ўзвясціў нам Гасподзь”. Паспяшаліся прыйсці і знайшлі там Іосіфа і Марыю і Дзіця, якое ляжала ў яслях. Убачыўшы гэта, яны расказалі, што было ім абвешчана пра Гэтае Дзіця. І ўсе, хто чуў, што яны гаварылі, здзіўляліся. А Марыя, адкладаючы словы ў сваё матчына сэрца, захавала ў памяці і пранесла іх праз усё жыццё. І вярнуліся пастухі, хвалячы і славячы Бога за ўсё тое, што чулі і бачылі, як ім было сказана».

ЛУКА 2:15-20

## ПАБОЖНЫ СТАРАЦ СІМЕОН

Калі мінула восем дзён пасля нараджэння Божага Дзіцяці, святар учыніў над ім абрад абразання. І дадзена было Яму імя Ісус. Гэтае імя, падказанае анёлам яшчэ да Яго нараджэння, азначае: «Бог выбаўляе».

Згодна закону Госпада кожны першынец, гэта значыць, першы сын у сям'і, павінен прысвячацца Богу. Таму, калі Ісусу споўнілася шэсць тыдняў, Яго прынеслі ў раскошны іерусалімскі храм, каб прынесці ў ахвяру, як сказана ў законе Гасподнім, двух галубоў альбо двух галубіных птушанят.

Тады ў Іерусаліме жыў старац. Звалі яго Сімеон. Ён быў справядлівы і пабожны. Ён чакаў Месію*, калі Ён прыйдзе для выратавання людзей, і Дух Святы быў на ім. Яму было падказана Духам Святым, што Ён не памрэ, пакуль не ўбачыць Месію, гэта значыць, Збавіцеля. У натхненні Сімеон прыйшоў у храм якраз у той час, калі туды прынеслі бацькі Дзіцятка Ісуса, каб з Ім зрабіць усё, што патрабуе законны абрад. Ён узяў на рукі Хрыста, благаславіў Бога і сказаў: «"Цяпер адпускаеш раба Твайго, Уладар, па слове Тваім, з мірам, бо ўбачылі вочы мае Тваё выратаванне, якое Ты падрыхтаваў перад абліччам усіх народаў – Святло для прасвятлення язычнікаў і для славы народа Твайго Ізраіля"». Іосіф і Марыя здзіўляліся таму, што ён сказаў. А потым Сімеон блаславіў іх і сказаў Марыі: «І табе самой зброя пройдзе скрозь душу, – і адкрыюцца помыслы многіх сэрцаў».

ЛУКА 2:21-35

** Месія – па-яўрэйску, і Хрыстос – па-грэчаску абазначаюць адно і тое: Памазанік.*

## ПАКЛАНЕННЕ МУДРАЦОЎ

«Ісус Хрыстос нарадзіўся ў Віфлееме ў часы царавання Ірада Вялікага. У Іерусалім прыйшлі мудрацы з Усходу і пытаюцца: «Дзе народжаны Цар Іудзейскі? Бачылі бо зорку Яго на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму".

Пачуўшы гэта, цар Ірад устрывожыўся, і ўвесь Іерусалім разам з ім. І, сабраўшы ўсіх першасвяшчэннікаў і кніжнікаў народных, пытаўся ў іх: "Дзе мае нарадзіцца Хрыстос?" Яны сказалі яму: "У Віфлееме Іудзейскім, так бо прарокам напісана: І ты, Віфлеем, зямля Іудава, нічым не меншы за ваяводствы Іудавыя; бо ад цябе будзе паходзіць Правадыр, Які ўпасе народ Мой Ізраіля..."

Тады Ірад употай паклікаў мудрацоў, выведаў у іх час паяўлення зоркі, паслаў іх у Віфлеем, сказаўшы: "Ідзіце, добра разведайце пра Дзіця і, як знойдзеце, накажыце мне, каб і я мог схадзіць і Яму пакланіцца"». На самай справе цар хацеў забіць Дзіця, бо ён баяўся, што наступяць такія часы, калі Ён завалодае ягоным прастолам.

Мудрацы, выслухаўшы цара, адышлі. «І вось зорка, якую бачылі яны на ўсходзе, ішла перад імі, урэшце прыйшла і спынілася над месцам, дзе было Дзіця. Убачыўшы зорку, яны ўзрадаваліся радасцю вялікай».

МАЦВЕЙ 2:1-10

## ПАДАРУНКІ МУДРАЦОЎ І ВЫНІШЧЭННЕ ДЗЯЦЕЙ

Прыйшоўшы ў Віфлеем, мудрацы ўвайшлі ў дом, над якім спынілася зорка. Убачыўшы Дзіця з Марыяй, Яго маці, яны пакланіліся Яму. Адчыніўшы свае скарбніцы, яны паднеслі Яму падарункі: золата, ладан і смірну.

У сне мудрацы мелі папярэджанне, каб не вярталіся назад да Ірада. Таму яны пайшлі ў сваю краіну іншай дарогай. Даведаўшыся пра гэта, Ірад надта разгневаўся. Ён паслаў сваіх салдат забіць усіх дзяцей у Віфлееме і яго ваколіцах. Салдаты ў Віфлееме перабілі дзяцей ад двух гадоў і ніжэй. Усё гэта яны ўчынілі па загадзе Ірада, паводле часу, які выведаў у мудрацоў. Так спраўдзіліся словы прарока Іярэміі: «Голас у Раме чуцен, плач, галашэнне і лямант вялікі. Рахіль плача па дзецях сваіх і не хоча суцешыцца, бо іх няма».

МАЦВЕЙ 2:1-12, 16-18; ІЯРЭМІЯ 31:15

## УЦЁКІ Ў ЕГІПЕТ

Ірад думаў, што сярод забітых дзетак будзе і Той, пра Якога казалі мудрацы і свяшчэннікі, што Ён – будучы цар Ізраіля. Але гэтага не адбылося. Калі мудрацы адышлі, Гасподні Анёл з'явіўся ў сне Іосіфу, мужу Марыі, і сказаў: «Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго, і ўцякай у Егіпет, і будзь там, пакуль не скажу табе; бо Ірад хоча Дзіця шукаць, каб Яго загубіць». Ён устаў, узяў Дзіця і Яго Маці і ноччу пайшоў у Егіпет. І там быў да смерці Ірада, – каб збылося сказанае Госпадам праз прарока: «З Егіпта паклікаў Я Сына Майго».

Ад Віфлеема да Егіпта – дарога не блізкая, сотні кіламетраў. Іосіфу і Марыі было нялёгка ўцякаць разам з маленькім Дзіцём.

МАЦВЕЙ 2:13-15

## ХЛОПЧЫК ІСУС У НАЗАРЭЦЕ

Іосіф, Марыя і маленькі Ісус заставаліся ў Егіпце да смерці іудзейскага цара Ірада. Калі Ірад памёр, анёл Гасподні з'явіўся зноў Іосіфу ў сне і сказаў: «Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго і ідзі ў зямлю Ізраілеву, бо памерлі тыя, што шукалі душы Дзіцяці».

Як сказаў анёл, так і зрабіў Іосіф. Ён прыйшоў у Ізраіль. Пачуўшы, што ў Іудзеі пануе сын Ірада, новы цар Архелай, пабаяўся туды ісці. Потым ён атрымаў у сне наказ, што яму трэба ісці з Дзіцём у горад Назарэт, дзе раней жыла Дзева Марыя.

Мы ведаем толькі нямнога пра жыццё Ісуса ў Назарэце. Іосіф быў цесляром, і Ісус памагаў яму ў гэтай рабоце і нават Сам цяслярыў. У Евангеллі вельмі мала напісана пра хлопчыка і юнака Ісуса. Але тое нямногае, што пра Яго напісана, гаворыць нам шмат: «Дзіця падрастала і ўмацоўвалася духам, набіралася мудрасці, мілата Божая была на ім». І яшчэ: «Ісус меў вялікія поспехі ў мудрасці, і ва ўзросце, і ў любові Бога і людзей».

Тут важна прыгадаць, што Ісус пакараўся Сваім зямным бацькам. У Евангеллі пра гэта чытаем: « І быў Ён ім у падпарадкаванні». Усім дзецям трэба слухацца бацькоў. Гэтага ж патрабуе Сам Бог. Адна з дзесяці запаведзяў гаворыць так: «Шануй бацьку твайго і маці тваю, каб доўжыліся дні твае, і каб добра табе было на той зямлі, якую Гасподзь, Бог твой, дае табе».

МАЦВЕЙ 2:19-23; ВЫХАД 20:12; ЛУКА 2:40, 50-52

## ІСУС У ХРАМЕ

Ісус жыў і выхоўваўся ў горадзе Назарэце. Ён падрастаў, умацоўваўся духам, набіраўся мудрасці, і мілата Божая была на Ім.

Яго зямныя бацькі штогод хадзілі ў Іерусалім на свята Пасхі. Калі Ісусу споўнілася дванаццаць гадоў, яны ўзялі Яго з сабою. А калі вярталіся дамоў, раптам спахапіліся ўжо ў дарозе. З імі не было Ісуса. Спачатку яны падумалі, што падлетак ідзе асобна. Перабралі родзічаў і знаёмых. Але Ісуса не было. Бацькі вярнуліся назад і толькі праз тры дні знайшлі Яго ў храме сярод настаўнікаў. Ён слухаў і гаварыў Сам, пытаўся і адказваў на пытанні. Усе прысутныя здзіўляліся з Яго дасціпнасці і розуму.

Маці Ісуса здзівілася, што такі паслухмяны Сын застаўся ў храме і не папярэдзіў нават яе пра гэта. Яна сказала Яму: «Дзіця! Што ты зрабіў з намі? Вось бацька Твой і я з вялікім смуткам шукалі Цябе». Ісус сказаў ім: «Навошта было вам Мяне шукаць? Ці вы не ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму?» Гэтым самым Ён хацеў сказаць, што Яму даручана Яго нябесным Айцом на зямлі вялікая справа. Але бацькі не зразумелі Яго словаў. А Марыя захавала іх у сваім сэрцы.

Ісус вярнуўся з бацькамі ў Назарэт. Ён быў паслухмяны Сын, «меў вялікія поспехі ў мудрасці і ў любові ў Бога і ў людзей».

ЛУКА 2:40-51

## ІААН ПРАПАВЕДУЕ І ХРЫСЦІЦЬ

Малады Іаан жыў у пустыні. Гасподзь там падрыхтоўваў яго да вялікага служэння. Ён павінен аб'явіць народу пра хуткі прыход Месіі, Ісуса Хрыста, і заклікаць народ да пакаяння. Што Іаан павінен падрыхтаваць народ да прыходу Месіі, пісалі прарокі за сотні гадоў да нараджэння Іаана: «Я пасылаю перад Табою Анёла Майго, які падрыхтуе шлях Твой перад Табою». «Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце шлях Госпаду, простымі зрабіце сцежкі Яму».

Іаан быў у вопратцы з вярблюджага воласу і скураным поясам падперазаны. Еў ён акрыды і дзікі мёд. Калі Бог наведаў Іаана ў пустыні, ён пачаў сваё служэнне ў ваколіцах Іярдана. Ён заклікаў народ да пакаяння. Хто каяўся і хрысціўся ў водах Іярдана, таму грахі даравaліся. Да яго прыходзілі людзі з усёй Іудзеі і Іерусаліма. Яны вызнавалі свае грахі, а Іаан хрысціў іх у рацэ Іярдане.

«І пытаўся ў яго народ: "Што нам рабіць?" Ён ім казаў у адказ: "У каго дзве адзежыны, то дай таму, хто не мае, і ў каго ёсць ежа, рабі тое самае". І мытнікі прыйшлі хрысціцца. І яны спыталіся ў яго: "Настаўнік! Што нам рабіць?" Ён адказваў і ім: "Нічога не патрабуйце больш вызначанага вам". Пыталіся ў яго таксама і воіны: "А нам што рабіць?" І сказаў ім: "Нікога не крыўдзіце, не абгаворвайце і задавальняйцеся платай сваёй"».

ЛУКА 3:2-18; МАРК 1:1-8

## ХРЫШЧЭННЕ ГОСПАДА ІСУСА

Народ чакаў, што скора прыйдзе Месія. Таму многія пыталіся: ”Няўжо Іаан той абяцаны Месія, Збавіцель?” Але Іаан на гэта адказваў: «Я хрышчу вас вадою, але ідзе Мацнейшы за мяне. У Яго не варты я развязаць рамень ад абутку. Ён будзе хрысціць вас агнём і Святым Духам». Гэта ён так казаў пра Ісуса Хрыста.

І вось Ісус прыйшоў да Іаана з адной мэтай – ахрысціцца ў прарока. Іаан, знаючы, што Ісус не мае патрэбы хрысціцца ў пакаянні, утрымліваў Яго, кажучы: «Мне трэба хрысціцца ў Цябе, а Ты прыходзіш да мяне?» Але Ісус яму адказаў: «Цяпер дапусці, бо так належыць нам здзейсніць усякую праўду». Тады Іаан Яго дапускае. Ахрысціўшыся, Ісус адразу выйшаў з вады, – і вось адчынілася Яму неба, і ўбачыў Іаан Духа Божага, Які сыходзіў, як голуб, і на Ісуса апускаўся. І голас з неба гучна прамовіў: «Гэты ёсць Сын Мой любасны, у Якім Мая добрая воля».

МАЦВЕЙ 3:11-17

## СПАКУШЭННЕ ІСУСА Ў ПУСТЫНІ

Пасля хрышчэння Ісус быў выведзены Духам Святым у пустыню. Там Яго спакушваў сатана. Пасля таго, як Ісус адпасціў сорак дзён і сорак начэй, адчуў урэшце голад. Тады падступіў да Яго Змусціцель і сказаў: «Калі Ты Сын Божы, скажы, каб каменне гэтае стала хлябамі». Ісус адказаў сатане словамі са Свяшчэннага Пісання: «Не хлебам адным будзе жыць чалавек, але ўсякім словам з вуснаў Божых».

Тады д'ябал надумаўся спакушаць Яго таксама словамі з Пісання. Ён узнёс Яго на храмавы дах і прамовіў: «Калі Ты Сын Божы, кінься ўніз, бо напісана: "Анёлам Сваім запавядае пра Цябе, і на руках Цябе панясуць, каб не спатыкнуўся Ты аб камень нагою Тваёю". Ісус сказаў яму: "Напісана таксама: Не спакушай Госпада Бога Твайго"».

І вырашыў д'ябал яшчэ раз спакусіць Ісуса. Ён узнёс Яго на вельмі высокую гару. Паказаў Яму ўсе царствы ў свеце і ўсю іх славу, потым сказаў: «"Усё гэта дам Табе, калі, упаўшы, паклонішся мне". Тады Ісус кажа яму: "Адыдзі ад Мяне, сатана; бо напісана: Госпаду Богу Твайму пакланяйся і Яму Аднаму служы"». Потым пераможаны д'ябал пакідае Ісуса. Тады анёлы акружылі Божага Сына і служылі Яму.

Нам можна таксама пераадолець д'яблаву спакусу. У нас ёсць здзіўляючы прыклад Ісуса Хрыста. Словам і малітвай любая перамога будзе забяспечана.

МАЦВЕЙ 4:1-11

## ДВАНАЦЦАЦЬ ВУЧНЯЎ ІСУСА ХРЫСТА

Ісус пакінуў Назарэт і пасяліўся ў горадзе Капернауме, што каля Генісарэцкага возера ў Галілеі. Так здзейснілася прароцтва Ісаіі: «Зямля Завулонава і зямля Нефалімава на дарозе прыморскай, за Іярданам, Галілея язычніцкая, народ, што ў цемры сядзіць, угледзеў святло вялікае, і ўсім, хто сядзеў у краіне ў цяні смяротным, заззяла святло».

З таго часу Ісус пачаў прапаведаваць і казаць: «Пакайцеся, бо наблізілася Царства Нябеснае». Следам за Ім цягнуліся натоўпы народу. Яны ўсе былі з самых розных мясцін. Ён іх навучаў і вылечваў ад розных хваробаў.

Ісус падабраў сабе дванаццаць вучняў. Увесь час яны былі з Ім, і Ён навучаў іх асобна. Вось імёны Ягоных вучняў: Сімон, Андрэй, Іаан, Якаў, Філіп, Варфаламей *, Мацвей **, Фама, Якаў Алфееў, Фадзей ***, Сімон Кананіт і Іуда Іскарыёт, які потым і прадаў Ісуса. Усе вучні былі простымі людзьмі, але Гасподзь надарыў іх шчасцем. Яны былі сябрамі і вучнямі Ісуса Хрыста – Сына Божага.

Андрэй і яго брат Сімон-Пётр лавілі рыбу ў Галілейскім моры. Ісус, убачыўшы іх, сказаў ім так: «Ідзіце за Мною, і я зраблю вас лаўцамі людзей». Няраз Ён казаў, што навучыць іх выратоўваць людзей ад грахоў і прыводзіць іх да праўды. Пакінуўшы свае рыбацкія прылады, Андрэй і Пётр адразу пайшлі за Ісусам. Неяк ідучы берагам возера, Ісус убачыў братоў Якава і Іаана ў лодцы з іх бацькам Завядзеем. Яны рамантавалі рыбалоўную сетку. Ён паклікаў іх, і яны, пакінуўшы лодку і свайго бацьку, пайшлі за Ім. Астатнія вучні, як толькі былі пакліканы, таксама пайшлі ўслед за Ісусам. Ён пачаў пасылаць іх на пропаведзь і даў ім уладу вылечваць хваробы і выганяць нячыстых духаў.

МАЦВЕЙ 4:12-22; МАРК 3:13-19

*Пад іншымі імёнамі:*
**Нафанаіл, **Левій, ***Іуда Якаўлеў і Леўвей*

## ПЕРШЫ ЦУД ІСУСА

Аднойчы Ісуса разам з Яго вучнямі запрасілі на вяселле ў Кану Галілейскую. Сталася так, што падчас вяселля не хапіла віна. Маці Ісуса там была таксама. Яна сказала Ісусу: «Віна няма ў іх». Але Ён адказаў ёй, што не прыйшоў яшчэ час Яго. Потым Марыя сказала слугам, паказваючы на Ісуса: «Што скажа Ён вам, тое зрабіце».

Было ж тут шэсць каменных ваданосаў (збаноў). Ісус звяртаецца да слуг і кажа: «Наліце ў сасуды вады». І яны напоўнілі. Тады Ён зноў кажа: «Цяпер чэрпайце і нясіце распарадчыку вяселля».

Калі распарадчык пакаштаваў вады, якая зрабілася віном, – а ён не ведаў адкуль гэтае віно, ведалі толькі слугі, якія чарпалі ваду, – тады ён паклікаў жаніха і сказаў яму: «Кожны чалавек падае спачатку добрае віно, а калі паўпіваюцца, тады горшае, а ты добрае віно збярог на канец».

Так Ісус паклаў пачатак цудам у Кане Галілейскай. Гэтым самым Ён паказаў Сваю славу, і паверылі ЯмуЯгоныя вучні.

ІААН 2:1-11

## ІСУС ВЫГАНЯЕ ГАНДЛЯРОЎ З ХРАМА

Напярэдадні Пасхі* іудзейскай Ісус прыйшоў у Іерусалім. Увайшоўшы ў храм, Ён убачыў, што там прадавалі валоў, авечак і галубоў, і сядзелі там мяняйлы грошай. Зрабіўшы з вяровак бізун, Ён выгнаў усіх з храма, таксама авечак і валоў, а грошы ў мяняйлаў рассыпаў, сталы абярнуў. Потым Ён сказаў прадаўцам галубоў: «Вазьміце гэта адсюль, з дома Айца Майго, не рабіце гандлевага дома». Да гэтага вучні Яго прыгадалі: «Рупнасць за дом Твой з'ядае Мяне».

На гэта іудзеі сказалі Яму: «Якою азнакай дакажаш Ты нам, што маеш уладу так рабіць?» Ісус сказаў ім у адказ: «Разбурыце храм гэты, і Я за тры дні ўзвяду яго зноў». На гэта сказалі іудзеі: «Гэты храм будаваўся сорак шэсць гадоў, а Ты за тры дні ўзвядзеш яго зноў?» А Ён казаў пра храм Цела Свайго. Калі ўваскрэс Ён з мёртвых, дык вучні Яго ўспомнілі, што Ён казаў гэта, і паверылі Пісанню і слову Ісуса.

У час Пасхі ў Іерусаліме многія бачылі Яго цуды. І многія паверылі Яму.

ІААН 2:13-23

** Пасха (яўрэйскае Песах), г. зн. «праходжанне міма», ці «Пошада», назва свята, упамінанне аб выхадзе ізраільцян з Егіпта.*

## РАЗМОВА ІСУСА З НІКАДЗІМАМ

Сярод знакамітых фарысеяў быў чалавек, якога звалі Нікадзім. Ён быў адзін з кіраўнікоў Іудзейскіх. Аднойчы ён прыйшоў да Ісуса ноччу і сказаў: «Раввi! (Гэта значыць, настаўнік). Мы ведаем, што Ты – Настаўнік, Які прыйшоў ад Бога; бо такіх дзівосаў, якія Ты творыш, ніхто не можа тварыць, калі не будзе з ім Бога». Ісус сказаў яму ў адказ: «Праўду, праўду кажу табе: калі хто не ўродзіцца зверху, не можа ўбачыць Царства Божага». Нікадзім кажа Яму: «Як можа чалавек урадзіцца, калі ён стары? Няўжо ён можа другі раз увайсці ва ўлонне маці сваёй і ўрадзіцца?» Ісус адказаў: «Праўду, праўду кажу табе: калі хто не ўродзіцца ад вады і Духа, не можа ўвайсці ў Царства Божае: народжанае ад плоці ёсць плоць, а народжанае ад Духа ёсць дух. Не здзіўляйся таму, што Я сказаў табе: трэба вам урадзіцца зверху...»

Але Нікадзім, не зразумеўшы, спытаўся: «Як гэта можа быць?» Тады Ісус пачаў тлумачыць яму тайну Свайго прышэсця на зямлю і Божы план выратавання ад грахоў. Ён сказаў: «І як Майсей узнёс змяю ў пустыні, так трэба ўзнесціся Сыну Чалавечаму, каб усякі, хто верыць у Яго, меў жыццё вечнае. БО ТАК ПАЛЮБІЎ БОГ СВЕТ, ШТО АДДАЎ СЫНА СВАЙГО АДЗІНАРОДНАГА, КАБ КОЖНЫ, ХТО ВЕРЫЦЬ У ЯГО, НЕ ЗАГІНУЎ, А МЕЎ ЖЫЦЦЁ ВЕЧНАЕ. Бо не паслаў Бог Сына Свайго ў свет, каб судзіць свет, а каб свет уратаваны быў праз Яго. Хто верыць у Яго, не судзіцца, а хто не верыць, асуджаны ўжо, бо не ўвераваў у імя Адзінароднага Сына Божага. А суд жа ў тым, што святло прыйшло ў свет; але людзі палюбілі цемру больш за святло, бо дзеі ў іх былі ліхія. Бо кожны, хто робіць ліхое, ненавідзіць святло і не ідзе да святла, каб не адкрыліся ўчынкі яго, бо яны ліхія. А хто робіць па праўдзе, ідзе да святла, каб яўныя былі ўчынкі яго, бо яны ў Богу тварыліся».

ІААН 3:1-21; 7:50-51

# ІСУС І САМАРАНКА

Аднаго разу Ісус падарожнічаў з поўдня на поўнач, з Іудзеі ў Галілею. На дарозе да Галілеі за 250 км на поўнач ад Іудзеі ляжала Самарыя. Самаране, як і яўрэі, верылі ў адзінага Бога, Творцу неба і зямлі. З кніг Свяшчэннага Пісання шанавалі толькі Пяцікніжжа Майсея. Мелі яны свае звычаі, сваё адзенне, сваіх свяшчэннікаў. Некалі мелі нават і свой храм (які зруйнавалі яўрэі). Яўрэі ненавідзелі самаран і не хацелі нават гаварыць з імі.

Стаміўшыся ад доўгай дарогі, Ісус і Яго вучні вырашылі адпачыць каля самарыйскага горада Сіхар. Ісус прысеў каля калодзежа, а Яго вучні пайшлі ў горад купіць ежы. Быў поўдзень, і ў горадзе стаяла гарачыня.

Адна самаранка прыйшла зачарпнуць вады з калодзежа. Ісус сказаў ёй: «Дай мне піць». Жанчына здзівілася і адказала: «"Як Ты, іудзей, а просіш піць у мяне, самаранкі?.." Ісус ёй сказаў: "Калі б ты ведала дар Божы, і Хто кажа табе: дай мне піць, дык ты сама прасіла б у Яго, і Ён даў бы табе вады жывое". Жанчына кажа Яму: "Пане! У Цябе і зачарпнуць няма чым, а калодзеж глыбокі, адкуль жа ў Цябе вада жывая?..." Ісус сказаў у адказ: "Кожны, хто п'е ваду гэтую, прагнецца зноў, а хто будзе піць ваду, якую Я яму дам, не запрагне ніколі, а вада, якую дам яму, зробіцца ў ім крыніцаю вады жывое, што цячэ ў жыццё вечнае". Сведчачы пра Бога, Ісус сказаў жанчыне: "Бог ёсць дух, і хто Яму пакланяецца, павінен пакланяцца ў Духу і ў праўдзе". Жанчына кажа Яму: "Ведаю, што прыйдзе Месія, гэта значыць Хрыстос, і калі Ён прыйдзе, усё нам абвесціць". Ісус ёй кажа: "Гэта Я, Хто размаўляе з табою..."»

Тады жанчына, пакінуўшы свой ваданос, пайшла ў горад і расказала людзям пра Чалавека, Якога сустрэла. «Ці не Ён гэта Хрыстос?» – спытала яна. «І многія самаране з таго горада ўвералі ў Яго са слоў жанчыны. І таму, калі прыйшлі да Яго самаране, дык прасілі Яго пабыць у іх, і Ён прабыў там два дні. І яшчэ больш уверавала з Яго слоў».

Дзякуючы сведчанню адной беднай самаранкі, шмат людзей уверавала ў Госпада. Перад Госпадам раўнапраўныя ўсе народы і расы, бо мы ўсе Ім жа створаныя.

ІААН 4:1-42

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ЎЛОЎ

Ісус часта вучыў народ, стоячы на беразе возера. Іншы раз Ён уваходзіў у лодку, што стаяла на беразе, і з яе навучаў і прапаведаваў.

Аднойчы Ісуса прыціснулі так, што Яму цяжка было вымавіць слова. А побач стаялі дзве пустыя лодкі. Ён увайшоў у лодку Сімона, сеў і з яе навучаў народ, што стаяў там на беразе.

А калі, урэшце, закончыў Ён вучыць, звярнуўся да Сімона, сказаўшы: «Адплыві на глыбокае і закінь сеткі свае для лоўлі». Сімон сказаў Яму ў адказ: «Настаўнік! Мы працавалі ўсю ноч і нічога не злавілі; але па слове Тваім закіну сетку». Калі яны закінулі сетку, злавілі так многа рыбы, што іхняя сетка пачала прарывацца. Паклікалі сваіх сяброў, Якава і Іаана, і разам з імі напоўнілі рыбай абедзве лодкі. Але ж пад вялікім цяжарам лодкі пачалі тануць. Убачыўшы гэты цуд, Сімон-Пётр прыпаў да каленяў Ісуса і сказаў: «Выйдзі ад Мяне, Госпадзе! Бо я – чалавек грэшны». Ён сказаў гэта ад страху. Ён адчуваў сябе недастойным вялікага Госпада. Ён так востра адчуваў свой грэх. Пасля гэтага Ісус сказаў Сімону: «Не бойся! Ад сённяга будзеш лавіць людзей».

Мінулі часы. Сімон на самай справе прапаведаваў і нямала прывёў людзей да Ісуса. І ўсе яны знайшлі ў Яго выратаванне.

ЛУКА 5:1-10

## ГАЕННЕ РАССЛАБЛЕНАГА

У горадзе Капернауме сабралася вакол Ісуса мноства простых і знакамітых людзей. Яны былі з розных мясцін і ўсе цікавіліся Яго вучэннем. Ісус цярпліва іх навучаў, і сіла Госпада праявілася пры гаенні хворых.

У дом, дзе прапаведаваў Ісус, прынеслі на пасцелі расслабленага (гэта значыць, паралізаванага) чалавека. Але з-за вялікай колькасці людзей нельга было падступіцца да Ісуса. Тады разабралі дах і разам з пасцеллю апусцілі свайго хворага сябра на вяроўках якраз на сярэдзіну пакоя. Ісус, убачыўшы іх веру, сказаў расслабленаму: «Даруюцца табе грахі твае».

Кніжнікі і фарысеі* не верылі Ісусу. Яны пачалі разважаць і адзін у другога пытацца: «Хто гэта, які зневажае Бога?» Ісус зразумеў, што яны думалі, і сказаў ім: «Што вы думаеце ў сэрцах вашых? Што лягчэй сказаць: ”Даруюцца табе грахі твае”, ці: ”ўстань і хадзі?” Але каб вы ведалі, што Сын Чалавечы мае ўладу на зямлі дараваць грахі», сказаў расслабленаму: «Табе кажу: устань, вазьмі пасцель тваю і ідзі ў дом твой».

Хворы ўстаў, узяў пасцель і пайшоў дадому. Ён славіў Бога за цудадзейнае вылячэнне. Усе прысутныя таксама праслаўлялі Бога з воклічам: «Дзівосныя дзеі сёння мы бачылі».

ЛУКА 5:17-26

** Фарысеі – гэта асобы, якія адносіліся да рэлігійнай партыі і ўзначальвалі грамадска-рэлігійны рух сярод ізраільцян. Галоўнай мэтай фарысеяў было строгае захаванне закона Майсея.*

# НАГОРНАЯ ПРАПАВЕДЗЬ
## 1. ЗАПАВЕДЗІ ШЧАСЦЯ

Аднойчы Ісус узышоў на гару, сеў там і, калі вакол яго сабраліся вучні і народ, Ён пачаў навучаць іх запаведзям шчасця. Прапаведзь, якую Ісус сказаў народу, называецца ”Нагорная пропаведзь”. Яна запісана ў Евангеллі ад Мацвея ў раздзелах 5, 6 і 7. Нагорная пропаведзь – ядро вучэння Ісуса Хрыста. Разам з ”Дзесяццю запаведзямі”, якія Бог даў чалавецтву ў часы Старога Запавету, Нагорная пропаведзь з’яўляецца праваднікам у нашым жыцці. Таму прачытаем яе амаль цалкам з Евангелля ад Мацвея.

«*Шчасныя ўбогія духам*, бо яны маюць Нябеснае Царства».

«*Шчасныя тыя, што плачуць*, бо янысуцешацца».

«*Шчасныя пакорныя*, бо яны зямлю ўспадчыняць».

«*Шчасныя галодныя і прагныя праўды*, бо наталяцца».

«*Шчасныя літасцівыя*, бо яны памілаваны будуць».

«*Шчасныя чыстыя сэрцам*, бо яны ўбачаць Бога».

«*Шчасныя міратворцы*, бо яны сынамі Божымі назавуцца».

«*Шчасныя тыя, каго за праўду выгналі*, бо іх ёсць Царства Нябеснае».

«*Шчасныя вы*, калі будуць вас абражаць і гнаць і ўсякай няпраўдай і словам ліхім зневажаць за Мяне. Радуйцеся і весяліцеся, бо вялікая вам узнагарода на небе, так гналі прарокаў, якія былі перад вамі».

*Вы – соль зямлі*. Калі соль страціць сілу, то чым асоліш яе? Яна больш ні да чога непрыдатная, ці не выкінуць яе вон, каб людзі стапталі.

*Вы – свету святло*. Не можа схавацца горад, што стаіць наверсе гары. І запаліўшы свечку, не ставяць яе пад каўпаком, але на падсвечніку, і свеціцца яна ўсім у доме. Няхай свеціцца святло вашае перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя дзеі і праслаўлялі вашага Айца Нябеснага».

МАЦВЕЙ 5:3-18

*працяг*

## НАГОРНАЯ ПРАПАВЕДЗЬ
## 2. ПРА ЗАКОН, ШОСТУЮ ЗАПАВЕДЗЬ, ШЛЮБ І КЛЯТВУ

«Не думайце, што Я прыйшоў парушыць закон або прарокаў: не нарушыць прыйшоў Я, але спраўдзіць. Бо кажу вам праўду: пакуль не мінуцца неба і зямля, ніводная ёта і ніводная рыса не прападзе з закона, пакуль не здзейсніцца ўсё. Дык вось, хто парушыць адну запаведзь з самых найменшых і навучыць людзей іх парушаць, той і ў Царстве Нябесным найменшы, а хто спраўдзіць і навучыць, той у Царстве Нябесным назавецца вялікім. Дык вось, кажу вам, калі праведнасць ваша не перавысіць за праведнасць кніжнікаў і фарысеяў, то вы не ўвойдзеце ў Царства Нябеснае.

Вы чулі, што сказана продкам: "Не забівай; хто заб'е, падлягае суду". А Я кажу вам, што кожны, хто гневаецца на брата свайго дарма, падлягае суду; хто скажа брату свайму: "рака" (пусты чалавек), падлягае сінедрыёну (вярхоўнаму суду), а хто скажа: "шалёны", падлягае геене вогненнай. Дык вось, калі ты прынясеш свой дар да ахвярніка і там прыгадаеш, што брат твой што-небудзь мае супроць цябе, пакінь там дар твой каля ахвярніка, і схадзі найперш за ўсё памірыся з братам тваім, і тады прыйдзі і прынясі твой дар...

Вы чулі, што сказана продкам: "Не распуснічай". А Я вам кажу, што кожны, хто глядзіць на жанчыну пажадліва, ужо распуснічае з ёю ў сэрцы сваім... Таксама сказана, што калі хто развядзецца з жонкаю сваёй, няхай напіша ёй разводны ліст. А Я кажу вам: хто разводзіцца з жонкаю сваёю апрача як з віны пралюбадзейства, той дае ёй падставу блудзіць, а хто ажэніцца з разведзенай, той распуснічае.

Яшчэ вы чулі, што сказана продкам: "Не парушай клятвы, але выконвай перад Госпадам клятвы твае". А Я вам кажу: аніяк не кляніся: ні небам, бо яно Прастол Божы, ні зямлёю, бо яна падножжа ног Яго; ні Ерусалімам, бо ён горад вялікага Цара; ні галавою тваёю не кляніся, бо не можаш волас ніводзін зрабіць белым або чорным. Аднак хай будзе ваша слова: "так-так", "не-не", а што болей за гэта, тое ад ліхога».

МАЦВЕЙ 5:17-37; *працяг*

# НАГОРНАЯ ПРАПАВЕДЗЬ
## 3. ПРА ЛЮБОЎ І МАЛІТВУ

«Вы чулі, што сказана: "Вока за вока і зуб за зуб". А Я вам кажу: не праціўцеся злому. Але хто ўдарыць цябе па правай шчацэ, павярні да яго і другую; і хто захоча з табой прававацца і ўзяць у цябе сарочку, аддай яму верхнюю вопратку, і хто цябе прымусіць ісці з ім мілю, ідзі з ім дзве. Таму, хто просіць у цябе, дай, і ад таго, хто хоча пазычыць у цябе, не ўхіляйся.

Вы чулі, што сказана: "Любі блізкага твайго і ненавідзь ворага твайго". А Я вам кажу: любіце ворагаў вашых, багаслаўляйце тых, што вас праклінаюць, учыняйце дабро тым, што вас ненавідзяць, і маліцеся за тых, што вас крыўдзяць, і за тых, што вас праследуюць, і будзеце сынамі Айца вашага Нябеснага; бо Ён загадвае сонцу Свайму ўзыходзіць над ліхімі і добрымі і пасылае дождж на праведных і няправедных. Бо, калі вы будзеце любіць тых, што вас любяць, якая вам узнагарода? Ці не тое самае робяць мытнікі*? Дык вось, не майце заганы, як і не мае заганы Айцец ваш Нябесны.

Глядзіце, не ўчыняйце міласціны вашае перад людзьмі дзеля таго, каб яны бачылі вас: бо інакш не будзе вам узнагароды ад Айца вашага Нябеснага». Дык вось, калі ўчыняеш міласціну, не трубі перад сабою, як робяць крывадушнікі ў сінагогах і на вуліцах, каб іх людзі ўслаўлялі. Праўду кажу вам: яны ўжо маюць узнагароду сваю. У цябе ж, калі творыш міласціну, няхай левая рука твая не ведае, што робіць правая, каб міласціна твая была ў тайнасці, і Айцец твой, Які бачыць у тайнасці, дасць табе на яве. І калі молішся, не будзь, як крывадушнікі, якія любяць у сінагогах і, стоячы на вуглах вуліц, маліцца, каб выставіцца перад людзьмі. Праўду кажу вам, што яны ўжо атрымалі сваю ўзнагароду. Ты ж, калі молішся, ўвайдзі ў свой пакой і, зачыніўшы за сабою дзверы, памаліся Айцу твайму, Які Сам у тайнасці; і Айцец твой, Які бачыць у тайнасці, дасць табе на яве. А молячыся, не гавары лішняга; бо яны думаюць, што ў мнагаслоўі сваім пачутыя будуць; не ўпадабняйцеся ім, бо знае Айцец ваш, у чым ваша нястача яшчэ да таго, як папрасілі ў Яго». Маліцеся так:

МАЦВЕЙ 5:38-48; 6:1-8; *працяг*

* *Зборшчыкі даніны*

# ОЙЧА НАШ

ОЙЧА НАШ, ЯКІ ЁСЦЬ У НЯБЁСАХ!
ХАЙ СВЯЦІЦЦА ІМЯ ТВАЁ,
ХАЙ ПРЫЙДЗЕ ЦАРСТВА ТВАЁ,
ХАЙ БУДЗЕ ВОЛЯ ТВАЯ
І НА ЗЯМЛІ, ЯК НА НЕБЕ;
ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ
ДАЙ НАМ НА СЁННЯ;
І ДАРУЙ НАМ ДАЎГІ НАШЫЯ,
ЯК І МЫ ДАРУЕМ
ДАЎЖНІКАМ НАШЫМ;
І НЕ ЎВЯДЗІ НАС У СПАКУСУ,
АЛЕ АСЛАНІ НАС АД ЗЛОГА;
БО ТВАЁ ЁСЦЬ ЦАРСТВА І СІЛА
І СЛАВА НАВЕЧНА.

Амін

## НАГОРНАЯ ПРАПАВЕДЗЬ
## 4. ПРА ПОСТ І НАДЗЕЮ НА НЯБЕСНАГА АЙЦА

«Таксама, калі посцiцеся, не будзьце панурыя, як крывадушнікі, бо яны памрочваюць аблiччы свае, каб паказацца людзям, што яны посцяцца. Праўду кажу вам, што яны ўжо атрымалі ўзнагароду сваю... А ты, калі посцішся, намасці галаву тваю і ўмый аблічча тваё, каб явіцца пасніком не перад людзьмі, але перад Айцом тваім, Які ў тайнасці; і Айцец твой, Які бачыць таемнае, аддасць табе яўна. Не запашвайце скарбы сабе на зямлі, дзе моль і ржа знішчаюць і дзе падкопваюцца зладзеі і крадуць, але назапашвайце скарбы сабе на небе, дзе ні моль, ні ржа не знішчаюць і дзе зладзеі не падкопваюцца і не крадуць; таму што, дзе скарбы вашыя, там будзе і сэрца вашае. Свяцільнік для цела ёсць вока. Дык вось, калі вока тваё будзе благое, то ўсё цела тваё будзе цёмнае. Дык вось, калі святло, якое ў табе, цемра, то якая ж цемра?

Ніхто не можа служыць двум гаспадарам, бо альбо аднаго зненавідзіць, а другога палюбіць; альбо аднаму будзе дагаджаць старанна, а пра другога не дбаць. Не можаце служыць Богу і мамоне (багаццю).

Таму кажу вам: не турбуйцеся дзеля душы вашае, што вам есці і што піць, ні дзеля цела вашага, у што апрануцца. Ці ж душа большая за ежу, і цела за вопратку? Зірніце на птушак нябесных: яны не сеюць, не жнуць, не збіраюць у засекі; і Айцец ваш нябесны корміць іх. Ці вы не значна лепшыя за іх? Ды і хто з вас, турбуючыся, можа прыбавіць сабе росту хоць бы на адзін локаць? А аб адзенні навошта турбуецеся? Зірніце на палявыя лілеі, як растуць яны: не працуюць, не прадуць; але кажу вам, што і Саламон ва ўсёй славе сваёй не апранаўся так, як кожная з іх. Калі ж траву палявую, якая сёння ёсць, а заўтра будзе кінута ў печ, Бог так апранае, наколькі ж болей вас, малаверы! Дык вось, не турбуйцеся і не кажыце: "Што нам есці?" альбо: "Што піць?" альбо: "У што апрануцца?". Бо ўсяго гэтага шукаюць язычнікі, таму што Айцец ваш Нябесны ведае, што ўсё гэта вам патрэбна. Шукайце найперш Царства Божага і праўды Яго, і гэта ўсё вам дадасца. Дык вось, не турбуйцеся заўтрашнім днём, бо заўтрашні сам за сябе патурбуецца; кожнаму дню досыць турботаў сваіх».

МАЦВЕЙ 6:16-34; *працяг*

## НАГОРНАЯ ПРОПАВЕДЗЬ
## 5. НЕ СУДЗІЦЕ ІНШЫХ, НАСТОЙЛІВАСЦЬ У МАЛІТВЕ, ЗАЛАТОЕ ПРАВІЛА, ПРАСТОРНЫ І ВУЗКІ ШЛЯХ

«Не судзіце, каб вас не судзілі; бо якім судом судзіце, такім і вас судзіцьмуць; якою меркаю мерыце, такою і вам адмерыцца. І што ты глядзіш на сучок у воку брата твайго, а калоды ў воку тваім не адчуваеш? Альбо, як скажаш брату твайму: ”Дай я выму сучок з вока Твайго”; а вось у тваім воку калода? Крывадушнік! вымі спачатку калоду з вока твайго, і тады ўбачыш, як выняць сучок з вока брата твайго. Не давайце святыні сабакам і не кідайце жэмчугу перад свіннямі, каб яны не растапталі яго нагамі сваімі і, абярнуўшыся, вас не разарвалі.

Прасіце, і вам дасца; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам; бо кожны, хто просіць, атрымае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукае, таму адчыняюць. Ці ёсць паміж вамі такі чалавек, які, калі сын у яго папросіць хлеба, падаў бы яму камень? І калі папросіць рыбы, падаў бы яму змяю? Дык вось, калі вы, будучы злыя, умееце данні добрыя даваць дзецям вашым, тым больш Айцец ваш Нябесны дасць тым даброты, хто ў Яго просіць.

**І вось ува ўсім, як хочаце, каб людзі рабілі з вамі, так і вы рабіце з імі; бо ў гэтым закон і прарокі.**

Уваходзьце праз цесную браму;
бо шырокая брама і пр асторная дарога
вядуць у пагібель,
і многія ходзяць імі; бо цесная брама і вузкая дарога
вядуць у жыццё,
і нямногія знаходзяць іх».

МАЦВЕЙ 7:1-14

*працяг*

# ЗАЛАТОЕ ПРАВІЛА

„Івось, уба ўсім,
як хочаце,
каб людзі рабілі
з вамі,
так і вы рабіце
з імі".

Евангелле паводле
Мацвея 7:12

## НАГОРНАЯ ПРОПАВЕДЗЬ
## 6. АБ ІЛЖЫВЫХ ПРАРОКАХ, ЗДЗЯЙСНЕННЕ ВОЛІ БОЖАЙ, ДЗВЕ АСНОВЫ

«Сцеражыцеся ілжывых прарокаў, якія прыходзяць да вас у авечай адзежы, а ў сярэдзіне – ваўкі драпежныя: па іхніх пладах пазнавайце іх. Ці ж збіраюць з цярноўніку вінаград, альбо з дзядоўніку смоквы. Так усякае дрэва добрае родзіць і плады добрыя, а кепскае дрэва родзіць і плады кепскія: не можа дрэва добрае радзіць плады кепскія, ні дрэва кепскае радзіць плады добрыя. Усякае дрэва, што не родзіць добрага плоду, рубаюць і кідаюць у агонь. Дык вось, па пладах з іх пазнаеце іх.

Не кожны, хто кажа Мне: "Госпадзе! Госпадзе!", увойдзе ў Царства Нябеснае, а той, хто здзяйсняе волю Айца Майго Нябеснага. Многія скажуць Мне ў той дзень: "Госпадзе! Госпадзе! ці не ад Твайго імя мы прарочылі? І ці не імем Тваім выганялі злых духаў? І ці не імем Тваім вялікія цуды тварылі?" І тады абвяшчу ім: "Я ніколі не ведаў вас, адыдзіце ад Мяне, вы, што ўчыняеце беззаконне". Дык вось, кожнага, хто слухае гэтыя словы Мае і выконвае іх, прыпадобню да мужа разумнага, які збудаваў свой дом на камені, і паліўся дождж і разліліся рэкі, і бура ўзнялася, і рынулася на той дом; і ён не ўпаў, бо пастаўлены быў на камені. А кожны, хто слухае гэтыя словы Мае і не выконвае іх, прыпадобніцца да чалавека неразумнага, які паставіў свой дом на пяску; і паліўся дождж, і разліліся рэкі, і бура ўзнялася, і налегла на дом той, і ён упаў, і было знішчэнне яго вялікае. І калі Ісус выказаў гэтыя словы, дзіваваліся тады з вучэння Яго, бо Ён іх вучыў, нібы той, хто мае ўладу, а не як фарысеі і кніжнікі».

МАЦВЕЙ 7:15-29

## УВАСКРЭСЕННЕ СЫНА ЎДАВЫ

Аднойчы Хрыстос прыйшоў у горад Наін. Разам з Ім Яго вучні і мноства народу. Каля гарадской брамы Ён убачыў пахавальную працэсію. Хавалі памерлага сына ўдавы – адзінага ў маці. Убачыўшы, як пакутуе маці, Гасподзь пашкадаваў яе, сказаўшы: «Не плач! Потым Ён даў знак тым, што неслі хаваць памерлага, і ўсе спыніліся. Ісус, падышоўшы да труны, сказаў: «Юнак! Табе кажу, устань!» Памерлы падняўся, сеў і пачаў гаварыць. Гасподзь аддаў яго маці. Усіх ахапіў жах, і пачалі славіць Бога, кажучы: «Вялікі прарок паўстаў паміж намі, і Бог наведаў народ Свой!»

Нічога не было для Хрыста немагчымага. Што толькі Ён не мог зрабіць, бо Ён – Сын жывога і ўсемагутнага Бога. Яго вучэнне было прасякнута любоўю і сілай, а Яго ўчынкі – спачуваннем людзям. Прарок Ісаія за многа сотняў гадоў да нараджэння Ісуса Хрыста пісаў пра Яго: «Палкі, што надламана, не пераломіць, і лёну, што дыміць, не патушыць». Так Ісус ставіўся да людзей.

Каму толькі не спачуваў Божы Сын. І вялікія цуды Ён тварыў на зямлі. Але і цяпер, калі Хрыстос у славе Нябеснага Айца і калі немагчыма нам Яго ўбачыць нашымі фізічнымі вачыма, Ён моліцца Богу Айцу за таго, хто прыняў Яго ў сваё сэрца як Свайго Спаса.

ЛУКА 7:11-16

## ПРЫТЧА ПРА СЕЙБІТА

Ісус расказаў прытчу пра сейбіта: « Вось выйшаў сейбіт сеяць, і калі ён сеяў, іншае зерне ўпала ўскрай дарогі, і наляцелі птушкі і падзяўблі яго, іншае ўпала на камяністыя месцы, дзе крыху было зямлі, і хутка яно ўзышло, таму што зямля была неглыбокая. А калі ўзышло сонца, завяла і, як што не мела кораня, засохла. Іншае ўпала на цёрн і выраслі церні і заглушылі яго, іншае ўпала на добрую глебу і ўрадзіла плод: адно стократны, другое шасцідзесяцікратны, іншае ж трыццацікратны. Хто мае вушы, каб слухаць, хай пачуе!»

Потым Ісус растлумачыў вучням значэнне гэтай прытчы: «Да кожнага, хто слухае слова пра Царства і не разумее, прыходзіць нячысты і адкрадае зерне, што было пасеяна словам у яго сэрцы, вось што азначае пасеянае ўскрай дарогі.

А пасеянае на камяністых мясцінах азначае таго, хто чуе слова і адразу з радасцю прымае яго, але, не маючы ў сабе кораня, непастаянны: калі настане скруха альбо ганенне на слова, адразу спакушаецца. А пасеянае ў цёрн азначае таго, хто чуе слова, але клопаты веку гэтага і прывабнасць багацця заглушае слова, і яно бывае бясплоднае.

А пасеянае на добрай глебе азначае таго, хто слухае слова і разумее, ён і бывае пладаносны, так што іншае родзіць плод у сто разоў, іншае ў шэсцьдзесят, а іншае ў трыццаць».

МАЦВЕЙ 13:3-9, 18-23

## ШЭСЦЬ ПРЫТЧАЎ АБ ЦАРСТВЕ НЯБЕСНЫМ

Аднаго дня Ісус, выйшаўшы з дому, сеў каля мора. І сабралася каля Яго мноства народу. Калі натоўпы прыціскалі Яго да самага берага, то Ён увайшоў у лодку, і з лодкі пачаў навучаць, кажучы: «Царства Нябеснае падобнае на чалавека, які пасеяў на сваім полі добрае семя; калі ж людзі спалі, прыйшоў яго вораг і пасеяў паміж пшаніцы куколь і пайшоў; калі збажына ўзышла і паявіўся плён, тады паказаўся куколь. Прыйшоўшы да гаспадара дома, рабы сказалі яму: ”Пане! Хіба благое насенне ты пасеяў на полі тваім? Адкуль жа на полі куколь?” Ён жа сказаў ім: ”Вораг такое зрабіў”. Сказалі рабы яму: ”Калі хочаш, мы сходзім і выпалем яго?” Аднак ён сказаў: ”Не, каб, выполваючы куколь, вы не пашкодзілі разам з ім і пшаніцы; пакіньце ж да жніва расці адно і другое; у час жніва скажу я жняцам: збярыце найперш куколь і павяжыце яго ў пучкі і павыкідайце іх у агонь; а пшаніцу збярыце ў мае засекі”.

Іншую прытчу прапанаваў Ён ім, кажучы: Царства Нябеснае можна ўпадобніць да зярняці гарчычнага, якое чалавек узяў і пасеяў на полі сваім, якое, хоць і меншае за ўсё насенне, але, калі вырасце, бывае большым за ўсе злакі і становіцца дрэвам, так што прылятаюць птушкі нябесныя і хаваюцца ў галінах яго.

Прапанаваў Ён іншую прытчу, кажучы: Царства Нябеснае падобнае на закваску, якую жанчына, узяўшы, паклала ў тры меры мукі, пакуль усё не закісла...

Яшчэ Царства Нябеснае падобнае на прыхаваны ў полі скарб, які, знайшоўшы, чалавек утоіў, і, радуючыся з яго, ідзе і прадае ўсё, што мае, і тое поле купляе.

Яшчэ Царства Нябеснае падобнае на купца, які шукае харошых жамчужын, і, знайшоўшы каштоўную жамчужыну, пайшоў і ўсё, што меў, распрадаў, і купіў яе.

Яшчэ Царства Нябеснае падобнае на нерат, што закінулі ў мора і захапілі рыб усякага роду, што, калі ён напоўніўся рыбай, выцягнулі на бераг і, усеўшыся, харошую рыбу сабралі ў сасуды, а благую павыкідвалі вон. Так будзе і пад канец веку: сыдуць анёлы і аддзеляць злых з асяродку праведных і ўкінуць іх у печ агнявую: там будзе плач і скрыгатанне зубамі».

МАЦВЕЙ 13:24-50

## ІСУС СУНІМАЕ БУРУ НА МОРЫ

Аднойчы Ісус і Яго вучні пераплывалі Генісарэцкае возера. У тыя часы Генісарэцкае возера называлі яшчэ і Галілейскім морам. У час плавання Ісус заснуў. Раптам на моры паднялася моцная бура. Хвалі захлёствалі лодку. Вучні спешна разбудзілі Ісуса і сказалі Яму:

«Госпадзе, ратуй нас: гінем». Ісус сказаў ім:

«Дзе вера вашая? Чаго вы так напалохаліся, малаверы?» Потым Ён устаў і забараніў ветру, і сказаў мору:

«Суйміся, перастань!» Вецер адразу заціх, мора супакоілася. Настала вялікая ціша.

Вучні ад страху і здзіўлення загаварылі паміж сабою:

«Хто Гэты, што і вятры і мора Яго слухаюцца?»

Так, слову Госпада Бога і сусвет пакараецца. Хай давер Госпаду будзе сталы і дасканалы, каб Ён ніколі нам не казаў: «Дзе вашая вера?»

МАЦВЕЙ 8:23-27; ЛУКА 8:22-25

## УВАСКРАШЭННЕ ДАЧКІ ІАІРА

Ісус вучыў на беразе Галілейскага мора*. З розных мясцін сцякаліся людзі і Яго акружалі. Падышоў да Ісуса і чалавек, які быў начальнікам сінагогі. Звалі яго Іаір. Ён упаў пад ногі Ісусу і прасіў: «Дачка мая пры смерці, прыйдзі і дакраніся да яе рукой, каб яна ачуняла і засталася жывая». Ісус пайшоў да дома Іаіра. А следам за ім цягнуўся натоўп. Людзі абступалі Ісуса і з усіх бакоў Яго прыціскалі.

Жанчына, хворая на крывацечу, дачулася пра цудадзействы Ісуса. У каго яна ні лячылася. Патраціла на ўрачоў увесь свой набытак, і ўсё дарэмна. Жанчына прабралася ў натоўп. Непрыкметна ззаду падышла да Ісуса і дакранулася да яго адзення. Перад гэтым яна сказала сабе: «Калі я хоць да вопраткі Яго дакрануся, дык выздаравею». І яна адразу адчула сябе здаровай. І Сам Ісус адчуў, што з Яго выходзіла сіла. Тады Ён спытаўся: «Хто дакрануўся да Майго адзення?» Вучні, не зразумеўшы, гаварылі, што народ прыціскае з усіх бакоў, і хто тут разбярэ, хто да каго дакранаецца. Жанчына, ведаючы, што з ёю адбылося, упала перад Ісусам і расказала ўсю праўду. А Ён сказаў ёй: «Вера твая выратавала цябе, ідзі ў міры і будзь здаровая».

Калі Ён яшчэ гэта казаў, падышлі людзі да начальніка сінагогі і сказалі: «Дачка твая памерла, навошта турбаваць Настаўніка?» Ісус, пачуўшы гэта, сказаў Іаіру: «Не бойся, толькі веруй». Калі ўвайшоў у дом Іаіра, Ісус убачыў збянтэжаных дамачадцаў. Яны плакалі і галасілі. Ісус сказаў ім: «Нашто вам бянтэжыцца і плакаць. Дзяўчынка не памерла, а толькі спіць». І смяяліся з Яго. Але Ісус, узяўшы з сабой Пятра, Якава, Іаана і разам з бацькамі памерлай увайшоў у пакой, дзе ляжала дзяўчынка. Ён падышоў да яе блізка, узяў яе за руку, сказаўшы: «Дзяўчына, табе кажу: устань!» Дзяўчынка ўстала і пачала хадзіць. Той, хто ўбачыў гэты цуд, вельмі здзівіўся.

МАРК 5:21-42

** Генісарэцкае возера называлася ў часы Ісуса Хрыста таксама Галілейскім морам.*

# ІСУС НАКАРМЛЯЕ ПЯЦЦЮ ХЛЯБАМІ ПЯЦЬ ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

Аднаго разу Ісус са сваімі вучнямі выправіўся на другі бераг Галілейскага мора, у ваколіцы Тыверыяды. За Ісусам ішло шмат народу. Яны былі сведкамі многіх Ісусавых цудаў.

Ісус узышоў на гару і там сеў са сваімі вучнямі. Набліжалася Пасха, Іудзейскае свята. Ісус паглядзеў навокал і ўбачыў, што мноства народу ідзе да Яго. Кажа Філіпу: «Дзе нам купіць хлябоў, каб іх накарміць?» Ён сказаў гэта, бо хацеў выпрабаваць Філіпа, бо Сам ведаў, што хацеў зрабіць.

Філіп адказаў Яму: «Ім хлеба на дзвесце дынарыяў будзе замала, каб кожнаму хоць трошкі дасталася».

Адзін з Яго вучняў, Андрэй, брат Сімона Пятра, кажа Яму: «Тут у аднаго хлопчыка ёсць пяць ячменных хлябоў і дзве рыбкі, але што гэта на такое мноства?» Ісус сказаў: «Загадайце ім садзіцца». На тым месцы было многа травы. І людзі расселіся, і было іх там каля пяці тысяч.

Ісус, узяўшы хлябы, падзякаваў Богу, перадаў вучням, а вучні ўсім астатнім, таксама і рыбы, колькі хто хацеў. А калі ўсе наеліся, Ён загадаў вучням: «Збярыце ўсе кавалкі, каб нічога не прападала». Назбіралі і напоўнілі дванаццаць кашоў недаедзеных кавалкаў ад пяці ячменных хлябоў, што ад едакоў засталіся.

Тады людзі, убачыўшы цуд, гаварылі між сабою: «Вось гэта сапраўды Прарок, Якому патрэбна было паявіцца ў гэтым свеце».

ІААН 6:3-14

## ІСУС ІДЗЕ ПА ВАДЗЕ

Адразу пасля цуду з хлебам і рыбай Ісус сказаў сваім вучням садзіцца ў лодку і без Яго веславаць на другі бераг. Ён заставаўся з народам, пакуль народ яшчэ не разышоўся. Пасля таго, як нікога не стала, Ён узышоў на гару. Там Ён доўга маліўся. Ужо зусім сцямнела. У гэты час лодка была ўжо на сярэдзіне мора. Быў моцны вецер, і хвалі налятталі на лодку.

Ужо ноччу, мо пад чацвёртую варту* накіраваўся на другі бераг і Сам Ісус, ідучы па вадзе. І вучні, бачачы, як Ён ішоў па вадзе, напалохаліся і казалі: «Гэта здань», і ад страху аж закрычалі. Але Ісус тым часам да іх загаварыў: «Бадзёрцеся: гэта Я, не бойцеся».

Пётр сказаў у адказ Яму: «Госпадзе! Калі гэта Ты, загадай мне прыйсці да Цябе па вадзе». Ён жа сказаў: «Ідзі». І выйшаўшы з лодкі, Пётр пайшоў па вадзе, каб падысці да Ісуса. Але, бачачы моцны вецер, спалохаўся і, пачаўшы тануць, закрычаў: «Госпадзе! Уратуй мяне». Ісус адразу працягнуў руку, падтрымаў яго, сказаў: «Малаверны! Навошта ты засумняваўся?» І калі яны ўвайшлі ў лодку, вецер заціх.

А тыя, што былі ў лодцы, падышлі, пакланіліся Яму і сказалі: «Праўда, што Ты Сын Божы».

МАЦВЕЙ 14:22-33

* *Гэта ад трох да шасці гадзін раніцы.*

# ПЕРАЎТВАРЭННЕ ІСУСА

Аднойчы Ісус пачаў гаварыць Сваім вучням, што Яму прыйдзецца памерці ў Іерусаліме. Такое слухаць было не вельмі прыемна. Тым больш, яны думалі, што Ісус будзе царом. О, як засмуціліся іх сэрцы, калі Ён сказаў ім, што павінен будзе ісці ў Іерусалім і там многа адпакутаваць ад старэйшын, першасвяшчэннікаў і кніжнікаў, быць там забітым і на трэці дзень уваскрэснуць. Вучняў не цешыла думка пра Яго ўваскрэсенне. Яны ніяк не маглі зразумець, што Ён такое кажа.

Праз некалькі дзён Ісус разам з Пятром, Іаанам і Якавам узыходзіць на высокую гару і там Ісус пераўтвараецца перад імі: аблічча Яго заззяла, як сонца, адзенне Яго пабялела, як святло. Нечакана для вучняў у славе з'явіліся ім Майсей і Ілія. Яны размаўлялі з Ісусам пра тое, што Яму трэба будзе зрабіць у Іерусаліме. Тады Пётр сказаў Ісусу: «Госпадзе! Хораша нам тут быць; калі хочаш, зробім тут тры намёты: Табе адзін, і Майсею адзін, і адзін Іліі». Сказаў ён гэта таму, што баяўся і ад страху не ведаў, што кажа. Калі ён яшчэ гаварыў, светлае воблака асяніла іх, і вось голас з воблака сказаў: «Гэты ёсць Сын Мой Любасны, у Якім Мая добрая воля, Яго слухайце».

Пачуўшы гэты голас, вучні ўпалі ніцма і вельмі напалохаліся. Але Ісус, прыступіўшы, дакрануўся да іх і сказаў: «Устаньце і не бойцеся». Паглядзелі вакол і нікога не ўбачылі, апрача аднаго Ісуса.

І калі яны спускаліся з гары, Ісус забараніў ім, кажучы: «Нікому не кажыце пра тое, што бачылі, пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсне з мёртвых».

МАЦВЕЙ 17:1-9

## ЛЮБОЎ УСЁ ДАРУЕ

Аднаго разу Пётр падышоў да Ісуса і спытаўся: «"Госпадзе! Колькі разоў можна дараваць брату майму, які саграшае супроць мяне? Ці не сем разоў?" Ісус адказаў яму: "Я табе не кажу: сем разоў, але семдзесят разоў па сямі. Таму Царства Нябеснае ўпадобнена цару, які надумаў разлічыцца з рабамі сваімі. Калі ён пачаў разлічвацца, прывялі да яго аднаго, хто быў вінен яму дзесяць тысяч талантаў*; а як ён не меў, што заплаціць, дык уладар загадаў прадаць яго, і жонку яго, і дзетак яго, і ўсё, што ён меў, і заплаціць. Тады раб той упаў пад ногі і, кланяючыся яму, казаў: "Цару! пацярпі на мне, і ўсё адтабе заплачу". Уладар, злітаваўшыся з раба таго, адпусціў яго і доўг дараваў яму. Раб той, выйшаўшы, сустрэў свайго таварыша, які быў яму вінен сто дынарыяў, і, схапіўшы яго, пачаў душыць, кажучы: "Аддавай, што ты вінаваты мне". Тады таварыш упаў пад ногі яго, умаляў яго і казаў: "Пацярпі на мне, і ўсё аддам табе". Але той не схацеў, а пайшоў і ўвязніў яго ў цямніцу, пакуль не аддасць доўгу. Таварышы яго, калі ўбачылі, што адбылося, вельмі пакрыўдзіліся і, прыйшоўшы, расказалі свайму ўладару ўсё, што было. Тады ўладар паклікаў яго і кажа: "Ліхі раб! увесь доўг я дараваў табе; ці не след было і табе пашкадаваць твайго брата, як і я пашкадаваў цябе?" І ўгнявіўшыся, уладар аддаў яго ў кабалу, пакуль не аддасць яму доўгу ўсяго. Вот так Айцец Мой Нябесны зробіць і з вамі, калі не будзе кожны дараваць свайму брату яго ж грахоў».

У малітве Гасподняй «Ойча наш» Ісус вучыць, каб наша малітва была накіравана да Бога: «І даруй нам даўгі нашы, як і мы даруем даўжнікам нашым».

МАЦВЕЙ 18:21-35; 6:12

**Вага срэбра*

## ПРЫТЧА ПРА МІЛАСЭРНАГА САМАРАНІНА

Адзін законнік, спакушаючы Ісуса, спытаўся ў Яго: «Настаўнік, што мне рабіць, каб у спадчыну атрымаць вечнае жыццё?» Ісус сказаў яму: «У законе што напісана? Як чытаеш?» Законнік адказаў: «Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім і ўсёю душою тваёю, і ўсёй сілай тваёю і усім розумам тваім, і блізкага твайго, як самога сябе». Ісус заўважыў яму: «Правільна ты адказаў. Так рабі, і жыць будзеш». Але ён, хочучы апраўдацца, спытаўся: «А хто мой блізкі?» Ісус расказаў яму прытчу:

«Нейкі чалавек ішоў з Іерусаліма ў Іерыхон і па дарозе папаўся разбойнікам, якія раздзелі яго, паранілі, пакінулі яго ледзь жывога, а самі збеглі. У гэты час ішоў святар тою самаю дарогаю і, убачыўшы яго, прайшоў міма. Таксама і левіт, які быў на тым месцы, падышоў да яго, паглядзеў і прайшоў міма. Нейкі самаранін, едучы, натыкнуўся на яго, пашкадаваў і падышоў, перавязаў яму раны, паліваючы іх алеем і віном, і, пасадзіўшы на свайго асла, прывёз у гасцініцу і аб ім паклапаціўся. На другі дзень перад ад'ездам дастаў два дынарыі *(рымскія грошы, што былі тады ў Ізраілі ў абароце)* і аддаў іх гаспадару гасцініцы, і заадно папрасіў яго: «Паклапаціся аб ім, а калі патраціш што-небудзь больш, дык я, калі вярнуся, табе даплачу».

Расказаўшы прытчу, Ісус спытаў у законніка: «Хто з гэтых трох, думаеш ты, быў блізкім таму, хто папаўся разбойнікам?» Законнік адказаў: «Хто зрабіў яму ласку». Тады Хрыстос сказаў: «Ідзі і ты рабі тое самае».

ЛУКА 10:25-37

# ІСУС – ДОБРЫ ПАСТЫР

Ісус Хрыстос, Сын Божы, быў на зямлю пасланы, каб выратаваць чалавецтва. Ісус часта казаў народу і вучням Сваім аб грахоўнасці людзей, аб неабходнасці пакаяння і вяртання да Бога, а таксама аб тым, што «так Бог палюбіў свет, што аддаў Сына Свайго адзінароднага, каб кожны, хто ў Яго верыць, не загінуў, а меў жыццё вечнае».

Пра гэта Ісус часта казаў у прытчах, на прыкладах, у вобразах: як Пастыр клапоціцца аб авечках, так Ісус, Збавіцель свету, клапоціцца аб тых, што прымаюць Яго ў сваё сэрца і следуюць запаведзям Яго ў сваім жыцці: вось словы Ісуса Хрыста:

«Праўду, праўду кажу вам, што Я дзверы авечкам. Усе, колькі іх ні прыходзіла перада Мною, зладзеі і разбойнікі, але авечкі не паслухаліся іх. Я дзверы: хто ўвойдзе Мною, той і ратунак мецьме, той увойдзе і выйдзе, той і пашу знойдзе. Злодзей прыходзіць толькі дзеля таго, каб украсць, забіць і пагубіць; Я ж прыйшоў, каб мелі жыццё і мелі яго багата.

Я ёсць Пастыр Добры: Пастыр Добры ўскладзе жыццё сваё за авечак, а найміт, не Пастыр, для якога авечкі не свае, бачыць, як прыходзіць воўк, пакідае авечак і ўцякае; і воўк раскрадае авечкі ды іх разганяе; і найміт уцякае, бо найміт і аб авечках не дбае.

Я ёсць Пастыр Добры, і ведаю Маіх, і Мае ведаюць Мяне. Як Айцец ведае Мяне, так і Я ведаю Айца, а жыццё Маё кладу за авечак. Ёсць у Мяне іншыя авечкі, якія не з таго двара, і тых належыць Мне прывесці; і яны пачуюць голас Мой, і будзе адзін статак і адзін Пастыр.

Бо любіць Мяне Айцец, што Я жыццё Маё аддаю, каб прыняць яго зноў; ніхто не адымае ў Мяне яго, але Сам я аддаю яго; маю ўладу аддаць яго і маю ўладу прыняць яго зноў; гэтую запаведзь атрымаў Я ад Айца Майго».

ІААН 10:7-18

## СЁСТРЫ МАРФА І МАРЫЯ

Народ здзіўляўся мудрасці і сіле Ісуса. Ісус любіў народ, і народ палюбіў Ісуса. Але ў Ісуса былі і ворагі сярод фарысеяў і кніжнікаў (настаўнікаў народу). Яны ненавідзелі Яго і, нягледзячы на твораныя ім цуды, не веравалі ў Ісуса.

Непадалёк ад Іерусаліма быў пасёлак. Яго называлі Віфаніяй. Там жылі дзве сястры – Марфа і Марыя, і іхні брат Лазар. Усе трое вельмі любілі Ісуса і запрашалі Яго да сябе.

Аднойчы Ісус з'явіўся да іх. І Марыя адразу села да ног Яго і слухала, што Ён расказваў. А Марфа ўпраўлялася каля стала, рыхтавала Яму пачастунак. Не спадабалася Марфе, што Марыя ёй не дапамагала. Таму яна падышла да Ісуса і сказала: «Госпадзе! Няўжо Цябе не турбуе, што сястра мая пакінула мяне ўслугоўваць адную?.. Скажы ёй, няхай дапаможа мне...» Ісус сказаў ёй у адказ:

«Марфа! Марфа! Клапоцішся і завіхаешся ты занадта, а трэба толькі адно. Марыя выбрала добрую долю, якая ў яе не адымецца».

ЛУКА 10:38-42

## ПРЫТЧА ПРА НЕРАЗУМНАГА БАГАЦЕЯ

Ісус, прапаведуючы народу, казаў: «Глядзіце, сцеражыцеся прагавітага захаплення багаццем, бо жыццё чалавека не залежыць ад лішку ў яго дастатку». Потым Ён сказаў прытчу: «У аднаго багатага чалавека быў добры ўраджай у полі, і ён разважыў сам з сабою: ”Што мне рабіць? Няма куды мне збіраць плады мае”. І сказаў: ”Вось што я зраблю: разбяру жытніцы мае і пабудую большыя, і збяру туды хлеб увесь і ўсё дабро маё. І скажу душы маёй: душа, многа дабра ляжыць у цябе на многія гады: будзь спакойна, еш, пі, весяліся!” Але Бог сказаў яму: ”Бязглузды! У гэтую ноч у цябе забяруць тваю душу. Каму дастанецца тое, што ты назапасіў”. Так бывае з тым, хто збірае сабе скарбы, а не багацее ў Бога». І таксама сказаў: «Дык вось, не турбуйцеся пра тое, што вам есці або піць, і не трывожцеся, бо ўсяго гэтага шукаюць людзі свету гэтага; Айцец жа ваш ведае, што маеце вы нястачу ў гэтым; найболей шукайце Царства Божага, і гэта ўсё дадасца вам. Не бойся, малы статак! Бо Айцец ваш спрыяў, каб даць вам Царства. Прадавайце маёнткі вашыя і давайце міласціну. Рыхтуйце сабе сховішчы, якія не марнеюць, скарб, які на нябёсах не збядняецца, куды злодзей не набліжаецца, і дзе моль не з’ядае; бо, дзе скарб ваш, там і сэрца вашае будзе».

ЛУКА 12:15-21, 29-34

## ПРЫТЧА ПРА БАГАЧА І ЛАЗАРА

У гэтай прытчы Ісус прыводзіць двух чалавек, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго сваім жыццём. Адзін быў багаты, але няправедны, а другі, хоць і бедны, але праведны.

«Адзін чалавек быў багаты, вопратка яго была з парфіры і вісону, кожны дзень банкетаваў раскошна. Таксама быў і адзін бядняк, імя якому Лазар, які ляжаў каля варот багача. Цела яго было ў струпах. Памёр бядняк, і анёлы яго аднеслі на ўлонне Аўраама; памёр і багаты, і пахавалі яго; і ў пекле, будучы ў муках, ён узняў вочы свае, убачыў здалёк Аўраама і Лазара на лоне яго і, галосячы, усклікнуў: "Ойча, Аўрааме! Злітуйся з мяне і пашлі Лазара, няхай абмочыць ён канец свайго пальца ў вадзе і ахалодзіць язык мой, бо мучуся я ў гэтым полымі". Але Аўраам сказаў: "Дзіця! Прыпомні, што ў жыцці тваім меў ты добрае, а Лазар благое; цяпер жа ён тут суцяшаецца, а ты ў мучэннях вялікіх, і Звыш усяго, паміж намі і вамі вялікая бездань, таму што ніхто не можа адсюль да вас перайсці, таксама і адтуль да нас не пераходзяць". Сказаў тады ён: "Я прашу цябе, ойча, пашлі яго ў дом бацькі майго, бо ёсць у мяне пяць братоў: няхай ён засведчыць ім, каб і яны не прыйшлі ў гэтае месца мучэння". Аўраам сказаў яму: "Яны маюць і Майсея і пракрокаў, няхай слухаюць іх". Ён жа сказаў: "Не, ойча Аўрааме! Але калі хто з памерлых прыйдзе да іх, пакаюцца". Тады Аўраам сказаў яму: калі Майсея і пракрокаў не слухаюць, то калі б хто і з мёртвых уваскрэс, не павераць».

У гэтай прытчы цікава тое, што багач як асоба канкрэтна не названы, а бядняк – імем Лазара. Ці не сведчыць гэта пра тое, што людзі знатныя на зямлі не маюць вагі на небе, а праведнікі, невядомыя гэтаму свету, услаўляюцца там на небе. А смерць, калі абарве існаванне зямное, адкрывае пачатак жыццю ў вечнасці. І зямное жыццё ў тым вечным прадвызначае нашу будучыню.

ЛУКА 16:19-31

## ПРЫТЧА ПРА ПРАПАЛУЮ АВЕЧКУ

Ісус так палюбіў род чалавечы, што пакінуў славу нябёс і прыйшоў на зямлю, каб спагнаць і выратаваць тых, што загінулі ў грахах, адступіліся ад Бога і забылі пра Яго. Ён, як Добры Пастыр, заўсёды шукае авечку, якая заблудзілася.

У адной Сваёй прытчы Ісус сказаў: «Хто з вас, маючы сто авечак і згубіўшы адную з іх, не пакіне ў пустыні дзевяноста дзевяці і не пойдзе па тую, што прапала, і не пашукае яе? Знайшоўшы, возьме яе з радасцю на Свае плечы і, прыйшоўшы дамоў, пакліча сяброў і суседзяў, і скажа ім: "Парадуйцеся са мною, я знайшоў маю прапалую авечку". Кажу вам: што на нябёсах будзе болей радасці за аднаго грэшніка, што пакаецца, чым за дзевяноста дзевяць праведнікаў, якія ў пакаянні не маюць патрэбы».

Вялікая радасць будзе на небе, калі хто-небудзь з чытачоў пакаецца зараз. Дзеля гэтага трэба прыняць Ісуса ў сваё сэрца, звярнуцца да Яго са шчырай малітвай пакаяння. Ісус і пачуе, і зразумее, і даруе, і дасць душы мір і спакой.

ЛУКА 15:3-7

## ПРЫТЧА ПРА БЛУДНАГА СЫНА

Я шчэ адну прытчу Ісус расказаў народу: «У аднаго чалавека было два сыны; і сказаў малодшы бацьку: ”Ойча! Дай мне з маёнтку тую частку, якая мне належыць”. І бацька падзяліў паміж імі маёнтак.

Мінула нямнога дзён. Малодшы сын забраў усё, што належала яму, і пайшоў у далёкую краіну. І там усё распусціў, бо жыў надта ж распусна. Калі ён усё так растраціў, пачаўся ў той краіне вялікі голад, і ён сам пачаў галадаць. Тады ён пайшоў да жыхара той краіны і наняўся ў работнікі, а той паслаў яго на свае палі пасвіць свінні, і рады быў бы ён наесціся стручкоў, якімі карміліся свінні, але ніхто не даваў яму і стручкоў.

Неяк адумаўшыся, сказаў сам сабе: ”Колькі наймітаў у майго бацькі жыве і ўсе ў дастатку, а я паміраю тут з голаду! Збяруся і пайду да свайго бацькі і скажу яму: Ойча! Я саграшыў перад небам і перад табою і ўжо нават не заслугоўваю называцца тваім сынам, залічы мяне да ліку тваіх наймітаў”.

Сабраўся і пайшоў да свайго бацькі».

ЛУКА 15:11-19

*працяг*

## ВЯРТАННЕ БЛУДНАГА СЫНА

«І калі ён быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька, і пашкадаваў, і пабег яму насустрач, абняў за шыю і цалаваў яго. А сын сказаў быцьку: ”Ойча! Я саграшыў перад небам і перад табою і ўжо не варты называцца сынам тваім”. А бацька сказаў рабам сваім: ”Прынясіце лепшае адзенне і апраніце яго, і дайце пярсцёнак на руку яго і абутак на ногі; і прывядзіце ўкормленае цяля і закаліце: будзем есці і весяліцца. Бо сын гэты мой быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся”. І пачалі весяліцца.

Старэйшы ягоны сын быў у полі. А калі вярнуўся і прыблізіўся да дома, пачуў, як пяюць і весяляцца. Ён паклікаў аднаго слугу і спытаўся: ”Што гэта такое?” Той адказаў яму: ”Брат твой вярнуўся, і твой бацька зарэзаў укормленае цяля, бо прыняў яго здаровага”. Выслухаўшы ўсё гэта, брат раззлаваўся і не хацеў уваходзіць у дом. Неўзабаве бацька, пачуўшы, што старэйшы сын вярнуўся з поля, выйшаў яму насустрач і паклікаў яго ў дом. Сын строга паглядзеў на бацьку і пачаў яго папракаць: ”Вось я столькі гадоў служу табе і ніколі не парушыў загаду твайго; але ты ніколі не даў мне нават казляняці, каб я з маімі сябрамі павесяліўся; а калі вось гэты сын твой, растраціўшы сваю долю з распусніцамі, вярнуўся, ты закалоў дзеля яго ўкормленае цяля”.

Бацька так сказаў яму: ”Сыне мой, ты заўсёды пры мне, і ўсё маё, – тваё. А з таго радавацца і весяліцца нам трэба, што брат твой гэты быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся”».

Гэтай прытчай Ісус не раз даводзіў, што Нябесны Айцец радуецца, і даруе грахі таму, хто прыходзіць да Яго пакаяўшыся ад усяго сэрца.

ЛУКА 15:20-32

# ІСУС УВАСКРАШАЕ ЛАЗАРА

Непадалёку ад Іерусаліма знаходзілася пасяленне Віфанія Там жылі Лазар і яго сёстры Марфа і Марыя. Яны былі добрымі прыяцелямі Ісуса. Аднойчы Ісус атрымаў смутную вестку пра хваробу Лазара. Лазар захварэў, і сёстры паведамілі Ісусу: «Госпадзе! Вось той, каго ты любіш, – хворы». Ісус, пачуўшы гэта, сказаў: «Гэта хвароба не на смерць, а на Божую славу, няхай праславіцца праз яе Сын Божы».

Яшчэ два дні прабыў Ён у той мясціне, дзе застала Яго нядобрая вестка, а калі прыйшоў у Віфанію, Лазар ужо не жыў. Чатыры дні Ён ляжаў у магіле.

Знаёмыя і блізкія наведалі сёстраў, паспачувалі ім. Якраз у гэты час прыйшоў Ісус. Марфа ўбачыла Ісуса, пабегла да Яго і сказала: «Госпадзе! Калі б Ты быў тут, не памёр бы мой брат; але і цяпер я ведаю, што, чаго Ты папросіш у Бога, дасць Табе Бог». Ісус ёй сказаў: «Уваскрэсне твой брат». А потым Ён дадаў: «Я ёсць уваскрэсенне і жыццё; хто верыць у Мяне, калі і памрэ – ажыве. І кожны, хто жыве і верыць у Мяне, не памрэ вавек. Ці верыш ты гэтаму?» Марфа сказала: «Так, Госпадзе! Я веру, што Ты Хрыстос, Сын Божы, які ідзе ў свет». Потым паклікала сваю сястру Марыю.

Калі Ісус убачыў Марыю, як плакала яна, калі Ён убачыў іудзеяў, як плакалі яны, дык і Сам вельмі засмуціўся духам і спытаўся : «Дзе вы яго пахавалі?» Яму адказалі: «Госпадзе! Ідзі і паглядзі».

Ісус падышоў да пячоры, у якой пахавалі Лазара. (Там быў такі звычай: нябожчыкаў хавалі ў пячоры, а ўваход прывальвалі каменем.) Ісус загадаў адваліць камень, але Марфа сказала, што Лазар ужо чатыры дні як у магіле. Ісус адказаў ёй: «Ці не сказаў Я табе, што калі будзеш вераваць, дык убачыш славу Божыю». Калі камень адвалілі, Ісус узвёў у неба вочы і сказаў: «Ойча! Дзякую Табе, што Ты пачуў Мяне... Я ведаў, што Ты заўсёды чуеш Мяне... «Сказаўшы так, Ён гучным голасам паклікаў: «Лазар! Выйдзі!» І выйшаў Лазар, абвіты палатном з галавы да ног.

Многія іудзеі, убачыўшы такі цуд, адразу паверылі ў Ісуса. Але фарысеі і першасвяшчэннікі зрабілі інакш. Цуд іх напалохаў, і яны сабралі нараду. На ёй абмяркоўвалі план, як забіць Ісуса.

ІААНА 11:1-50

## ДЗЕСЯЦЬ ПРАКАЖОНЫХ

Ідучы ў Ерусалім, Ісус па дарозе зайшоў у адное сяло. Там сустрэлі Яго дзесяць пракажоных. Спыніўшыся воддаль, яны пачалі крычаць: «Ісус, Настаўнік! Пашкадуй нас!» Убачыўшы іх, Хрыстос сказаў ім: «Сходзіце, пакажыцеся святарам». Калі яны пайшлі, дык па дарозе ўбачылі, што яны вызваліліся ад сваёй страшнай хваробы.

З дзесяці чалавек, што аздаравіліся ад праказы, толькі адзін вярнуўся да Ісуса і ўпаў каля Яго ног. Ён дзякаваў Ісусу і гучным голасам славіў Бога. Ён быў самаранін, астатнія былі іудзеі.

Ісус сказаў: «Ці не ўсе дзесяць аздаравіліся? Дзе ж яшчэ дзевяць? Як жа яны не вярнуліся ўславіць Бога, апрача гэтага чужога?»

Ісус назваў чужым самараніна, які быў удзячны за выздараўленне. Самаране і яўрэі адносіліся да двух розных народаў і адрозніваліся паміж сабою веравызнаннем. Ісус звярнуўся да самараніна, сказаўшы: «Устань, хадзі, вера твая выратавала цябе».

Мы ніколі не павінны забываць дзякаваць Госпаду за Яго літасць і ласку.

ЛУКА 17:11-19

## ПРЫТЧА ПРА ФАРЫСЕЯ І МЫТНІКА

У нас ёсць уяўленне пра сябе, што мы сумленныя, праведныя і бязгрэшныя. Але Слова Божае вучыць нас не пышыцца, а заўсёды быць у лагоднасці перад Богам. Прытчу пра фарысея і мытніка* расказаў Ісус, каб самаўпэўненыя праведнікі не мелі права зневажаць іншых.

«Два чалавекі ўвайшлі ў храм, каб памаліцца: адзін фарысей, а другі мытнік. Фарысей сам сабе маліўся так: ”Божа! Я дзякую Табе, што я не такі, як іншыя людзі, рабаўнікі, крыўдзіцелі, распуснікі, або як гэты мытнік, пашчуся два разы на тыдзень. Дзесяціну даю з усяго, што прыдбаю”.

Мытнік, стоячы воддаль, не асмельваўся вочы нават узняць на неба; але, б’ючы сябе ў грудзі, казаў:

”Божа! будзь літасцівы да мяне, грэшніка!”

Кажу Я вам, што гэты за таго стаўся больш апраўданы: бо кожны, хто сябе сам узвышае, паніжаны будзе, а хто сябе паніжае, узвышаны будзе».

У Нагорнай пропаведзі Ісус павучаў Сваіх вучняў і народ:

«Не судзіце і вас не асудзяць, бо якім судом судзіце, такім і вас судзіцьмуць; і якою мераю мерыце, такою і вам адмерыцца».

ЛУКА 18:10-14; МАЦВЕЙ 7:1-2

* *Мытнік – зборшчык даніны*

## ІСУС БЛАСЛАЎЛЯЕ ДЗЯЦЕЙ

Ісус Хрыстос любіць дзяцей.

Аднойчы Ісусу падвялі дзяцей. Ён усклаў на іх рукі і памаліўся. Вучні Яго забараня̀лі дзецям падыходзіць да Ісуса. Але Ісус звярнуўся да вучняў і сказаў: «Пускайце дзяцей, не перашкаджайце ім прыходзіць да Мяне, бо яны маюць Нябеснае Царства». Потым Ён усклаў на дзяцей рукі і блаславіў іх.

Неяк наступнага разу вучні спыталіся ў Ісуса: «Хто большы ў Царстве Нябесным?» Ісус паклікаў дзіця, паставіў яго сярод іх і сказаў:

«Праўду кажу вам, калі не пакаецеся і не будзеце, як дзеці, не ўвойдзеце ў Царства Нябеснае.

Дык вось, хто прынізіцца да гэтага дзіцяці, той і большы ў Царстве Нябесным.

І хто прыме адно такое дзіця ў імя Маё, той Мяне прымае».

МАЦВЕЙ 18:1-5; 19:13-15; МАРК 9:36, 37

## ГАЕННЕ СЛЯПОГА ВАРТЫМЕЯ

Аднаго разу Ісус прыйшоў у вялікі горад Іерыхон. Як заўсёды, Яго суправаджала мноства народу.

Каля ўваходу ў горад сядзеў пры дарозе сляпы. Ён прасіў міласціны. Яго звалі Вартымей. Пачуўшы, што міма яго ідзе Ісус, пра цуды Якога ён дачуўся, сляпы пачаў крычаць:

«Ісусе, Сыне Давідаў! Злітуйся з мяне!» (Ісуса называлі Сынам Давідавым, бо Яго зямныя бацькі паходзілі з роду цара Давіда.) Сляпога прымушалі маўчаць, але ён яшчэ мацней крычаў: «Сыне Давідаў! Злітуйся з мяне!» Ісус спыніўся і прасіў паклікаць яго. Некалькі чалавек падышлі да сляпога і сказалі: «Не бойся, устань, Ён кліча цябе». Вартымей скінуў з сябе верхнюю вопратку і падышоў да Ісуса. І ў яго Ісус спытаўся:

«Чаго ты хочаш ад Мяне?» Сляпы адказаў:

«Настаўнік! Каб стаць мне відушчым». Ісус сказаў яму:

«Ідзі, вера твая выратавала цябе». У гэты момант Вартымей пачаў усё бачыць. Пайшоў за Ісусам і славіў Бога.

У часы Свайго зямнога жыцця Ісус тварыў нямала цудаў. І цяпер, на небе, Ён гатовы дапамагчы кожнаму, хто да Яго звяртаецца. Гасподзь слухае малітвы і па веры спраўджвае іх.

МАРК 10:46-52

## МЫТНІК ЗАКХЕЙ ЗВЯРТАЕЦЦА ДА БОГА

Горад Іерыхон, у які наведаўся Ісус, знаходзіцца недалёка ад Мёртвага мора. У гэтым горадзе жыў мытнік Закхей. Мытнікі – гэта зборшчыкі падаткаў. Сапраўднага кантролю за імі не было і ў іхнія рукі трапляла даніна большая за тую, якая была прадугледжана па законе. За гэта народ і ўзненавідзеў іх.

«Ісус увайшоў у Іерыхон, потым праз яго праходзіў. І вось нехта, якога называлі Закхеем, начальнік мытнікаў і чалавек заможны, хацеў убачыць Ісуса, але не мог за тлумам народу, бо ростам быў малы; і, забегшы наперад, узлез на смакоўніцу, каб убачыць Яго, бо Ён павінен праходзіць міма яе. Ісус, параўняўшыся са смакоўніцай, убачыў Закхея. Звярнуўся да яго, кажучы:

"Закхей, сыдзі на зямлю, бо сёння Мне трэба быць у цябе ў доме".

І ён спешна злез і прыняў Яго з радасцю. А ўсе, гледзячы на гэта, наракалі і казалі, што Ён зайшоў да грэшніка ў дом».

І як бы ў адказ на гэтае нараканне Закхей, устаўшы, сказаў Ісусу:

«"Госпадзе! Палову маёнтка свайго аддам на бедных, а калі каго ў чым пакрыўдзіў, аддам у чатыры разы больш".

Ісус сказаў яму: "Цяпер настала збавенне гэтаму дому, бо і Закхей сын Аўраама, і таму што Сын Чалавечы прыйшоў спагнаць і выбавіць пагіблае"».

Як праведнікаў, так і грэшнікаў любіць Ісус, Яго цудадзейная любоў прыводзіць грэшнікаў да пакаяння.

ЛУКА 19:1-10

## КАМУ ШМАТ ДАРУЕЦЦА – ТОЙ МНОГА ЛЮБІЦЬ

Адзін фарысей, Сімон, запрасіў Ісуса да сябе на абед. Ісус адклікнуўся і прыйшоў да яго.

«І вось, жанчына з таго ж горада, якая была грэшніца, даведаўшыся, што Ён... у доме фарысея, прынесла алавастравы сасуд з мірай* і, стаўшы ззаду каля Яго ног, плачучы, аблівала ногі Яго слязьмі і выцірала валасамі галавы сваёй, і цалавала ногі Яго, і мазала мірай.

Бачачы гэта, фарысей, які Яго запрасіў, сказаў сам сабе: ”Калі б Ён быў прарок, дык ведаў бы, хто і якая жанчына да Яго дакранаецца”. Звярнуўшыся да яго, Ісус сказаў: ”Сімон! Я маю нешта сказаць табе”. Ён гаворыць: ”Скажы, Настаўнік”. Ісус сказаў:

”У аднаго пазыкоўца было два даўжнікі: адзін меў доўг пяцьсот дынарыяў, а другі пяцьдзесят; але таму, што яны не мелі чым заплаціць, ён дараваў абодвум. Скажы вось, які больш палюбіць яго?” Сімон адказаў: ”Думаю, той, якому больш дараваў”. Ён сказаў яму: ”Правільна ты разважыў”.

І, звярнуўшыся да жанчыны, сказаў Сімону: ”Ці бачыш ты гэтую жанчыну? Я прыйшоў да цябе ў дом, і ты вады Мне на ногі не даў; а яна слязьмі абліла Мне ногі і валасамі галавы сваёй выцерла. Ты цалавання Мне не даў; а яна, з таго часу як Я прыйшоў, не перастае цалаваць у Мяне ногі. Ты галавы Мне алеем не памазаў; а яна мірай памазала Мне ногі. А таму маўляю табе: даруюцца грахі яе многія за тое, што яна палюбіла многа; а каму мала даруецца, той мала любіць”.

Ёй жа сказаў: ”Даруюцца табе грахі”». А тыя, што стаялі навокал Яго, што таксама былі на абедзе, «пачалі гаварыць самі сабе: ”Хто гэта, што і грахі дарує?” Ён жа сказаў жанчыне: ”Вера твая ўратавала цябе, ідзі з мірам”».

ЛУКА 7:37-50

**Міра* -*каштоўны нардовы, араматны алей.*

## УЕЗД ІСУСА Ў ІЕРУСАЛІМ

Ісус ішоў у Іерусалім. Па дарозе Ён наведаў Віфанію. Яна была каля Елеонскай гары. Адгэтуль выслаў Ён двух Сваіх вучняў з наказам: «Ідзіце ў селішча, што перад вамі, і адразу вы знойдзеце там асліцу прывязаную, і маладога асла з ёю. Адвязаўшы іх, прывядзіце да Мяне. І калі хто вам што-небудзь скажа, адказвайце, што яны патрэбныя Госпаду; і адразу пашле іх». Пасланцы пайшлі і зрабілі так, як сказаў ім Ісус, Калі яны адвязалі асла, гаспадары ў іх спыталі: «Навошта адвязваеце асляня?» Вучні адказалі : «Яно патрэбна Госпаду».

Яны прывялі да Ісуса асліцу і маладога асла. Паклалі на іх сваё адзенне. Ісус сеў на асла. Калі Ён пад'язджаў да Іерусаліма, дык мноства народу выйшла Яму насустрач. Перад Ім яны пасцілалі сваё адзенне і пальмавыя галінкі з воклічам: «Асанна* Сыну Давідаваму! Благаслаўлёны, хто ідзе ў імя Гасподняе! Асанна ў вышніх!» Так спраўдзіліся словы прарока Захарыі: «Скажыце дачцэ Сіёнавай**: вось Цар твой ідзе да цябе, пакорлівы, седзячы на асліцы і маладым асле, сыне пад'ярэмнай».

Калі Ісус увайшоў у Іерусалім, увесь горад ускалыхнуўся, і ўсе пачалі пра Яго пытацца: «Хто Ён?» Тыя, хто Яго ўслаўляў, адказалі: «Гэта Ісус, Прарок з Назарэта Галілейскага». Шмат хто сведчыў, што Ён уваскрэсіў Лазара і ўчыніў шмат цудаў. Тады фарысеі загаварылі паміж сабою: «Хіба вы не бачыце, што мы не спраўляемся. Увесь свет ідзе за Ім». Яны сказалі Ісусу, каб Ён вучням забараніў праслаўляць Яго. Але Ісус на гэта адказаў: «Кажу вам, калі яны замоўкнуць, то камяні загалосяць».

МАЦВЕЙ 21:1-10; ЛУКА 19:29-40; ІААН 12:12-19

** Збаўленне! Уратуй! Слава!*

*** Іерусаліму і яго народу.*

## ІСУС ПЛАЧА ПА ІЕРУСАЛІМЕ

Аднойчы Ісус плакаў па Іерусаліме, плакаў па тых, хто не зразумеў Яго любові і хто імкнуўся Яго забіць за яе.

«Іерусалім, Іерусалім, ты пабіваў камянямі прарокаў і пасланцоў да цябе. Колькі разоў хацеў Я сабраць дзяцей тваіх, як птушка збірае птушанят Сваіх пад крылы, але вы не ўбачыце мяне, пакуль не надыдзе час, калі скажаце: ”Хай будзе благаслаўлёны Той, Хто ідзе ў імя Госпада!”»

Другім разам Ісус падышоў да Іерусаліма і, гледзячы на яго, заплакаў па ім і сказаў: «О, калі б ты хоць у гэты дзень твой даведаўся, што служыць твайму міру! Але гэта цяпер схавана ад вачэй тваіх. Бо настануць дні, калі ворагі твае абложаць цябе акопамі і акружаць цябе, і сціснуць цябе адусюль, і разбураць цябе, і паб'юць дзяцей тваіх у табе, і не пакінуць у табе каменя на камені за тое, што ты не даведаўся часу твайго наведвання».

Няхай жа жыццё нашае будзе пахвальным для Госпада, каб Сам Ён не плакаў, гледзячы на нас.

ЛУКА 13:34, 35; 19:41-44

## ПРЫТЧА ПРА ЛІХІХ ВІНАГРАДАРАЎ

Ісус расказаў прытчу пра тое, як ставяцца да Яго першасвяшчэннікі і фарысеі.

«Быў адзін гаспадар у доме. Ён насадзіў вінаграднік. Агарадзіў яго плотам, выкапаў у ім сажалку, пабудаваў вежу і, аддаўшы яго вінаградарам, сам адлучыўся. А калі плады паспелі, гаспадар паслаў сваіх слуг па плады да вінаградараў. Але вінаградары схапілі гаспадаровых слуг: каго забілі, каго прыбілі, а каго і камянямі пабілі.

Урэшце ён пасылае да іх свайго сына, сказаўшы: ”Пасаромеюцца сына майго”. Але вінаградары, убачыўшы сына, сказалі адзін аднаму: ”Гэта спадчыннік. Хадзем і заб’ём яго і авалодаем яго спадчынай”. І схапілі яго. Вывелі з вінаградніка і забілі. Дык вось, калі паявіцца сам гаспадар вінаградніка, што ён зробіць з гэтымі вінаградарамі?»

І сказалі яму: «Гэтых зладзеяў ён аддасць лютай смерці, а вінаграднік аддасць іншым вінаградарам, якія своечасова будуць аддаваць яму плады».

Ісус сказаў ім: «Няўжо вы ніколі не чыталі ў Пісанні: ”Камень, які адкінулі будаўнікі, той самы камень зрабіўся асновай вугла: гэта – ад Госпада, і ёсць дзіўна ў вачах нашых?” Таму кажу вам, што адымецца ад вас Царства Божае і будзе аддадзена народу, што прыносіць яго плады.

І той, хто ўпадзе на гэты камень, разаб’ецца; а на каго ён упадзе, таго раздушыць».

«Пачуўшы Ягоныя прытчы, першасвяшчэннікі і фарысеі зразумелі, што Ён гаварыў пра іх. Яны надумалі Яго схапіць, але пабаяліся народу, бо народ уважаў Яго за прарока».

МАЦВЕЙ 21:33-46

## «МНОГА ПАКЛІКАНЫХ, АЛЕ МАЛА ВЫБРАНЫХ»

Аднойчы, калі Ісус быў запрошаны ў госці, сказаў Ён гаспадару: «"Калі спраўляеш абед альбо вячэру, не запрашай сяброў тваіх, ані братоў тваіх, ані родзічаў тваіх, ані суседзяў заможных, каб і яны цябе калі не запрасілі, і не атрымаў ты аддзякі. Але калі спраўляеш гасціну, пакліч убогіх, пакалечаных, кульгавых, сляпых, і шчаслівы будзеш, што яны не могуць табе аддзячыць, бо адплаціцца табе ва ўваскрэсенні праведнікаў".

Пачуўшы гэта, нехта з тых, што ўзляжалі з Ім, сказаў Яму: "Шчасны, хто скаштуе хлеба ў Царстве Божым!" Ісус жа сказаў яму:

"Адзін чалавек справіў вялікую вячэру і паклікаў многіх; і калі настаў час вячэры, паслаў раба свайго сказаць пакліканым: "Ідзіце, бо прыгатавана ўжо ўсё". І пачалі ўсе, нібыта дамовіўшыся, прасіць прабачэння. Адзін сказаў яму: "Я купіў зямлю, і мне трэба схадзіць паглядзець яе, прашу цябе, прабач мне". Другі сказаў: "Я купіў пяць пар валоў і трэба выпрабаваць іх, прашу цябе, прабач мне". Трэці сказаў: "Я ажаніўся і таму не магу прыйсці".

І той раб, вярнуўшыся, данёс пра гэта свайму пану. Тады гаспадар, угневаўшыся, сказаў рабу свайму: "Ідзі хутчэй па вуліцах і завулках горада, і прывядзі сюды ўбогіх, пакалечаных, кульгавых і сляпых". І сказаў раб: "Пане, здзейснена, як загадаў ты, і ёсць яшчэ месца". Пан сказаў рабу: "Ідзі па дарогах і каля платоў і пераканай прыйсці, каб напоўніўся дом мой, бо маўляю вам, што ніхто з тых пакліканых не скаштуе маёй вячэры: бо многа пакліканых, але мала выбраных».

ЛУКА 14:12-24

## «КЕСАРАВА – КЕСАРУ, А БОГУ – БОЖАЕ»

Фарысеі абураліся словамі Хрыста, якіх не маглі зразумець. Раіліся між сабою, як падлавіць Яго. Яны паслалі да Яго сваіх вучняў, якія прыйшлі і сказалі Яму: «Настаўнік! Мы ведаем, што Ты справядлівы, і шчыра Божаму шляху вучыш. У Цябе няма клопату, каб крывадушна дагаджаць каму-небудзь, бо не зважаеш ні на якую асобу. Дык вось, скажы: як Табе здаецца? Ці гадзіцца даваць падатак кесару, ці не?» (Кесар – гэта правіцель Рымскай імперыі, пад уладай якое была тады Палесціна.)

Пытанне фарысеяў пастаўлена было даволі хітра. Калі б Ісус адказаў, што кесару трэба плаціць падатак, Яго абвінавацілі б у здрадніцтве і падтрымцы рымскай улады. Калі б Ён адказаў, што не трэба даваць падатак, тады Яго назвалі б мяцежнікам.

Ісус бачыў, як хітруюць яны, і сказаў: «Што спакушаеце Мяне, крывадушнікі? Пакажыце Мне манету, якою плаціце падатак». Яны прынеслі Яму дынарый. Ісус спытаўся: «Чый гэта малюнак і надпіс?» Фарысеі адказалі: «Кесаравыя». Тады Гасподзь сказаў ім: «Дык вось, аддавайце кесарава кесару, а Богу – Божае». Пачуўшы гэта, яны здзівіліся і, пакінуўшы Яго, адышлі.

Пасля гэтага Ісус прамовіў да Сваіх вучняў: «На Майсеевым пасадзе селі кніжнікі і фарысеі. Дык вось, усё, што яны кажуць вам захоўваць, захоўвайце і рабіце; а паводле іх учынкаў не чыніце; бо яны гавораць і не робяць, звязваюць ярмы цяжкія і непасільныя, ускладаюць на плечы людзям, а самі не хочуць і пальцам крануць іх. Усе справы свае выконваюць, каб бачылі іх людзі...»

МАЦВЕЙ 22:15-22;23:1-5

## «ПЕРШАЯ І НАЙВЯЛІКШАЯ ЗАПАВЕДЗЬ»

Аднойчы падышоў да Ісуса адзін законнік. У Евангеллі ўзгадваюцца законнікі і кніжнікі. Таксама гэтымі назвамі абазначалі і вучоных яўрэяў, якія ўсё сваё жыццё прысвячалі даследаванню і тлумачэнню Свяшчэннага Пісання, асабліва закона Майсея.

Законнік спытаўся ў Ісуса: «Настаўнік! Якая найбольшая запаведзь у законе?» Ісус сказаў яму.

*"Палюбі Госпада Бога твайго*
*ўсім сэрцам тваім,*
*і ўсёю душою тваёю,*
*і ўсім разуменнем тваім".*

Запаведзь гэтая ёсць першая і найвялікшая, другая ж падобная да яе:

*"Палюбі блізкага твайго,*
*як самога сябе".*

На гэтых дзвюх запаведзях грунтуецца ўвесь закон і прарокі.

Дарагія дзеці, захавайце гэтыя словы Госпада Ісуса ў сэрцах сваіх.

МАЦВЕЙ 22:36-40

## ДЗВЕ ЛЕПТЫ БЕДНАЙ УДАВЫ

Аднойчы Ісус навучаў у храме, кажучы: «Сцеражыцеся кніжнікаў і фарысеяў, якія любяць хадзіць у доўгай адзежы і вітанні на сходах народных, у сінагогах сядзяць наперадзе і на першым месцы ляжаць на банкетах; гэтыя, што пажыраюць дамы ўдоваў і напаказ доўга моляцца, прымуць найцяжэйшае асуджэнне».

Потым Ісус сеў насупроць храмавай скарбонкі і прыглядаўся, як народ у яе кідае грошы. Многія багатыя ахвяроўвалі багата. Паміж імі ў скарбонку кінула дзве лепты (лепта – гэта дробная манета) і бедная ўдава.

Ісус паклікаў да Сябе вучняў і сказаў ім: «Праўду кажу вам, што гэта бедная ўдава паклала болей за ўсіх, бо ўсе клалі ад лішку свайго, а яна ад беднасці сваёй паклала ўсё, што мела, увесь свой пражытак».

Ці мы ахвяруем на Божую справу ад сэрца? Ці мы да Яго замілаваныя?

МАРК 12:38-44

# ІСУС ЗВЯСТУЕ ПРА БУДУЧЫНЮ

У многіх месцах Бібліі ёсць прароцтвы пра другое прышэсце Ісуса. Другі раз Ён прыйдзе ва ўсёй Сваёй славе, як Гасподзь усяго свету. Перад Яго прыходам адбудуцца на зямлі вялікія бядоты. Пра гэта Ён і Сам сведчыў, калі разгортваў карціну Свайго другога прышэсця перад вачыма Сваіх вучняў.

«Сцеражыцеся, каб хто не спакусіў вас, бо многія прыйдуць ад імя Майго і будуць казаць: ”Я Хрыстос”, і многіх спакусяць. Пачуеце таксама пра войны, і дойдуць да вас ваенныя чуткі. Глядзіце, не жахайцеся; бо гэта ўсё павінна быць. Аднак гэта яшчэ не канец. Паўстане народ на народ і царства на царства; будуць і голад і паморакі і месцамі землетрасенні; усё ж гэта яшчэ пачатак бядотаў. Будуць тады выдаваць вас на пакуты і забіваць; і ўсе народы вас узненавідзяць за імя Маё. Тады спакусяцца многія і будуць адзін аднога прадаваць, і ўзненавідзяць адзін аднога; і многія фальшывыя прарокі аб’явяцца і спакусяць многіх; і ў выніку таго, што ўзрастае беззаконне, шмат у каго ахаладзее любоў; хто выцерпіць да канца, уратуецца. І прапаведана будзе Евангелле царства ва ўсім сусвеце, як сведчанне ўсім народам; і тады прыйдзе канец...

З’явіцца шмат фальшывых хрыстоў і фальшывых прарокаў і ад іх зыдуць вялікія азнакі і цуды, каб спакусіць, калі можна, і выбраных... Адразу пасля тужлівых дзён тых, сонца пагасне і месяц не засвеціцца і зоры скінуцца з неба, і сілы нябесныя захістаюцца: тады на небе з’явіцца азнака Сына Чалавечага; і тады заплачуць усе плямёны зямныя і ўбачаць Сына Чалавечага, Які на воблаках нябесных будзе ісці з сілай і вялікай славаю... «Неба і зямля мінуцца, але словы Мае не мінуцца. Пра той дзень і той час ніхто не ведае, нават анёлы нябесныя, а толькі Айцец Мой адзін... Дык вось, паболей бадзёрасці, бо не знаеце, у каторы час Гасподзь ваш прыйдзе...»

МАЦВЕЙ 24:4-42

## ПРЫТЧА АБ ДЗЕСЯЦІ ДЗЕВАХ

Кажучы пра сваё другое прышэсце, Ісус Хрыстос расказаў Сваім вучням вось такую прытчу:

«Тады Царства Нябеснае будзе прыпадобнена да дзесяці дзеваў, якія, узяўшы свяцільні свае, выйшлі на стрэчу жаніху; сярод іх было пяць мудрых і пяць неразумных. Неразумныя, узяўшы свяцільні свае, не ўзялі алею з сабою; разумныя, разам са свяцільнямі ўзялі і алей у сасудах сваіх; і як жаніх запазніўся, то ўсе задрамалі і заснулі.

Але апоўначы пачуўся крык: "Вось, жаніх, ідзе, выходзьце Яму на стрэчу". Тады ўсталі ўсе дзевы і паправілі свае свяцільні. Неразумныя сказалі мудрым: "Дайце нам вашага алею, бо нашы свяцільні тухнуць". А мудрыя адказалі: "Каб не было недахопу і ў нас, як у вас, схадзіце вы лепш сабе ў прадаўцоў купіце". Калі яны ўсталі і пайшлі па алей, прыйшоў жаніх, і тыя, што былі гатовыя, увайшлі на банкет, і за імі зачыніліся дзверы.

Потым прыйшлі і астатнія дзевы і кажуць: "Госпадзе! Госпадзе! Адчыні нам". Ён жа ім адказаў: "Праўду кажу вам: Я не ведаю вас".

Дык вось, чувайце, бо не ведаеце ні дня, ні гадзіны, у якія прыйдзе Сын Чалавечы».

МАЦВЕЙ 25:1-13

## ХРЫСТОС – «ВІНАГРАДНАЯ ЛАЗА»

Тры гады Ісус дзеяў на зямлі. Ён вылечваў хворых і абвяшчаў Евангелле, добрую вестку. Ён падрыхтоўваў Сваіх вучняў да працы на ніве Гасподняй. Вось прыклад, як Ісус навучаў іх: «Я ёсць сапраўдная вінаградная Лаза, а Мой Айцец – Вінаградар; усякую ў Мяне галіну, што не дае плоду, Ён адсякае; і ўсякую, што дае плод, ачышчае, каб яна больш радзіла. Вы ўжо ачышчаны праз слова, якое Я вам прапаведаваў. Як галіна не можа сама сабою даваць плод, калі не будзе на лазе, так і вы, калі не будзеце ўва Мне. Я ёсць Лаза, а вы галіны; хто прабывае ўва Мне, і Я ў ім, той дае многа плёну, таму што без Мяне вы не можаце рабіць нічога. Хто не прабудзе ўва Мне, адкінецца вонкі, як галіна, і высахне; а такія галіны збіраюць і кідаюць у агонь, і яны згараюць. Калі прабудзеце ўва Мне і словы Мае прабудуць у вас, дык, чаго ні пажадаеце, прасіце, і будзе вам...

Як палюбіў Мяне Айцец, і Я палюбіў вас, прабудзьце ў любові Маёй. Калі запаведзі Мае спаўняеце, прабудзьце ў любові Маёй, як і Я спаўняў запаведзі Айца Майго і прабываю ў Яго любові... Гэта запаведую і вам, каб вы любілі адзін аднаго.

Калі свет вас ненавідзіць, знайце, што Мяне раней за вас узненавідзеў. Калі вы былі б ад свету, дык свет любіў бы сваё; але як вы не ад свету, але выбраў Я вас ад свету, таму і свет вас ненавідзіць... Калі Мяне гналі, будуць гнаць і вас; калі Маё слова выконвалі, будуць выконваць і вашае; але ўсё гэта зробяць вам дзеля імя Майго, бо не знаюць Таго, Хто паслаў Мяне. Калі б Я не прыходзіў і не казаў ім, дык і грэху не мелі б; а цяпер за свой грэх не маюць прабачэння. Хто ненавідзіць Мяне, той ненавідзіць і Айца Майго».

ІААН 15:1-7, 9-10, 17-23

# АПОШНЯЯ ВЯЧЭРА

Калі надышло Пасхальнае свята, Ісус паслаў Пятра і Іаана, сказаўшы ім: «Схадзіце, прыгатуйце нам пасхальны стол». Яны спыталіся ў Яго: «Дзе нам загадаеш прыгатаваць?» Ісус адказаў: «Вось пры вашым уваходзе ў горад сустрэнецца з вамі чалавек са збаном вады. Ідзіце следам за ім у дом, у які ён зойдзе, і скажыце гаспадару дома: ”Настаўнік кажа табе: дзе пакой, у якім бы Мне есці пасху з вучнямі Маімі?” І ён пакажа вам святліцу, вялікую, засланую, там прыгатуйце». Вучні пайшлі, і ўсё было так, як сказаў ім Ісус, і там прыгатавалі Пасху.

Калі настаў час, Ісус сеў за стол з дванаццаццю вучнямі і прамовіў да іх: «Вельмі ж Мне хацелася з вамі есці гэтую пасху да Маёй пакуты; бо кажу вам, што ўжо не буду есці яе, пакуль яна не адбудзецца ў Царстве Божым». Узяўшы чашу і падзякаваўшы, сказаў: «Прыміце яе і падзяліце паміж сабою, бо кажу вам, што не буду піць ад плоду вінаграднага, пакуль не прыйдзе Царства Божае».

І, узяўшы хлеб і падзякаваўшы, разламаў і падаў ім, кажучы: «Гэта ёсць цела Маё, якое за вас прадаецца; вось гэтак рабіце, Мяне ўспамінаючы». І пра чашу пасля вячэры сказаў: «Гэтая чаша ёсць новы запавет у Маёй Крыві, якая за вас праліваецца».

ЛУКА 22:8-20

## ПАСЛЯВЯЧЭРНЯЯ ГУТАРКА

Пасля вячэры Ісус Хрыстос устаў з-за стала, падвязаўся ручнікам і наліў ва ўмывальнік вады. Ён пачаў умываць ногі вучням і выціраць іх ручніком. Падышла чарга да Сімона Пятра. А той сказаў Ісусу: «Госпадзе! Няўжо Табе ўмываць мае ногі?» Ісус у адказ сказаў яму: «Што Я раблю цяпер, ты не ведаеш, а потым зразумееш».

Калі закончыў Ісус умываць ім ногі, звярнуўся да іх са словамі: «Ці ведаеце, што Я зрабіў вам? Вы называеце Мяне Настаўнікам і Госпадам і правільна кажаце, бо Я сапраўды такі. Значыцца, калі Я, Гасподзь і Настаўнік, умыў ногі вам, дык і вы павінны ўмываць ногі адзін аднаму, бо Я вам паказаў прыклад... Праўду, праўду кажу вам: раб не большы за пана свайго і пасланец не большы за таго, хто яго паслаў. Калі вам гэта вядома, дык вы і ёсць шчаслівыя, калі так усё робіце. Не пра ўсіх вас кажу: ведаю, каго Я выбраў. Аднак няхай збудзецца Пісанне: ”Той, хто са Мною есць хлеб, падняў на Мяне пяту сваю”».

Пасля гэтага Ісус абурыўся духам і сказаў: «Праўду, праўду кажу вам, што адзін з вас прадасць Мяне». Тым часам вучні, аглядаючыся адзін на аднога, не зусім разумелі, пра каго Ён кажа. Іаан, прытуліўшыся да грудзей Ісуса, спытаўся ў Яго: «Госпадзе! Хто гэта?» Ісус адказаў яму: «Той, каму Я, абмакнуўшы, кавалак хлеба падам». І, абмакнуўшы кавалак, Ён падаў яго Іуду Сімону Іскарыёту. Іуда, узяўшы хлеб, зараз жа выйшаў; а была ўжо ноч. Калі ён выйшаў, Ісус, звярнуўшыся да ўсіх, сказаў: «Дзеці! Запаведзь новую даю вам, дык любіце адзін аднаго, як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго. Таму ўсім стане вядома, што вы Мае вучні, калі будзе любоў паміж вамі».

Потым Ён сказаў ім, што ў гэтую ноч усе яны спакусяцца (засумняваюцца) у Ім. Але Пётр адказаў: «Калі ўсе спакусяцца ў Табе, то я ніколі не спакушуся». Ісус сказаў яму: «Праўду кажу табе, што ў гэтую ноч раней, чым певень прапяе, тры разы ад Мяне адрачэшся».

ІААН 13:4-38

## МАЛІТВА Ў ГЕФСІМАНІІ

У тую ноч пасля вячэры Ісус з адзінаццаццю вучнямі адправіўся з Іерусаліма і цераз паток Кедрон прыйшоў у пасёлак каля Іерусаліма, які называўся Гефсіманія. Там Ісус са сваімі вучнямі ўвайшоў у сад і сказаў ім: «Пасядзіце тут, пакуль Я пайду, памалюся там». Узяўшы з сабою Пятра, Якава і Іаана, Ён пачаў тужыць і смуткаваць, бо на Ім ляжала ярмо нашых грахоў і Яго прыгнятала. Ісус сказаў вучням: «Душа Мая смуткуе смяротна, пабудзьце тут і пільна чувайце са Мною».

Калі Ён крыху адышоў, упаў на калені і пачаў маліцца: «Ойча! О, калі б Ты меў ласку і перанёс гэтую чашу міма Мяне! Зрэшты не Мая воля, але Твая няхай будзе». З'явіўся неўзабаве анёл з нябёсаў і падмацоўваў Яго. А Ён у змаганні старанна маліўся, і пот Яго быў, як кроплі крыві, якія падаюць на зямлю. Вярнуўшыся да вучняў, Ён застаў іх у сне і, разбудзіўшы іх, сказаў: «Няўжо не маглі вы са Мной гадзіну пільна чуваць. Не спіце і маліцеся, каб не паддацца спакусе, дух бадзёры, а плоць нядужая».

Адышоўшы другі раз, маліўся, кажучы: «Ойча Мой! Калі не можа чаша гэтая абмінуць Мяне, каб не піць яе Мне, хай будзе воля Твая».

У гэтай малітве Хрыстос гаварыў пра чашу пакутаў. Яе Божы Сын павінен выпіць за грахі нашыя. Ніхто не можа сабе ўявіць усю глыбіню яе гаркоты і страху. Але Сын Божы прыняў яе пакорна. Ён ведаў, на подзвіг які ідзе. Ён ведаў, што робіць Сябе ахвярай дзеля выратавання кожнага з нас. Калі б Ён не выпіў гэтай чашы пакутаў, хто змог бы акупіць нашую грахоўнасць?

МАЦВЕЙ 26:36-44; ЛУКА 22:39-46

## ІСУСА БЯРУЦЬ ПАД ВАРТУ

Тры разы Ісус падыходзіў да вучняў, і кожны раз яны спалі. А калі прыйшоў трэці раз, Ён ім сказаў: «Вы ўсё яшчэ спіце і спачываеце? Ужо наблізіўся час, і Сын Чалавечы прадаецца ў рукі грэшнікаў. Устаньце, пойдзем: вось наблізіўся той, хто прадасць Мяне». Калі Ён гэта яшчэ казаў, раптам з'явіўся Іуда – адзін з дванаццаці вучняў. Першасвяшчэннікам ён абяцаў, што прадасць Ісуса за трыццаць срэбраных манет.

З Іудам прыйшло мноства людзей ад фарысеяў і першасвяшчэннікаў з паходнямі, мячамі і каламі. Здраднік Іуда падаў ім знак, прамовіўшы: «Каго я пацалую, той і будзе Ён, Яго і бярыце». Тым часам Іуда падышоў да Ісуса і нахабна сказаў: «Настаўнік! Радуйся!» Потым ён пацалаваў Ісуса. Да Іуды Ісус прамовіў: «Дружа, чаго ты прыйшоў?.. Ці не пацалункам прадаеш Сына Чалавечага?» Тады Ісус звярнуўся да воінаў, якія прыйшлі з Іудам, і спытаўся: «Каго шукаеце?» Яны адказалі: «Ісуса Назарэя». Гасподзь сказаў ім: «Гэта Я». Пачуўшы гэта, яны адступілі назад і ўпалі ніцма.

Крыху счакаўшы, Ісус сказаў ім: «Выйшлі нібыта на разбойніка з мячамі і каламі ўзяць Мяне. Кожны дзень Я з вамі сядзеў, навучаючы ў храме, і вы не бралі Мяне... а цяпер – ваш час і ўлада цемры... Няхай спраўдзяцца пісанні прарокаў».

Воіны ўзялі Ісуса Хрыста і павялі Яго ў дом першасвяшчэнніка, а вучні, пакінуўшы Яго, паразбягаліся.

МАЦВЕЙ 26:45-57; ЛУКА 22:45-53;
ІААН 18:1-12

## АДРАЧЭННЕ ПЯТРА

Зводдаль следам за Ісусам Пётр і яшчэ адзін вучань ішлі ў двор першасвяшчэнніка. Калі былі яны ўжо там, Пётр падсеў да служкаў, каб паглядзець, што будзе далей. Першасвяшчэннікі і старэйшыны, і ўвесь сінедрыён* шукалі фальшывых сведкаў супроць Ісуса. Яны надумалі засудзіць Ісуса на смерць, а сведак не было, хоць нямала фальшывых сведкаў перабралі, але сярод іх ніводнага патрэбнага не знайшлі. Урэшце прыйшлі два фальшывыя сведкі і сказалі: «Ён казаў так: «Магу разбурыць Божы храм і за тры дні адбудаваць яго». Устаўшы з крэсла, першасвяшчэннік сказаў Ісусу: «Што ж нічога не адказваеш? Што яны супроць Цябе сведчаць?» Ісус маўчаў. І першасвяшчэннік сказаў Яму: «Заклінаю Цябе жывым Богам, скажы нам, ці Ты Хрыстос, Сын Божы?»

Ісус кажа яму: «Ты сказаў; нават кажу вам: з гэтай пары ўбачыце Сына Чалавечага, Які сядзіць праваруч сілы** і ідзе на аблоках нябесных».

Тады свяшчэннік падраў адзенне сваё і сказаў: «Ён зневажае Бога! Навошта нам яшчэ сведкі? Вось цяпер вы чулі блюзнерства Яго! Як вам здаецца?» А яны сказалі ў адказ: «Заслугоўвае смерці». Тады плявалі Яму ў аблічча і білі Яго; некаторыя білі Яго па шчоках і казалі: «Адгадай нам, Хрысце, хто ўдарыў Цябе?»

Было холадна. Пётр разам са служкамі сядзеў на дварэ і грэўся каля агню. Да яго падышла адна служанка і сказала: «І ты быў з Ісусам Галілеянінам?» Але Ён адрокся перад усімі, сказаўшы: «Не ведаю,што ты кажаш». Калі ён выходзіў за браму, убачыла яго дру-гая служанка і кажа ўсім, хто там быў: «І гэты быў з Ісусам Назарэем». І ён зноў адрокся, прысягнуўшы, што не ведае Гэтага Чалавека. Крыху пазней падышлі тыя, што стаялі там, і сказалі Пятру: «І праўда ты з іх, бо і вымова твая выкрывае цябе». Тады ён пачаў прысягацца і бажыцца, што не ведае Гэтага Чалавека. І заспяваў раптам певень.

У гэты момант Пётр згадаў словы Ісуса: «Перш чым праспявае певень, тройчы адрачэшся ад Мяне. Пакінуўшы двор, плакаў ён горка.

МАЦВЕЙ 26:58-75

** Сінедрыён – гэта быў вярхоўны яўрэйскі суд у Іерусаліме.*
*** Г. зн., па правы бок Бога.*

# ІСУС ПЕРАД ПІЛАТАМ

«Калі ж настала раніца, усе першасвяшчэннікі і старэйшыны народу мелі нараду супроць Ісуса, каб аддаць Яго смерці. Яны, звязаўшы Яго, завялі «і выдалі Яго Понцію Пілату». Пілат быў рымскі пракуратар у Іудзеі і Самарыі, бо Святая Зямля ў тыя часы была заваявана рымлянамі. «Тады Іуда, які выдаў Яго, убачыўшы, што Ён засуджаны, і раскаяўшыся, аддаў трыццаць срэбранікаў першасвяшчэннікам і старэйшынам, кажучы: ”Саграшыў я, прадаўшы нявінную кроў”» (Мац.27:1-4).

«Іудзеі не ўвайшлі ў прэторыю (палац язычніка Пілата), каб не апаганіцца... Пілат выйшаў да іх і сказаў: ”У чым абвінавачваеце Гэтага Чалавека?” Яны сказалі яму ў адказ: ”Калі б Ён не быў такі злачынца, мы не выдалі б Яго табе”» (Іаан 18:28-30) «і пачалі абвінавачваць Яго, кажучы: ”Мы ўстанавілі, што Ён разбэшчвае наш народ і забараняе падатак плаціць кесару, называючы Сябе Хрыстом-Царом”» (Лук. 23:2). «Тады Пілат зноў увайшоў у прэторыю, і, паклікаўшы Ісуса, сказаў Яму: ”Ты Цар Іудзейскі?” Ісус сказаў: ”Царства Маё не ад гэтага свету: калі б Царства Маё было ад гэтага свету, дык слугі Мае дапамагалі б Мне...” Пілат сказаў Яму: ”Дык вось, Ты Цар?” Ісус адказаў: ”...На тое Я нарадзіўся і прыйшоў у гэты свет, каб сведчыць за праўду; усякі, хто ад праўды, слухае голасу Майго”. Пілат сказаў Яму: ”Што ёсць праўда?”» (Іаан 18:33-38).

Пілат даведаўся, што Ісус «з вобласці Ірадавай (г. зн. Галілеі) і накіраваў Яго да цара Ірада, які ў гэтыя дні быў таксама ў Іерусаліме. Ірад шмат пытанняў паставіў перад Ім, але Ён яму не адказваў. Першасвяшчэннікі і кніжнікі, якія тут стаялі, вельмі абвінавачвалі Яго. Але Ірад са сваімі воінамі, прыніізіўшы Яго і насмяяўшыся з Яго, адзеў Яго ў светлае адзенне і накіраваў назад да Пілата. І здружыліся ў той дзень Пілат і Ірад паміж сабою, бо раней варагавалі адзін з адным. Пілат жа, склікаўшы першасвяшчэннікаў і начальнікаў і народ, сказаў ім: ”Вы прывялі да мяне Гэтага Чалавека, Які разбэшчвае народ; і вось я, пры вас расследуючы, не знайшоў Гэтага Чалавека вінаватым ні ў чым тым, у чым вы абвінавачваеце Яго...” А яму і трэба было дзеля свята выпусціць на волю аднаго вязня. Але ўвесь народ пачаў крычаць: ”...Смерць Яму! Выпусці нам Вараву”. Варава сядзеў у вязніцы за мяцеж і забойства. Пілат зноў павысіў голас, ён хацеў вызваліць Ісуса. Але яны крычалі: ”Крыжуй, крыжуй Яго!” І перамог іхні крык і першасвяшчэннікаў» (Лук. 23:7-23).

## «НЕСУЧЫ СВОЙ КРЫЖ»

«Тады Пілат узяў Ісуса і загадаў біць Яго. І воіны, сплёўшы з цёрну вянок, усклалі Яму на галаву, і адзелі Яго ў пурпуру, і казалі: ”Радуйся, Цар Іудзейскі!” І білі Яго па абліччы. Пілат зноў выйшаў і сказаў ім: ”Вось я выводжу Яго да вас, каб вы ведалі, што я ў Ім ніякай віны не знаходжу”. Тады выйшаў Ісус у цярновым вянку і пурпуры. І сказаў ім Пілат: ”Вось, Чалавек!” Калі ж убачылі Яго першасвяшчэннікі і служыцелі, дык закрычалі: ”Крыжуй, крыжуй Яго!” Пілат ім кажа: ”...Я ў Ім не знаходжу віны”. Іудзеі адказвалі яму: ”...Па законе нашым Ён павінен памерці, бо зрабіў Сябе Сынам Божым”. Пілат, пачуўшы гэтае слова, яшчэ болей спалохаўся, і зноў увайшоў у прэторыю, і сказаў Ісусу: ”Адкуль Ты?” Але Ісус не адказаў яму нічога. Пілат кажа Яму: ”І мне Ты не адказваеш? Няўжо не ведаеш Ты, што я маю ўладу, каб Цябе крыжаваць і маю ўладу, каб Цябе і вызваліць?”

Ісус адказаў: ”Ты не меў бы нада Мной ніякай улады, калі б не дадзена было табе звыш; таму больш граху на тым, хто Мяне табе выдаў”. З гэтага моманту «Пілат стараўся якнебудзь вызваліць Яго». Пілат вывеў Ісуса вонкі і сеў на судзілішча. І сказаў Пілат іудзеям: ”Вось, Цар ваш!” Але яны закрычалі: ”Вазьмі, вазьмі крыжуй Яго!”» (Іаан 19:1-14).

«Першасвяшчэннікі і старэйшыны падбухторвалі народ прасіць Вараву, і пагубіць Ісуса... Пілат кажа ім: ”Што ж я зраблю Ісусу, якога завуць Хрыстом?” Кажуць яму ўсе: ”Хай крыжаваны будзе!” Пракуратар сказаў: ”Якое ж ліха Ён учыніў?” Але яны яшчэ мацней крычалі: ”Хай крыжаваны будзе!” Пілат, бачачы, што нічога не дапаможа, толькі абурэнне ўзрастае, узяў вады і перад народам умыў сабе рукі, сказаўшы: ”Невінаваты я ў крыві Праведніка Гэтага; глядзіце вы”. Увесь народ сказаў: ”Кроў Яго на нас і на дзецях нашых”. Тады вызваліў ім Вараву, а Ісуса, біўшы, аддаў на крыжаванне» (Мац. 27:20-26).

Воіны «ўзялі Ісуса і павялі. І, несучы Свой крыж, Ён выйшаў на месца, якое называлі Лобнае, па-яўрэйску Галгофа» (Іаан 19:16-17). І следам за Ім ішло вялікае мноства народу і жанчын, якія плакалі па Ім і галасілі. Ісус жа, звярнуўшыся да іх, сказаў: «Дочкі іерусалімскія! Не плачце па Мне, але па сабе плачце і па дзецях вашых; бо настаюць дні... Тады стануць казаць гарам: упадзіце на нас! І пагоркам: пакрыйце нас!..» (Лук. 23:27-28, 30)

# КРЫЖАВАННЕ ІСУСА

«Вялі з Ім на смерць і двух злачынцаў. І калі прыйшлі на месца, якое называюць Лобнае, там крыжавалі Яго і злачынцаў, аднаго па правы, а другога па левы бок. Ісус казаў: "Ойча! Даруй ім, бо не ведаюць, што робяць"» (Лук. 23:27-34).

«Пілат напісаў надпіс на крыжы. Напісана было так: Ісус Назаранін, Цар Іудзейскі... і напісана было па-яўрэйску, па-грэчаску, па-рымску... Воіны, што крыжавалі Ісуса, узялі Яго вопратку і дзялілі на часткі, і кідалі жэрабя, што каму дастанецца (Іаан 19:19-23).

«І стаяў народ і глядзеў. Насміхаліся разам з імі і начальнікі, кажучы: "Іншых ратаваў, няхай выратуе і Сябе Самога, калі Ён Хрыстос, Выбранец Божы". Таксама і воіны лаялі Яго, калі падыходзілі да Яго і падносілі Яму воцат, кажучы: "Калі Ты Цар Іудзейскі, выратуй Сябе Самога..." Адзін разбойнік, што быў крыжаваны з Хрыстом, ліхасловіў Яго і казаў: "Калі Ты Хрыстос, выратуй Сябе і нас", а другі, наадварот, сунімаў Яго, кажучы: "Ці ты Бога не баішся, калі сам асуджаны на тое самае? А мы асуджаны справядліва. Што зрабілі, тое і атрымалі, а Ён жа нічога благога не зрабіў". І сказаў Ісусу: "Успомні мяне, Госпадзе, калі прыйдзеш у Царства Тваё". І сказаў яму Ісус: "Праўду кажу табе, што сёння са Мною будзеш у раі"» (Лук. 23:35-43).

«Ад шостай гадзіны цемра была па ўсёй зямлі да гадзіны дзевятай*. А каля дзевятай гадзіны загаласіў Ісус моцным голасам: "Элі! Элі! Лама сабахтані?" Гэта значыць: "Божа Мой! Божа Мой! Навошта Мяне пакінуў?.." І ў гэты момант пабег адзін з іх, узяў губку, намачыў воцатам і, прыладзіўшы як да дзіды, даў Яму піць» (Мац. 27:45-49). «Калі Ісус пакаштаваў воцату, сказаў: "Збылося"».

«Ісус, зноў загаласіўшы моцным голасам, сказаў: "Ойча! У рукі Твае аддаю дух Мой!" Сказаўшы гэта, Ён выпусціў дух» (Лук. 23:46).

«І вось завеса, што была ў храме, разадралася папалам, з верху да нізу, і зямля здрыганулася; і камяні раскалоліся; і магілы расчыніліся; і многія целы памерлых святых паўсталі, і, выйшаўшы з магіл пасля Яго ўваскрэсення, увайшлі ў святы горад і явіліся многім. Сотнік і ўсе тыя, што з ім вартавалі Ісуса, бачачы землятрус і ўсё, што адбывалася, перапалохаліся вельмі і казалі: "Сапраўды Ён быў Сын Божы"» (Мац. 27:51-54). І ўвесь народ, што сышоўся на гэтае відовішча, бачачы, што адбылося, вяртаўся, б'ючы сябе ў грудзі (Лук. 23:48).

** З дванаццатай да трэцяй гадзіны.*

## ПАХАВАННЕ ІСУСА

Дзень, калі памёр Ісус, была пятніца. Іудзеі пайшлі да Пілата. Яны прасілі, каб ён дазволіў ім хутчэй зняць крыжаваных. Яны прасілі, каб ён загадаў сваім воінам перабіць галені ў крыжаваных, каб яны памерлі і не засталіся на крыжах у суботу. Тым болей, што ў суботу мелася быць вялікае свята. Атрымаўшы дазвол ад Пілата, воіны перабілі галені ў абодвух крыжаваных поруч з Ісусам. Падышоўшы да Ісуса, яны не перабілі галеняў, бо бачылі, што Ён ужо памёр. Але адзін воін кап'ём пракалоў Яму рэбры. З раны пацякла кроў і вада. Гэта адбылося так дакладна, як і было прадказана ў Свяшчэнным Пісанні: «Косць Яго хай не скрышыцца» (Выхад 12:46). А прарок Захарыя сказаў: «Глянуць на Таго, Якога пракалолі».

Пасля гэтага да Пілата прыйшоў знатны і багаты член сінедрыёна Іосіф з Арымафеі. Ён быў вучнем Ісуса, але на людзях таіўся. Баючыся іудзеяў, ён тайна спадзяваўся і чакаў Царства Божага. Ён папрасіў Пілата, каб дазволіў яму зняць з крыжа цела Ісуса. І Пілат не пярэчыў.

Таксама прыйшоў і яшчэ адзін з членаў сінедрыёна. Яго звалі Нікадзім. Ён прыходзіў да Ісуса ноччу. Нікадзім прынёс з сабою каля ста літраў* духмяных пахошчаў для пахавання. Гэтымі пахошчамі прамачылі чыстае палатно, у якое загарнулі цела Ісуса. Усё рабілі па іудзейскім звычаі. Недалёка ад месца, дзе быў крыжаваны Ісус, быў сад. У садзе была пячора, у якой было высечана новае месца для пахавання. Іосіф і Нікадзім паклалі туды цела Ісуса. А да ўваходу прывалілі вялікі камень.

У суботу першасвяшчэннікі і фарысеі прыйшлі да Пілата і пачалі гаварыць яму пра Ісуса: «Пане! Мы прыгадалі, што той ашуканец, калі яшчэ быў жывы, сказаў: "Праз тры дні ўваскрэсну". Дык вось загадай вартаваць магілу Яго да трэцяга дня, каб вучні Яго, прыйшоўшы ноччу, не ўкралі Яго, і не сказалі народу: "Уваскрэс з памерлых," і будзе апошні падман горшы за першы».

Атрымаўшы дазвол, яны паставілі ля магілы варту і прыклалі да каменя пячатку.

МАЦВЕЙ 27:62-66; ІААН 19:31-42

** "Літра" – рымская мера вагі ў часы Ісуса Хрыста, каля 350 грамаў. 100 літраў – 35 кілаграмаў.*

## ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Пасля суботы ноччу адбылося моцнае землетрасенне. Анёл Гасподні, сышоўшы з неба, адваліў камень ад магільных дзвярэй. І Гасподзь Ісус Хрыстос уваскрэс і падняўся з магілы!

Выгляд анёла падобны да маланкі, а вопратка была белая, як снег. Напалохаўшыся яго, воіны, што ахоўвалі пячору, упалі ад страху на зямлю, як памерлыя. А калі апрытомнелі, то пайшлі ў горад і аб'явілі першасвяшчэннікам, што адбылося. Першасвяшчэннікі сабралі нараду. Са старэйшынамі разам яны падкупілі воінаў, сказаўшы: «Гаварыце, што Яго вучні, прыйшоўшы ноччу, укралі Ягонае цела ў той час, калі мы спалі. А калі чутка стане вядомая Пілату, мы яго ў чым трэба пераканаем і непрыемнасці вам не будзе». Воіны, узяўшы грошы, зрабілі так, як іх навучылі першасвяшчэннікі.

На світанні Саломія, маці апосталаў Іаана і Якава, Марыя, маці апосталаў Якава «меншага» і Іосіі і Марыя Магдаліна прыйшлі ў сад на тое месца, дзе была пячора, каб цела Ісуса памазаць пахошчамі, якія яны прынеслі з сабою.

Пакуль яны ішлі, дык бедавалі і са смуткам гаварылі паміж сабою: «Хто адваліць нам камень ад дзвярэй пячоры ў магілу?» Падышоўшы да пячоры, жанчыны здзівіліся. Яны ўбачылі, што камень, якім былі прывалены дзверы, адвалены, хоць і быў ён даволі вялікі. Увайшоўшы ў пячору, яны ўбачылі анёла, апранутага ў белае адзенне. Жанчыны жахнуліся, але анёл сказаў ім: «Не бойцеся! Бо я ведаю, што вы шукаеце Ісуса крыжаванага. Яго тут няма. Ён уваскрэс, як і сказаў. Падыдзіце і зірніце на месца, дзе ляжаў Гасподзь. Ідзіце хутчэй і накажыце Яго вучням, што Ён уваскрэс з мёртвых».

Выйшаўшы спешна з пячоры, жанчыны са страхам і вялікай радасцю пабеглі абвясціць вучням аб уваскрэсенні Хрыстовым.

МАЦВЕЙ 28:1-8; МАРК 16:1-7; ЛУКА 24:1-7

## ІСУС ЖЫВЫ!

Калі жанчыны ішлі абвясціць вучням цудоўную вестку пра ўваскрэсенне, Ісус сустрэў іх на дарозе і сказаў ім: ”Радуйцеся!” Яны ўзрадаваліся, убачыўшы Яго, падышлі і пакланіліся Яму. Тады Ісус сказаў: ”Не бойцеся! Ідзіце і абвясціце братам (*г. зн. вучням*) Маім...”

Прыйшоўшы да вучняў, жанчыны абвясцілі ўсім адзінаццаці, што бачылі Ісуса. Але вучні, засмучаныя і расчараваныя, словам жанчын не паверылі.

Пачуўшы вестку пра ўваскрэсенне Ісуса, Пётр і Іаан пабеглі да магілы. Ім так хацелася верыць пачутаму і самім у гэтым пераканацца. У іх сэрцах палымнела любоў да Настаўніка, але яны былі вельмі прыгнечаныя і збянтэжаныя, што адбылося. Яны думалі, што Хрыстос у гэтым жыцці будзе Царом вялікага царства, і не маглі Ісусавых слоў зразумець пра Царства Божае, якое Ён прыйшоў усталяваць у сэрцах людзей. Яны не разумелі Ісуса, калі Ён казаў: «Царства Божае ёсць унутры вас».

Іаан бег хутчэй за Пятра і прыбег да каменнай пячоры, дзе быў пахаваны Хрыстос. Нахіліўшыся і зазірнуўшы ў пячору, ён убачыў палатніну, якая там ляжала аднак не ўвайшоў туды, а чакаў Пятра.

Следам за ім прыбег і Пётр, і, увайшоўшы ў магілу, ён убачыў адно палатно, у якое было загорнута цела Ісуса і асобна ляжала хустка, якою накрывалі галаву Ісусу. Тады Іаан, увайшоўшы ў пячору, таксама ўбачыў палатніну ў пустой магіле, і тады паверыў, што Гасподзь сапраўды ўваскрэс. Яны яшчэ не ведалі з Пісання, што Ісусу належыць уваскрэснуць з памерлых.

МАЦВЕЙ 28:8-10; ЛУКА 24:9-11; ІААН 20:3-9

## З'ЯЎЛЕННЕ ІСУСА ПА ДАРОЗЕ Ў ЭМАУС

У той дзень абодва вучні Ісуса ішлі ў селішча Эмаус недалёка ад Іерусаліма. Па дарозе яны гаварылі пра падзеі апошніх дзён. І Сам Ісус, прыступіўшы да іх, пайшоў поруч з імі. Але яны не пазналі Яго і не маглі здагадацца, што гэта Ён.

Неўзабаве Ісус спытаўся ў сваіх вучняў: «Пра што гэта вы, ідучы, разважаеце паміж сабою, і чаму вы засмучаныя?» Адзін вучань, якога звалі Клеопа, адказаў: «Няўжо Ты адзін з тых, Хто прыйшоў у Іерусалім і не ведае, што адбылося ў ім у гэтыя дні?» Ісус спытаўся: «Што?» Вучні адказалі: «Што было з Ісусам Назаранінам, Які быў Прарокам моцным у справе і слове перад Богам і ўсім народам; як прадалі Яго першасвяшчэннікі і начальнікі нашыя, як яны засудзілі Яго на смерць і як крыжавалі Яго. А мы думалі, што Ён Той, Хто павінен выбавіць Ізраіль; ужо трэці дзень, як адбылося ўсё гэта. Але нашы некаторыя жанчыны так нас здзівілі: яны былі раніцай каля магілы і не знайшлі цела Яго, і, прыйшоўшы, сказалі, што бачылі з'яўленне анёлаў, якія кажуць, што Ён жывы; і пайшлі некаторыя з нашых да магілы і ўбачылі ўсё так, як казалі жанчыны; але Яго не бачылі».

Тады Ісус сказаў ім: «О, някемлівыя і марудныя сэрцам, каб паверыць усяму, што прадказалі прарокі! Ці не так належала адпакутаваць Хрысту, каб атрымаць славу Сваю?» І, пачаўшы з Майсея, Ён перабраў усіх прарокаў і тлумачыў ім, што гаварылася пра Яго ва ўсім Пісанні. Так яны падышлі да таго селішча, куды яны кіраваліся. Пачалі прасіць Яго: «Застанься з намі, бо ўжо вечарэе». Тады Ён увайшоў разам з імі ў дом.

А калі Ён вячэраў з імі, узяў хлеб, блаславіў яго, потым разламаў і падаў ім. У гэты момант як бы адкрыліся іхнія вочы, і яны пазналі Яго, але Ісус адразу зрабіўся ім невідочны. Тады вучні сказалі адзін аднаму: «Ці не гарэла ў нас сэрца, калі Ён размаўляў з намі па дарозе і калі тлумачыў нам Пісанне?»

ЛУКА 24:13-32

## З'ЯЎЛЕННЕ ІСУСА АСТАТНІМ ВУЧНЯМ

Калі Ісус стаўся нябачным для тых вучняў, якім Ён з'явіўся па дарозе ў Эмаус, яны адразу падняліся і пайшлі ў Іерусалім. Там адзінаццаці апосталам і тым, хто быў з імі, пачалі расказваць, што адбылося з імі на дарозе. І як Ісус быў апазнаны імі ў той час, калі Ён разламаў і падаў ім хлеб.

Калі яны расказвалі пра гэта, Сам Ісус неўзабаве стаў сярод іх і сказаў: «Мір вам!» Вучні збянтэжыліся і напалохаліся. Яны падумалі, што бачаць духа. Але Ісус сказаў ім: «Што вы бянтэжыцеся, і навошта такія думкі ўваходзяць у сэрцы вашыя? Гляньце на рукі Мае і на ногі Мае; гэта – Я Сам. Абмацайце Мяне і разгледзьце, бо дух не мае ні плоці, ні касцей, як вы бачыце ў Мяне».

Сказаўшы гэта, Ён паказаў ім Свае рукі і ногі з ранамі ад цвікоў. Калі яны яшчэ не верылі, радаваліся і здзіўляліся, Ён спытаўся: «Ці ёсць у вас тут якая ежа?» Яны падалі Яму печаную рыбу і сотавы мёд. І Ён еў перад імі. Потым Ісус сказаў ім: «Вось тое, пра што Я вам казаў, калі яшчэ быў з вамі, што павінна збыцца ўсё, напісанае пра Мяне ў законе Майсея, у прарокаў і псалмах. Так напісана, так і неабходна было адпакутаваць Хрысту і ўваскрэснуць з мёртвых на трэці дзень, і будзе прапаведана ў імя Яго пакаянне і дараванне грахоў ва ўсіх народах, пачынаючы з Іерусаліма. Вы ж сведкі ўсяму гэтаму; і Я пашлю на вас абяцанне Айца Майго; а вы заставайцеся ў горадзе Іерусаліме, пакуль не будзеце абдараныя сілаю з гары».

Такім чынам, Ісус розум вучняў зрабіў здольным для ўспрыняцця Пісання.

ЛУКА 24:33-49

## «ЦІ ЛЮБІШ ТЫ МЯНЕ?»

Ісус явіўся вучням каля Тыверыядскага мора ў Галілеі. «Разам былі там Сімон Пётр, і Фама, якога звалі Блізнюк, і Нафанаіл з Каны Галілейскай, і сыны Завядзеевы, і двое іншых вучняў Яго. Сімон Пётр кажа ім: ”Іду лавіць рыбу”. І яму кажуць: ”Ідзём і мы з табою”. Пайшлі і неўзабаве ўвайшлі ў лодку, і нічога ў тую ноч не злавілі.

А калі настала раніца, Ісус стаяў на беразе, але вучні не пазналі Яго. Ісус кажа ім: ”Ці ёсць у вас што есці?” Яны адказалі Яму: ”Няма”. А Ён сказаў ім: ”Закіньце сетку з правага боку лодкі, і зловіце”. Яны закінулі і ўжо не маглі выцягнуць сетку ад такога мноства рыбы. Тады адзін вучань сказаў Пятру: ”Гэта ж Гасподзь...” Вучні недалёка былі ад берага і прыплылі ў лодцы.., цягнучы сетку з рыбаю. Калі ступілі на бераг, бачаць раскладзены агонь і на ім рыбу і хлеб...

Гэта ўжо трэці раз явіўся Ісус Сваім вучням пасля Свайго ўваскрэсення.

Калі яны абедалі, Ісус кажа Сімону Пятру: ”Сімон Іонін! Ці любіш ты Мяне больш за іх?” Пётр кажа Яму: ”Так, Госпадзе! Ты ведаеш, што я люблю Цябе”. Ісус кажа яму: ”Пасві агнцаў Маіх”. Яшчэ і другі раз кажа яму: ”Сімон Іонін! Ці любіш ты Мяне?” Пётр кажа Яму: ”Так, Госпадзе! Ты ведаеш, што я люблю Цябе”.

Ісус кажа яму: ”Пасві авечак Маіх”. У трэці раз спытаўся яго: ”Сімон Іонін! Ці любіш ты Мяне?” Пётр засмуціўся, што трэці раз пытаецца ў яго, ”ці любіш Мяне”, і сказаў Яму: ”Госпадзе! Ты ўсё ведаеш; Ты ведаеш, што я люблю Цябе”. Ісус кажа яму: ”Пасві авечак Маіх”».

Словамі ”Пасві агнцаў Маіх” і ”Пасві авечак Маіх” Гасподзь даручае як Пятру, так і астатнім вучням, каб яны клапаціліся пра веруючых. Напэўна тое, што Ісус тры разы паўтарыў адно і тое ж пытанне ”Ці любіш ты Мяне”, павінна было прыгадаць Пятру пра тое, што ён тры разы зрокся Хрыста.

Ці любіш ты Ісуса?

ІААН 21:1-17

## УШЭСЦЕ ІСУСА ХРЫСТА

Пасля ўваскрэсення Ісус яшчэ сорак дзён з'яўляўся вучням і гаварыў ім пра Царства Божае.

Урэшце, сабраўшы іх, сказаў ім: «Не пакідайце Іерусаліма, але чакайце абяцанага ад Айца, пра што вы чулі ад Мяне. Бо Іаан хрысціў вадою, а вы праз некалькі дзён пасля гэтага будзеце ахрышчаныя Духам Святым... Вы прымеце сілу, калі сыдзе на вас Святы Дух, і будзеце Мне сведкамі ў Іерусаліме і ва ўсёй Іудзеі, і Самарыі, і нават па краі зямлі... Ідзіце па ўсім свеце і прапаведуйце Евангелле ўсім жывым. Хто будзе вераваць і хрысціцца, выратуецца; а хто не будзе вераваць, асудзіцца. Хто паверыць, таму будуць спадарожнічаць азнакі: імем Маім злых духаў выганяць будуць, гаварыць новымі мовамі будуць; дакранацца да змей будуць; і калі што смертаноснае вып'юць, ім не пашкодзіць. Ускладуць рукі на хворых, і яны здаровымі будуць».

Пасля гэтай гутаркі з вучнямі Ісус Хрыстос падняўся перад іх вачыма на неба. Воблака засланіла Яго, і яны больш не бачылі Яго. І калі ўзіраліся на неба падчас Яго ўшэсця, нечакана перад імі з'явіліся два мужы. Апранутыя яны былі ў белае адзенне. І звярнуліся да вучняў са словамі: «Мужы галілейскія! Што вы стаіце і глядзіце на неба? Гэты Ісус, што ўзнёсся ад вас на неба, прыйдзе такім самым чынам, якім і бачылі вы, калі Ён узыходзіў на неба».

МАРК 16:15-19
ДЗЕІ СВЯТЫХ АПОСТАЛАЎ 1:3-11

# «Я – ШЛЯХ І ПРАЎДА І ЖЫЦЦЁ»

Ад нараджэння Госпада Ісуса пачынаецца нашае летазлічэнне. Ва ўзросце 30-ці год пачаў на зямлі Сваё служэнне, якое да Яго крыжавання, працягвалася каля трох гадоў. Ён прапаведаваў Евангелле, гэта значыць Дабравесце, пра збаўленне і пра Царства Божае. Гасподзь Ісус, Збавіцель свету, тварыў і гаварыў намнога больш, чым падае нашая кніга. Вось некаторыя найбольш важныя павучэнні Госпада Ісуса Хрыста:

«*Я ёсць шлях і праўда і жыццё; той, хто веруе ў Мяне, калі і памрэ, то ажыве* (Іаан 14:6).

*Я ёсць уваскрэсенне і жыццё: той, хто веруе ў Мяне, калі і памрэ, то ажыве* (Іаан 11:25).

*Пакуль Я ў свеце, Я святло свету* (Іаан 9:5).

*Я ёсць хлеб жыцця; хто да Мяне прыходзіць, не будзе жадаць, і той, хто веруе ў Мяне, не будзе прагнуць ніколі* (Іаан 6:35).

*Сын Чалавечы прыйшоў спагнаць і выратаваць пагіблых* (Лука 19:10).

*Найперш за ўсё шукайце Царства Божага і праўды Яго...* (Мацвей 6:33).

*Прыйдзіце да Мяне ўсе струджаныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо Маё на сябе і ад Мяне навучыцеся, бо Я паблажлівы і лагодны сэрцам, і знойдзеце супакой душам вашым, бо ярмо Маё любаснае, і цяжар мой лёгкі* (Мацвей 11:28-30).

*...Той, хто слухае слова Маё і верыць у Таго, Хто паслаў Мяне, мае жыццё вечнае і на суд не прыходзіць, а перайшоў са смерці ў жыццё* (Іаан 5:24).

*Хто верыць у Сына, мае жыццё вечнае, а хто не верыць у Сына, не ўбачыць жыцця, але гнеў Божы на тым застанецца* (Іаан 3:36).

*...Калі хто хоча ісці за Мною, адвярніся ад самога сябе і вазьмі крыж свой ды ідзі ўслед за Мною* (Лука 9:23).

*...Якая карысць чалавеку, калі ён увесь свет здабудзе, а самога сябе загубіць, або сабе нашкодзіць?* (Лука 9:25).

*...Хто вызнае Мяне перад людзьмі, таго і Я вызнаю перад Айцом Маім Нябесным; а хто зрачэцца Мяне перад людзьмі, таго і Я зракуся перад Айцом Маім Нябесным* (Мацвей 10:32-33).

*Неба і зямля мінуцца, але словы Мае не мінуцца* (Лука 21:33).

# ДЗЕІ АПОСТАЛАЎ

Да гэтага часу мы апісвалі падзею за падзеяй з Новага Запавета. Апошняя падзея – узнясенне на неба Ісуса Хрыста. Падзеі гэтыя запісаны ў чатырох кнігах альбо частках Новага Запавета, якія носяць назвы «Евангелле паводле Мацвея, Марка, Лукі і Іаана». Гэта адно і тое ж "Евангелле", г. зн. "Дабравесце". Напісана яно чатырма аўтарамі, натхнёных Святым Духам.

Пятая кніга Новага Запавета – "Дзеі Апосталаў". У "Дзеях", у асноўным, падаецца гісторыя пашырэння хрысціянства ў Рымскіх правінцыях на тэрыторыях сучасных Ізраіля, Турцыі, Грэцыі і Італіі. У "Дзеях Апосталаў" увага засяроджваецца галоўным чынам на працах апосталаў Пятра і Паўла, і асабліва, на місіянерскай дзейнасці ап. Паўла ў язычніцкім свеце.

Тут трэба прыгадаць, што цэнтральныя тэмы Старога Запавета – гэта векавечныя падзеі яўрэйскага народу, адносіны Госпада да гэтага народу і Яго задума пра багаславенне і выратаванне ўсіх народаў свету праз Сына Свайго, Месію Ісуса Хрыста, Які нарадзіўся ў асяроддзі гэтага народу.

Дык вось, з "Дзеяў Апосталаў" нам ужо вядома, што вестка пра збавенне, дасягнутае на Галгофскім крыжы, мае пачатак свайго пашырэння і ў свеце язычніцкім.

Лічыцца, што "Евангелле паводле Лукі" і "Дзеі Апосталаў" напісаны адукаваным урачом Лукою не пазней 63 года пасля нараджэння Хрыста.

## ДУХ СВЯТЫ АПУСКАЕЦЦА НА ВУЧНЯЎ

Пасля таго, як вучні вярнуліся ў Іерусалім з Елеонскай гары, адкуль узнёсся Хрыстос, яны сабраліся ў святліцы. Там з некаторымі жанчынамі і Марыяй, маці Ісуса Хрыста, яны амаль увесь дзень праводзілі ў малітве. Замест Іуды яны выбралі дванаццатага апостала, імя якому Мацвей.

У дзень Пяцідзесятніцы, які адначасова ёсць і днём жніва, усе дванаццаць вучняў сабраліся разам. У гэты святочны дзень (пяцідзесяты дзень пасля Пасхі) усе былі аднадушныя і насцярожана чакалі нечага незвычайнага. Раптам пачуўся шум як бы ад моцнага ветру, і напоўніў ён увесь дом, дзе сабраліся апосталы. Потым з'явіліся языкі, як бы вогненныя і падзеленыя. Спачылі яны на кожным апостале. І адразу ўсе натхніліся Духам Святым і пачалі яны гаварыць на іншых мовах, чаго раней ніколі не было.

У той час у Іерусаліме былі пабожныя людзі. Гэта – іудзеі, якія жылі ў розных краінах. Калі пачулі шум, яны сабраліся на тое месца, адкуль ён чуўся. Усе нават разгубіліся. Кожны слухаў апостала на сваёй роднай мове. З вялікім здзіўленнем пыталіся адзін у аднаго: «Ці не ўсе галілеяне яны, што гавораць? Як жа мы чуем кожны сваю вымову, якая ў нас ад нараджэння?.. Яны расказваюць на нашых мовах пра вялікія Божыя справы!»

Шмат хто, здзіўляючыся, пытаўся: «Што гэта значыць?» А некаторыя, насміхаючыся, казалі: «Яны напіліся салодкага віна...»

ДЗЕІ 1:12-26; 2:1-13

# ПРОПАВЕДЗЬ ПЯТРА

Сабраўся народ. Перад імі выступіў Пётр з адзінаццаццю апосталамі. Ён узвысіў свой голас, сказаўшы: «Мужы іудзейскія і ўсе, хто жыве ў Іерусаліме! Няхай будзе вам вядома, і больш уважліва пастаўцеся да маіх слоў: яны не п'яныя, як гэта вы думаеце, бо цяпер трэцяя гадзіна дня*. Але гэта ёсць тое, што было прадказана прарокам Іоілем: "Так будзе ў апошнія дні, гаворыць Бог, пралью ад Майго Духа на кожную плоць, і будуць прарочыць сыны вашыя і дочкі вашыя, і юнакі вашыя будуць бачыць прывіды, а старыя вашыя будуць настаўлены на розум прыснёнымі снамі. У тыя дні пралью ад Духа Майго і на рабоў Маіх і на рабынь Маіх і будуць яны прарочыць. І будзе: кожны, хто пакліча імя Гасподняе, выратуецца".

Мужы ізраільскія! Выслухайце гэтыя словы: Ісуса Назарэя, мужа, засведчанага вам ад Бога сіламі, і цудамі, і азнакамі, якія Бог стварыў паміж вамі. Як вы ведаеце, Яго, выдадага пасля пэўнай нарады па прадказанні Божым, вы ж узялі і, прыбіўшы цвікамі да дрэва рукамі беззаконнікаў, забілі. Але Бог уваскрэсіў Яго, разарваўшы ланцугі смерці, бо ёй утрымаць Яго было немагчыма.

Гэтага ж Ісуса Бог уваскрэсіў, чаму і мы ўсе сведкі. Ён быў узнесены сілаю Божай і, прыняўшы ад Айца абяцанага Святога Духа, праліў тое, што вы цяпер бачыце і чуеце. Дык вось, добра ведай увесь дом Ізраілеў, што Бог паставіў Госпадам і Хрыстом гэтага Ісуса, Якога вы крыжавалі».

Пачуўшы гэтую пропаведзь, усе адчулі замілаванне ў сэрцы і сказалі Пятру: «Што нам рабіць, мужы-браты?» Тады Пётр сказаў ім: «Пакайцеся, і хай хрысціцца кожны з вас у імя Ісуса Хрыста, каб дараваліся вам грахі, – і атрымаеце дар Святога Духа, бо абяцанае належыць вам і дзецям вашым, і ўсім далёкім, каго толькі і ўважыць Гасподзь Бог наш».

У той жа дзень ахвотна прынялі словы Пятра і хрысціліся каля трох тысяч чалавек. З тых самых пор Гасподзь штодзённа прыводзіў у царкву ўратаваных, гэта значыць, да збору ўжо выкупленых крывёю Ісуса Хрыста.

ДЗЕІ 2:14-47

* *Дзевятая гадзіна раніцы.*

# АЗДАРАЎЛЕННЕ КУЛЬГАВАГА

Аднойчы Пётр і Іаан ішлі ў храм, каб памаліцца. Каля брамы храма, што называлася «Краснай», сядзеў кульгавы. Яго кожны дзень прыносілі на руках і там садзілі, каб ён выпрошваў міласціну. Гэтага ён прасіў у Пятра і Іаана, калі ўбачыў іх каля самай храмавай брамы.

Прыгледзеўшыся да яго, Пётр з Іаанам сказалі: «Паглядзі на нас». Жабрак уважліва паглядзеў на апосталаў, спадзеючыся што-небудзь ад іх атрымаць. Але Пётр сказаў яму: «Ні срэбра, ні золата ў мяне няма, а што маю, тое і табе даю: «У імя Ісуса Хрыста Назарэя ўстань і хадзі!» І, узяўшы яго за правую руку, падняў кульгавага на ногі, і раптам ажывелі яго і ступні і калені. І ён, ускочыўшы, пачаў хадзіць. З апосталамі разам ён увайшоў у храм, падскокваючы і хвалячы Бога. Людзі, што там былі, пазналі яго. І гаварылі паміж сабою, што гэта быў той, што сядзеў каля храма, каля яго Краснай брамы. Убачыўшы яго, як ён ходзіць і славіць Бога, усе напалохаліся і моцна здзівіліся таму, што з ім адбылося.

Аздароўлены ні на крок не адыходзіў ад Пятра і Іаана. І ўвесь народ збегся да іх у храмавы прытвор. Убачыўшы гэта, Пётр звярнуўся да народу: «Мужы ізраільскія! Не здіўляйцеся з гэтага і не глядзіце на нас так, нібыта мы сілаю сваёй ці набожнасцю зрабілі гэта, што ён ходзіць. Бог айцоў нашых праславіў Сына Свайго Ісуса, Якога прадалі і ад Якога вы адракліся перад Пілатам, калі ён прапанаваў вам вызваліць Яго. Вы Начальніка Жыцця забілі, Яго Бог уваскрэсіў з мёртвых, чаму вось і мы сведкі. І дзеля веры ў імя Яго, імя Яго падмацавала ногі гэтага чалавека, якога вы бачыце і знаеце, і вера, якая ад Ісуса, даравала яму гэтае аздараўленне перад усімі вамі. Але я знаю, братове, што вы, як і начальнікі вашыя, зрабілі гэта ад няведання. Бог жа, Які прадказаў праз усіх Сваіх пракрокаў, што Хрыстос адпакутуе, так і спраўдзіў усё.

Дык вось, пакайцеся і звярніцеся, каб грахі вашыя згладзіліся. Няхай наступяць радасныя часіны ад Госпада, няхай накіруе да вас Ісуса Хрыста, Якога Ён вам прадвызначыў, Якога неба павінна было прыняць да таго часу, пакуль усё спраўдзіцца, што гаварыў Бог адвеку вуснамі Сваіх святых прарокаў.

Бог уваскрэсіў Сына Свайго Ісуса. Да вас Ён упершыню паслаў Яго, каб Ён благаславіў вас і кожнага адхіліў ад нядобрых спраў.

ДЗЕІ 3:1-26

# АРЫШТ ПЯТРА І ІААНА

Каля пяці тысяч душ паверылі ў Ісуса Хрыста. І ўсё гэта дзякуючы казані Пятра пасля таго, як ён вылечыў кульгавага. Прапаведаваў таксама і Іаан. Але святарам і начальнікі, гневаючыся на іх казань, загадалі схапіць Пятра і Іаана і аддаць іх пад варту. На другі дзень у Іерусаліме сабраліся начальнікі, старэйшыны, кніжнікі, першасвяшчэннікі. Яны паклікалі апосталаў, паставілі іх перад сабою і спыталіся, як яны вылечылі кульгавага: «Якою сілаю, ці якім імем вы гэта зрабілі?» Тады Пётр, натхнёны Святым Духам, сказаў ім: «Начальнікі народа і старэйшыны ізраільскія! Калі вы прыцягнулі нас да адказнасці за тое, што мы дабрачынна аднесліся да чалавека хворага, і пытаецеся, як ён быў вылечаны, дык няхай усім вам будзе вядома і ўсяму ізраільскаму народу, што імем Ісуса Хрыста Назарэя, Якога вы крыжавалі, Якога Бог уваскрэсіў з мёртвых, Ім пастаўлены ён перад вамі здаровы. Ён ёсць камень, які адштурхнулі вы, дойліды, але Ён зрабіўся асновай вугла, і ратунку няма ў іншага нікога; бо няма такога іншага імені пад небам, дадзенага чалавеку, імені, праз якое належыць нам ратавацца».

Убачыўшы смеласць Пятра і Іаана і заўважыўшы, што яны людзі простыя і някніжныя, усе аж здзівіліся; між іншым, пазнавалі іх, што яны былі з Ісусам. Якраз поруч з імі стаяў той аздароўлены чалавек. І што можна было знайсці, каб запярэчыць апосталам? І калі па іх загадзе апосталы выйшлі, кніжнікі і фарысеі раіліся між сабою, кажучы: «Што нам рабіць з гэтымі людзьмі? Бо ўсім, што жывуць у Іерусаліме, вядома, што імі створаны яўны цуд. І мы не можам гэтага абвергнуць. Але каб не разнесліся чуткі паміж людзьмі, трэба забараніць ім з пагрозаю, каб яны пра імя гэтае нікому з людзей не казалі».

Пакінуўшы апосталаў, яны сурова загадалі ім не гаварыць і не вучыць ад імя Ісуса. Але Пётр і Іаан у адказ ім сказалі: «Паразважце самі, ці справядліва нам перад Богам слухаць вас болей за Бога? Мы не можам не гаварыць пра тое, што мы бачылі і што мы чулі».

Тады ўсе, што сабраліся на нараду, прыстрашылі апосталаў і адпусцілі, бо не знайшлі нічога, за што можна было пакараць іх. Да таго ж баяліся народу, бо ўсе бачылі цуд і за гэта праслаўлялі Бога.

ДЗЕІ 4:1-21

# СМЕРЦЬ СТАФАНА – ПЕРШАГА ПАКУТНІКА ЗА ВЕРУ

Па прапанове апосталаў Царква выбрала сем дыяканаў. На іх ляжаў клопат пра бедных і клопат пра тых, хто якую меў у чым-небудзь патрэбу. Для гэтай мэты першым быў выбраны Стафан. Быўшы дыяканам, ён напоўніўся Святым Духам. Ствараў цуды і азнакі сярод народа. Ворагі Хрыста яго ўзненавідзелі. Яны з ім спрачаліся, але ўсё дарэмна. Мудрасці і Духу Стафана яны не мелі што супроцьпаставіць. Ворагі пачалі хітраваць. Яны падгаварылі некаторых людзей абвінаваціць яго, быццам ён парушае закон Майсея і ганьбіць Бога. Гэтым самым яны ўзбуджалі народ. Стафана схапілі і прывялі ў сінедрыён. Абвінаваўцы Стафана сведчылі супроць яго вельмі фальшыва. У час свайго засядання члены сінедрыёна заўважылі, як твар Стафана святлееў і стаў падобны да твару анёла.

Усе абвінавачванні выслухаў сам першасвяшчэннік. Ён пытаўся ў Стафана: «Ці было так усё гэта?» А Стафан, калі гаварыў, абараняўся словам Божым са Свяшчэннага Пісання. Слухаючы Стафана, яны крычалі, зрываліся са сваіх месцаў, скрыгаталі зубаміад злосці.

Стафан, напоўнены Духам Святым, падняў у неба вочы. Ён убачыў славу Божую і Ісуса Хрыста, Які стаяў па праваруч Бога, сказаў: «Вось бачу я расчыненае неба і Сына Чалавечага *(Ісуса)* праваруч Бога».

Ад гэтых слоў Стафана ў абвінаваўцаў цярпенне лопнула. Усе крычалі і затыкалі вушы, каб не чуць, што казаў ён далей. На Стафана рынуліся яны ўсе разам. Пачалі яго тузаць і пацягнулі за горад. Там паляцелі ў яго камяні. А Стафан маліўся: «Госпадзе, не стаў жа ім у віну гэты грэх!» Гэта былі яго апошнія словы. Стафан памёр, але Слова Божае забіць нельга.

Стафан быў першы пакутнік. За ім паміралі многія. Тысячы хрысціян паміралі і славілі Бога, як паміраў і славіў Яго Стафан. І смерць іх у многіх сэрцах распальвала веру ў жывога Бога.

ДЗЕІ 6:2-15; 7:1-60

# ФІЛІП І ЭФІОПСКІ ВЯЛЬМОЖА

Аднаго разу Гасподні анёл сказаў дыякану Філіпу: «Устань і апоўдні ідзі на дарогу, што вядзе з Іерусаліма ў Газу, на дарогу, якая зараз пустая». Ён устаў і пайшоў. І вось эфіоплянін, еўнух, вяльможа Кандакіі, царыцы эфіопскай, ахоўнік усіх яе скарбаў, прыязджаў у Іерусалім на пакланенне. Цяпер вяртаўся дамоў і, седзячы ў сваёй калясніцы, чытаў кнігу прарока Ісаіі.

Дух падказаў Філіпу: «Падыдзі і прыстань да гэтай калясніцы». Філіп падышоў і, пачуўшы, што ён чытае прарока Ісаію, сказаў: «Ці разумееш усё, што чытаеш?» Ён сказаў: «Як магу разумець, калі хто не наставіць мяне?» І папрасіў Філіпа ўзлезці на калясніцу і сесці з ім поруч. А месца з Пісання, якое чытаў ён, было такое: «Як авечку, прывялі Яго на загубу, і, як ягня перад тымі, хто стрыжэ, быў нямы і меў самкнутыя вусны. У Яго прыніжэнні суд Яго ўчыніўся, але род Яго хто растлумачыць? Бо Ён быў адштурхнуты ад зямлі жывых».

Еўнух сказаў Філіпу: «Прашу цябе, скажы, пра каго прарок гэта кажа? Пра сябе ці пра каго іншага?» Філіп загаварыў і, пачаўшы ад гэтага пісання, узвяшчаў яму пра Ісуса.

Ехалі па дарозе яны каля вады. І тут еўнух прамовіў: «Вось вада. Што можа перашкодзіць мне хрысціцца?» Філіп жа сказаў яму: «Калі веруеш ад усяго сэрца, калі ласка». Еўнух адказаў Філіпу: «Веру, што Ісус Хрыстос ёсць Сын Божы». І загадаў спыніць калясніцу. Абодва падышлі да вады, і Філіп хрысціў яго. Калі выйшлі яны з вады, Дух Святы сышоў на еўнуха, а Філіпа падхапіў Гасподні анёл. Еўнух ужо не бачыў яго. Сам ён з радасцю працягваў свой шлях.

Так Гасподзь стварыў умовы язычніку, і ён пакаяўся. Бог не глядзіць на аблічча, хто ён такі, якая нацыя яго ці краіна. «Усякі, хто пакліча імя Гасподняе – выратуецца».

ДЗЕІ 8:26-39

## САЎЛ – ГАНІЦЕЛЬ ХРЫСЦІЯН

Іудзеі пачалі ганенне. Яны гналі вучняў Хрыста. Жорсткім ганіцелем быў Саўл. Ён нападаў на Іерусалімскую царкву. Першай ахвярай, як вядома, быў Стафан. Калі яго пабівалі камянямі, Саўл стаяў збоку і вартаваў адзенне натхніцеляў гэтага пабоішча. Саўл урываўся ў дамы, дзе жылі хрысціяне, хапаў іх, вязаў і кідаў у турмы.

Саўл быў фарысей. На тыя часы ён атрымаў выдатную адукацыю. Вельмі добра ведаў Свяшчэннае Пісанне. Як ён раўнаваў да бацькоўскіх традыцый? З вялікай акуратнасцю выконваў усе абрады, пастановы. Аднак, не знаючы праўды, Саўл не мог увераваць у Месію-Хрыста. Хрысціян адносіў да ерэтыкоў.

Паслядоўнікаў Госпада ён вышукваў з пагрозамі і забойствамі, атрымліваў ад першасвяшчэнніка адпаведныя пісьмы ў Дамаск. Яны давалі яму дазвол на праследаванне хрысціян. Ён хацеў у Дамаску ўчыніць самую суровую аблаву на вучняў Ісуса. Калі хто з іх пападаўся ў рукі, таго закоўваў ён у кайданы і высылаў у Іерусалім на расправу.

ДЗЕІ 7:58; 8:3; 9:1-2

# ГАСПОДЗЬ З'ЯЎЛЯЕЦЦА САЎЛУ

Калі Саўл падыходзіў да Дамаска, раптам асвяціла яго зіхоткім святлом з неба. Ён упаў на зямлю і пачуў голас: «Саўл! Саўл! Што ты гоніш Мяне?» Саўл сказаў: «Хто Ты, Госпадзе?» Гасподзь адказаў яму: «Я – Ісус, Якога ты гоніш. Цяжка табе ісці супроць ражна». Са страхам і трапятаннем Саўл спытаўся: «Госпадзе, што загадаеш мне рабіць?» Гасподзь сказаў яму: «Устань і ідзі ў горад, і будзе сказана, што табе рабіць!»

Людзі, што ішлі поруч з Саўлам, стаялі ў нейкім здранцвенні. Яны чулі голас, але нікога не бачылі. Калі Саўл падняўся з зямлі, дык з расплюшчанымі вачыма нікога не бачыў. Ён аслеп, пэўна, ад надта ж яркага свячэння. І людзі, узяўшы яго за рукі, прывялі ў Дамаск.

У Дамаску жыў верны паслядоўнік Хрыста Ананія. Гасподзь з'явіўся Ананію ў прывідзе і сказаў: «Ананія! Устань і схадзі на вуліцу, што называецца Простаю, і спытай у Іудавым доме пра тарсяніна, імя якому Саўл. Ён цяпер моліцца і бачыць у сваім прывідзе мужа, імя якому Ананія, які прыйшоў да яго і, каб ён бачыў, усклаў на яго рукі». Ананія адказаў так: «Госпадзе! Чуў я ад многіх пра яго. Колькі зла ён нарабіў Тваім святым у Іерусаліме: і тут ён мае ад першасвяшчэннікаў уладу закоўваць у кайданы ўсіх, хто пакліча Тваё імя». Але Гасподзь сказаў яму: «Ідзі, бо ёсць ён мой выбраны сасуд, каб імя Маё ўзвяшчаць народам і царам, і сынам ізраільскім. Я пакажу яму, колькі павінен ён адпакутаваць за Маё імя».

Ананія паслухаўся Госпадняга слова. Ён увайшоў у дом, усклаў на Саўла рукі. Ананія сказаў: «Брат Саўл! Гасподзь Ісус, што з'явіўся табе на дарозе, якой ты ішоў, паслаў мяне, каб ты стаў відушчы і натхніўся Духам Святым». Пасля гэтых слоў як бы завеса спала з вачэй Саўла, і ён, як і раней, усё бачыў. Калі хрысціўся, прапаведаваў у сінагогах пра Ісуса Хрыста, што Ён Сын Божы.

ДЗЕІ 9:3-20

## САЎЛ УЦЯКАЕ З ДАМАСКА

Здзіўляліся ўсе, хто слухаў Саўлавы пропаведзі. Здзіўляліся і казалі: «Ці не той гэта самы, што гнаў у Іерусаліме таго, хто заклікаў гэтае імя*, а сюды чаго ён прыйшоў, як не дзеля таго, каб вязаць і дастаўляць іх першасвяшчэннікам?» Саўл больш і больш набіраў сілы. У Дамаску ён бянтэжыў іудзеяў, калі даказваў, што Ісус Хрыстос і ёсць Збавіцель. Іудзеі надумаліся забіць Саўла ў той час, калі ён захоча пакінуць горад. Каля гарадской брамы стаяла варта і чакала, калі Саўл пападзецца ёй у рукі. Але ў Саўла ўжо былі абаронцы – хрысціяне. І яны спусцілі яго ў кашы па гарадской сцяне ноччу. Саўл уцёк такім чынам з Дамаска і дабраўся да Іерусаліма. Там ён стараўся далучыцца да вучняў Ісуса, але яго амаль усе баяліся. Ніхто не верыў, што ён таксама вучань Хрыстовы. Найперш за ўсіх пра Саўла даведаўся Варнава. Ён прывёў Саўла да вучняў Хрыстовых, і ўсім стала вядома, як з'явіўся Гасподзь яму па дарозе, як прапаведаваў ён ад імя Хрыста ў Дамаску і як іудзеі хацелі яго там забіць.

Апосталы і ўся царква на Саўла глядзелі ўжо як на брата. Пазней называлі яго апосталам Паўлам. Ён прапаведаваў сярод язычнікаў і да Хрыста прывёў многія душы.

Апостал Павел напісаў нямала пасланняў (пісьмаў). Ён адрасаваў іх цэрквам. У адным пасланні пісаў: «...Але што мне было перавагаю, тое дзеля Хрыста я палічыў марнасцю**. Ды і ўсё лічу марнасцю дзеля перавагі пазнання Хрыста Ісуса, Госпада майго; дзеля Яго я ад усяго адмовіўся, і ўсё лічу смеццем дзеля спазнання Хрыста, каб толькі прыдбаць Яго і быць у Ім не з маёю праведнасцю, якая ад закона, а з тою, якая праз веру ў Хрыста, з праведнасцю ад Бога па веры...»

Так змяніў Хрыстос гордае сэрца фарысея Саўла, які стаў верным Яму.

ДЗЕІ 9:21-28

ПАСЛАННЕ ДА ФІЛІПІЙЦАЎ АПОСТАЛА ПАЎЛА 3:7-9

* *г. зн. імя Ісуса.*

** *напрасным.*

## ВУЧАНІЦА ТАВІФА

Некалі Іопія была партовым горадам Сяродземнага мора. Горад існуе і цяпер, але ён называецца Яфай. Сучасная Яфа знаходзіцца за два кіламетры ад Тэль-Авіва, самага вялікага горада ў Ізраілі.

У Іопіі жыла адна вучаніца. Звалі яе Тавіфа, што азначае "сарна". Яна захаплялася добрымі справамі, рабіла шмат міласціны. Сталася так, што яна занядужала і памерла. Абмылі і паклалі яе ў святліцы.

У той час апостал Пётр быў у Ліддзе, а так як Лідда была недалёка ад Іопіі, дык іопійскія хрысціяне паслалі да Пятра двух чалавек, якія прасілі Пятра, каб ён хутчэй прыйшоў да іх.

«Пётр, устаўшы, пайшоў да іх; і калі ён прыйшоў, яго ўвялі ў святліцу, і ўсе ўдовы акружылі яго са слязамі на вачах. Яны паказвалі Пятру кашулі і сукенкі, якія шыла Тавіфа, жывучы з імі. Пётр папрасіў іх пакінуць яго аднаго. Стаўшы на калені, ён памаліўся Богу, а потым, звярнуўшыся да цела, сказаў: "Тавіфа! уставай!" І яна расплюшчыла вочы свае і, убачыўшы Пятра, села. Ён, падаўшы ёй руку, падняў яе і, паклікаўшы святых і ўдоў, паставіў яе перад імі жывою».

Гэта стала вядома ва ўсёй Іопіі, і многія ўверавалі ў Госпада. І нямала дзён прабыў ён так у Іопіі ў Сімона-гарбара.

Слова Божае навучае нас, каб мы рабілі добрыя справы, дапамагалі блізкім. «Робячы дабро, не стружджваймася; бо ў свой час пажнём, калі не аслабнем».

ДЗЕІ 9:36-43; ПАСЛАННЕ ДА ГАЛАТАЎ 6:9

# СОТНІК КАРНІЛІЙ

Пры жыцці Ісуса Хрыста і Яго апосталаў як уся ізраільская зямля, так і ўсе краіны вакол Сярод-земнага мора былі захоплены Рымам. У гэтых краінах стаялі рымскія легіёны. Так званы Італійскі легіён стаяў у Палесцінскім марскім порце Кесарыі. Сотнік Карнілій, адзін з рымскіх вайсковых начальнікаў, быў чалавек набожны. Са ўсім сваім домам шанаваў Бога і шмат рабіў міласціны народу. А дзевятай гадзіне дня, калі ён маліўся, убачыў ён з»яву, як увайшоў да яго Анёл Божы і сказаў: «Карнілій! Малітвы і міласціны твае ўспомнены перад абліччам Божым; дык вось, пашлі цяпер у Іопію людзей, і хай паклічуць яны Сімона, якога завуць Пятром. Скажа ён табе словы, што ўратуюць цябе і ўвесь дом твой». Калі адышоў Анёл, які размаўляў з ім, ён паклікаў двух сваіх слуг і набожнага воіна, што быў тут пры ім і, расказаўшы ім усё, паслаў іх у Іопію.

Іопія, была таксама марскім портам, каля 60 кіламетраў на поўдзень ад Кесарыі. Калі воіны прыбылі ў Іопію, яны знайшлі Пятра. Пачаставаўшы воінаў, Пётр ужо на другі дзень сабраўся ісці разам з імі: «Назаўтра яны прыйшлі ў Кесарыю. Карнілій ужо чакаў іх, паклікаўшы сваякоў сваіх і блізкіх сяброў...» Тады Пётр звярнуўся да людзей і сказаў: «Сапраўды пераконваюся, што не на аблічча ўглядаецца Бог, але ў кожным народзе Ён знаходзіць таго, хто баіцца Яго і жыве справядліва, і хто прыемны Яму. Ён словы паслаў сынам Ізраілевым, звястуючы мір праз Ісуса Хрыста. Гэта і ёсць Гасподзь усіх... І мы сведкі ўсяго, што Ён у краіне Іудзейскай і Іерусаліме зрабіў, і што Яго пад канец забілі, павесіўшы на дрэве. Яго ж Бог уваскрэсіў на трэці дзень... І Ён наказаў нам прапаведаваць людзям і сведчыць, што Ён ёсць прызначаны ад Бога жывых і мёртвых. Пра Яго сведчаць і ўсе пракрокі, што кожны, хто веруе ў Яго, мае дараванне грахоў у імя Яго...»

Карнілій, і ўвесь дом яго ўверавалі ў Ісуса Хрыста, Сына Божага і хрысціліся.

ДЗЕІ раздзел 10

## АНЁЛ ВЫЗВАЛЯЕ ПЯТРА З ТУРМЫ

У часы першых хрысціян пачалося ганенне Царквы. Па загадзе цара Ірада забілі апостала Якава, брата Іаана. Цар, убачыўшы, як гэта спадабалася іудзеям, заключыў у турму і апостала Пятра. Ён хацеў вывесці яго пасля Пасхі і пакараць перад вачыма ўсяго народу. У турме Пятра ахоўвалі воіны, а царква ў гэты час за яго вельмі старанна і шчыра малілася Богу.

У апошнюю ноч, калі Ірад збіраўся вывесці яго да народу, Пётр спаў паміж двума воінамі. Ён быў закаваны двума ланцугамі. Каля дзвярэй вязніцы стаяла варта і ахоўвала Пятра. Анёл штурхнуў Пятра пад бок і сказаў яму: «Устань хутчэй». Ланцугі з яго рук апалі на зямлю. Потым анёл сказаў: «Адзень тваё адзенне і за мною ідзі». Пётр выйшаў і следам ішоў за ім. Ён не ведаў, што ўсё, што адбываецца, ёсць праўда, а не прывід. Мінавалі абодвух вартаўнікоў і падышлі да жалезнай брамы, якая сама сабой адчынілася. Яны выйшлі ў горад. І калі мінулі вуліцу, анёла раптам не стала.

Пётр, апрытомнеўшы, сказаў: «Цяпер я сапраўды бачу, што Гасподзь праз анёла Свайго выбавіў мяне з рук Ірадавых».

Аглядзеўшыся вакол, пайшоў ён да дома Марыі, маці Іаана, дзе многія збіраліся на малітву. Ён пераступіў парог і расказаў ім, як цудоўна Гасподзь вызваліў яго з вязніцы.

ДЗЕІ 12:1-17

# ПЕРШАЕ МІСІЯНЕРСКАЕ ПАДАРОЖЖА ПАЎЛА – НА КІПР І Ў МАЛУЮ АЗІЮ

Апостал Павел – адзін з самых адданых хрысціянскіх місіянераў ва ўсёй гісторыі. Ён старанна перадаваў сваім вучням запаведзь Госпада Ісуса Хрыста. Яна і па сённяшні дзень самая актуальная ва ўсім хрысціянстве: *«...Дык вось, ідзіце і навучыце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа, навучаючы іх выконваць усё, што Я загадаў вам...»* Тры свае працяглыя місіянерскія падарожжы па розных гарадах і абласцях, галоўным чынам, на тэрыторыі цяперашніх Грэцыі і Турцыі, Павел пачынаў з Антыахіі.

У першым падарожжы разам з Паўлам быў і Варнава. З Антыахіі яны паплылі на караблі да Кіпра. Там, між іншым, звярнуўся да Госпада рымскі намеснік. З Біблії нам вядома, што ў той час, калі ён наведаў Кіпр, імя гэтага Божага слугі з яўрэйскага Саўл было заменена на рымскае Павел. З Кіпра яны зноў вярнуліся ў Малую Азію. А потым, дабіраўшыся пеша і на аслах, трапляюць у Галатыю. Спачатку ў горад Іконію, дзе ўверавала ў Ісуса многа народу, потым накіраваліся ў горад Лістру. Гасподзь праз Паўла вылечыў кульгавага ў Лістры. Народ падумаў, што Павел і Варнава – багі, і жрэц ідала Зеўса разам з народам хацеў зрабіць ім ахвярапрынашэнне. Але яны яму перашкодзілі: «Мужы! што гэта вы ўчыняеце? І мы – такія ж людзі, як вы, і звястуем вам, каб вы ад ілжывых багоў навярнуліся да Бога жывога, Які стварыў і неба, і зямлю, і мора, і ўсё, што ў іх. Які ў родах, што раней існавалі, дапусціў усім народам хадзіць па шляхах сваіх, хоць і не пераставаў сведчыць пра Сябе дзеямі добрымі, пасылаючы нам з неба дождж і гады пладаноснасці, напаўняючы харчам і весялосцю сэрцы нашыя». Аднак потым некаторыя іудзеі, што прыйшлі ў Лістру, падбухторылі народ, кажучы: «Яны не кажуць ніякай праўды, а ўсё ілгуць, і пабілі Паўла камянямі. Але Бог захаваў Паўлу жыццё, і яго не забілі. На далейшым шляху Павел прыбыў у горад Дэрвію, дзе ён прапаведаваў Евангелле таксама і многія людзі павярнуліся да Госпада. З Дэрвіі Павел і Варнава вярнуліся ў Антыахію, «адкуль ласкаю Божай былі пасланы на справу, якую і здзейснілі. Калі туды прыбылі і сабралі царкву, дык расказалі ўсё, што Бог стварыў з імі, і як Ён адчыніў дзверы язычнікам для іхняй веры...»

Першае місіянерскае падарожжа апостала Паўла працягвалася прыблізна гады тры, з 45 па 48 гады пасля нараджэння Хрыста.

ДЗЕІ раздзелы 13 і 14

# ДРУГОЕ МІСІЯНЕРСКАЕ ПАДАРОЖЖА ПАЎЛА – Ў МАКЕДОНІЮ І ГРЭЦЫЮ

У другім місіянерскім падарожжы Паўлу спадарожнічаў Сіла, яўрэйскі хрысціянін. З Антыахіі яны накіраваліся зноў у гарады **Дэрвію і Лістру** (дзе Паўла некалькі год таму назад ледзь не забілі камянямі). Тут Павел спаткаў аднаго юнака. Гэта быў Цімафей, які потым стаў самым верным яго памочнікам.

Яны прыйшлі ў **Троаду**, горад на азіяцкім узбярэжжы Эгейскага мора. Ноччу Павел убачыў сон: «"Прыйдзі ў Македонію і дапамажы нам". Пасля гэтага сну надумалі мы тым часам накіравацца ў Македонію, узяўшы пад увагу, што Гасподзь паклікаў нас прапаведаваць і там», – піша Лука, які, відаць, і далучыўся ў Троадзе да Паўла. Македонія была рымскай правінцыяй на паўночным усходзе Грэцыі. Плывучы на караблі, яны перасеклі Эгейскае мора, і дабраліся да горада **Філіпы**. Тут, відаць, была заснавана першая еўрапейская хрысціянская царква. У Філіпах Паўла і Сілу ўвязнілі ў цямніцу.

З Філіпаў Павел прыйшоў у **Фесалонікі**. Гэта быў вялікі партовы горад каля самага Эгейскага мора. Тут уверавала многа элінаў і частка яўрэяў. Астатнія яўрэі ўзнялі такі вэрхал, што Павел і Сіла вымушаны былі пайсці ў горад **Верыю**.

З Верыі Павел прыбыў у **Афіны**, галоўны горад Грэцыі. Грэцыя ў тыя гады была пад уладаю Рыма. Яе называлі тады Ахаяй. У Афінах Павел прапаведаваў Слова Божае філосафам і простаму люду. З Афінаў ён прыбыў у **Карынф**, адзін з важнейшых гарадоў Рымскай імперыі. У Карынфе Павел спыніўся на паўтара года. За гэты час тут была заснавана вялікая хрысціянская царква.

З Карынфа Павел вярнуўся па моры ў Малую Азію. Ён прыбыў у вялікі горад **Эфес**. Потым працягваў свой шлях у Іерусалім, і вярнуўся ў горад Антыахію.

Другое падарожжа заняло амаль тры гады (з 50 па 53 гады пасля нараджэння Хрыста), склаўшы некалькі тысяч кіламетраў.

ДЗЕІ 15:36-18:22

# ПАВЕЛ І СІЛА Ў ТУРМЕ

Аднойчы апостал Павел са служыцелем Божым Сілай папалі ў рымскі горад – калонію Філіпы. Там імем Ісуса Хрыста вылечылі служанку, якая ўмела прадказваць дзякуючы сатанінскаму духу. Так, прадбачачы падзеі, яна прыносіла сваім панам вялікія даходы. Убачыўшы, што служанка болей не мае гэтага дару і надзеі на даходы болей няма, яны схапілі Паўла і Сілу і пацягнулі іх на гарадскую плошчу. Навялі на іх гарадскіх начальнікаў, заявіўшы ім: «Гэта людзі ад іудзеяў. Яны бунтуюць наш горад, прапаведуюць звычаі, якіх нам, рымлянам, належыць пазбягаць і не выконваць». Увесь народ таксама супроць падняўся. І ваяводы, садраўшы з апосталаў вопратку, загадалі пабіць іх палкамі. Потым яны пасадзілі іх у турму. Загадалі яшчэ вартаўніку старанна іх ахоўваць. Атрымаўшы такі загад, турэмны вартаўнік пасадзіў іх у турму і закаваў іхнія ногі ў калодкі.

Але Павел і Сіла не падалі духам. Роўна апоўначы яны маліліся, спявалі духоўныя песні і славілі Бога. А ўсе вязні слухалі іх з вялікай цікаўнасцю.

І раптам адбылося вялікае землетрасенне. Захісталася турма, дзверы ўсе адчыніліся, кайданы на ўсіх аслабелі. Турэмны вартаўнік, прачнуўшыся, убачыў, што адбылося, і хацеў на сябе накласці рукі. Ён падумаў, што вязні ўсе хто куды паразбягаліся. Але Павел папярэдзіў, сказаўшы яму: «Не рабі сабе нічога ліхога, бо мы ўсе тут». Вартаўнік са страху ўпаў на калені перад Паўлам і Сілаю і спытаўся: «Васпанства маё, што мне рабіць, каб выратавацца?» Яны адказалі яму: «Веруй у Госпада Ісуса Хрыста і атрымаеш выратаванне ты і ўвесь дом твой». Тады ён адразу вывеў іх з вязніцы, абмыў ім раны і неадкладна хрысціўся сам і ўсе, хто быў у яго доме.

На другі дзень да турэмнага вартаўніка прыслалі ваяводы гарадскіх служыцеляў, каб яны сказалі яму: «Выпусці на волю тых людзей». Але Павел сказаў ім: «Нас, рымскіх грамадзян, без суду і пры ўсім народзе пабілі і кінулі ў турму, а цяпер тайна выпускаюць? Не, хай прыходзяць і самі нас выводзяць!» Гарадскія служыцелі пераказалі ўсё ваяводам. Пачуўшы, што апосталы – рымскія грамадзяне, ваяводы надта спалохаліся. Прыйшоўшы да іх, прасілі прабачэння, а калі вывелі іх з вязніцы, папрасілі пакінуць іхні горад.

ДЗЕІ 16:16-39

# ПАВЕЛ У АФІНАХ

У час свайго другога падарожжа Павел, як нам ужо вядома, дабраўся да Афінаў. Афіны, сталіца Грэцыі, была ў свой час цэнтрам культуры і радзімай многіх філосафаў. Да іх належаць Сакрат, Платон і Арыстоцель, і было вельмі важна, як прапаведаваў там Павел Слова Божае: «...Павел абурыўся духам, убачыўшы гэты горад, поўны ідалаў. Дык вось, Павел гутарыў у сінагозе з іудзеямі і з тымі, хто шануе Бога і яшчэ, калі з кім здаралася, сустракаўся на плошчы. Некаторыя эпікурэйцы і стоікі пачалі з ім спрачацца; і адны казалі: "Што хоча сказаць гэты пустаслоў?". А другія: "Здаецца, ён чужых багоў прапаведуе", бо звеставаў ён ім Ісуса і ўваскрэсенне.

І, узяўшы яго, прывялі ў аэрапаг і казалі: "Як нам даведацца, што гэта за новае вучэнне ты прапаведуеш? Бо нешта дзіўнае ты ўкладваеш нам у вушы нашыя, дык хочам ведаць, што гэта мае быць!.." І Павел, стаўшы пасярод аэрапага, прамовіў: "Афіняне! Па ўсім бачу я, што вы неяк асабліва набожныя; бо, праходзячы і аглядваючы свяцілішчы вашыя, я знайшоў і ахвярнік, на якім напісана: Невядомаму Богу. Вось гэтага, Якога вы, не ведаючы, шануеце, я і вам прапаведую: Бог, Які стварыў сусвет і ўсё, што ў ім, Ён, будучы Госпадам неба і зямлі, не ў рукатворных храмах жыве і не мае патрэбы ў служэнні рук чалавечых, быццам нечага хочучы, а Сам усім дае жыццё і дыханне і ўсё; з адное крыві Ён стварыў род чалавечы для рассялення па ўсім улонні зямлі... каб яны шукалі Бога, ці не адчуюць Яго, і ці не знойдуць Яго, хоць Ён і недалёка ад кожнага з нас; бо мы Ім жывём і рухаемся, існуем, як і некаторыя з вашых вершатворцаў казалі: Мы Яго і род. Дык вось, будучы родам Божым, мы не павінны думаць, што боства падобнае да золата ці срэбра, ці каменя, што набыў вобраз ад мастацтва і выдумкі чалавечай. Дык вось Бог, мінаючы часы няведання, запавядае ўсім і ўсюды пакаяцца, бо Ён і прызначыў дзень, у які справядліва асудзіць сусвет праз прызначанага Ім раней Мужа, даўшы ўсім сведчанне тым, што ўваскрэсіў Яго з мёртвых"».

ДЗЕІ 17:16-31

## ТРЭЦЯЕ МІСІЯНЕРСКАЕ ПАДАРОЖЖА ПАЎЛА –ТРЫ-ЧАТЫРЫ ГАДЫ ШЛЯХУ

Праз некаторы час Павел з Антыахіі накіраваўся ў сваё трэцяе місіянерскае падарожжа. Прайшоўшы Фрыгійскую вобласць, ён прыбывае ў Эфес, порт на асійскім беразе Эгейскага мора. Эфес быў вялікі горад. Насельніцтва яго дасягала чвэрці мільёна. У гэтым горадзе Павел працаваў каля двух гадоў; «Таму ўсе жыхары Асіі слухалі пропаведзь аб Госпадзе Ісусе, як іудзеі, так і эліны. Бог жа стварыў праз Паўла нямала цудаў, таму на хворых ускладвалі хусткі і паясы з яго цела, і хвароба іх пакідала, і з іх выходзілі злыя духі». (У тыя часы Асіяй называлі толькі невялікую частку цяперашняй Малой Азіі). У Эфесе быў славуты храм багіні Артэміды. Яго будавалі каля 220 гадоў. Храм пабудаваны быў з мармуру. Яго адносілі да сямі цудаў свету. Майстры па срэбры і майстры, што стваралі і прадавалі мініяцюрныя храмікі Артэміды, паднялі вялікі мяцеж у горадзе супроць Паўла і хрысціянскіх правадыроў. Усё гэта стала неабходнай умовай для таго, каб многія паклоннікі Артэміды павярнуліся да жывога Госпада Бога. Паўлу даводзіцца пакінуць Эфес. Ён адплывае на караблі праз Эгейскае мора ў ваколіцы Македоніі і Грэцыі. Ён там зноў пабываў у Філіпах і Карынфе. Потым ён вярнуўся ў Малую Азію і ў другі раз прапаведаваў у Троадзе. З Троады ён працягваў шлях да Асіі і адтуль на караблі паплыў у Міціліну, Самос, Трагілію, Міліт, каб развітацца з імі, бо ён ведаў, што сустрэцца з імі больш у гэтым жыцці не давядзецца. (Гл. стар. 480) Праехаўшы праз порты на астравах Кос і Радос і малаазіяцкія порты Патару і Цір, Павел прыбыў у Птолеаміду. З Птолеаміды ён працягваў сваё падарожжа ў Кесарыю пешкі і далей да Іерусаліма. У Іерусаліме яго арыштавалі. Трэцяе місіянерскае падарожжа Паўла працягвалася тры-чатыры гады, з 54 па 57 годы пасля нараджэння Хрыста.

Місіянерскія падарожжы не былі ”турыстычнымі паездкамі”. Распаўсюджваючы евангельскую вестку пра Ісуса Хрыста, апостал Павел многа пакутаваў. Вось як піша ён аб сваёй рабоце: «Хрыстовы слугі! Як утрапёны кажу: «Я намнога больш быў у працы, бязмерна больш у ранах, больш у цямніцах і часта ў дарожнай небяспецы. Ад іудзеяў прыняў я пяць разоў па сорак без аднаго ўдараў; тройчы білі мяне палкамі; аднойчы камянямі пабівалі, тры разы я цярпеў караблекрушэнне, ноч і дзень прабыў у бездані; шмат разоў быў у падарожжах, у небяспеках на рэках, у небяспеках ад разбойнікаў, у небяспеках ад адзінапляменцаў маіх, у небяспеках ад язычнікаў, у небяспеках у горадзе, у небяспеках у пустыні, у небяспеках на моры, у небяспеках ад ілжэбратоў...»

ДЗЕІ 18:23-21:34; 2-е ПАСЛ. ДА КАРЫНФЯНАЎ 11:23-26

# ГРЭХ ЧАРАЎНІЦТВА

У наш час нямала людзей займаюцца рознага віду чараўніцтвам (акультызм, варажба, магія, заклёны і іншыя сатанінскія справы). Усе яны адносяцца да вялікага грэху, і Бог наказвае нам, каб мы не мелі з імі ніякіх сувязей.

У Старым Запавеце чытаем, што Бог загадаў вельмі сурова Свайму народу, каб ён асцерагаўся чараўніцтва і нават забіваў тых, хто асмельваўся парушыць Яго загад: «Не варажыце і не гадайце» (Левіт 19:26). Не павінен сярод вас быць той, хто праводзіць сына свайго або дачку сваю праз агонь, прадказнік, варажбіт, чараўнік, завабнік, заклінальнік духаў, чарадзей і той, хто размаўляе з мёртвымі. Бо перад Госпадам ёсць кожны той мярзотнік, хто робіць усё гэта, і за гэтыя ўсе брыдоты Гасподзь, Бог твой, гоніць іх ад абліччa Свайго (Другазаконне 18:10-12). «Ці то мужчына, ці жанчына, калі будуць яны выклікаць памерлых альбо вядзьмарыць, хай будуць аддадзены смерці; камянямі трэба пабіць іх, кроў іх на іх» (Левіт 20:27).

Незвычайнае здарэнне адбылося ў час трэцяга місіянерскага падарожжа апостала Паўла, калі ён быў у Эфесе: «Нямала цудаў Бог тварыў рукамі Паўла. Хусткі і паясы з ягонага цела ўскладвалі на хворых, і хваробы іх пакідалі. Нават некаторыя з іудзейскіх заклінальнікаў пачалі карыстацца імем Госпада Ісуса, каб вылечваць апанаваных злымі духамі, кажучы: ”Заклінаем вас Ісусам, Якога прапаведуе Павел”. Гэтак рабілі нейкія сямёра сыноў іудзейскага першасвяшчэнніка Скевы. Але злы дух сказаў ім у адказ: ”Ісуса ведаю, і Павел мне вядомы, а вы хто?” І чалавек, апанаваны злымі духамі, накінуўся на іх, і, адолеўшы іх, займеў над імі такую сілу, што яны, голыя і пабітыя, выбеглі з таго дома. Даведаўшыся пра гэта, іудзеі і эліны, што жылі ў Эфесе, напалохаліся моцна і ад страху праславілі імя Госпада Ісуса.

А многія тыя, што паверылі, прыходзілі, вызнаючы і выяўляючы справы свае, а шматлікія чарадзеі, сабраўшы кнігі свае, спалілі перад усімі; і, падлічыўшы цану кніг, аказалася іх на пяцьдзесят тысяч драхмаў. З такою сілай узрастала і перамагала слова Гасподняе».

З гэтых прыкладаў хай нам будзе вядома, што кнігі пра чарадзейства ніколі нельга трымаць у сваім доме.

ДЗЕІ 19:11-20

# АПОСТАЛ ПАВЕЛ РАЗВІТВАЕЦЦА З ПРЭСВІТЭРАМІ ЭФЕСКАЙ ЦАРКВЫ

Калі прэсвітэры Эфескай царквы прыйшлі ў Мілет да Паўла, каб з ім развітацца, ён звярнуўся да іх, кажучы: «Вы ведаеце мяне з першага дня, калі я прыйшоў у Асію, увесь час быў з вамі, служачы Госпаду з усякай лагодай і мудрасцю і многімі слязамі, сярод спакусаў, якія дасталіся ад зламыснасці іудзеяў; як я не прапусціў нічога карыснага, пра што б вам ні прапаведаваў і чаму б ні вучыў прылюдна і па дамах, узвяшчаючы іудзеям і элінам пакаянне прад Богам і веру ў Госпада нашага Ісуса Хрыста. І вось цяпер па натхненні Духа іду ў Іерусалім, не ведаючы, што там сустрэне мяне; толькі Дух Святы па ўсіх гарадах сведчыць, кажучы, што кандалы і смутак чакаюць мяне. Але не гляджу ні на што і не даражу жыццём сваім, толькі б у радасці закончыць шлях мой і служэнне, якое прыняў ад Госпада Ісуса, прапаведаваць Евангелле мілаты Божай. І цяпер я ведаю, што не ўбачыце больш аблічча майго ўсе вы, сярод каго я жыў, звястуючы Царства Божае... Я знаю, што пасля адыходу майго прыйдуць да вас ваўкі, якія не пашкадуюць статка; дык сярод і вас саміх паўстануць людзі, якія будуць гаварыць скажона, каб павесці за сабою вучняў. ...І цяпер аддаю вас, братове, Богу і слову мілаты Ягонай, што можа навучыць вас болей і даць вам нашчадак з усімі тымі, што асвяціліся. Ні срэбра, ні золата, ні адзення я ні ад кога не пажадаў, ведаеце вы самі, што патрэбам маім і тым, што былі са мною, паслужылі вось гэтыя рукі мае. Вам я паказваў ва ўсім, што гэтак працуючы, трэба падтрымліваць святых ды памятаць словы Госпада Ісуса, калі Ён казаў: «Шчаслівыя тыя, што даюць, а не тыя, што бяруць». Сказаўшы гэта, ён стаў на калені свае і з усімі імі памаліўся Богу. Тады пачалі наўзрыд плакаць і, абдымаючы Паўла, цалавалі яго, смуткуючы асабліва з таго, што ён сказаў, што яны больш не ўбачаць аблічча яго. І праводзілі яго да карабля».

ДЗЕІ 20:17-38

# ПАВЕЛ ПЕРАД ПРАВІЦЕЛЕМ ФЕСТАМ

На другі дзень пасля таго, як Паўла арыштавалі ў Іерусаліме, прывялі яго з крэпасці ў вярхоўны яўрэйскі суд Сінедрыён. На судзе яго справа выклікала моцнае абурэнне і Паўла ледзьве не разарвалі ад злосці, але ўратаваў яго рымскі тысячаначальнік са сваімі салдатамі.

У гэтую ноч з'явіўся Гасподзь да Паўла ў крэпасць, кажучы: «Мужайся, Павел, бо як ты сведчыў пра Мяне ў Іерусаліме, так належыць табе сведчыць пра Мяне і ў Рыме». На другі дзень больш сарака іудзеяў пакляліся «не есці і не піць», пакуль не заб'юць Паўла.

Даведаўшыся пра гэтую ўмову, тысячаначальнік выслаў Паўла ў Кесарыю пад вартай, якая складалася з воінаў: 200 пешых, 70 коннікаў і 200 стралкоў. Кесарыя знаходзіцца за 100 км да Іерусаліма каля Сярэдземнага мора. У тыя часы гэты горад быў рэзідэнцыяй рымскіх правіцеляў у Іудзеі. Як і ўся Святая зямля, Іудзея была пад акупацыяй рымскіх заваёўнікаў. У Кесарыі Павел стаяў на допыце перад рымскім правіцелем Феліксам. І хоць ён не знаходзіў Паўла вінаватым, але пакінуў усё-такі на два гады ў цямніцы.

Праз два гады месца Фелікса займае Порцый Фест. І калі праз некалькі дзён цар Агрыпа і яго жонка Вераніка прыбылі ў Кесарыю павіншаваць новага правіцеля, Фест так уладзіў, каб яны маглі паслухаць Паўла: «Агрыпа і Вераніка прыйшлі з вялікаю пышнасцю. У судовую палату разам з імі ўвайшлі тысячаначальнікі і знатныя грамадзяне. Па загадзе Феста прывялі і Паўла». Павел гаварыў пра сваё жыццё, пра тое, як ён навярнуўся да Госпада, і пра Хрыста: «...Але атрымаўшы дапамогу ад Бога, я да гэтага ж дня стаю, сведчачы малому і вялікаму... што Хрыстос павінен быў адпакутаваць і, устаўшы першым з памерлых, абвясціць святло народу (іудзейскаму) і язычнікам».

«Калі ён так абараняўся, Фест гучным голасам сказаў: "Вар'яцееш ты, Павел! Вялікая вучонасць давяла цябе да шаленства". "Не, высокашаноўны Фест", – сказаў ён, "я не вар'яцею, а кажу словы ісціны і разважаю цвяроза... Маліў бы я Бога, каб ... усе, што слухаюць мяне сягоння, зрабіліся такімі, як я, апроч вось гэтых кайданаў"».

ДЗЕІ раздзелы 23-26

# ПАВЕЛ ПА ДАРОЗЕ Ў РЫМ

Апостала Паўла пасадзілі ў турму. Ён сведчыў пра жывога Бога і Збавіцеля Ісуса Хрыста. І гэта падабалася не ўсім. Але Павел, ведаючы, што ён не зрабіў нічога благога, патрабаваў суду кесаравага. Разам з іншымі вязнямі яго пасылаюць у Рым, даручыўшы яго ахоўніку сотніку Юлію.

Плылі па моры. Узышлася вялікая бура. Сам карабель насіўся, аддаўшыся хвалям. Было небяспечна. На трэці дзень людзі павыкідалі з карабля ў мора ўсе рэчы. Але бура трывала многа дзён. Ва ўсіх не стала надзеі на выратаванне. Доўга ніхто нічога не еў. Тады Павел стаў паміж усімі і сказаў: «...Прашу вас падбадзёрыцца, бо з вас не загіне ніводная душа, толькі загіне карабель. Бо анёл Бога, да Якога я адношуся і Якому служу, з'явіўся мне гэтай ноччу і сказаў: "Не бойся, Павел! Табе трэба будзе стаяць перад кесарам, таму Бог дараваў табе ўсіх, хто з табою плыве". Таму падбадзёрцеся, мужы, бо я верую Богу, што будзе так, як мне сказана: нас выкіне на які-небудзь востраў».

На чатырнаццаты дзень карабельшчыкі заўважылі заліў, які меў адлогі бераг, і рашылі, калі будзе магчыма, прыстаць да яго з караблём. Падняўшы якар і малы ветразь, яны ўзялі напрамак да берага. І раптам карабель усеўся на мялізну. Нос карабля так ўграз, што карабель нельга было зрушыць з месца, а карму разбівалі хвалі, якія раз за разам на яе налятаді. Сотнік загадаў усім, хто можа, выплываць на бераг. Астатнім ратавацца на дошках або на чым-небудзь ад карабля. Такім чынам, дзвесце семдзесят шэсць чалавек, усе, хто быў на караблі, выратаваліся. Жыхары таго вострава прынялі іх з вялікім чалавекалюбствам. І Гасподзь праз апостала Паўла ўчыніў там нямала цудаў. Пасля трох месяцаў яны пераселі на александрыйскі карабель і працягвалі сваё падарожжа ў Рым. Перад адплыццём жыхары вострава надавалі ім усяго на дарогу, аказалі ім нямала павагі. І ўсё гэта дзякуючы апосталу Паўлу, бо ён лячыў астраўлянаў ад розных хваробаў.

Апостал Павел працаваў для Госпада. Ён знаходзіўся ў розных выпрабаваннях, і цвёрда верыў, што кожным крокам у яго жыцці кіруе вялікі і міласэрны Бог. У сваіх пісьмах да рымлянаў ён пісаў: «Тым, хто любіць Бога, і тым, хто пакліканы па Яго волі, усё кіруе к дабру». Так будзем жа і мы любіць Бога, на Яго ва ўсім спадзявацца. І нішто не парушыць вялікага дзівоснага шчасця і душэўнага спакою, якія мы знойдзем у нашага Госпада Ісуса Хрыста.

ДЗЕІ 25:1-12; 27:14-44; 28:1-11

## ПАВЕЛ У РЫМЕ

«Калі мы прыйшлі ў Рым», піша ўрач Лука, «перадаў вязняў сотнік военачальніку, а Паўлу дазвалялася жыць асобна з воінам, што быў на варце пры ім. Праз тры дні Павел паклікаў самых знатных іудзеяў... І назначыўшы дзень, нават многія прыйшлі да яго ў гасцініцу; ён ад раніцы да вечара тлумачыў ім вучэнне пра Царства Божае, сведчачы і пераконваючы іх у тым, што было ў законе Майсеевым і ў прароках. Адны пераконваліся яго словамі, а другія не верылі. Будучы між сабой нязгодныя, яны пакідалі Паўла, калі ён казаў ім такія словы: "Добра Дух Святы сказаў нашым бацькам праз прарока Ісаію: Схадзі да народу гэтага і скажы: слыхам пачуеце і не ўразумееце; і вачыма глядзецьмеце і не ўбачыце; бо агрубела сэрца гэтых людзей, і вушамі ледзь чуюць, і вочы свае заплюшчылі, хай не ўбачаць вачыма і не пачуюць вушамі, і не ўразумеюць сэрцам і не навернуцца, каб Я вылечыў іх. Дык вось хай вам будзе вядома, што выратаванне Божае язычнікам ёсць пасланае: яны і пачуюць". Калі ён гэта сказаў, іудзеі разышліся, спрачаючыся нямала між сабою. І жыў Павел два гады на сваім утрыманні (у Рыме), і сустракаўся з усімі тымі, што наведвалі, прапаведуючы Царства Божае: вучачы пра Госпада Ісуса Хрыста ва ўсякай небяспечнай адвазе».

Гэтыя словы і завяршаюць "Дзеі Апосталаў". Чытачы, відаць, цікавяцца, што было потым з апосталам Паўлам. Пра гэта дакладна нельга даведацца з Бібліі. З Пасланняў апостала Паўла да цэркваў і да служыцеляў, а таксама з іншых крыніц некаторыя робяць вывад, што Павел, адбыўшы два гады пад вартай, быў вызвалены з-пад яе, і, пакуль зноў не трапіў у турму, прапаведаваў Евангелле ў Італіі, Грэцыі і Малай Азіі. Павел, згодна з паданнем, памёр пакутніцкай смерцю пры імператары Нероне, які вынішчаў хрысціян у Рымскай імперыі.

ДЗЕІ 28:23-31

# ПІСЬМЫ АПОСТАЛАЎ

Адразу пасля смерці і ўваскрэсення Ісуса Хрыста Яго вучэнне – Евангелле – пачало хутка распаўсюджвацца спачатку ў Палесціне, а потым ва ўсёй Рымскай імперыі і ў краінах Блізкага Ўсходу і ўрэшце на цэлым свеце. Апосталы, гэта значыць, выбраныя асобна вучні Ісуса Хрыста і іншыя вучні хадзілі па розных гарадах і краінах і прапаведавалі слова Божае. Гасподзь падмацоўваў пропаведзь цудамі. Калі вучні маліліся Богу ў імя Ісуса Хрыста, хворыя вылечваліся, кульгавыя аздараўляліся і нават вярталіся да жыцця памерлыя. Слова Божае прыставала да людскіх сэрцаў. Людзі пакідалі назаўсёды свае грахоўныя шляхі. Хрысціян праследавалі і гналі. Але вера ў Ісуса Хрыста была мацнейшая за самыя лютыя ганенні.

Каб падмацаваць веру ў Хрыста, апосталы для цэркваў пісалі пісьмы. Яны называліся "Пасланнямі". Некаторыя Пасланні былі кароткія, прыблізна ў адну старонку, а некаторыя, як, напрыклад, "Пасланне да Рымлян", вельмі доўгія. Адныя былі напісаны ўсім хрысціянам, як Пасланне Якава, Пятра, Іаана і Іуды, а другія (Пасланні Паўла) – асобным цэрквам і асобам.

Апостал Павел некаторыя Пасланні напісаў тады, калі сядзеў у турме за Слова Божае. "*Я пакутую і пакутую нават да кайданаў, як злодзей, але для Слова Божага кайданаў няма*", – пісаў апостал Павел свайму другу Цімафею (2 Цім. 2:8).

У Новым Запавеце маецца ўсяго дваццаць адно Пасланне. Яны былі напісаны пад уплывам і кіраўніцтвам Святога Духа Божага. Разам з астатнімі часткамі Бібліі, гэта значыць, Свяшчэннага Пісання, яны з'яўляюцца СЛОВАМ БОЖЫМ. Першыя хрысціяне пра гэта выдатна ведалі. Яны старанна перапісвалі адно за другім Пасланні, чыталі іх у цэрквах і дамах сваім дзецям, паказвалі сябрам, дарылі іх і такім чынам распаўсюджвалі Божае Слова.

У старажытнасці ”Біблейскіх Таварыстваў”, гэта значыць, арганізацый, якія ў цяперашні час друкуюць і распаўсюджваюць Свяшчэннае Пісанне, вядома, не было. Людзі перапісвалі Слова Божае ад рукі. Яны перапісвалі або асобныя часткі Новага Запавета, напрыклад, Евангелле паводле Іаана, увесь Новы Запавет, або і нават Біблію цалкам. А на перапіску больш тысячы старонак Старога Запавету і некалькіх сотняў старонак Новага Запавету патрэбна было нямала часу. Яны пісалі на папірусе, гэта значыць, прыдатным для напісання матэрыяле з вырабленай травяністай расліны і на пергамеце, гэта значыць, на адпаведна апрацаванай скуры.

Змест Пасланняў, безумоўна, тут цяжка апісаць у скарочанай форме. Кожнае Пасланне ўключае вялікія ісціны, якія Бог, дзякуючы гэтым Пасланням, даносіць людзям. Вось некаторыя галоўныя думкі Пасланняў:

Вера і справы (Пасланне Якава). Як мы павінны цярпліва пераносіць пакуты (1 Пятра). Як быць чыстым і верным у дні гвалту і адступніцтва (2 Пятра). Гасціннасць (3 Іаана). Як захаваць веру і захаваць сябе ад заняпаду (Іуды). Апраўданне вераю (Рымлянам). Хрыстос ёсць Гасподзь (1Карынфянам). Выратаванне праз Хрыста, а не праз выкананне закона (Галатам). Аб Хрыстовай царкве (Эфесянам). Хрысціянскае адзінства (Філіпійцам). Слава і велічнаць Хрыста (Каласянам). Гасподзь Ісус Хрыстос прыйдзе зноў на зямлю (1 і 2 Фесаланікійцам). Вернасць Гасподнім справам і адданасць Госпаду (1 і 2 Цімафею). Прэсвітарам цэркваў неабходна быць прыкладам у святым жыцці (Ціту). Неабходна дараваць адзін аднаму (Філімону). Старадаўні Ізраільскі народ і **Закон**, і Новы духоўны Ізраіль і **літасць** Божая (Яўрэям).

Пасланні з'яўляюцца вельмі важнымі часткамі Бібліі. Каб іх разумець, трэба чытаць іх павольна. Чытай Слова Божае з любоўю. Маліся Госпаду, і Ён дапаможа табе зразумець Яго Свяшчэннае Слова.

# ПАСЛАННЕ ЯКАВА

У пасланні Якава ёсць шмат кароткіх і глыбокіх выслоўяў, напрыклад – **пра свецкае багацце**: «Узыходзіць сонца, настае спёка, і спёка высушвае траву, краска яе ападае, знікае яе хараство; так засыхае і багаты ў сваіх пачынаннях; – **пра спакушэнні**: «Шчасны той чалавек, які вытрывае спакусы, бо пасля выпрабавання ён атрымае вянок жыцця, які і абяцаў Гасподзь тым, хто любіць Яго»; – **пра гнеў**: «Дык вось, братове мае любасныя, кожны чалавек няхай будзе борзды паслухаць, марудлівы ў словах, марудлівы ў гневе, бо гнеў чалавечы не творыць Божае праўды»; – **пра выкананне Слова Божага**: «Будзьце ж выканаўцамі слова, а не слухачамі толькі, што ашукваюць самі сябе; – **пра мёртвую веру**: «Так і вера, калі не мае дзеяў, мёртвая сама ў сабе... Бо, як цела без духу мёртвае, так і вера без дзеяў мёртвая»; – **пра грэх языка**: «Гэтаксама і язык невялікі член, але робіць многае. Паглядзіце, невялікі агонь як многа паліва паліць... Хіба цячэ з адное крыніцы салодкая і горкая вада?»

– **пра мірскі роздум**: «...дружба са светам ёсць варожасць да Бога! Дык вось, хто хоча быць сябрам свету, той робіцца ворагам Богу... Дык вось, хто ўмее рабіць дабро і не робіць, на тым грэх»; – **пра клятву**: «Але найперш, братове мае, не прысягайце ані небам, ані зямлёю, ані якою іншай кляцьбою, а хай будзе ў вас: ”так-так” і ”не-не”, каб вам не падупасці асудзе»; – **пра хворых**: «Занядужаў хто з вас, хай пакліча прэсвітэраў Царквы, і хай памоляцца над ім, намасціўшы алеем яго ў імя Гасподняе; – і малітва веры вылечыць хворага, і падыме яго Гасподзь, і калі саграшыў ён, даруецца яму»; – **пра малітву**: «Прызнавайцеся адзін аднаму ва ўчынках і маліцеся адзін за аднаго, каб аздаравіцца: бо сіла вельмі магутная ёсць шчырая малітва праведніка; – **пра любоў да таго, хто заблудзіўся**: «Братове, калі з вас хто збочыць ад праўды, і яго хтось наверне, хай ведае, што грэшніка навярнуў з яго аблуднай дарогі, той душу яго ратуе ад смерці і безліч грахоў пакрывае».

## ДВА ПАСЛАННІ АПОСТАЛА ПЯТРА

Пётр быў адзін з дванаццаці апосталаў Ісуса. Ён напісаў пасланні. Яны адрасаваны хрысціянскім цэрквам у Малай Азіі, што на тэрыторыі сучаснай Турцыі. Ёсць здагадкі, што Першае Пасланне было напісана Пятром у час вялікіх ганенняў на хрысціян, каб іх падбадзёрыць. У той час хрысціян мучылі і забівалі. У Рымскай імперыі вялі палітыку на знішчэнне хрысціянства, асабліва пры Нероне ў 64-67 гг. пасля нараджэння Хрыста.

У Першым Пасланні да сваіх хрысціянскіх братоў і сёстраў Пётр піша: «Ведаючы, што не прахлым срэбрам ці золатам *адкуплены* вы ў марнага жыцця, перададзенага вам ад бацькоў, а *каштоўнай Крывёю Хрыста*, як беспахібнага і чыстага Ягняці... Бо кожнае цела – быццам трава, і ўсякая слава людская – як травяная краска: засохне трава – і краска апала; а *слова Гасподняе вечна жыве*. А гэта ёсць тое слова, якое вам у Евангеллі ўзвешчана... прашу вас, любасныя, як прышэльцаў і вандроўнікаў, *устрымлівацца ад цялесных пахацінстваў*, што паўстаюць супроць душы, і жыць дабрадзейна сярод язычнікаў. ...Ён (г. зн. Ісус) Целам Сваім Сам узнёс грахі нашыя на дрэва, каб мы, адцураўшыся ад грахоў, жылі дзеля праўды: *ранамі ягонымі вы аздаравіліся*. Бо блукалі вы як авечкі заблуканыя без пастуха, а цяпер вярнуліся да Пастыра і Апекуна душ вашых. ...*не плаціце злом за зло*, альбо лаянкай за лаянку; наадварот, багаслаўляйце, ведаючы, што вы на тое пакліканы, каб успадчынніць багаславенне... Госпада Бога свяціце ў сэрцах вашых... ...*Хрыстос*, каб прывесці нас да Бога, аднаго разу *пацярпеў за грахі нашыя*, праведны за няправедных, хоць і забіты целам, але духам ажыўлены... Калі клянуць вас за імя Хрыстовае, дык вы шчасныя, бо Дух славы, Дух Божы, спачывае на вас. Толькі каб ніхто з вас не пацярпеў як забойца, альбо злодзей, альбо злачынец, а калі *як Хрысціянін, дык не саромейся*, а ўслаўляй Бога за такую долю».

Згодна з паданнем, Пётр быў асуджаны на смерць і па яго жаданні крыжавалі яго галавою ўніз – ён палічыў сябе нягодным быць крыжаваным так, як і Гасподзь Ісус Хрыстос.

# ТРЫ ПАСЛАННІ АПОСТАЛА ІААНА

Паводле старадаўніх меркаванняў і сведчанняў, апостал і евангеліст Іаан Багаслоў напісаў тры пасланні. Адным ключавым словам ва ўсіх трох пасланнях, як і ў Евангеллі паводле Іаана, з'яўляецца слова «любоў». У Першым Пасланні Іаана галоўная думка засяроджана ў словах: любоў, жыццё з Богам, радасць, перамога, бяспека, сэнс жыцця. У гэтым пасланні Хрыстос 21 раз называецца Сынам Божым і 12 разоў Бог называецца Айцом. «Пра тое, што бачылі мы і што чулі, узвяшчаем вам, каб і вы мелі супольнасць з намі; а нашая супольнасць – з Айцом і Сынам Яго, Ісусам Хрыстом». – *Быць у святле*: «Калі ходзім у святле, як Ён у святле, дык маем супольнасць адзін з адным, і Кроў Ісуса Хрыста, Сына Яго, ачышчае нас ад усякага грэху... Хто кажа, што жыве ён у святле, а ненавідзіць брата свайго, той яшчэ ў цемры». – *Адносіны да зямнога*: «Не любіце зямнога, ні таго, што ў зямным. Хто любіць зямное, у тым няма любові Ойчай. Бо ад зямнога ж усё: пажада плоці, пожадзь вачэй і пыха жыццёвая, не ёсць ад Айца, а ёсць ад зямнога. І зямное мінаецца, і яго пажадлівасць, а той, хто выконвае волю Божую, жыве вечна». – *Антыхрыст*: «Хто ілжэц, як не той, хто адмаўляе, што Ісус ёсць Хрыстос? Той – антыхрыст, хто выракаецца Айца і Сына. Кожны, хто адракаецца ад Сына, не мае і Айца; а хто вызнае Сына, мае і Айца». – *Ісус Збавіцель*: «І вы ведаеце, што Ён з'явіўся, каб грахі нашыя ўзяць, і што ў Ім няма грэху. Кожны, хто ў Ім застаецца, не грэшыць». – *Любоў*: «Любоў нам адкрылася праз тое, што Бог паслаў у свет адзінароднага Сына Свайго, каб мы атрымалі жыццё праз Яго... *Бог ёсць любоў*, і хто застаецца ў любові, той застаецца ў Бозе, і Бог у ім... Будзем любіць Яго, бо Ён раней палюбіў нас... Кожны, хто верыць, што Ісус ёсць Хрыстос, нарадзіўся ад Бога... ...Бо гэта ёсць любоў да Бога, каб мы трымаліся запаведзяў Ягоных. І запаведзі Яго не цяжкія». – *Ілжэпрарокі*: «Духа Божага (і духа аблуды) пазнавайце так: кожны дух, які вызнае Ісуса Хрыста, што прыйшоў у плоці, ёсць ад Бога; а кожны дух, які не вызнае Ісуса Хрыста, што прыйшоў у плоці, не ёсць ад Бога, а гэта дух антыхрыста...» – *Вечнае жыццё*: «Гэта напісаў я вам, хто верыць у імя Сына Божага, каб ведалі вы, што вы, веруючы ў Сына Божага, маеце жыццё вечнае».

# ПАСЛАННЕ ІУДЫ

Усімі прызнаецца, што пасланне гэта напісаў Іуда, які прыгадваецца ў Евангеллі паводле Мацвея (13:55).

Іуда ўгаворвае хрысціян «працаваць на карысць веры, якую перадалі аднойчы святым». На прыкладах са Старога Запавета Іуда перасцерагае верных, каб яны не пераймалі гнюсных спраў адступнікаў: «Я хачу нагадаць вам, хто ўжо ведае, што Гасподзь, вызваліўшы народ з зямлі Егіпецкай, пагубіў потым тых, што не веравалі, і анёлаў, якія не захавалі сваёй годнасці і пакінулі сваё жытло, Ён трымае ў вечных кайданах пад цемрывам на суд вялікага дня. Як Садом і Гамора і навакольныя гарады, што, падобна да іх, блудадзейнічалі і ўганяліся за іншаю плоццю, будуць пакараныя агнём вечным, пастаўлены ў прыклад, – гэтаксама будзе і з гэтымі летуценнікамі, якія апаганьваюць плоць, адкідаюць начальствы і зласловяць высокія ўлады... А гэтыя ганьбуюць тое, чаго не ведаюць; а што ведаюць з прыроды, як бязмоўныя жывёлы, тым і псуюць сябе...»

Супроць ставячы гэты бязбожны шлях, Іуда навучае, як жыць і вераваць: «Але вы, любасныя, грунтуючыся на веры вашай найсвяцейшай, молячыся Духам Святым, захоўвайце сябе ў любові Божай, чакаючы міласэрнасці ад Госпада нашага Ісуса Хрыста на вечнае жыццё. І да адных будзьце літасцівыя, з разважлівасцю, а другіх страхам ратуйце, богабаязнасцю ратуйце, вырываючы з агню, выкрывайце са страхам, пагарджаючы нават вопраткаю, якая апаганена целам».

Канчаецца пасланне прыгожымі словамі, якімі ўслаўляецца Бог: «А таму, хто захоўвае вас ад падзення і паставіць вас перад славаю Сваёю беспахібнымі ў радасці, адзінаму прамудраму Богу, Збавіцелю нашаму, праз Ісуса Хрыста Госпада нашага, слава і веліч, сіла і ўлада перад усімі вякамі сёння і навекі. Амін».

# ПАСЛАННЕ ІУДЫ

# ПАСЛАННЕ АПОСТАЛА ПАЎЛА

У Новы Запавет уваходзяць і 13 пасланняў апостала Паўла да хрысціян, якія жывуць у гарадах Рыме, Карынфе, Эфесе, Філіпах, Калосах, Фесалоніках і ў вобласці Галатыі, а таксама да прыватных асоб: Цімафея, Ціта і Філімона. (Лічыцца, што Паўлам было напісана і "Пасланне да Яўрэяў".)

Пасланні Паўла складаюць чацвёртую частку Новага Запавету. Перадаць усё багацце Слова Божага, заключанага ў гэтых пасланнях, проста немагчыма. Таму мы абмяжуемся толькі некалькімі ўрыўкамі з іх:

## ЛЮБОЎ

«Бог – ёсць любоў!» – навучае Слова Божае. Любоў – гэта сутнасць вучэння Ісуса Хрыста. Ісус сказаў: «"Любі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душою тваёю, і ўсім разуменнем тваім". Гэта ёсць і першая і найвялікшая запаведзь; другая ж – ёй падобная: "Любі блізкага твайго, як самога сябе"; на гэтых дзвюх запаведзях грунтуецца ўвесь закон і прарокі» (Мацвея 22:37-40).

А ў другім месцы Бібліі Ісус так мовіць аб любові Божай: «Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына Свайго адзінароднага, каб кожны той, хто ўверуе ў Яго, не загінуў, а меў жыццё вечнае» (Іаан 3:16).

У Першым Пасланні да Карынфянаў апостал Павел піша аб любові так:

«Калі я гавару мовамі чалавечымі і анёльскімі, а любові не маю, то я – медзь звонкая альбо гулкі бубен.

І калі я маю дар прарочы, і зведаў усе тайны, і маю розныя веды і ўсю да астатку веру, што аж магу пераставіць горы, а любові не маю, – то я нішто.

І калі я раздам увесь мой маёнтак і цела маё аддам на спаленне, а любові не маю, то няма мне ў гэтым ніякай карысці.

МАЦВЕЙ 22:37-40; ІААН 3:16; 1 КАР. 13:4-13

## *ЛЮБОЎ*

*«Любоў церпіць доўга,*
*мілажаліць,*
*любоў не зайздросіць,*
*любоў не ўзвялічвае сябе,*
*не выстаўляецца,*
*не бушуе,*
*не шукае свайго,*
*не раздражняецца,*
*не назапашвае зла,*
*не радуецца няпраўдзе,*
*а радуецца праўдзе;*
*усё пакрывае,*
*усяму верыць,*
*заўсёды спадзяецца,*
*усё пераносіць.*
*Любоў ніколі не мінаецца...*
*А цяпер суіснуюць гэтыя тры:*
*вера, надзея, любоў;*
*але любоў за іх большая».*

1 Кар. 13:4-13.

# СПРАВЫ ПЛОЦКІЯ І ПЛАДЫ ДУХОЎНЫЯ

Наш Гасподзь Ісус Хрыстос сказаў Сваім вучням: «Я ёсць Лаза, а вы галіны. Хто ўва Мне прабывае, і Я ў ім, той шмат прыносіць пладоў, бо без Мяне не здолееце зрабіць нічога». Калі ў нас ёсць жывая сувязь з Госпадам Ісусам і захоўваем Яго ў сэрцы нашым, тады мы як галіны вінаграднай лазы, прыносім нямала пладоў. Ісус прыводзіў Сваім вучням і такі прыклад: «Сцеражыцеся ілжывых прарокаў, якія прыходзяць да вас у авечым убранні, а ўнутры ваўкі драпежныя, па пладах іх пазнаеце іх. Ці збіраюць з цярноўніку вінаград або з бабоўніку смоквы? Так усякае дрэва добрае прыносіць і плады добрыя, а дрэва благое прыносіць і плады благія».

У Пасланні да Галатаў апостал Павел прыгадвае некаторыя «справы плоці» і «плады духу»: «*Справы плоці* вядомы; яны ёсць:

| | |
|---|---|
| пралюбадзейства, | гнеў, |
| распуста, | сварка, |
| нячыстасць, | рознагалоссе |
| непатрэбства, | (спакусы), |
| ідаласлужэнне, | ерасі, |
| чарадзейства, | нянавісць, |
| варожасць, | забойства, |
| спрэчкі, | п'янства, |
| зайздрасць, | бясчынства і таму падобнае. |

Папярэджваю вас, як і раней папярэджваў, што той, хто так робіць, Царства Божага не мае.

*А плод духу:*

| | |
|---|---|
| любоў, | міласэрнасць, |
| радасць, | вера, |
| мір, | паблажнасць, |
| доўгацярпенне, | стрыманасць». |

Было б добра знаць на памяць гэты спісак пладоў духу.

ПАСЛАННЕ ДА ГАЛАТАЎ 5:19-23; ІААН 15:5-6

# ЦІМАФЕЙ – МАЛАДЫ ХРЫСЦІЯНІН

Ў час другога місіянерскага падарожжа апостал Павел па дарозе ад Дэрвіі да Лістры спаткаўся з маладым хрысціянскім вучнем Цімафеем. Маці яго, Еўніка, была яўрэйка, якая верыла ў Ісуса, а бацька быў грэк. Яго бабуля Лаіда была веруючая. Браты-хрысціяне сведчылі, што Цімафей верыць Богу, і Павел узяў яго з сабой у місіянерскае падарожжа. Цімафей, як і евангеліст Лука, стаў пастаянным спадарожнікам апостала Паўла і пабываў з ім у Македоніі, Грэцыі, Малай Азіі і нават у Рыме. Паводле падання Цімафей пасля пакарання смерцю Паўла ў Рыме ўзначаліў шматлікую Эфескую царкву. Ён, як мучанік, нямала выцерпеў у часы Нерона і ў часы Даміцыяна.

Павел напісаў два пасланні да Цімафея. Тут немагчыма пералічыць усе галоўныя думкі гэтых пасланняў. Вось некаторыя з іх, узятыя з Першага Паслання да Цімафея: – *Малітва за ўсіх людзей*: «І вось, перш-наперш прашу ўзносіць малітвы і ўчыняць прашэнні, малебны, надзякаванні за ўсіх людзей, за цароў і за ўсе ўлады, каб нам весці жыццё ціхае і бестурботнае ў богабаязнай набожнасці і чыстасці, бо гэта добра і даспадобы Збавіцелю нашаму Богу». Гэта напісаў Павел пры цары Нероне, які фанатычна гнаў хрысціян. – *Сатанінскія вучэнні*: «А Дух ясна гаворыць, што апошнім часам адступяцца некаторыя ад веры і прыстануць да спакуслівых духаў і дэманскіх вучэнняў». – *Багацце*: «Бо корань усякага ліха ёсць срэбралюбства, аддаўшыся якому, некаторыя збочылі ад веры і самі сябе запамарочылі горкай журбою. А ты, чалавеча Божы, пазбягай гэтага, а май вялікі поспех у праўдзе, добрай годнасці, веры, любові, цярплівасці, лагоднасці». – *Добры подзвіг веры*: «Пасабляй добрым подзвігам веры, здабывай жыццё вечнае, да якога ты пакліканы, і вызнай добрае вызнанне перад многімі сведкамі». – *Добры служыцель*: «А недарэчных і бабскіх баек цурайся, а ўдасканальвай сябе ў богабаязнасці... Будзь узорам верным у слове, у жыцці, у любові, у духу, у веры, у чыстасці... займайся чытаннем, настаўленнем, вучэннем».

Дапускаюць, што Павел напісаў Другое Пасланне да Цімафея ў той час, калі ён сядзеў у турме і чакаў пакарання пры Нероне. Павел піша: «Подзвігам добрым я змагаўся, бег свой закончыў, веру захаваў; а цяпер рыхтуецца мне вянок праўды, які дасць мне Гасподзь, Суддзя справядлівы, у дзень той; і не толькі мне, але і ўсім, што любасна чакаюць прышэсця Ягонага».

## «АДЗІН ГАСПОДЗЬ, АДНА ВЕРА, АДНО ХРЫШЧЭННЕ» ВЕРШЫ З ПАСЛАННЯЎ

«*Усе саграшылі і пазбаўлены хвалы Божай* (Рымлянам 3:23)

«...*Расплата за грэх – смерць, а дар Божы – жыццё вечнае ў Хрысце Ісусе, Госпадзе нашым*» (Рымлянам 6:23)

«...*Адзіны Бог, адзіны і пасрэднік паміж Богам і людзьмі, чалавек Ісус Хрыстос*» (1-е Цімафею 2:5)

«...*Хрыстос памёр за грахі нашыя...*» (1-е Карынфянам 15:3)

«...*Калі вуснамі тваімі будзеш вызнаваць Ісуса Госпадам і сэрцам вераваць, што Бог уваскрэсіў яго з памерлых, то выбавішся*» (Рымлянам 10:9)

«...*Слова пра крыж тым, што гінуць, – гэта юродства, а нам, ратаваным – сіла Божая*» (1-е Карынфянам 1:18)

«*Бадзёрцеся, стойце у веры, будзьце мужныя і цвёрдыя*» (1-е Карынфянам 16:13)

«...*Я не саромеюся звеставання Хрыстовага, бо яго сіла Божая на збаўленне кожнаму, хто верыць...*» (Рымлянам 1:16)

«*Не ашуквайцеся: Бог пасаромлены не бывае. Што пасее чалавек, тое пажне*» (Галатам 6:7)

«*Усякая плоць – як трава, і ўсякая слава людская – як на траве кветка, высахла трава, і кветка яе апала*» (1-е Пятра 1:24)

«...*Усім нам трэба явіцца перад судовым прастолам Хрыстовым, каб кожнаму атрымаць паводле таго, што ён рабіў, жывучы ў целе, добрае ці благое*» (2-е Карынфянам 5:10)

«*Дык вось, кожны з нас за сябе зробіць справаздачу перад Богам*» (Рымлянам 14:12)

«...*Сёння, калі пачуеце голас Яго, не збязлітуйцеся сэрцамі вашымі...*» (Яўрэям 3:15)

«*Адзін Гасподзь, адна вера, адно хрышчэнне*» (Эфесянам 4:5)

# АДКРЫЦЦЁ ІААНА

Зямля, на якой мы жывём, не будзе існаваць вечна. У многіх месцах Бібліі можна пра гэта прачытаць прарочыя словы, але асабліва многа напісана пра гэта ў «Адкрыцці Іаана», г. зн. у апошняй частцы Бібліі.

Іаан быў адзін з дванаццаці апосталаў Ісуса Хрыста. Ён быў таксама самы малодшы апостал. Паводле паданняў першых хрысціян, усе апосталы, апрача Іаана, памерлі пакутніцкай смерцю. Але ж Іаан таксама адпакутаваў за Хрыста. Калі ён быў у ссылцы на грэчаскім востраве Патмос, з'явіўся яму Гасподзь і сказаў: «*...Я ёсць Альфа і Амега, першы і апошні, тое, што бачыш, напішы ў кнігу і пашлі цэрквам...*» (Адкрыццё 1:10-11).

У гэтай кнізе прароцтва і падзеі апошніх дзён пададзены галоўным чынам сімвалічна: напрыклад, пісьмы да сямі цэркваў, сем пячатак, чатыры верхаўцы, сем труб, сем чашаў гневу Божага, Армагедон, кніга жыцця, лік звера – 666, Вавілон – вялікая блудадзейка, звер з сямю галавамі і дзесяццю рагамі, дзесяць цароў, тысячагадовае царства, Новы Іерусалім... каштоўныя камяні, дрэва жыцця...

Адкрыццё Іаана – гэта глыбокія тайны. Аднак адно зусім высветлена: Гасподзь Ісус Хрыстос зноў прыйдзе на зямлю. Ён будзе судзіць свет. Яго чакалі першыя хрысціяне, Яго чакаем і мы.

Прачытаем адно пісьмо да сямі цэркваў. Гэтыя сем цэркваў існавалі ў тыя часы, калі Іаан пісаў сваё "Адкрыццё", аднак пісьмы адкрываюць нам і будучае становішча хрысціянскай царквы і яе членаў па веры. Можа быць, некаторыя словы гэтага пісьма ў роўнай меры адносяцца як да мяне, так і да цябе.

## «СТАЮ ЛЯ ДЗВЯРЭЙ І СТУКАЮ»

*«Вось, што кажа амін, сведка верны і праўдзівы, пачатак тварэння Божага. Ведаю дзеі твае: Ты ні халодны, ні гарачы: о, калі б ты быў халодны альбо гарачы! Але як што ты цёплы, а не гарачы і не халодны, дык выкіну цябе з вуснаў Маіх. Бо ты кажаш: "Я багаты, разбагацеў і ні ў чым не маю патрэбы"; а таго не ведаеш, што няшчасны ты, жалю варты, і гаротны і сляпы і голы. Раю табе купіць у Мяне золата агнём ачышчанае, каб табе разбагацець, і белую вопратку, каб апрануцца і каб не было відно сораму галізны тваёй, і масцю вочы твае намаж, каб бачыць. Каго Я люблю, тых дакараю і караю. Дык вось, будзь руплівы і пакайся.*

*Вось стаю каля дзвярэй і стукаюся, калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы, увайду да яго і павячэраю з ім, і ён са Мною.*

*Пераможцу дам сесці са Мною на прастоле Маім, як і Я перамог і сеў з Айцом Маім на прастоле Яго. Хто мае вуха, хай чуе, што цэрквам Дух кажа».*

АДКРЫЦЦЁ 3:14-22

## «НОВАЕ НЕБА І НОВАЯ ЗЯМЛЯ»

Некалькі апошніх урыўкаў з "Адкрыцця Іаана" даюць карціну сімвалічнага апісання апошняга суду, новага неба і новай зямлі:

«І я ўгледзеў вялікі белы прастол і Таго, Хто сядзеў на ім, ад аблічча Якога ўцякала неба і зямля, і не знайшлося ім месца. і ўгледзеў я мёртвых, малых і вялікіх, якія стаялі перад Богам, і кнігі былі разгорнутыя; і другая кніга была разгорнутая, якая ёсць кніга жыцця, і былі суджаны мёртвыя, згодна з напісаным у кнігах, паводле ўчынкаў сваіх. Тады аддало мора мёртвых, што былі ў ім, і смерць і пекла аддалі мёртвых, якія былі ў іх; і суджаны быў паводле ўчынкаў сваіх...

І я ўгледзеў новае неба і новую зямлю, бо ранейшае неба і ранейшая зямля мінуліся, і мора ўжо няма. І я, Іаан, угледзеў святы горад, новы Іерусалім, які сыходзіў з неба ад Бога, падрыхтаваны, як нявеста, убраная для мужа свайго. І я пачуў гучны голас з неба, які казаў: «Вось скінія Бога з людзьмі, і Ён жыць будзе з імі; яны будуць Яго народам, і Сам Бог будзе з імі іх Богам, і ўтрэ кожную слязіну з вачэй іхніх, і смерці не будзе ўжо; ні плачу, ні ляманту, ні хворасці ўжо не будзе, бо ранейшае прамінула».

І сказаў Той, Хто сядзеў на прастоле: «Вось твару ўсё новае». І кажа мне: «Напішы, бо словы гэтыя праўдзівыя і верныя». І сказаў мне: «Спраўдзілася!»

Я ёсць Альфа і Амега, пачатак і канец; сасмягламу дам задарма Я з крыніцы жывой вады; пераможца ўспадчынніць усё, і буду яму Богам, і ён будзе Мне сынам; баязлівым і няверным, і мярзотным, і душагубам, і распуснікам, і чарадзеям, і ідаласлужкам, і ўсім ашуканцам – іх доля ў возеры, якое гарыць агнём і серкаю; гэта – смерць другая...

«І горад не мае патрэбы ні ў сонцы, ні ў месяцы для асвячэння свайго, бо слава Божая асвяціла яго і свяцільнік яго – Агнец. І не ўвойдзе ў яго нішто нячыстае, і ніхто, аддадзены мярзоце і хлусні, а толькі тыя, якія запісаны ў Агнца ў кнізе жыцця».

АДКРЫЦЦЁ 20:11-13; 21:1-8, 23, 27

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА БІБЛІІ

Свяшчэннае Пісанне, Біблія, канчаецца старонкамі, на якіх даецца ўпамінанне пра другое, або будучае прышэсце Сына Божага, Ісуса Хрыста. Прачытаем апошні ўрывак з ”Адкрыцця Іаана” – апошняй старонкі Біблії:

«І сказаў мне: не запячатвай слоў прароцтва кнігі гэтай; бо час блізкі. Няправедны, хай яшчэ робіць няпраўду; нячысты хай яшчэ апаганьваецца; праведны хай чыніць праўду яшчэ, і святы хай асвячаецца яшчэ. Вось, прыйду неўзабаве, і адпомста Мая са Мною, каб аддаць кожнаму паводле ўчынкаў ягоных.

Я ёсць Альфа і Амега, пачатак і канец, першы і апошні. Шчасныя тыя, якія захоўваюць запаведзі Яго, каб мець ім права на дрэва жыцця і ўвайсці ў горад варотамі. А звонку – сабакі і чарадзеі, і блудадзеі і душагубы, і ідалаўслужнікі і кожны, хто любіць і чыніць няпраўду.

Я, Ісус, паслаў Анёла Майго засведчыць вам гэта ў цэрквах. Я ёсць корань і нашчадак Давідаў, зорка светлая, золкавая. І Дух і нявеста кажуць: «Прыйдзі!»

Спрагнены хай прыходзіць, а сасмяглы няхай бярэ ваду жыцця задарам.

І я таксама сведчу кожнаму, хто чуе словы прароцтва кнігі гэтай: калі хто дадасць да іх, на таго накладзе Бог кары, пра якія напісана ў кнізе гэтай. І калі хто адыме што ад слоў кнігі прароцтва гэтага, у таго адбярэ Бог удзел у кнізе жыцця і ў святым горадзе, і ў тым, што напісана ў кнізе гэтай... Той, хто сведчыць гэта, кажа: «Праўда прыйду неўзабаве! Амін».

Праўда, прыйдзі, Госпадзе Ісусе! Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста з усімі вамі. Амін».

АДКРЫЦЦЁ 22:10-21

Καὶ λέγει μοι, "Μὴ σφραγίσῃς τοὺς λόγους τῆς προφητείας τοῦ βιβλίου τούτου, ὁ καιρὸς γὰρ ἐγγύς ἐστιν.

Ὁ ἀδικῶν ἀδικησάτω ἔτι, καὶ ὁ ῥυπαρὸς ῥυπαρευθήτω ἔτι, καὶ ὁ δίκαιος δικαιοσύνην ποιησάτω ἔτι, καὶ ὁ ἅγιος ἁγιασθήτω ἔτι."

"Ἰδού, ἔρχομαι ταχύ, καὶ ὁ μισθός μου μετ᾽ ἐμοῦ, ἀποδοῦναι ἑκάστῳ ὡς τὸ ἔργον ἔσται αὐτοῦ. Ἐγὼ τὸ Ἄλφα καὶ τὸ Ὦ, ὁ Πρῶτος καὶ ὁ Ἔσχατος, ἡ Ἀρχὴ καὶ τὸ Τέλος.

"Μακάριοι οἱ ποιοῦντες τὰς ἐντολὰς αὐτοῦ, ἵνα ἔσται ἡ ἐξουσία αὐτῶν ἐπὶ τὸ ξύλον τῆς ζωῆς, καὶ τοῖς πυλῶσιν εἰσέλθωσιν εἰς τὴν πόλιν. Ἔξω οἱ κύνες καὶ οἱ φάρμακοι καὶ οἱ πόρνοι καὶ οἱ φονεῖς καὶ οἱ εἰδωλολάτραι καὶ πᾶς ὁ φιλῶν καὶ ποιῶν ψεῦδος.

"Ἐγὼ Ἰησοῦς ἔπεμψα τὸν ἄγγελόν μου μαρτυρῆσαι ὑμῖν ταῦτα ἐπὶ ταῖς ἐκκλησίαις. Ἐγώ εἰμι ἡ Ῥίζα καὶ τὸ Γένος Δαβίδ, ὁ Ἀστὴρ ὁ λαμπρὸς ὁ πρωϊνός."

Καὶ τὸ Πνεῦμα καὶ ἡ νύμφη λέγουσιν, "Ἔρχου!" Καὶ ὁ ἀκούων εἰπάτω, "Ἔρχου!" Καὶ ὁ διψῶν ἐρχέσθω. Ὁ θέλων, λαβέτω ὕδωρ ζωῆς δωρεάν.

Μαρτυρῶ ἐγὼ παντὶ τῷ ἀκούοντι τοὺς λόγους τῆς προφητείας τοῦ βιβλίου τούτου, ἐάν τις ἐπιθῇ ἐπ᾽ αὐτά, ἐπιθήσαι ὁ Θεὸς ἐπ᾽ αὐτὸν τὰς πληγὰς τὰς γεγραμμένας ἐν τῷ βιβλίῳ τούτῳ. Καὶ ἐάν τις ἀφέλῃ ἀπὸ τῶν λόγων τοῦ βιβλίου τῆς προφητείας ταύτης, ἀφέλοι ὁ Θεὸς τὸ μέρος αὐτοῦ ἀπὸ τοῦ ξύλου τῆς ζωῆς καὶ ἐκ τῆς Πόλεως τῆς Ἁγίας, τῶν γεγραμμένων ἐν τῷ βιβλίῳ τούτῳ.

Λέγει ὁ μαρτυρῶν ταῦτα, "Ναί, ἔρχομαι ταχύ." Ἀμήν. Ναί, ἔρχου, Κύριε Ἰησοῦ.

Ἡ χάρις τοῦ Κυρίου Ἰησοῦ Χριστοῦ μετὰ πάντων τῶν ἁγίων. Ἀμήν.

Αποκαλυψις 22:10-21

## «НАВУЧЫЦЕ ЎСЕ НАРОДЫ»

Развітваючыся са сваімі вучнямі, яшчэ да ўзнясення на неба, наш Збавіцель сказаў: «Дадзена Мне ўсякая ўлада на небе і на зямлі; дык вось, ідзіце, навучыце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам: і вось Я з вамі ва ўсе дні аж да скончэння веку. Амін».

Розныя месцы Евангелля наводзяць нас на думку, што Гасподзь любіць усе народы і хоча выратаваць іх ад згубы. Вось што пра гэта напісана на старонках Свяшчэннага Пісання:

«...Таму што Ты (*г. зн. Збавіцель Ісус Хрыстос*) быў заколаты і крывёю Сваёю Ты выкупіў нас Богу з кожнага калена, і роду, і народу і племені...»

«Пасля гэтага зірнуў я, і вось вялікае мноства людзей, якіх ніхто палічыць не мог, з усіх плямёнаў і каленаў, і народаў, і родаў стаяла перад прастолам і перад Агнцам у белых шатах і з пальмавымі галінкамі ў руках сваіх...»

«...І ўбачыў я іншага анёла, які ляцеў пасярэдзіне неба, які меў вечнае Евангелле, каб звеставаць насельнікам зямлі і кожнаму племені і калену, і роду, і народу...»

Дык вось, дарагі чытач, ты дарагі Госпаду, з якога не быў бы ты народу: з вялікага альбо, як і я, з маленькага. Ён любіць цябе. Усе людзі і ўсе народы аднолькавыя перад Госпадам. Ісус Хрыстос памёр, каб выратаваць усіх людзей свету: «Бо кожны, хто пакліча імя Гасподняе, выратуецца», – чытаем у Евангеллі. Чытай і ты Евангелле, Слова Божае! А калі Евангелле яшчэ не пераклалі на тваю мову, можа быць, ты і твае сябры перакладуць яго на сваю родную мову. Ужо маюцца пераклады амаль на 2000 мовах свету.

МАЦВЕЙ 28:18-20; АДКРЫЦЦЁ 5:9;7:9; 14:6

## ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

Ты перагарнулі апошнюю старонку кнігі. У ёй апісаны некаторыя падзеі. Яны ёсць у Бібліі, але ўзяты з яе ў вельмі скарочанай форме. Біблія змяшчае прыблізна 1200 старонак дробнага шрыфту. Гэта значыць, што на яе старонках апісана значна больш падзей, і апісаны яны больш падрабязна. Біблія – гэта Свяшчэннае Пісанне – гэта Слова Божае. Ніякая іншая кніга (нават і гэтая) яе не заменіць. Прапануем і раім табе, дарагі чытач, набыць усю Біблію, або хоць бы Новы Запавет, гэта значыць, частку яе. Напісаны Новы Запавет ужо пасля нараджэння Ісуса Хрыста, Сына Божага.

Біблія – гэта Кніга, якая найбольш чытаецца ў свеце. Мільёны людзей – рабочых, сялян і служачых, простых і вучоных, ва ўсіх краінах свету чытаюць Біблію штодзённа. Яны знаходзяць у ёй шлях жыцця і ратунку, у ёй знаходзяць словы і цэлыя думкі, якія могуць суцешыць і падбадзёрыць.

Чытай Слова Божае. Гасподзь сказаў так:

**«Неба і зямля мінуцца,**

**а словы Мае не мінуцца»** (Евангелле паводле Мацвея 24:35).

Уся Біблія ад першай да апошняй старонкі з'яўляецца Словам Божым. Толькі Біблія, і ніякая іншая кніга, падае нам Слова Божае. Іншыя кнігі могуць даваць толькі тлумачэнні Бібліі.

Чытай Слова Божае штодзённа. Няхай заўсёды гучаць у сэрцы тваім словы Псалма: **«Слова Тваё – свяцільнік пад ногі мае і святло для дарогі маёй»** (Пс. 118:105).

З хрысціянскім прывітаннем,

ВЫДАВЕЦ



# ГЕАГРАФІЧНЫЯ КАРТЫ
# І
# ФОТАЗДЫМКІ БІБЛЕЙСКІХ МЕСЦАЎ


СТАРАЖЫТНЫ
УСХОД
ХЕТЫ
г. Арарат
Гірканскае мора
(Каспійскае)
ФУВАЛ
Кархеміс
Харан
АРАМЕІ
Ніневія
Калах
Тапсак
МІДЫЯ
В.КІПР
Емаф
АСІРЫЯ
г. Загрос
поўнач
ВЯЛІКАЕ МОРА
Ефрат
АРАМ
Дамаск
г. Ермон
Галілейскае мора
Тыгр
ВАВІЛОНІЯ
Вавілон
Сузы
Ерусалім
ХАЛДЗЕЯ
ЕЛАМ
Хеўрон
МААЎ
Цоан
ГЕСЭМ
Сакхоф
ЕДОМ
км.
Ур
ПЕРСІДА
Маараф
Елаф
ЕГІПЕТ
Персідскі заліў
АРАВІЯ
Ніл




ПАЛЕСЦІНА Ў ЧАСЫ ІСУСА ХРЫСТА

## ІМПЕРЫІ СВЕТУ ЧАСОЎ ІСУСА ХРЫСТА*




* Нашае часалічэнне пачынаецца ад нараджэння Ісуса Хрыста.


ІЕРУСАЛІМ
У ЧАСЫ
ІСУСА ХРЫСТА
поўнач
Крэпасць
Антонія
Храм
Галгофа
Прытвор
Саламонаў
Форум
Відовішча
Палац
Ірада
Купальня
Сілаам
Даліна патоку Кедрон
Гара Елеонск
Дарога ў Ерыхон
Дарога да Віфлеема
Даліна Еномава



ПЛАН
ІЕРУСАЛІМСКАГА ХРАМА
Ў ЧАСЫ ІСУСА ХРЫСТА
Крэпасць Антоніа
Паўночныя вароты
Двор язычнікаў
(Знешні двор)
Мужчынскі двор
(Унутраны двор)
Двор святароў
Жаночы двор
Чырвоныя дзверы
Заходнія вароты
Святое
Святое-Святых
Алтар
Крыж
Двор святароў
Мужчынскі двор
(Унутраны двор)
Залатыя вароты
Прытвор Саламонаў
Двор язычнікаў
(Знешні двор)
Заходняя сцяна
(«Сцяна плачу»)
Даліна Цірапеёнь
Даліна патоку Кедрона



ІЕРУСАЛІМ
Від з Елеонскай гары (з усходу).
Месца Храма Саламона. Цяпер тут мячэць Амара.



ІЕРУСАЛІМ І ЕЛЕОНСКАЯ ГАРА
(з захаду).
І калі падыйшоў да горада і, гледзячы на яго, заплакаў па ім.
(Лука 19:41)



ГАРА СІНАЙ

І сыйшоў Гасподзь на гару Сінай, на вяршыню гары, і прызваў Гасподзь на вяршыню гары, і ўзыйшоў Майсей. (Выхад 19:20)



САЛДНАЕ МОРА

Усе яны злучыліся ў даліне Сідым, дзе сёння мора Салёнае.



ГАРА ФАВОР

Поўнач і поўдзень Ты стварыў; Фавор і Ермон імю Твайму радуюцца. (Пс. 88:13)



ГРОБ РАХІЛІ

І памерла Рахіль, і пахаваная на дарозе ў Ефрафу, г.зн. Віфлеем. (Быццё 35:19)



НАЗАРЭТ

У шосты ж месяц пасланы быў Анёл Гаўрыіл ад Бога ў горад Галілейскі, да Дзевы Марыі, заручанай з пабожным чалавекам імем Іосіф, з дому Давідавага. (Лука 1:26-27)



ВІФЛЕЕМ

»І ты, Віфлеем, зямля Іудава, нічым не меншая за ваяводствы Іудавы, бо адсюль пойдзе Той, Каторы спасе народ Мой Ізраіля».

(Мацвей 2:6)



ІЯРДАН

Тады прыходзіць Ісус з Галілеі на Іярдан да Іаана – хрысціцца ад яго. (Мацвей 3:13)



КАПЕРНАУМ

І, пакінуўшы Назарэт, прыйшоў і пасяліўся ў Капернауме прыморскім, на землях Завулонавых і Нефалімавых. (Мацвей 4:13)



КАНА

На трэці дзень было вяселле ў Кане Галілейскай, і Маці Ісуса была там. (Іаан 2:1)



ШЛЯХ З ІУДЗЕІ Ў САМАРЫЮ

Пакінуў Іудзею і пайшоў ізноў у Галілею. Трэба было Яму праходзіць праз Самарыю. (Іаан 4:4-5)



ГАЛІЛЕЙСКАЕ МОРА

Аднойчы, калі народ ціснуўся да Яго, каб пачуць Слова Божае, а Ён стаяў ля возера Генісарэцкага. (Лука 5:1)



ВІФАНІЯ

За шэсць дзён да Пасхі прыйшоў Ісус у Віфанію, дзе быў мёртвы Лазар, якога Ён уваскрасіў з мёртвых. (Іаан 12:1)



КЕСАРЫЯ

У наступны дзень прыйшлі яны ў Кесарыю. Карнілій чакаў іх, склікаў сваякоў сваіх і блізкіх. (Дзеі 10:24)





РЫМСКІ КАЛІЗЕЙ

Месца смерці многіх хрысціянскіх мучанікаў. »І ўбачыў я ... душы абезгалоўленых за сведчанне Ісуса і Слова Божае, якія не пакланяліся ні зверу, ні вобразу яго і не прынялі мету на чало сваё і на руку сваю». (Адкрыццё 20:4)

# ЗМЕСТ

